ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЕДНАЙЦЕСЯ!

# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

ТЭАРЭТЫЧНЫ І ПАЛІТЫЧНЫ
ЖУРНАЛ ЦК КП(б)Б

ГОД ВЫДАННЯ XIII

№ 12

Снежань 1939 г.

ЗМЕСТ

Стар.

**Указ прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР аб прысваенні таварышу Іосіфу Вісарыёнавічу Сталіну звания Героя соцыялістычнай працы** . . . . 2

*Прывітанні таварышу Сталіну*:

Ад ЦК ВКП(б). . . . . 3

Ад Соўнаркома Саюза ССР . . . . 5

Ад Прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР . . . . 7

Ад Комінтэрна . . . . 9

Ад ЦК КП(б)Б . . . . 11

**Кароткая біяграфія таварыша Сталіна** . . . . 12

**І. Сталін**—Як разумее соцыялдэмакратыя нацыянальнае пытанне? 61

**І. Сталін**—Клас пролетарыяў і партыя пролетарыяў . . . 75

**Ф. Кошэлеў**—Вучэнне товарыша Сталіна аб соцыялістычнай індустрыялізацыі краіны. . . . . 82

**С. Ажгірэй**—Вучэнне таварыша Сталіна аб калектывізацыі сельскай гаспадаркі . . . . 100

**З. Элімелах**—Вучэнне таварыша Сталіна аб соцыялістычнай дзяржаве ў капіталістычным акружэнні. . . . . 110

**Л. Ільічоў**—Філасофская праца таварыша Сталіна . . . 124

**Г. Васецкі**—Сталін—вялікі карыфей навукі . . . . 135

Паказчык артыкулаў, змешчаных у журнале „Большэвік Беларусі" за 1939 год . . . . 144

Адрас рэдакцыі:
Мінск, вул. Карла Маркса.
Памяшканне Парткурсаў пры ЦК КП(б)Б,
пакой 13.

Тэлефоны рэдакцыі: нам. рэдактара—камутатар 20.000, даб. 271; агульны—24.387.



# УКАЗ

## Прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР аб прысваенні таварышу Іосіфу Вісарыёнавічу Сталіну звання Героя социялістычнай працы

За выключныя заслугі ў справе арганізацыі Большэвіцкай партыі, стварэння Совецкай дзяржавы, пабудовы социялістычнага грамадства ў СССР і ўмацавання дружбы паміж народамі Совецкага Саюза — прысвоіць таварышу Іосіфу Вісарыёнавічу СТАЛІНУ, у дзень яго шасцідзесяціго ддзя, — званне ГЕРОЯ СОЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ ПРАЦЫ з уручэннем вышэйшай узнагароды СССР — ОРДЭНА ЛЕНІНА.

**Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР М. КАЛІНІН.**

**Сакратар Прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР А. ГОРКІН.**

*Масква, Крэмль*
*20 жніўня 1939 г.*

*Прывітанні таварышу СТАЛІНУ у сувязі з 60-годдзем з дня нараджэння*

# Вялікаму прадаўжальніку справы Леніна—таварышу СТАЛІНУ

*Дарагі друг і баявы таварыш!*

*Цэнтральны Камітэт большэвіцкай партыі горача вітае цябе, друга Леніна і вялікага прадаўжальніка яго справы, правадыра партыі і совецкага народа—у дзень твайго шасцідзесяцігоддзя.*

*Больш сарака год ты служыш справе пролетарскай рэволюцыі, справе рабочага класа і ўсяго працоўнага народа. Ты быў вярнейшым саратнікам Леніна ў яго барацьбе за партыю, за дыктатуру пролетарыята. Разам з Леніным многія годы ты будаваў і выкоўваў магутную большэвіцкую партыю. Разам з Леніным ты вёў партыю і рабочы клас на ўзброенае паўстанне ў Кастрычніку 1917 года. Як бліжэйшы памочнік Леніна, ты непасрэдна кіраваў усёй справай падрыхтоўкі Кастрычніцкага паўстання і пасяховым заваяваннем улады рабочым класам.*

*У годы айчыннай грамадзянскай вайны супроць замежных захватчыкаў і буржуазна-памешчыцкай белагвардзейшчыны ты, таварыш Сталін, пад кіраўніцтвам Леніна быў непасрэдным натхніцелем і арганізатарам перамог Чырвонай Арміі на ўсіх фронтах, дзе вырашаўся лёс рэволюцыі.*

*Пасля смерці Леніна партыя большэвікоў пад тваім мудрым кіраўніцтвам, пераадалеўшы велізарныя цяжкасці на сваім шляху, прывяла нашу краіну да перамогі соцыялізма.*

*Прэзрэнныя ворагі народа трацкісты, зіноўеўцы, бухарынцы хацелі адабраць у рабочага класа, у совецкага народа веру ў магчымасць перамогі соцыялізма ў нашай краіне, неаднаразова прабавалі падарваць партыю знутры, разбіць адзінства большэвіцкай партыі, пагубіць совецкую ўладу і соцыялістычную рэволюцыю. Ва ўпартай прынцыповай барацьбе з ворагамі соцыялізма, ворагамі партыі, пад тваім кіраўніцтвам у барацьбе за ленінізм згуртаваўся Цэнтральны Камітэт і ўся наша партыя. Ты адстаяў ленінскую тэорыю магчымасці перамогі соцыялізма ў адной краіне, развіў гэтую вялікую тэорыю далей, узброіў ёю партыю і мільённыя масы працоўных Совецкага Саюза—гэта забяспечыла выкрыццё і разгром ворагаў рэволюцыі.*

*Пад тваім кіраўніцтвам партыя большэвікоў ажыццявіла соцыялістычную індустрыялізацыю краіны, стварыла новыя індустрыяльныя ачагі і раёны, першакласныя заводы цяжкай і лёгкай індустрыі, магутныя заводы машынабудаўніцтва, што забяспечыла тэхнічную рэканструкцыю ўсёй народнай гаспадаркі і ўзбраенне навейшымі сродкамі абароны СССР. Пад тваім кіраўніцтвам партыя зрабіла такі найглыбейшы рэволюцыйны пераварот у вёсцы, як суцэльная калектывізацыя і ліквідацыя кулацтва як класа, забяспечыўшы на аснове*

*перамогі калгаснага ладу культурнае і заможнае жыццё многамільённага сялянства. Наша краіна стала магутнэй індустрыяльнай дзяржавай, краінай буйнага калектыўнага земляробства, краінай перамогшага соцыялізма.*

*На аснове гэтых поспехаў ідзе быстры ўздым культуры народаў Совецкага Саюза. Створана совецкая інтэлігенцыя, адданая Совецкай уладзе, справе соцыялізма.*

*Партыя і Совецкая ўлада пад тваім кіраўніцтвам стварылі ўзброеную першакласнай тэхнікай магутную і непераможную Чырвоную Армію, якая з'яўляецца надзейнай абаронай нашай радзімы ад усіх знешніх ворагаў.*

*Рабочы клас у саюзе з сялянствам, пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі, знішчыў назаўсёды эксплуатацыю чалавека чалавекам і ўцвердзіў новы, соцыялістычны лад у СССР, які не ведае ні крызісаў, ні беспрацоўя, які забяспечвае няўхільны ўздым матэрыяльнага дабрабыту і культурнага ўзроўню працоўных. Гэты галоўны вынік нашай барацьбы мае сусветна-гістарычнае значэнне, ён умацоўвае ў працоўных усяго свету веру ў таржаство соцыялізма.*

*Наша партыя пад тваім выключна актыўным і непасрэдным кіраўніцтвам стварыла магутную многанацыянальную совецкую дзяржаву, умацавала вялікую і непарушную дружбу народаў СССР—залог іх працвітання і непераможнасці. Новая Канстытуцыя СССР, Канстытуцыя перамогшага соцыялізма і разгорнутай соцыялістычнай дэмакратыі, па справядлівасці названа народам Сталінскай Канстытуцыяй.*

*Таксама, як і Ленін, ты, таварыш Сталін, заўсёды надаваў і надаеш найвялікшае значэнне развіццю і прапагандзе рэволюцыйнай тэорыі. Твае класічныя тэарэтычныя работы, стаўшыя здабыткам мільёнаў людзей у нашай краіне і ва ўсім свеце, з'яўляюцца далейшым развіццём марксізма-ленінізма ў новых умовах эпохі імперыялізма і пролетарскай рэволюцыі, эпохі перамогі соцыялізма на адной шостай частцы зямлі. Ты развіў марксісцка-ленінскую тэорыю дзяржавы, распрацаваўшы вучэнне аб соцыялістычнай дзяржаве ва ўмовах капіталістычнага акружэння. Узбройваючы партыю марксізмам-ленінізмам, ты нястомна згуртоўваў яе арганізацыйна. На гэтай аснове ажыццёўлена сталінскае адзінства нашай партыі.*

*Адным з выдатных поспехаў большэвіцкай партыі, дасягнутых дзякуючы тваім клопатам і кіраўніцтву, з'яўляецца быстры рост кадраў, вылучэнне многіх тысяч новых работнікаў соцыялістычнага будаўніцтва і абароны краіны соцыялізма.*

*Аддаючы ўсе свае сілы вялікаму служэнню народу,—ты, таварыш Сталін, таксама як і Ленін, любіш свой народ і неаддзялім ад народа. Таксама як і Ленін, ты акружан гарачай любоўю працоўных Совецкага Саюза і ўсяго свету.*

*Сёння наша партыя і народы Совецкага Саюза, вітаючы цябе ў дзень шасцідзесяцігоддзя, згуртаваны як ніколі вакол свайго Цэнтральнага Камітэта пад сцягам Леніна—Сталіна і гатовы да далейшай барацьбы за поўную перамогу комунізма.*

*Няхай жыве непераможная партыя большэвікоў, партыя Леніна—Сталіна!*

*Жыві доўгія годы, наш родны Сталін, на радасць партыі, рабочага класа, народаў совецкай зямлі і ўсяго свету!*

*Цэнтральны Камітэт Усесаюзнай Комуністычнай партыі (большэвікоў)*

20 снежня 1939 года.

# Дарагі таварыш СТАЛІН!

*У дзень Вашага шасцідзесяцігоддзя Совет Народных Камісараў Саюза ССР шле Вам сваё большэвіцкае прывітанне і жадае добрага здароўя на многія і многія годы.*

*Совет Народных Камісараў Саюза ССР у Вашай асобе вітае правадыра комуністычнай партыі і народаў Совецкага Саюза, які разам з Вялікім Леніным і як яго галоўны саратнік, стварыў першую ў свеце соцыялістычную дзяржаву рабочых і сялян—Саюз Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік і адстаяў совецкую дзяржаву ад усіх ворагаў соцыялізма. З першых-жа дзён совецкай улады Вы былі бліжэйшым памочнікам Леніна ў арганізацыі і кіраўніцтве першым Рабоча-Сялянскім Урадам—Советам Народных Камісараў Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі.*

*Пасля смерці Леніна вакол Вас, як Вялікага ленінца, згуртаваліся партыя большэвікоў і ўсе працоўныя Совецкага Саюза. Пад Вашым кіраўніцтвам паднялося на небывалую вышыню значэнне совецкай дзяржавы і міжнародны аўтарытэт СССР.*

*У барацьбе за соцыялістычную індустрыялізацыю краіны, за калектывізацыю сельскай гаспадаркі, у барацьбе за завяршэнне будаўніцтва соцыялістычнага грамадства народы Саюза ССР і Совецкі Урад нязменна атрымлівалі ад комуністычнай партыі большэвікоў, ад Вас—яе правадыра—ленінскае кіраўніцтва, забяспечыўшае перамогу соцыялізма ў нашай краіне.*

*Ваш штодзённы ўдзел у вялікім і малым, у гераічных справах і буднях соцыялістычнага будаўніцтва, развязвае творчую ініцыятыву совецкіх людзей, прабуджае новыя прадукцыйныя сілы ад края і да края нашай радзімы, памнажае багацце краіны і ставіць яго на службу народа.*

*Пад кіраўніцтвам нашай партыі адбываецца росквіт культуры народаў Совецкага Саюза, выраслі і быстра множацца адданыя радзіме і соцыялізму кадры новай, совецкай інтэлігенцыі, ідзе няўхільны ўздым як матэрыяльнага, так і культурнага ўзроўню народных мас.*

*Дыктатура пролетарыята ў СССР створана і ўмацавана на аснове нерушымага саюза рабочых і сялян, пры ажыццяўленні кіруючай ролі рабочага класа. Пад Вашым кіраўніцтвам партыя адстаяла ў барацьбе з ворагамі ленінізма гэты завет Леніна і ўмацавала совецкую дзяржаву, ператварыўшы яе ў непрыступную крэпасць соцыялізма.*

*Асновай нашай соцыялістычнай дзяржавы рабочых і сялян з'яўляецца саюз працоўных усіх нацыянальнасцей совецкай краіны. Пад Вашым усебаковым і самым блізкім кіраўніцтвам было забяспечана выкананне гэтага завета Леніна. Дружба народаў моцна ўвайшла ў жыццё і быт працоўных нашай Вялікай Радзімы, і Саюз Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік стаў неперамюжнай сілай.*

*Моцнасць совецкай дзяржавы ахоўваецца ўзброенай арміяй вызваленых людзей, магутнай Чырвонай Арміяй і Чырвоным Флотам. Вашы клопаты аб умацаванні абароны краіны вядомы ўсяму народу, кожнаму байцу, камандзіру і камісару. Пад Вашым вадзіцельствам совецкая армія будзе і надалей атрымліваць слаўныя перамогі на ваенных фронтах, як гэта было і ў годы грамадзянскай вайны.*

*Нашу совецкую радзіму любяць, падтрымліваюць працоўныя і прыгнечаныя ўсяго свету. Па заветах Леніна, пад Вашым кіраўніцтвам соцыялістычная дзяржава, знішчыўшая эксплаатацыю чалавека чалавекам, была, ёсць і будзе другам прыгнечаных народаў усяго свету, сцягам іх вызваленчай барацьбы, іх надзеяй і гордасцю.*

*Совет Народных Камісараў Саюза ССР вітае Вас, таварыш Сталін, як творца самай дэмакратычнай у свеце Канстытуцыі СССР. Пад сонцам Совецкай Канстытуцыі, якую наш народ з пачуццем задаволення называе «сталінскай канстытуцыяй», развіваецца новая соцыялістычная дэмакратыя, расцвітае народная творчасць і ажыццяўляецца будаўніцтва комунізма. Разгорнутае Вамі, таварыш Сталін, вучэнне аб новых формах совецкай дзяржавы, аб захаванні і ўмацаванні дзяржавы, пакуль не ліквідавана капіталістычнае акружэнне і не знішчана небяспека ваенных нападаў са зне,—з'яўляецца геніяльным развіццём марксізма-ленінізма і вернаю зброяй народаў у іх барацьбе за комунізм.*

*Совецкая дзяржава маналітна згуртавана пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна. Совет Народных Камісараў СССР у Вашай асобе вітае Вялікага прадаўжальніка справы Леніна, правадыра Усесаюзнай Комуністычнай Партыі большэвікоў. Совецкі Урад астанецца назаўсёды верным сваёй роднай партыі Леніна—Сталіна.*

*Няхай жыве партыя Леніна—Сталіна!*

*Няхай жыве правадыр Соцыялістычнай дзяржавы—Вялікі Сталін!*

*Няхай жыве многія годы надзея і гордасць народаў усяго свету—таварыш Сталін!*

**Совет Народных Камісараў Саюза ССР.**

# Дарагі таварыш СТАЛІН!

*У дзень Вашага слаўнага шасцідзесяцігоддзя Прэзідыум Вярхоўнага Совета Саюза Совецкіх Социялістычных Рэспублік горача вітае Вас—самага любімага і дарагога чалавека нашай краіны і працоўных усяго свету.*

*Звыш сарака год свайго жыцця Вы аддалі гераічнай рэволюцыйнай барацьбе.*

*Разам з вялікім Леніным Вы стварылі магутную партыю большэвікоў, якая справядліва называецца цяпер партыяй Леніна—Сталіна.*

*Разам з Леніным Вы арганізавалі вялікі рэволюцыйны штурм капіталістычнага свету ў гістарычныя дні Кастрычніка. Бліжэйшы спадвіжнік Леніна, Вы з'яўляліся непасрэдным кіраўніком падрыхтоўкі Кастрычніцкага паўстання.*

*Разам з Леніным будавалі Вы для абароны маладой Совецкай рэспублікі гераічную Чырвоную Армію, паказаўшы сябе выдатным палкаводцам і з'яўляючыся непасрэдным арганізатарам перамог Чырвонай Арміі на самых цяжкіх і рашаючых фронтах.*

*Вы адстаялі ад наскокаў ворагаў адзінства партыі, чыстату ленінскага вучэння, рушылі большэвіцкую тэорыю ўперад.*

*Іменна гэта Ваша нястомная і непахісная барацьба за большэвіцкую тэорыю дазволіла партыі мабілізаваць многамільённыя масы працоўных на вырашэнне сусветна-гістарычных задач пабудовы социялізма ў нашай краіне.*

*Распрацаваная Вамі праграма социялістычнай індустрыялізацыі забяспечыла ператварэнне нашай краіны з краіны адсталай, разоранай у магутную індустрыяльную дзяржаву, узброеную перадавой тэхнікай.*

*Пад Вашым кіраўніцтвам вырашаны сусветна-гістарычнага значэння задачы пераводу мільёнаў дробных аднаасобных сялянскіх гаспадарак на рэльсы буйнай, механізаванай калгаснай гаспадаркі.*

*Народ па праву называе пяцігодкі социялістычнай будоўлі—сталінскімі пяцігодкамі і звязвае перамогу социялізма ў нашай краіне з Вашым іменем, з іменем натхніцеля і арганізатара гэтай перамогі.*

*Вы распрацавалі вучэнне аб социялістычнай дзяржаве. Ваша імя неразрыўна звязана з усімі важнейшымі мерапрыемствамі па развіццю і ўмацаванню Совецкай дзяржавы. Вы з'яўляецеся тварцом новай Канстытуцыі СССР—Канстытуцыі перамогшага социялізма.*

*Пры Вашым непасрэдным удзеле і па Вашых указаннях адбываецца перабудова ўсіх совецкіх органаў на аснове Сталінскай Канстытуцыі, увасабляюцца ў жыццё прынцыпы разгорнутага социялістычнага дэмакратызма. Совецкая дзяржава становіцца ўсё больш магутнай зброяй у барацьбе за вырашэнне новых гістарычных задач, пастаўленых Вамі на XVIII з'ездзе партыі.*

*Вы развілі ленінскую тэорыю нацыянальнага пытання і непасрэдна кіравалі практычным ажыццяўленнем нацыянальнай палітыкі Савецкай дзяржавы, стварэннем нацыянальных савецкіх рэспублік. Разам з Леніным Вы з'яўляецеся арганізатарам Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік, многанацыянальнай сацыялістычнай дзяржавы рабочых і сялян.*

*Пад Вашым кіраўніцтвам савецкі народ разграміў варожыя гнёзды шкоднікаў, дыверсантаў, шпіёнаў і забойцаў з трацкісцка-бухарынскага і буржуазна-нацыяналістычнага лагера, нанёсшы сакрушальны ўдар па антысавецкіх замыслах імперыялістаў.*

*З геніяльнай празарлівасцю Вы раскрылі махінацыі правакатараў вайны. Ваша мудрае кіраўніцтва ў знешняй палітыцы, ва ўмовах разгарнуўшайся другой сусветнай імперыялістычнай вайны, забяспечыла краіне буйнейшыя перамогі, падняло значэнне СССР, як сур'ёзнай міжнароднай сілы, умацавала абароназдольнасць краіны, забяспечыла народам Савецкага Саюза мірную працу і далейшае працвітанне сацыялістычнай дзяржавы.*

*Вы ўвасабляеце сабой найвялікшую любоў і адданасць свайму народу, палкі савецкі патрыятызм. Свабодныя народы СССР бачаць у Вас увасабленне сілы і магутнасці сваёй вялікай радзімы.*

*З Вашым іменем доблесная Чырвоная Армія граміла на франтах ворагаў нашай радзімы, вызваляла нашых братоў—украінцаў і беларусаў з-пад гнёту польскіх памешчыкаў і капіталістаў, дапамагае вызваленню фінскага народа.*

*Для ўсіх працоўных, для ўсяго прагрэсіўнага чалавецтва Ваша імя з'яўляецца сцягам барацьбы за вызваленне ад эксплаатацыі і прыгнечання.*

*Слаўная дата Вашага шасцідзесяцігоддзя яшчэ больш згуртуе магутны савецкі народ вакол партыі Леніна—Сталіна, вакол Вас, вялікага правадыра, друга і настаўніка працоўных, зробіць яшчэ больш несакрушымым маральна-палітычнае адзінства савецкага грамадства, натхніць народы Савецкага Саюза на новыя гераічныя подвігі ў барацьбе за камунізм.*

*Прэзідыум Вярхоўнага Савета Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік, адзначаючы ў гэты дзень Вашы вялікія заслугі перад сацыялістычнай радзімай, шле Вам свае гарачыя пажаданні яшчэ доўгія і доўгія гады жыць і працаваць на карысць і шчасце народаў Савецкага Саюза і працоўных усяго свету.*

**Прэзідыум Вярхоўнага Савета Саюза
Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.**

# Правадыру, настаўніку і другу працоўных усяго свету

*Табе, дарагі таварыш Сталін, вялікаму правадыру, мудраму настаўніку, бязмежна любімаму другу працоўных усяго свету, Выканаўчы Камітэт Комуністычнага Інтэрнацыянала шле ў дзень твайго шасцідзесяцігоддзя палкае большэвіцкае прывітанне.*

*Твой слаўны гераічны шлях бясстрашнага рэволюцыянера, найвялікшага тэарэтыка і правадыра соцыялістычнай рэволюцыі служыць і заўсёды будзе служыць выдатным прыкладам для пролетарскіх рэволюцыянераў усіх краін.*

*Ад невялікіх падпольных гурткоў у Закаўказзі, скрозь турмы і ссылкі, скрозь бурныя годы рэволюцыі і грамадзянскай вайны, скрозь цяжкія годы барацьбы з разрухай, ты высока пранёс вялікі сцяг Маркса—Энгельса—Леніна і пад гэтым сцягам прывёў рабочы клас да перамогі соцыялізма на адной шостай часткі зямлі.*

*Разам з Леніным, на чале партыі большэвікоў, ты прывёў рабочы клас Расіі да перамогі Вялікай Соцыялістычнай рэволюцыі, якая ўпершыню ў гісторыі ператварыла эксплуатуемых і прыгнечаных у поўнаўладных гаспадароў свайго лёсу, тварцоў новага, соцыялістычнага грамадства.*

*Гэтая перамога рабочага класа Совецкай краіны ўмацоўвае веру рабочых усяго свету ў свае сілы, акрыляе іх светлымі надзеямі, натхняе ўсіх працоўных на барацьбу супроць іх эксплуататараў.*

*Пад кіраўніцтвам Леніна і пад тваім кіраўніцтвам, таварыш Сталін, Совецкая краіна стала магутнай, несакрушымай апорай вызваленчага руху рабочых, сялян і заняволеных народаў усяго свету.*

*Не было і няма ні аднаго кутка на зямным шары, дзе прыгнечаныя і абяздоленыя, разгінаючы спіну і паднімаючыся супроць сваіх прыгнятальнікаў, не начарталі-б на сваіх сцягах імені Леніна, імені Сталіна!*

*Разам з Леніным ты, таварыш Сталін, стаяў ля калыбелі народжанага ў баях Комуністычнага Інтэрнацыянала.*

*На аснове бяссмертнага вучэння Маркса—Энгельса—Леніна, на аснове тваіх геніяльных работ, на аснове найвялікшага гістарычнага вопыту партыі большэвікоў рос, мацнеў і развіваўся Комуністычны Інтэрнацыянал.*

*Ты адстаяў большэвіцкую партыю і Комуністычны Інтэрнацыянал ад сонма ворагаў, якія прабавалі сказіць вучэнне Леніна і збіць нас з ленінскага шляху; ты ўзбагаціў, дапоўніў і развіў вялікае вучэнне Леніна прыстасоўна да новых умоў класавай барацьбы міжнароднага пролетарыята.*

*Комуністы ўсіх краін вучыліся і вучацца ў цябе, таварыш Сталін, беззаветнай адданасці справе рабочага класа, якому ты служыш звыш 40 год і якому ты гатоў «аддаць усе свае сілы, усе свае здольнасці і, калі спатрэбіцца, усю сваю кроў, кроплю за кропляй».*

*Комуністы вучыліся і вучацца ў цябе, таварыш Сталін, нястомна мацаваць сувязь з працоўнымі масамі, самаадданна абараняць іх штодзённыя інтарэсы і беззаветна змагацца за таржаства соцыялізма ва ўсім свеце.*

*Яны вучыліся і вучацца ў цябе высокай большэвіцкай прынцыповасці, якая ставіць інтарэсы справы комунізма вышэй за ўсё.*

*Яны вучыліся і вучацца ў цябе свяшчэннай нянавісці да ўсіх ворагаў рабочага класа, большэвіцкай непрымірымасці да соцыял-дэмакратычных і ўсякіх іншых агентаў буржуазіі ў рабочым руху.*

*Яны вучыліся і вучацца ў цябе неперадўзыйдзенаму майстэрству большэвіцкай стратэгіі і тактыкі, цвярозай ацэнцы суадносін класавых сіл, спалучаемай са смелым, рэволюцыйным дзярзаннем.*

*Яны вучыліся і вучацца ў цябе жалезнай цвёрдасці ў дасягненні намечаных мэт, упорству, ламаючаму ўсе і ўсякія перашкоды, гібкасці, неабходнай пры правядзенні прынятых рашэнняў.*

*Яны вучыліся і вучацца ў цябе ніколі не зазнавацца ад поспехаў і не паддавацца паніцы ў моманты цяжкасцей і часовых няўдач.*

*Комуністы ўсіх краін вучыліся і вучацца ў цябе быць вернымі да канца справе пролетарскага інтэрнацыяналізма, бліскучым увасабленнем якога з'яўляецца перамога соцыялізма ў СССР. Яны вучыліся і вучацца ў цябе таму дзейснаму пролетарскаму інтэрнацыяналізму, які згуртоўвае ў баявую кагорту працоўных усіх краін, усіх народаў, усіх рас.*

*Комуністы вучыліся і вучацца ў цябе змагацца супроць імперыялістычных войн, за мір, за шчасце і свабоду народаў.*

*Твая мудрая палітыка, таварыш Сталін, доўгія годы выратоўвала чалавецтва ад навісшай над ім новай імперыялістычнай вайны.*

*Калі-ж цёмныя сілы капіталізма развязалі злачынную вайну, ты не дазволіў імперыялістычным драпежнікам уцягнуць савецкі народ у гэтую крывавую бойню; ты абараніў тым самым справу міру і не даў падпальшчыкам вайны ўцягнуць у яе многія народы Еўропы.*

*Ты пачуў голас пакутваўшых пад чужаземным гнётам працоўных Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі, і па твайму благароднаму пачыну савецкі народ падаў ім брацкую руку дапамогі.*

*Калі плутакратычная кліка манергеймаў і танераў стала на шлях ваенных правакацый супроць СССР, калі працоўны народ Фінляндыі стварыў свой Народны ўрад, кіруемы табой савецкі народ адгукнуўся на заклік фінскага народа і аказаў яму падтрыманне ў барацьбе супроць яго катаў, агентаў замежнага імперыялізма.*

*Мільёны працоўных ва ўсім свеце падтрымлівалі і будуць падтрымліваць натхняемую табой палітыку Савецкага Саюза, бо яна адпавядае іх інтарэсам і аблягчае іх барацьбу за вызваленне.*

*Яны ведаюць, што ў цябе, таварыш Сталін, няма іншых мэт, апрача мэт служэння вызваленню чалавецтва, няма іншага жыцця, апрача жыцця, адданага на карысць і шчасце працоўных.*

*Выражаючы пачуцці і мыслі мільённых народных мас, комуністы ўсіх краін клянуцца табе, наш родны і любімы таварыш Сталін, што яны ператвораць тваё вялікае вучэнне ў жыццё і аддадуць усе свае сілы справе таржаства комунізма, справе Леніна—Сталіна.*

*Няхай жыве і перамагае бяссмертнае вучэнне Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна!*

*Няхай жыве многія годы на шчасце працоўным вялікі правадыр і настаўнік міжнароднага пролетарыята таварыш Сталін!*

**Выканаўчы Камітэт Комуністычнага Інтэрнацыянала.**

# Таварышу Сталіну І. В.

*Дарагі Іосіф Вісарыёнавіч!*

*У дзень Вашага слаўнага 60-годдзя ЦК КП(б)Б ад імені комуністычнай партыі большэвікоў Беларусі, Вам, вялікаму правадыру і настаўніку, шле палкае большэвіцкае прывітанне.*

*Вялікі саратнік і прадаўжальнік справы Леніна, Вы прысвяцілі сваё выдатнае жыццё справе народа, вялікай барацьбе за вызваленне працоўнага чалавецтва.*

*З'яднаныя народы Беларусі глыбока захоўваюць у сваім сэрцы Ваш вобраз—вобраз геніяльнага стваральніка Беларускай дзяржавы, вызваліцеля народаў Заходняй Беларусі ад іга польскіх паноў і капіталістаў.*

*Ваша імя жыве і будзе жыць вечна ў сэрцах працоўных і прыгнечаных мас усяго свету, як імя мудрага тварца і будаўніка нашай большэвіцкай партыі, тэарэтыка і арганізатара перамог соцыялізма, найвялікшага пролетарскага рэволюцыянера, чалавека гіганцкай сілы мыслі і волі, непрымірымага барацьбіта з усімі і ўсякімі ворагамі партыі і народа.*

*Пад Вашым, таварыш Сталін, кіраўніцтвам народы Совецкага Саюза дабіліся нябачаных гіганцкіх поспехаў на ўсіх фронтах соцыялістычнага будаўніцтва. На тэрыторыі неасяжнага Совецкага Саюза—ад Паўночнага полюса да Чорнага мора, ад Беластока да Владзівастока—пабедна развяваецца неперaможны сцяг Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна.*

*Пад Вашым кіраўніцтвам многанацыянальны совецкі народ пабеданосна ідзе да поўнага таржаства комунізма.*

*Жадаем Вам, дарагі Іосіф Вісарыёнавіч, яшчэ многа і многа год здароўя і жыцця на карысць працоўных усяго свету.*

*Няхай жыве родны і любімы таварыш Сталін!*

**П. К. Панамарэнка**
**К. В. Кісялёў**
**Н. Я. Наталевіч**
**М. П. Кавалёў**
**М. В. Кулагін**
**Н. Г. Грэкава**
**Л. Ф. Цанава**
**А. П. Матвееў**
**В. Н. Малін**
**Г. М. Байкачоў**

# Іосіф Вісарыёнавіч СТАЛІН

(*Кароткая біяграфія*)

## I

**Сталін** (Джугашвілі), Іосіф Вісарыёнавіч, нарадзіўся 21 снежня 1879 г. у горадзе Горы, Тіфліскай губерніі. Бацька яго—Вісарыён Іванавіч Джугашвілі, па нацыянальнасці грузін, паходзіў з сялян сяла Дзідзі-Ліло, Тіфліскай губерніі, па прафесіі шавец, пазней рабочы абутковай фабрыкі Адэльханава ў Тіфлісе. Маці—Екацерына Георгіеўна Джугашвілі—з сям'і прыгоннага селяніна Геладзе сяла Гамбарэулі.

Увосень 1888 года Сталін паступіў у Гарыйскае духоўнае вучылішча. У 1894 годзе Сталін скончыў вучылішча і паступіў у тым-жа годзе ў Тіфліскую духоўную семінарыю.

У Расіі ў гэтыя годы на глебе развіцця прамысловага капіталізма і росту рабочага руху стаў шырока распаўсюджвацца марксізм. Створаны і кіруемы Леніным пецербургскі «Саюз барацьбы за вызваленне рабочага класа» даў магутны штуршок развіццю соцыял-дэмакратычнага руху па ўсёй краіне. Хвалі рабочага руху дакаціліся і да Закаўказзя, куды ўжо пранік капіталізм, дзе моцны быў нацыянальна-каланіяльны гнёт. Закаўказзе з'яўлялася тыповай калоніяй расійскага царызма, эканамічна адсталай, аграрнай краінай, з моцнымі яшчэ прыгонніцкімі астаткамі, краінай, населенай шматлікімі нацыянальнасцямі, жывучымі цераспалосна, уперамежку паміж сабою. У апошняй чвэрці XIX стагоддзя капіталізм стаў хутка развівацца ў Закаўказзі, падвяргаючы драпежніцкай эксплуатацыі рабочых і сялян, абвастраючы нацыянальна-каланіяльны гнёт. Асабліва хутка развівалася горная прамысловасць, здабыча і апрацоўка нафты, дзе асноўныя пазіцыі захапіў замежны капітал. «Рускі капіталізм,—пісаў Ленін,—уцягваў такім чынам Каўказ у сусветны таварны зварот, нівеліраваў яго мясцовыя асаблівасці—астатак старажытнай патрыярхальнай замкнутасці,—**ствараў сабе рынак** для сваіх фабрык. Краіна, слаба заселеная ў пачатку парэформеннага перыяда або заселеная горцамі, стаяўшымі ў баку ад сусветнай гаспадаркі і нават у баку ад гісторыі, ператваралася ў краіну нафтапрамысловцаў, гандляроў вінам, фабрыкантаў пшаніцы і тытуну...» [1]). З паяўленнем чыгунак і першых фабрык і заводаў на Каўказе паявіўся і рабочы клас. Асабліва хутка развіваўся нафтавы Баку—буйны прамысловы і рабочы цэнтр на Каўказе.

Развіццё прамысловага капіталізма суправаджалася ростам рабо-

---

1) **Ленін, т. III, стар. 464.**

чага руху. У 90-х годах у Закаўказзі вялі рэвалюцыйную работу сасланыя туды рускія марксісты. У Закаўказзі пачалася прапаганда марксізма. Тіфліская семінарыя з'яўлялася тады рассаднікам усякага роду вызваленчых ідэй сярод моладзі, як народніцка-нацыяналістычных, так і марксісцка-інтэрнацыяналістычных; яна была поўна рознымі тайнымі гурткамі. Панаваўшы ў семінарыі іезуіцкі рэжым выклікаў у Сталіна бурны пратэст, жывіў і ўзмацняў у ім рэвалюцыйныя настроі. Пятнаццацігадовы Сталін становіцца рэвалюцыянерам.

«У рэвалюцыйны рух,—гаворыць Сталін,—я ўступіў з 15-гадовага ўзросту, калі я звязаўся з падпольнымі групамі рускіх марксістаў, пражываўшых тады ў Закаўказзі. Гэтыя групы мелі на мяне вялікі ўплыў і прывілі мне густ да падпольнай марксісцкай літаратуры» [2]).

У 1896—97 годах Сталін стаіць на чале марксісцкіх гурткоў семінарыі. У жніўні 1898 г. ён фармальна ўступае ў тіфліскую арганізацыю Расійскай соцыял-дэмакратычнай рабочай партыі. Сталін становіцца членам групы «Месаме-дасі»—першай грузінскай соцыял-дэмакратычнай арганізацыі, адыграўшай у 1893—1898 гг. вядомую станоўчую ролю ў справе распаўсюджання ідэй марксізма. «Месаме-дасі» не была палітычна аднародна—яе большасць стаяла на пазіцыях «легальнага марксізма» і схілялася да буржуазнага нацыяналізма. Сталін, Кецховелі, Цулукідзе склалі кіруючае ядро рэвалюцыйнай марксісцкай меншасці «Месаме-дасі», стаўшай зародкам рэвалюцыйнай соцыял-дэмакратыі ў Грузіі.

Сталін многа і ўпарта працуе над сабою. Ён вывучае «Капітал» Маркса, «Маніфест комуністычнай партыі» і іншыя работы Маркса і Энгельса, знаёміцца з творамі Леніна, накіраванымі супроць народніцтва, «легальнага марксізма» і «эканамізма». Круг тэарэтычных запросаў Сталіна надзвычай шырокі—ён вывучае філасофію, палітычную эканомію, гісторыю, прыродазнаўчыя навукі, чытае класікаў мастацкай літаратуры. Сталін становіцца адукаваным марксістам. Ужо тады работы Леніна зрабілі глыбокае ўражанне на Сталіна. «Я ва што-б там ні стала павінен убачыць яго»,—сказаў Сталін, прачытаўшы работу Туліна (Леніна),—успамінае адзін з таварышоў, блізка ведаўшых Сталіна ў гэты час [3]).

Сталін вядзе ў гэты перыяд інтэнсіўную прапагандысцкую работу ў рабочых гуртках, удзельнічае на нелегальных рабочых сходах, піша лістоўкі, арганізуе стачкі. Гэта была першая школа рэвалюцыйнай практычнай работы, пройдзеная Сталіным сярод перадавых пралетарыяў Тіфліса.

«Я ўспамінаю,—гаварыў Сталін,—1898 год, калі я ўпершыню атрымаў гурток з рабочых чыгуначных майстэрань... Тут, у кругу гэтых таварышоў, я атрымаў тады першае сваё баявое рэвалюцыйнае хрышчэнне... маімі першымі настаўнікамі былі тіфліскія рабочыя» [4]).

У семінарыі, дзе была наладжана суровая слежка за «падазронымі», пачынаюць дагадвацца аб нелегальнай рэвалюцыйнай рабоце Сталіна. 29 мая 1899 г. яго выключаюць з семінарыі за прапаганду марксізма. Некаторы час Сталін перабіваецца ўрокамі, а затым пасту-

---

[2]) **І. Сталін.** Гутарка з нямецкім пісьменнікам Эмілем Людвігам. 1938 г., стар. 9.

[3]) Расказы старых рабочых Закаўказзя аб вялікім Сталіне, успаміны тав. П. Капанадзе. Выд. „Молодая гвардия", 1937 г., стар. 37.

[4]) „Правда" № 136, 16 чэрвеня 1926 г.

пае на работу ў Тіфліскую фізічную абсерваторыю ў якасці вычысліцеля-наглядчыка, ні на мінуту не спыняючы рэволюцыйнай дзейнасці.

Ужо ў той час Сталін—адзін з самых энергічных і відных работнікаў тіфліскай соцыял-дэмакратычнай арганізацыі. «У перыяд 1898—1900 гг. склалася і афармілася кіруючая цэнтральная соцыял-дэмакратычная група тіфліскай арганізацыі... Тіфліская цэнтральная соцыял-дэмакратычная група правяла велізарную рэволюцыйна-прапагандысцкую і арганізацыйную работу па стварэнню нелегальнай соцыял-дэмакратычнай партыйнай арганізацыі» [5]). Сталін узначальвае гэту групу. Ленінскі «Саюз барацьбы за вызваленне рабочага класа» быў узорам, якому нязменна следавалі ў сваёй рабоце тіфліскія рэволюцыйныя соцыял-дэмакраты. Рабочы рух у Тіфлісе пад кіраўніцтвам рэволюцыйнай меншасці «Месаме-дасі» (Сталін, Кецховелі, Цулукідзе) у гэты перыяд пачынае выходзіць з рамак старой, чыста прапагандысцкай работы «з выдаючыміся адзінкамі» з рабочых. Агітацыя ў масах шляхам выпуску лістовак на злобадзённыя тэмы, шляхам лятучых сходаў і палітычных дэманстрацый супроць царызма высоўваецца жыццём на першы план. Новую тактыку сустракае ў штыкі апартуністычная большасць «Месаме-дасі», якая схілялася да «эканамізма», цуралася рэволюцыйных метадаў, была супроць «вулічнай» палітычнай барацьбы з самадзяржаўем. Сталін, рэволюцыйная меншасць «Месаме-дасі» вядуць жорсткую і непрымірымую барацьбу супроць апартуністаў за правядзенне новай тактыкі, тактыкі масавай палітычнай агітацыі. Яны знаходзяць гарачую падтрымку ў перадавых рабочых Тіфліса.

У пераходзе тіфліскіх соцыял-дэмакратаў да новых метадаў работы выдаючуюся ролю адыграў Віктар Курнатоўскі—адукаваны марксіст, стойкі паслядоўнік і бліжэйшы саратнік Леніна, насадзіцель ленінскіх ідэй у Закаўказзі. Па прыездзе ў Тіфліс у восень 1900 г. ён завязвае цесныя адносіны са Сталіным і меншасцю «Месаме-дасі», становіцца бліжэйшым другам і саратнікам Сталіна.

Калі са снежня 1900 г. пачала выходзіць ленінская «Искра», Сталін цалкам стаў на яе пазіцыі. Сталін адразу-ж убачыў у Леніне творца сапраўднай марксісцкай партыі, правадыра і настаўніка.

«Знаёмства з рэволюцыйнай дзейнасцю Леніна з канца 90-х год і асабліва пасля 1901 года, пасля выдання «Искры»,—гаворыць Сталін,—прывяло мяне да пераканання, што мы маем у асобе Леніна чалавека незвычайнага. Ён не быў тады у маіх вачах простым кіраўніком партыі, ён быў яе фактычным стваральнікам, бо ён адзін разумеў унутраную сутнасць і неадкладныя патрэбы нашай партыі. Калі я параўноўваў яго з астатнімі кіраўнікамі нашай партыі, мне ўвесь час здавалася, што саратнікі Леніна—Плеханаў, Мартаў, Аксельрод і іншыя—стаяць ніжэй Леніна цэлай галавой, што Ленін у параўнанні з імі не проста адзін з кіраўнікоў, а кіраўнік вышэйшага тыпу, горны арол, які не ведае страху ў барацьбе і смела вядзе ўперад партыю па нязведаных шляхах рускага рэволюцыйнага руху» [6]).

Сталін пранікся бязмежнаю верай у ленінскі рэволюцыйны геній і пайшоў па шляху Леніна. Ён ніколі не зварачваў з гэтага шляху, і пасля смерці Леніна смела і ўпэўнена працягвае его справу.

У абстаноўцы пачаўшагася эканамічнага крызіса, пад уплывам рабочага руху ў Расіі і ў выніку дзейнасці соцыял-дэмакратаў у Тіф-

[5]) **Л. Берыя**. Да пытання аб гісторыі бальшэвіцкіх арганізацый у Закаўказзі. 1938 г., стар. 20—21.

[6]) **І. Сталін**. Аб Леніне. 1939 г., стар. 19—20.

лісе ў 1900—1901 гг. нарастае хваля эканамічных забастовак, якія ахватваюць адно прадпрыемства за другім. У жніўні 1900 г. разгортваецца грандыёзная стачка рабочых чыгуначных майстэрань і дэпо. У гэтай стачцы актыўны ўдзел прымае высланы з Пецербурга на Каўказ М. І. Калінін. 22 красавіка 1901 г. у цэнтры Тіфліса арганізуецца першамайская дэманстрацыя. Сталін—арганізатар і кіраўнік гэтай дэманстрацыі. Гэтую дэманстрацыю ленінская «Искра» ацаніла як падзею гістарычна-знамянальную для ўсяго Каўказа; яе ўздзеянне на ўвесь далейшы рабочы рух на Каўказе было выключна вялікае.

Так у гэтыя годы пад кіраўніцтвам рэвалюцыйнай меншасці «Месаме-дасі» на чале з Сталіным быў ажыццёўлен пераход рабочага руху Грузіі ад вузкай гуртковай прапаганды да масавай палітычнай агітацыі. Тым самым і на Каўказе стала праводзіцца ў жыццё злучэнне соцыялізма з рабочым рухам, акурат таксама, як гэта бліскуча ажыццяўлялася за некалькі год перад гэтым пецербургскім «Саюзам барацьбы», кіруемым Леніным.

Устрывожаны ростам рэвалюцыйнай барацьбы закаўказскага пролетарыята, царскі ўрад узмацняе рэпрэсіі, разлічваючы гэтым шляхам спыніць рух. У ноч на 22 сакавіка 1901 г. паліцыя зрабіла вобыск у фізічнай абсерваторыі, дзе жыў і працаваў Сталін. Вобыск і стаўшае потым вядомым распараджэнне ахранкі аб арышце прымушаюць Сталіна перайсці на нелегальнае становішча. З гэтага моманту ён вядзе напружанае, гераічнае жыццё прафесіянальнага рэвалюцыянера ленінскай школы, дзейнічаючы ў расійскім падполлі аж да лютаўскай рэвалюцыі 1917 г.

Сатрапы цара былі бяссільны перад нарастаўшым рэвалюцыйным рухам. З верасня 1901 г. па ініцыятыве Сталіна і Кецховелі пачала выходзіць «Брдзола» («Барацьба»)—першая нелегальная грузінская соцыял-дэмакратычная газета, паслядоўна праводзіўшая ідэі ленінскай «Искры», аб'явіўшая непрымірымую вайну ўсяму кругу ідэй апартунізма. «Брдзола» з'яўлялася лепшай пасля «Искры» марксісцкай газетай у Расіі. Шырокія размеры набывае і выданне лістовак на розных мовах многанацыянальнага Закаўказзя. «Дасканала напісаныя пракламацыі выходзілі на рускай, грузінскай і армянскай мовах і запаўнялі ўсе кварталы Тіфліса»,—пісала ленінская «Искра» аб дзейнасці тіфліскіх соцыял-дэмакратаў [7]). Бліжэйшы саратнік Сталіна—Ладо Кецховелі, падтрымліваючы ўвесь час з ім сувязь, стварае ў Баку камітэт ленінска-іскраўскага напрамку і арганізуе нелегальную друкарню. 11 лістапада 1901 г. адбылася канферэнцыя тіфліскай соцыял-дэмакратычнай арганізацыі, на якой быў выбран Тіфліскі камітэт РСДРП. У камітэт увайшоў Сталін. Але ў Тіфлісе ён астаецца вельмі нядоўга. У канцы лістапада па даручэнню Тіфліскага камітэта Сталін едзе ў Батум, трэці па велічыні (пасля Баку і Тіфліса) пролетарскі цэнтр на Каўказе.

У Батуме Сталін разгортвае кіпучую рэвалюцыйную работу: завязвае сувязі з перадавымі рабочымі, стварае гурткі, асабіста вядзе рад гурткоў, наладжвае нелегальную друкарню, піша палкія лістоўкі, друкуе і распаўсюджвае іх, кіруе барацьбой рабочых на заводах Ротшыльда і Манташэва, арганізуе рэвалюцыйную прапаганду на вёсцы. Сталін стварае ў Батуме соцыял-дэмакратычную арганізацыю, асноўвае Батумскі камітэт РСДРП, кіруе забастоўкамі на заводах. 9 сакавіка 1902 года Сталін арганізаваў вядомую палітычную дэманстрацыю

[7]) „Искра“ № 25, 15 верасня 1902 г.

батумскіх рабочых, якою ён кіраваў і на чале якой ён ішоў. Тут на справе было ажыццёўлена Сталіным злучэнне стачкі з палітычнай дэманстрацыяй.

Так, у гэты перыяд, у рашучай і непрымірымай барацьбе з апартунізмам склалася і вырасла ленінска-іскраўская арганізацыя ў Закаўказзі. Яе віднейшым арганізатарам і кіраўнікам быў Сталін, якога батумскія рабочыя ўжо тады называлі настаўнікам рабочых. Ленінска-іскраўская арганізацыя ў Закаўказзі будавалася на моцных асновах пролетарскага інтэрнацыяналізма, аб'ядноўваючы ў сваіх радах перадавых пролетарыяў розных нацыянальнасцей—грузін, армян, азербайджанцаў, рускіх. Ленін пазней не раз прыводзіў у прыклад закаўказскую арганізацыю партыі, як узор пролетарскага інтэрнацыяналізма.

Уздым барацьбы рабочых у Батуме сур'ёзна занепакоіў урад. Паліцэйскія ішчэйкі старанна шукаюць «зачыншчыкаў». 5 красавіка 1902 года Сталіна арыштоўваюць. Але і ў турме (спачатку ў батумскай, пасля—з 19 красавіка 1903 г.—у вядомай сваім цяжкім рэжымам кутаіскай, затым зноў у батумскай) Сталін не парывае сувязей з рэволюцыйнай работай. Седзячы ў турме, Сталін даведваецца ад прыехаўшых з II з'езда таварышоў аб сур'ёзнейшых рознагалоссях паміж большэвікамі і меншавікамі. Сталін рашуча становіцца на старану Леніна, большэвікоў.

У канцы лістапада 1903 года Сталіна высылаюць на тры годы ва Усходнюю Сібір, у Балаганскі павет, Іркуцкай губерніі, у сяло Новая Уда. У ссылцы ён атрымлівае пісьмо ад Леніна.

«Упершыню я пазнаёміўся з Леніным у 1903 г.,—гаворыць Сталін.—Праўда, гэтае знаёмства было не асабістае, а завочнае, у парадку перапіскі. Але яно пакінула ва мне незабыўнае ўражанне, якое не пакідала мяне за ўвесь час маёй работы ў партыі. Я знаходзіўся тады ў Сібіры ў ссылцы... Пісьмяцо Леніна было параўнальна невялікае, але яно давала смелую, бясстрашную крытыку практыкі нашай партыі і надзвычай яснае і сціслае выкладанне ўсяго плана работы партыі на бліжэйшы перыяд»[8]).

У ссылцы Сталін аставаўся нядоўга. Ён рваўся хутчэй на волю, каб узяцца за рэалізацыю ленінскага плана будаўніцтва большэвіцкай партыі. 5 студзеня 1904 года Сталін бяжыць з ссылкі. У лютым 1904 года Сталін зноў на Каўказе, спачатку ў Батуме, а потым у Тіфлісе.

## II

Амаль два годы Сталін прабыў у турме і ссылцы. Гэтыя годы былі годамі далейшага нарастання рэволюцыйнага ўздыму ў краіне. За гэты час адбыўся II з'езд РСДРП, які замацаваў перамогу марксізма над «эканамізмам». Але на змену старым, разбітым партыяй апартуністам, «эканамістам»—выступаюць новыя апартуністы, меншавікі. Пасля з'езда разгараецца жорсткая барацьба Леніна і большэвікоў супроць меншавікоў, іх апартуністычных ідэй, іх раскольніцкіх і дэзарганізатарскіх дзеянняў. Пачаўшаяся руска-японская вайна і наспяванне рэволюцыі яшчэ больш абвастраюць гэтую барацьбу. Выхад са стварыўшагася партыйнага крызіса Ленін бачыць у скліканні III з'езда. Барацьба за з'езд стала цэнтральнай задачай усіх большэвікоў.

---

[8]) І. Сталін. Аб Леніне, стар. 19, 20.

Вернай апорай Леніна ў гэтай барацьбе на Каўказе быў Сталін, які стаяў на чале закаўказскіх бальшэвікоў. Работа Сталіна ў гэты перыяд праходзіць пад флагам жорсткай барацьбы з меншавізмам. Сталін—член Каўказскага саюзнага камітэта РСДРП, кіруе яго работай. Сталін няўтомны: ён сістэматычна аб'язджае раёны Закаўказзя (Батум, Чыатуры, Кутаіс, Тіфліс, Баку, сялянскія раёны заходняй Грузіі), умацоўвае старыя і стварае новыя партыйныя арганізацыі; ён прымае ўдзел у жорсткіх схватках з меншавікамі і іншымі ворагамі марксізма на шматлікіх дыскусіях, энергічна абараняючы бальшэвіцкія пазіцыі, выкрываючы палітыканцтва і апартунізм меншавікоў і прымірэнцаў да іх.

«Пад кіраўніцтвам таварыша Сталіна ў снежні 1904 г. праводзілася грандыёзная стачка бакінскіх рабочых, якая прадаўжалася з 13 па 31 снежня і закончылася заключэннем першага ў гісторыі рабочага руху Расіі калектыўнага дагавора з нафтапрамыслоўцамі.

Бакінская стачка з'явілася пачаткам рэвалюцыйнага уздыму ў Закаўказзі.

Бакінская стачка паслужыла «сігналам слаўных студзеньска-лютаўскіх выступленняў па ўсёй Расіі» (Сталін)» [9]).

Гэтая стачка,—гаворыцца ў Кароткім курсе гісторыі ВКП(б),—была як-бы пераднавальнічнай маланкай напярэдадні вялікай рэвалюцыйнай буры.

Сталін настойліва праводзіць дырэктывы Леніна, развівае і адстойвае бальшэвіцкія ідэі перад масамі, арганізуе барацьбу за III з'езд. Паміж Леніным і Каўказскім саюзным камітэтам пастаянна падтрымлівалася цесная сувязь. Сталін стаяў на чале ўсёй ідэйна-палітычнай барацьбы каўказскіх бальшэвікоў з меншавікамі, эсэрамі, нацыяналістамі, анархістамі ў годы першай рускай рэвалюцыі. Мацнейшаю зброяй бальшэвікоў у гэтай барацьбе была партыйная літаратура. Сталін быў арганізатарам і ініцыятарам амаль усіх бальшэвіцкіх выданняў на Каўказе. Выданню нелегальных кніг, газет, брашур, пракламацый ён надаў нябачаны ва ўмовах царскай Расіі размах.

Надзвычай смелым прадпрыманнем Каўказскага саюза і выдатным узорам бальшэвіцкай падпольнай тэхнікі была тайная Аўлабарская друкарня, працаваўшая ў Тіфлісе з пачатку 1904 г. па красавік 1906 г. У ёй надрукаваны былі работы Леніна «Рэвалюцыйная дэмакратычная дыктатура пралетарыята і сялянства», «Да сялянскай беднаты», брашуры Сталіна «Мімаходам аб партыйных рознагалоссях», «Дзве схваткі» і іншыя, праграма і статут партыі, дзесяткі лістовак, значная частка якіх напісана Сталіным. У ёй выдаваліся газеты «Барацьба пралетарыята» і «Лісток барацьбы пралетарыята». Кнігі, брашуры, газеты, лістоўкі друкаваліся на трох мовах, мелі тыражы па некалькі тысяч экземпляраў.

Рашаючая роля ў справе абароны пазіцый бальшэвізма на Каўказе, у справе прапаганды і развіцця ідэй Леніна належыць выходзіўшаму пад рэдакцыяй Сталіна органу Каўказскага саюза РСДРП—«Барацьба пралетарыята», дастойнай прыемніцы «Брдзолы». «Барацьба пралетарыята» пасля ленінскага цэнтральнага органа партыі «Пролетарий» была самай лепшай і самай буйнай бальшэвіцкай газетай. Амаль у кожным нумары газеты друкаваліся артыкулы Леніна з «Пролетария». Многія важнейшыя артыкулы напісаны Сталіным.

[9]) Л. Берыя „Да пытання аб гісторыі бальшэвіцкіх арганізацый у Закаўказзі", 1937 г., стар. 38.





У гэтых артыкулах Сталін выступае, як таленавіты палеміст, як буйнейшая літаратурная і тэарэтычная сіла партыі, палітычны правадыр пролетарыята, верны паслядоўнік Леніна. У сваіх артыкулах і брашурах Сталін распрацоўвае рад тэарэтычных і палітычных пытанняў. Ён беспамылкова ўскрывае ідэйную фальш антыбольшэвіцкіх плыней і фракцый, іх апартунізм і здраду. Яго ўдары па ворагах метка пападалі ў цэль. Ленін з захапленнем адзываўся аб «Барацьбе пролетарыята», яе марксісцкай вытрыманасці, дасканалых літаратурных якасцях.

Сталін, найбольш глыбокі і да канца паслядоўны вучань і саратнік Леніна, адыграў на Каўказе выдатную ролю ў ідэйным разгроме меншавізма і абароне ідэалагічных, арганізацыйных і тактычных асноў марксісцкай партыі. Творы Сталіна таго перыяда з'яўляюцца ўзорам паслядоўнай абароны пазіцый ленінізма, адметны тэарэтычнай глыбінёй, непрымірымасцю да апартунізма.

У сваёй выдатнай брашуры «Мімаходам аб партыйных рознагалоссях» і ў артыкуле «Адказ Соцыял-Дэмакрату» Сталін выступіў з рашучай абаронай ідэалагічных асноў марксісцкай партыі. Брашура «Мімаходам аб партыйных рознагалоссях» (напісана ў пачатку 1905 г., вышла нелегальным выданнем летам 1905 г.) належыць да выдатных твораў большэвіцкай мыслі. Яна непасрэдна прымыкае да гістарычнага твору Леніна «Што рабіць?», рашуча адстойвае геніяльныя ленінскія ідэі. У гэтай брашуры Сталін дае знішчаючую крытыку апартуністычнай тэорыі стыхійнасці і абгрунтоўвае ролю і значэнне рэвалюцыйнай партыі і рэвалюцыйнай тэорыі для рабочага класа.

«Рабочы рух,—пісаў Сталін,—павінен злучыцца з соцыялізмам, практычная дзейнасць павінна цесна звязацца з тэорыяй і тым надаць стыхійнаму рабочаму руху соцыял-дэмакратычны сэнс і фізіяномію... Мы, соцыял-дэмакраты, павінны перашкодзіць стыхійнаму рабочаму руху ісці па трэд'юніянісцкаму шляху, павінны ўводзіць яго ў соцыял-дэмакратычнае русло, **уносіць** соцыялістычнае сазнанне ў гэты рух і згуртоўваць перадавыя сілы рабочага класа ў цэнтралізаваную партыю. Наш доўг—заўсёды і ўсюды кіраваць рухам, энергічна змагацца з усімі—ці будзе то вораг, ці «друг»—хто становіцца на шляху да ажыццяўлення нашай святой мэты».

Выступленне Сталіна сустрэла поўнае адабрэнне Леніна. Ацэньваючы артыкул Сталіна «Адказ Соцыял-Дэмакрату», надрукаваны ў «Барацьбе пролетарыята» ў жніўні 1905 г., Ленін у ЦО партыі «Пролетарий» (№ 22) адзначыў «дасканалую пастаноўку пытання аб знамянітым «унясенні сазнання са зне».

У радзе артыкулаў Сталін абгрунтоўвае ленінскую лінію на II з'ездзе і пасля яго. У артыкуле «Клас пролетарыяў і партыя пролетарыяў» (апублікован 1 студзеня 1905 г. у № 8 «Барацьбы пролетарыята»), прысвечаным першаму параграфу статута партыі, Сталін абараняў арганізацыйныя асновы партыі, цалкам стоячы на глебе вучэння Леніна аб партыі, развіваючы і абгрунтоўваючы ленінскія ідэі. Гэты артыкул адстойвае арганізацыйныя ідэі большэвізма, паданыя Леніным у яго выдатнай кнізе «Крок уперад, два крокі назад».

«Да сённешняга дня,—пісаў Сталін,—наша партыя была падобна на гасцінную патрыярхальную сям'ю, якая гатова прыняць усіх спачуваючых. Але пасля таго, як наша партыя ператварылася ў цэнтралізаваную **арганізацыю,** яна скінула з сябе патрыярхальнае аблічча і поўнасцю ўпадобілася **крэпасці,** дзверы якой адчыняцца толькі **для** дастойных. А гэта мае для нас вялікае значэнне. У той час, як сама-

дзяржаўе стараецца разбэсціць класавае самасазнанне пролетарыята «трэд'юніянізмам», нацыяналізмам, клерыкалізмам і т. п., калі, з другога боку, ліберальная інтэлігенцыя ўпарта стараецца забіць палітычную самадзейнасць пролетарыята і дабіцца апекі над ім,—у гэты час мы павінны быць надта пільнымі і не павінны забываць, што наша партыя ёсць **крэпасць,** дзверы якой адчыняюцца толькі для дастойных».

Артыкул «Як разумее социял-дэмакратыя нацыянальнае пытанне?» (апублікаван у № 7 «Барацьбы пролетарыята» ад 1 верасня 1904 г.)—выдатны каментарый да нацыянальнай праграмы РСДРП. Сталін у ім абгрунтоўвае і раз'ясняе праграму партыі па нацыянальнаму пытанню, падвяргае сакрушальнай крытыцы апартуністычны прынцып нацыянальнага размежавання пролетарыята, паслядоўна адстойвае інтэрнацыяналісцкі тып пабудовы пролетарскіх класавых арганізацый. У гэтым артыкуле Сталін выступае як вялікі тэарэтык нацыянальнага пытання, які майстэрскі валодае марксісцкім дыялектычным метадам. У ім даны ў зародку ідэі, развітыя пазней Сталіным у яго рабоце «Марксізм і нацыянальнае пытанне».

Сталін з першых крокаў першай рускай рэволюцыі рашуча адстойвае і праводзіць ленінскую стратэгію і тактыку ў рэволюцыі, ленінскую ідэю **гегемоніі пролетарыята** ў рэволюцыі, ленінскую ідэю перарастання буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі ў рэволюцыю соцыялістычную. У пракламацыі Тіфліскага камітэта Каўказскага саюза РСДРП па поваду банкетнай кампаніі тіфліскіх лібералаў гаварылася:

«Не труслівае слова лібералаў, а наша прамое і смелае слова павінна раздавацца па ўсёй Расіі. Не лібералы, а мы павінны даваць тон усяму рэволюцыйнаму руху. Мы павінны патрабаваць дэмакратычнай рэспублікі з усеагульным выбарчым правам, мы павінны змагацца і супроць самадзяржаўя і супроць буржуазіі».

Кіруемы Сталіным Каўказскі саюзны камітэт нястомна прапагандаваў рашэнні III з'езда, клікаў рабочых і сялян да ўзброенага паўстання. Сталінскія лістоўкі 1905 г.—узор прапаганды ідэй большэвізма ў масах. У сваіх артыкулах «Узброенае паўстанне і наша тактыка», «Рэакцыя ўзмацняецца» і іншых Сталін падвяргае сакрушальнай крытыцы меншавіцкіх лідэраў, паслядоўна адстойвае і прапагандуе неабходнасць узброенага паўстання.

Кастрычніцкая ўсеагульная забастоўка, паказаўшая сілу, магутнасць пролетарскага руху, прымусіла на смерць перапалоханага цара выступіць з маніфестам 17 кастрычніка. Гэты маніфест, які абяцаў народу ўсялякія свабоды, быў абманам народных мас, царскай улоўкай, свайго роду перадышкай, неабходнай цару для таго, каб усыпіць лёгкаверных, выйграць час, сабрацца з сіламі і потым ударыць па рэволюцыі. Большэвікі раз'яснялі масам, што маніфест 17 кастрычніка—лавушка. «Кастрычніцкі маніфест» застае Сталіна ў Тіфлісе ў разгары барацьбы за ленінскі тактычны план, за большэвіцкія лозунгі рэволюцыі. У той-жа дзень, выступаючы на рабочым мітынгу, Сталін гаварыў:

«Што патрэбна нам, каб сапраўды перамагчы? Для гэтага патрэбны тры рэчы: першае—узбраенне, другое—узбраенне, трэцяе—яшчэ і яшчэ раз узбраенне» [10]).

Адстойваючы мысль аб неабходнасці для перамогі рэволюцыі ўсенароднага ўзброенага паўстання, Сталін у напісанай ім пракламацыі

[10]) Кароткі курс гісторыі ВКП(б), стар. 77.



Тіфліскага камітэта Каўказскага саюза РСДРП у лістападзе 1905 г. гаварыў наступнае:

«Небывалая, бяспрыкладная па сваёй грандыёзнасці не толькі ў гісторыі Расіі, але і ўсяго свету, усеагульная палітычная стачка, што разыгралася цяпер, можа, бадай, закончыцца сёння, не выліўшыся ва ўсенароднае паўстанне, але гэта толькі з тым, каб заўтра зноў і з большаю сілай патрэсці краіну і выліцца ў тое грандыёзнае ўзброенае паўстанне, якое павінна вырашыць векавую цяжбу рускага народа з царскім самадзяржаўем і разаб'е галаву гэтаму гнуснаму страшыдлу... Усенароднае ўзброенае паўстанне—вось тая вялікая задача, якая стаіць у цяперашні час перад расійскім пралетарыятам і ўладарна патрабуе свайго вырашэння!»

У гэты час Сталін праводзіў велізарную рэвалюцыйную работу ў Закаўказзі. Пад кіраўніцтвам Сталіна IV бальшэвіцкая канферэнцыя Каўказскага саюза РСДРП (лістапад 1905 г.) выносіць рашэнне аб узмацненні барацьбы за падрыхтоўку і правядзенне ўзброенага паўстання, за байкот царскай Думы, за разгортванне і ўмацаванне рэвалюцыйных арганізацый рабочых і сялян—Саветаў рабочых дэпутатаў, стачачных камітэтаў, рэвалюцыйных сялянскіх камітэтаў. Сталін выкрываў і граміў меншавікоў, як праціўнікаў рэвалюцыі і ўзброенага паўстання. Ён няўхільна рыхтаваў рабочых да рашучага бою з самадзяржаўем. Па ўсяму Закаўказзю распаўсюдзілася полымя рэвалюцыйнага пажару. Яшчэ III з'езд партыі ў прапанаванай Леніным рэзалюцыі «Па поваду падзей на Каўказе» асоба выдзеліў дзейнасць бальшэвіцкіх арганізацый Закаўказзя, як «найбольш баявых арганізацый нашай партыі», і заклікаў усю партыю да аказання ім усямернага падтрымання.

У снежні 1905 года Сталін едзе ў якасці дэлегата ад закаўказскіх бальшэвікоў на першую Усерасійскую бальшэвіцкую канферэнцыю ў Тамерфорсе (Фінляндыя). На тамерфорскай канферэнцыі ўпершыню асабіста сустрэліся Ленін і Сталін. На гэтай канферэнцыі тав. Сталін быў выбран у палітычную камісію па рэдагаванню рэзалюцый канферэнцыі, дзе працаваў разам з Леніным як адзін з выдатных партыйных кіраўнікоў.

Пасля паражэння снежаньскага паўстання пачаўся паварот да паступовага адступлення рэвалюцыі. У партыі ідзе падрыхтоўка да IV з'езду РСДРП. Барацьба паміж бальшэвікамі і меншавікамі разгараецца з новаю сілай. На сцэну выплываюць анарха-сіндыкалісцкія элементы. Яны асабліва пачынаюць шумець у Тіфлісе. Сталін—у цэнтры барацьбы з усімі антыпралетарскімі плынямі ў Закаўказзі.

Сталін—актыўны ўдзельнік IV з'езда РСДРП (Стокгольм, красавік 1906 г.), на якім ён разам і побач з Леніным адстойваў супроць меншавікоў бальшэвіцкую лінію ў рэвалюцыі. Адказваючы меншавікам, Сталін паставіў пытанне рубам: «Або гегемонія пралетарыята, або гегемонія дэмакратычнай буржуазіі—вось як стаіць пытанне ў партыі, вось у чым нашы рознагалоссі».

Неўзабаве пасля з'езда Сталін напісаў брашуру «Бягучы момант і аб'яднаўчы з'езд рабочай партыі». У гэтай брашуры Сталін даў аналіз урокаў снежаньскага ўзброенага паўстання, абгрунтаваў бальшэвіцкую лінію ў рэвалюцыі і падвёў вынікі работам IV з'езда РСДРП.

Пасля з'езда Сталін зноў у Закаўказзі. Ён вядзе непрымірымую барацьбу супроць меншавізма і іншых антыпралетарскіх плыней. Ён кіруе легальнымі бальшэвіцкімі газетамі, якія выходзілі ў Тіфлісе

на грузінскай мове,—«Ахалі цхоўрэба» («Новае жыццё»), «Ахалі дроэба» («Новы час»), «Чвені цхоўрэба» («Наша жыццё»), «Дро» («Час»).

К гэтаму часу адносіцца серыя выдатных артыкулаў Сталіна— «Анархізм або соцыялізм», напісаных у сувязі з актывізацыяй у Закаўказзі анархістаў-крапоткінцаў. У абстаноўцы спаду рэволюцыйнай хвалі і пачынаўшайся рэакцыі на чаргу дня стала, як непасрэдная партыйная задача, абарона тэарэтычных асноў большэвізма. У гэтыя годы Ленін піша сваю геніяльную працу «Матэрыялізм і эмпірыокрытыцызм». У абарону тэарэтычных асноў марксізма выступае і Сталін. У сваіх артыкулах Сталін адстойвае і развівае тэарэтычныя асновы марксісцкай партыі—дыялектычны і гістарычны матэрыялізм. Гэтыя артыкулы Сталіна былі апублікаваны ў 1906—1907 гг., у большэвіцкіх газетах Закаўказзя. У іх у даступнай і папулярнай форме выясняецца, што такое матэрыялізм і дыялектыка, што такое гістарычны матэрыялізм. З выключнай глыбінёю пастаўлены і вырашаны ў гэтай рабоце карэнныя пытанні марксісцка-ленінскай тэорыі: няўхільнасць і немінучасць соцыялістычнай рэволюцыі і дыктатуры пролетарыята, неабходнасць баявой пролетарскай партыі, партыі **новага** тыпу, адметнай ад старых, рэфармісцкіх партый II Інтэрнацыянала, выкладаюцца асновы стратэгіі і тактыкі партыі. Гэтыя артыкулы Сталіна ўваходзяць у ідэйную скарбніцу нашай партыі, як сур'ёзны ўклад у тэорыю марксізма-ленінізма. Яны з'яўляюцца ўзорам глыбокага асвятлення пытанняў тэорыі марксізма-ленінізма ў неразрыўнай сувязі з надзеннымі задачамі рэволюцыйнай класавай барацьбы пролетарыята.

У красавіку—маі 1907 г. адбыўся V (Лонданскі) з'езд РСДРП, які замацаваў перамогу большэвікоў над меншавікамі. Сталін—актыўны ўдзельнік з'езда. Вярнуўшыся пасля з'езда, ён публікуе справаздачу аб яго работах—«Запіскі дэлегата», у якіх даў ацэнку рашэнняў і вынікаў з'езда, абараніў большэвіцкія ідэйныя і тактычныя пазіцыі, выкрыў ліберальна-буржуазную лінію меншавікоў у рэволюцыі і іх ліквідатарства ў адносінах партыі, паказаў класавую прыроду меншавізма, як дробнабуржуазнай палітычнай плыні.

## III

Першая руская рэволюцыя закончылася паражэннем. Паміж канцом першай і пачаткам другой рэволюцыі прайшло 10 год, на працягу якіх большэвікі гераічна і самаадДана, упорна і няўтомна арганізоўвалі масы, выхоўвалі іх у рэволюцыйным духу, накіроўвалі іх барацьбу, кавалі надыходзячую перамогу рэволюцыі.

Для Леніна і Сталіна гэта былі годы непрымірымай барацьбы за захаванне і ўмацаванне нелегальнай рэволюцыйнай партыі, за правядзенне большэвіцкай лініі ў новай абстаноўцы, годы напружанай работы па арганізацыі і выхаванню рабочых мас, годы асабліва ўпорнай барацьбы з царскай паліцыяй. Царызм адчуваў, што ў асобе Сталіна ён мае справу з буйнейшым рэволюцыйным дзеячом, і ўсяляк імкнуўся пазбавіць Сталіна магчымасці весці рэволюцыйную работу. Арышты, турма і ссылка следавалі адно за адным. З 1902 да 1913 года Сталін арыштоўваўся восем раз, быў у ссылцы сем раз, бег з ссылкі шэсць раз. Не паспявалі царскія апрычнікі ўсяляць Сталіна на новае месца ссылкі, як ён зноў уцякае і зноў на «волі» куе рэволюцыйную энергію мас. Толькі з апошняй ссылкі Сталіна вызваліла лютаўская рэволюцыя 1917 года.

З 1907 г. пачынаецца бакінскі перыяд рэвалюцыйнай дзейнасці Сталіна. Вярнуўшыся з V (Лонданскага) з'езда РСДРП, Сталін пакідае Тіфліс і па волі партыі абасноўваецца ў Баку—самым буйным прамысловым раёне Закаўказзя і важнейшым цэнтры рабочага руху ў Расіі. Тут ён вядзе кіпучую работу па згуртаванню бакінскай арганізацыі вакол лозунгаў Леніна, па завяяванню рабочых мас пад сцяг большэвізма. Сталін арганізуе барацьбу па выцясненню меншавікоў з рабочых раёнаў Баку (Балаханы, Бібі-Эйбат, Чорны горад, Белы горад). Сталін кіруе большэвіцкімі нелегальнымі і легальнымі органамі («Бакінскі пролетарый», «Гудок», «Бакінскі рабочы»). Сталін накіроўвае барацьбу бакінскіх рабочых. Яго кіраўніцтва вялікай кампаніяй вакол нарады паміж рабочымі і нафтапрамыслоўцамі пры заключэнні калектыўнага дагавора—бліскучы ўзор правядзення гібкай ленінскай лініі на спалучэнне нелегальнай і легальнай работы. Умела праводзячы ленінскую тактыку мабілізацыі рабочых мас на палітычную барацьбу супроць царскай манархіі, Сталін дабіўся перамогі большэвікоў у гэтай кампаніі. У змрочную ноч сталыпінскай рэакцыі пролетарскі Баку прадстаўляе нябачанае відовішча; разгортваецца пролетарская барацьба, на ўсю Расію грыміць голас сталінскага дзецішча—легальных большэвіцкіх газет. «Апошнія магікане масавай палітычнай стачкі!» [11])—так характарызуе Ленін гераічную барацьбу бакінскіх рабочых у 1908 годзе.

Сталін згуртоўвае вакол сябе моцнае ядро выпрабаваных большэвікоў-ленінцаў—Орджанікідзе, Варашылава, Джапарыдзе, Шаумяна, Спандарана і інш. Сталін дабіваецца ў канцы канцоў поўнай перамогі большэвізма ў радах бакінскай арганізацыі. Баку ператвараецца ў цытадэль большэвізма. Пад кіраўніцтвам Сталіна бакінскі пролетарыят вядзе гераічную барацьбу, знаходзячыся ў першых радах агульнарасійскага рэволюцыйнага руху.

Бакінскі перыяд мае буйнейшае значэнне ў жыцці і дзейнасці Сталіна. Вось што гаворыць Сталін аб гэтым перыядзе:

«Два годы рэволюцыйнай работы сярод рабочых нафтавай прамысловасці загартавалі мяне, як практычнага барацьбіта і аднаго з практычных кіраўнікоў. У сувязях з такімі перадавымі рабочымі Баку, як Вацэк, Саратавец і інш., з аднаго боку, і ў буры найглыбейшых канфліктаў паміж рабочымі і нафтапрамыслоўцамі—з другога боку, я ўпершыню даведаўся, што значыць кіраваць вялікімі масамі рабочых. Там, у Баку, я атрымаў, такім чынам, другое сваё баявое рэволюцыйнае хрышчэнне» [12]).

25 сакавіка 1908 года Сталіна арыштоўваюць і пасля амаль васьмі месяцаў турэмнага зняволення высылаюць на два годы ў Валагодскую губерню, у Сольвычэгодск. Ужо 24 чэрвеня 1909 года ён бяжыць і вяртаецца ў Баку на нелегальную работу. Сталін цалкам падтрымлівае пазіцыю Леніна, рашуча выступае супроць ліквідатараў і адзавістаў. У цэнтральнай партыйнай прэсе паяўляюцца гістарычныя сталінскія артыкулы «Пісьмы з Каўказа». Яны змяшчаюць у сабе сакрушальную крытыку ліквідатараў: на прыкладзе тіфліскіх меншавікоў выкрываецца рэнегацтва ліквідатараў у праграмных і тактычных пытаннях. Яны рэзка асуджаюць здрадніцкія паводзіны пасобнікаў трацкізма і высоўваюць чарговыя задачы, ажыццёўленыя пазней на Пражскай партыйнай канферэнцыі: скліканне агульнапартыйнай канферэн-

---

[11]) Ленін, т. XV, стар. 33.

[12]) „Правда" № 136, 16 чэрвеня 1926 г.

цыі, выданне легальнай партыйнай газеты і стварэнне нелегальнага практычнага партыйнага цэнтра ў Расіі.

23 сакавіка 1910 года Сталіна зноў арыштоўваюць у Баку і пасля поўгадовага турэмнага зняволення адпраўляюць назад у ссылку ў Сольвычэгодск. У ссылцы Сталін звязваецца з Леніным, піша яму ў канцы 1910 г. пісьмо, у якім цалкам падтрымлівае ленінскую тактыку партыйнага блока староннікаў захавання і ўмацавання нелегальнай пролетарскай партыі, рэзка бічуе «тухлую беспрынцыпнасць» здрадніка Троцкага, высоўвае план арганізацыі работы партыі ў Расіі.

У канцы лета 1911 г. таварыш Сталін у трэці раз бяжыць з ссылкі і прыязджае ў Пецербург. Таварыш Сталін у Пецербургу арганізуе і накіроўвае барацьбу супроць ліквідатараў—меншавікоў і трацкістаў, згуртоўвае і ўмацоўвае большэвіцкія арганізацыі Пецербурга. 9 верасня 1911 г. таварыш Сталін быў арыштован у Пецербургу і выслан у Валагодскую губернію, адкуль яму ўдалося бегчы ў лютым 1912 года.

У студзені 1912 г. адбываецца буйнейшая падзея ў жыцці партыі. Пражская канферэнцыя РСДРП, выгнаўшы з партыі меншавікоў, палажыла пачатак партыі новага тыпу, партыі ленінізма, большэвіцкай партыі.

Большэвікі рыхтавалі такую партыю, партыю новага тыпу, ужо з часоў старой «Искры». Яны рыхтавалі яе ўпорна, настойліва, не гледзячы ні на што. Уся гісторыя барацьбы з «эканамістамі», меншавікамі, трацкістамі, адзавістамі, ідэалістамі ўсіх масцей аж да эмпірыокрытыкаў,—была гісторыяй падрыхтоўкі такой іменна партыі. Асноўную і рашаючую ролю адыгралі ў гэтай падрыхтоўчай рабоце такія працы Леніна, як «Што рабіць?», «Крок уперад, два крокі назад», «Дзве тактыкі соцыял-дэмакратыі ў дэмакратычнай рэвалюцыі», «Матэрыялізм і эмпірыокрытыцызм». **Сталін быў верным саратнікам Леніна ў гэтай барацьбе са шматлікімі ворагамі, вернай апорай у барацьбе за стварэнне рэвалюцыйнай марксісцкай партыі, большэвіцкай партыі.**

## IV

Пражская канферэнцыя прадказала ў сваіх рашэннях немінучасць у недалёкім будучым рэвалюцыйнага ўздыму і прыняла ўсе меры для таго, каб партыя сустрэла ва ўсеўзброенні гэты ўздым. Канферэнцыя выбрала большэвіцкі Цэнтральны Камітэт, стварыла практычны цэнтр для кіраўніцтва рэвалюцыйнай работай у Расіі (Рускае бюро ЦК), прыняла рашэнне аб выданні «Правды». Канферэнцыя завочна выбірае Сталіна, які ўжо з 1910 г. з'яўляўся агентам ЦК, членам ЦК партыі. Сталін па прапанове Леніна ўзначальвае Рускае бюро ЦК. Але Сталін знаходзіўся ў ссылцы, трэба было арганізаваць яго пабег. Па даручэнню Леніна да Сталіна ў Волагду прыязджае Серго Орджанікідзе, інфарміруе яго аб рашэннях Пражскай канферэнцыі. І 29 лютага 1912 года Сталін зноў бяжыць з ссылкі. За кароткі час прабывання на «волі» Сталін разгортвае энергічную дзейнасць: аб'язджае па даручэнню ЦК важнейшыя раёны ў Расіі, вядзе падрыхтоўчую работу да чарговай «маёўкі», піша вядомую першамайскую лістоўку ЦК, кіруе штотыднёвай большэвіцкай газетай «Звезда» у Пецербургу ў дні ленскіх забастовак.

Магутнаю зброяй у руках большэвіцкай партыі ў справе ўмаца-

вання сваіх арганізацый і заваявання ўплыву ў масах з'явілася штодзённая масавая бальшэвіцкая газета «Правда», якая выходзіла ў Пецербургу. Яна была аснавана паводле ўказання Леніна, па ініцыятыве Сталіна. Пад кіраўніцтвам Сталіна быў падрыхтован першы нумар «Правды», вызначан яе напрамак. «Правда» нарадзілася разам з новым уздымам рэвалюцыйнага руху. 22 красавіка (5 мая па новаму стылю) 1912 года вышаў яе першы нумар. Гэта было сапраўдным святам для рабочых. У чэсць паяўлення «Правды» было вырашана лічыць 5 мая днём свята рабочага друку.

«Правда» 1912-га года—гэта закладка фундамента для перамогі большэвізма ў 1917 годзе»—пісаў таварыш Сталін у дзень дзесяцігоддзя «Правды» [13]).

22 красавіка 1912 года Сталіна арыштавалі ў Пецербургу на вуліцы і пасля некалькіх месяцаў зняволення ў турме выслалі на гэты раз далей—у Нарымскі край на тры годы. Але ўжо 1 верасня 1912 года Сталін зноў бяжыць з ссылкі ў Піцер. Тут ён рэдагуе бальшэвіцкія газеты «Звезду» і «Правду», кіруе дзейнасцю большэвікоў у выбарчай кампаніі ў IV Дзяржаўную думу. Праследуемы па пятах паліцыяй, з вялікім рыскам Сталін выступае на радзе лятучых сходаў на заводах. Але рабочыя арганізацыі і самі рабочыя ахоўваюць Сталіна і аграджаюць яго ад паліцыі.

Буйнейшую ролю ў гэтай кампаніі, якая ўвянчалася перамогай партыі, адыграў напісаны Сталіным «Наказ пецербургскіх рабочых свайму рабочаму дэпутату», якому такую высокую ацэнку даў Ленін. Адпраўляючы «Наказ» для друкавання ў друкарню, Ленін пісаў: «Абавязкова **вярнуць!!** Не запэцкаць. **Крайне важна** захаваць гэты дакумент». У пісьме рэдакцыі «Правды» Ленін указваў: «Абавязкова змясціце гэты наказ пецербургскаму дэпутату на відным месцы буйным шрыфтам» [14]). Сталінскі «Наказ» напамінаў рабочым аб невырашаных задачах 1905 года і заклікаў іх да рэвалюцыйнай барацьбы, да барацьбы на два фронты—як супроць царскага ўрада, так і супроць ліберальнай буржуазіі, якая шукала згоды з царызмам. Пасля выбараў Сталін вядзе работу па кіраўніцтву большэвіцкай часткай думскай фракцыі. Разам са Сталіным у Піцеры працуе Молатаў, які прымае актыўны ўдзел у кіраўніцтве «Правдой», выбарчай кампаніяй і думскай фракцыяй. У гэты перыяд паміж Леніным і Сталіным устанаўліваецца яшчэ больш цесная сувязь. У сваіх пісьмах Ленін поўнасцю адабрае дзейнасць Сталіна, яго выступленні, яго артыкулы. Сталін двойчы выязджае ў Кракаў да Леніна: у лістападзе і ў канцы снежня 1912 года на нараду ЦК з партыйнымі работнікамі.

Знаходзячыся за граніцай, Сталін піша работу «Марксізм і нацыянальнае пытанне», якую Ленін вельмі высока ацэньваў. Ленін пісаў аб гэтай рабоце таварыша Сталіна: «У тэарэтычнай марксісцкай літаратуры... асновы нацыянальнай праграмы с.-д. ужо былі асветлены за апошні час (у першую галаву тут высоўваецца артыкул Сталіна)» [15]). Работа таварыша Сталіна «Марксізм і нацыянальнае пытанне» з'явілася буйнейшым выступленнем большэвізма па нацыянальнаму пытанню на міжнароднай арэне да вайны. **Гэта была праграмная дэкларацыя большэвізма па нацыянальнаму пытанню.** Рэзка і моцна ў гэтай рабоце былі проціпастаўлены два метады, дзве праграмы, два

[13]) „Правда" № 98, 5 мая 1922 г.
[14]) Ленін, т. XXIX, стар. 78.
[15]) Ленін, т. XVII, стар. 116.

светапогляды ў нацыянальным пытанні—II Інтэрнацыянала і ленінізма. Сталін разам з Леніным разграміў апартуністычныя погляды і догмы II Інтэрнацыянала па нацыянальнаму пытанню. Леніным і Сталіным была распрацавана марксісцкая праграма па нацыянальнаму пытанню. У сваёй рабоце Сталін даў марксісцкую тэорыю нацыі, сфармуліраваў асновы большэвіцкага падыходу да вырашэння нацыянальнага пытання (патрабаванне разглядаць нацыянальнае пытанне як частку агульнага пытання аб пролетарскай рэволюцыі і ў неразрыўнай сувязі з усёй міжнароднай абстаноўкай эпохі імперыялізма), абгрунтаваў большэвіцкі прынцып інтэрнацыянальнага згуртавання рабочых.

23 лютага 1913 года Сталін быў арыштован на канцэрце, наладжаным пецербургскім камітэтам большэвікоў у зале Калашнікаўскай біржы. На гэты раз царскі ўрад высылае Сталіна ў далёкі Туруханскі край на чатыры годы. Сталін упачатку жыве ў станку Косціно, а затым, у пачатку 1914 г., царскія жандары, апасаючыся новага пабегу, пераводзяць яго яшчэ далей на поўнач—у станок Курэйка, к самаму палярнаму кругу. Тут ён праводзіць 1914, 1915 і 1916 гг. Гэта была самая цяжкая палітычная ссылка, якая толькі магла быць у глухой сібірскай далечы.

Летам 1914 г. пачалася першая імперыялістычная вайна. Партыі II Інтэрнацыянала ганебна здрадзілі пролетарыяту, перайшлі на старану імперыялістычнай буржуазіі. Толькі Ленін, большэвікі асталіся вернымі баявому сцягу інтэрнацыяналізма, толькі партыя большэвікоў адразу-ж і без хістанняў узняла сцяг рашучай барацьбы супроць імперыялістычнай вайны. Адрэзаны ад усяго свету, адарваны ад Леніна і партыйных цэнтраў, Сталін займае ленінскую інтэрнацыяналісцкую пазіцыю па пытаннях вайны, міру і рэволюцыі. Ён піша пісьмо Леніну (1915 г.), выступае на сходзе ссыльных большэвікоў у сяле Манастырскім (1915 г.), дзе кляйміць ганьбай труслівыя і здрадніцкія паводзіны Каменева на судзе над большэвіцкай «пяцёркай»—дэпутатамі IV Дзяржаўнай думы. Ён вітае (1916 г.) разам з групай ссыльных большэвікоў легальны большэвіцкі журнал «Вопросы страхования», указваючы, што задачай журнала з'яўляецца прыладжыць «усе намаганні і старанні і да справы ідэйнага страхавання рабочага класа нашай краіны ад глыбока разбэшчваючай антыпролетарскай і ў корані супярэчачай прынцыпам міжнароднасці пропаведзі пп. Патрэсавых, Левіцкіх і Плеханавых».

У снежні 1916 года Сталін па этапу накіроўваецца ў Краснаярск, а затым у г. Ачынск. Тут яго застае вестка аб лютаўскай рэволюцыі. Неўзабаве Сталін выязджае з Ачынска, з дарогі шле прывітальную тэлеграму Леніну ў Швейцарыю.

12 (25) сакавіка 1917 года Сталін, мужна перанёсшы ўсе нягоды Туруханскай ссылкі, зноў у Піцеры—рэволюцыйнай сталіцы Расіі. У той-жа дзень ЦК партыі даручае Сталіну кіраўніцтва газетай «Правда».

Партыя большэвікоў толькі што вышла з падполля. Многія з найбольш відных і актыўных членаў партыі вярталіся з далёкіх ссылак і турмаў. Ленін знаходзіўся ў эміграцыі. Буржуазны Часовы Ўрад затрымліваў яго прыезд усялякімі мерамі. У гэты адказны перыяд Сталін згуртоўвае партыю на барацьбу за перарастанне буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі ў соцыялістычную. Сталін кіруе дзейнасцю Цэнтральнага Камітэта і Пецербургскага камітэта большэвікоў. У артыкулах Сталіна большэвікі атрымліваюць прынцыпо-

выя кіруючыя ўказанні для сваёй работы. У першым-жа артыкуле «Аб Советах Рабочых і Салдацкіх Дэпутатаў» Сталін пісаў аб асноўнай задачы партыі:

«Умацаваць гэтыя Советы, зрабіць іх паўсямеснымі, звязаць іх паміж сабою на чале з Цэнтральным Советам Рабочых і Салдацкіх Дэпутатаў, як органам рэволюцыйнай улады народа» [13]).

Сталін паказаў, што характар імперыялістычнай вайны не змяніўся ад пераходу ўлады ў рукі Часовага ўрада, што вайна 1914—1917 гг. і пры буржуазным Часовым урадзе астаецца грабежніцкай, несправядлівай.

Сталін, Молатаў і іншыя разам з большасцю партыі адстойвалі палітыку недавер'я імперыялістычнаму Часоваму ўраду, выступалі супроць меншавіцка-эсэраўскага абаронніцтва і супроць поўменшавіцкай пазіцыі ўмоўнага падтрымання Часовага ўрада, якую займалі Каменеў і іншыя апартуністы.

## V

3 (16) красавіка 1917 г., пасля доўгага выгнання, вярнуўся ў Расію Ленін. Вестка аб прыездзе любімага правадыра рэволюцыі была сустрэта перадавымі рабочымі Петраграда з захапленнем. Насустрач Леніну, на станцыю Белаостраў выехаў таварыш Сталін з дэлегацыяй рабочых. Сустрэча Леніна на Фінляндскім вакзале ў Петраградзе вылілася ў магутную рэволюцыйную дэманстрацыю. На другі дзень пасля прыезду Ленін выступіў са сваімі знамянітымі Красавіцкімі тэзісамі, даўшымі партыі геніяльны план барацьбы за пераход ад буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі да рэволюцыі соцыялістычнай. Тэзісы Леніна далі партыі новую арыентыроўку ў новых умовах барацьбы пасля звяржэння царызма. 24 красавіка 1917 г. адкрылася VII (Красавіцкая) канферэнцыя большэвікоў, у аснову работ якой ляглі ленінскія тэзісы. Красавіцкая канферэнцыя нацэліла партыю на барацьбу за перарастанне буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі ў соцыялістычную.

На канферэнцыі Сталін, адстойваючы лінію Леніна, даў рашучы адпор скрытым абаронцам капіталізма Каменеву і Рыкаву. Сталін выступіў на канферэнцыі з дакладам па нацыянальнаму пытанню. Развіваючы паслядоўную марксісцка-ленінскую лінію ў нацыянальным пытанні, Сталін абгрунтаваў большэвіцкую нацыянальную палітыку, адстойваў права нацый на самавызначэнне аж да аддзялення і ўтварэння самастойных дзяржаў. Ленінска-сталінская нацыянальная палітыка забяспечыла партыі падтрыманне прыгнечаных нацыянальнасцей у Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі.

У маі 1917 г., пасля канферэнцыі, устанаўляецца палітбюро ЦК, куды Сталін выбіраецца ў якасці яго члена. З той пары і да гэтага часу Сталін нязменна выбіраецца членам палітбюро ЦК.

Партыя, на аснове рашэнняў Красавіцкай канферэнцыі, разгортвае велізарную работу па заваяванню мас, па баявому іх выхаванню і арганізацыі.

У гэты складаны перыяд рэволюцыі, калі падзеі імкліва ішлі ўперад, патрабуючы ад партыі ўмелай, гібкай тактыкі, Ленін разам са Сталіным кіруе барацьбою мас.

«Я ўспамінаю 1917 год,—гаварыў Сталін,—калі я воляй партыі пасля блуканняў па турмах і ссылках, быў перакінут у Ленінград.

---

[13]) **Ленін—Сталін.** Выбраныя творы 1917 года. 1937 г., стар. 11.

Там, у кругу рускіх рабочых, пры непасрэднай блізасці з вялікім настаўнікам пролетарыяў усіх краін—т. Леніным, у буры вялікіх схватак пролетарыята і буржуазіі, у абстаноўцы імперыялістычнай вайны, я ўпершыню навучыўся разумець, што значыць быць адным з кіраўнікоў вялікай партыі рабочага класа. Там, у кругу рускіх рабочых—вызваліцеляў прыгнечаных народаў і застрэльшчыкаў пролетарскай барацьбы ўсіх краін і народаў, я атрымаў сваё трэцяе баявое рэволюцыйнае хрышчэнне. Там, у Расіі, пад кіраўніцтвам Леніна, я стаў адным з майстроў ад рэволюцыі» [17]).

Сталін—у цэнтры ўсёй практычнай работы партыі. Як член ЦК, ён прымае непасрэдны кіруючы ўдзел у рабоце Петраградскага камітэта партыі, кіруе «Правдой», піша артыкулы ў «Правде» і «Солдатской правде», накіроўвае дзейнасць большэвікоў у муніцыпальнай кампаніі ў Петраградзе. Разам з Леніным Сталін прымае ўдзел у работах Усерасійскай канферэнцыі ваенных арганізацый партыі, выступае там з дакладам. Разам з Леніным Сталін арганізуе гістарычную дэманстрацыю 18 чэрвеня, якая прайшла пад лозунгамі большэвіцкай партыі, піша ад імені ЦК зварот да рабочых і рэволюцыйных салдат Петраграда.

Пасля ліпеньскіх дзён 1917 г., калі Ленін, травімы і праследуемы контррэволюцыйным Часовым урадам, знаходзіўся ў падполлі, Сталін непасрэдна кіраваў Цэнтральным Камітэтам і цэнтральным органам партыі, які выходзіў у гэты час пад рознымі назвамі («Рабочий и солдат», «Пролетарий», «Рабочий», «Рабочий путь»). Сталін выратаваў для партыі, для нашага народа, для ўсяго чалавецтва каштоўнае жыццё Леніна, рашуча выказаўшыся супроць яўкі Леніна на суд контррэволюцыянераў, выступіўшы супроць прапановы здраднікаў Каменева, Рыкава, Троцкага выдаць Леніна на суд контррэволюцыйнага Часовага ўрада.

Разгром ліпеньскай дэманстрацыі выклікаў пералом у развіцці рэволюцыі. Ленін выпрацоўвае новую тактыку партыі ў новых умовах барацьбы. Разам са Свердловым Сталін кіраваў работамі засядаўшага нелегальна VI з'езда партыі (жнівень 1917 г.). На з'ездзе Сталін выступіў з дакладамі: палітычнай справаздачай ЦК і па пытанню аб палітычным становішчы. У гэтых дакладах Сталін чотка сфармуляваў задачы і тактыку партыі ў барацьбе за соцыялістычную рэволюцыю. Сталін даў адпор трацкістам, якія лічылі немагчымай перамогу соцыялізма ў Расіі. З'езд аб'яднаўся вакол Сталіна, адстойваўшага вучэнне Леніна аб магчымасці перамогі соцыялізма ў нашай краіне. Пад кіраўніцтвам Сталіна, па дырэктывах Леніна, VI з'езд партыі стаў з'ездам падрыхтоўкі да паўстання. З'езд нацэліў партыю на ўзброенае паўстанне, на заваяванне дыктатуры пролетарыята.

У жніўні 1917 года ўспыхнуў мяцеж генерала Карнілава, які збіраўся аднавіць царызм у Расіі. Большэвікі паднялі народныя масы на барацьбу з генеральскай авантурай. Разгром карнілаўскага мецяжа адкрыў новы перыяд у гісторыі рэволюцыі: пачаўся перыяд арганізацыі штурму.

**Ленін і Сталін смела і ўпэўнена, цвёрда і асцярожна вялі партыю і рабочы клас на соцыялістычную рэволюцыю, на ўзброенае паўстанне. Ленін і Сталін—натхніцелі і арганізатары перамогі Вялікай Кастрычніцкай Соцыялістычнай рэволюцыі. Сталін—бліжэйшы саратнік Леніна. Ён непасрэдна кіруе ўсёй справай падрыхтоўкі паўстання.**

[16]) „Правда" № 136, 16 чэрвеня 1926 г.

Яго кіруючыя артыкулы перадрукоўваюцца абласнымі большэвіцкімі газетамі. Сталін выклікае да сябе прадстаўнікоў раённых і абласных арганізацый, інструктуе іх і намячае баявыя задачы для паасобных раёнаў. 16 (29) кастрычніка Цэнтральны Камітэт выбраў Партыйны цэнтр па кіраўніцтву паўстаннем на чале з тав. Сталіным. Партыйны цэнтр увайшоў у састаў Совецкага цэнтра—Ваенна-рэволюцыйнага камітэта—і стаў яго душой і сэрцам. Пад кіраўніцтвам Сталіна распрацоўваецца план паўстання і намячаецца самы тэрмін. Раніцой 24 кастрычніка Керэнскі выдаў загад аб закрыцці цэнтральнага органа партыі «Рабочий путь» і паслаў бранявікі да памяшкання рэдакцыі і друкарні «Рабочего пути». Але к 10 гадзінам раніцы па ўказанню тав. Сталіна чырвонагвардзейцы і рэволюцыйныя салдаты адцяснілі бранявікі і ўстанавілі ўзмоцненую ахову каля друкарні і рэдакцыі. К 11 гадзінам раніцы вышаў «Рабочий путь» з напісаным Сталіным перадавым артыкулам «Што нам трэба?», які заклікаў масы звергнуць буржуазны Часовы ўрад. Адначасова, па ўказанню Партыйнага цэнтра, былі тэрмінова падцягнуты да Смольнага атрады рэволюцыйных салдат і чырвонагвардзейцаў. Паўстанне пачалося і перамагло ў адзін дзень. Вечарам 25 кастрычніка адкрыўся II з'езд Советаў, які перадаў усю ўладу Советам.

Сталін увайшоў у першы Совет народных камісараў, выбраны на чале з Леніным пасля перамогі Кастрычніцкай рэволюцыі на II Усерасійскім з'ездзе Советаў.

Вялікая Кастрычніцкая соцыялістычная рэволюцыя карэнным чынам змяніла абстаноўку. Кастрычніцкая рэволюцыя раскалола ўвесь свет на дзве сістэмы—сістэму капіталізма і сістэму соцыялізма. Партыя большэвікоў сустрэлася з новымі ўмовамі, павінна была вырашаць новыя гіганцкія задачы. Карэнным чынам змяніліся і формы барацьбы рабочага класа.

З першых-жа дзён існавання Совецкага ўрада і да 1923 года Сталін—народны камісар па справах нацыянальнасцей. Ён непасрэдна кіраваў усёй работай партыі і Совецкай улады ў справе вырашэння нацыянальнага пытання ў СССР. Ім была напісана гістарычная «Дэкларацыя праў народаў Расіі», абвясціўшая наступленне новай эры ва ўзаемаадносінах паміж народамі: на змену адносінам панавання і падпарадкавання, гнёту і насілля прышло поўнае роўнапраўе, брацкае давер'е і дружба паміж народамі нашай краіны. Пад кіраўніцтвам Леніна і Сталіна рабочыя і сяляне на месцы царскіх калоній стварылі свабодныя і квітнеючыя Совецкія рэспублікі. Няма ні адной совецкай рэспублікі, у арганізацыі якой Сталін не прымаў-бы актыўнага і кіруючага ўдзелу. Сталін кіруе барацьбой за Украінскую совецкую рэспубліку, кіруе справай стварэння Беларускай рэспублікі і Совецкіх рэспублік у Закаўказзі і Сярэдняй Азіі, дапамагае шматлікім нацыянальнасцям Совецкай краіны будаваць свае аўтаномныя совецкія рэспублікі і вобласці. Ленін і Сталін—натхніцелі, арганізатары і творцы вялікага Совецкага Саюза.

Сталін разам са Свердловым—бліжэйшыя памочнікі Леніна ў справе будаўніцтва Совецкай дзяржавы. Разам з Леніным Сталін вядзе барацьбу супроць Каменева, Зіноўева, Рыкава і іншых прэзрэнных штрэйкбрэхераў і дэзерціраў рэволюцыі. У дні хваробы Леніна Сталін замяшчае яго ў Соўнаркоме. Арганізацыя разгрому Керэнскага—Краснова, ломка сабатажу чыноўнікаў і служачых, ліквідацыя контррэволюцыйнай Стаўкі і царскага генералітэта, закрыццё буржуазнага друку, барацьба супроць контррэволюцыйнай Украінскай

Рады, разгон Устаноўчага сходу, распрацоўка першай совецкай Канстытуцыі 1918 года—ва ўсіх гэтых рашаючых падзеях Сталін прымаў самы актыўны і кіруючы ўдзел.

Сталін па даручэнню ЦК у студзені 1918 г. праводзіць нараду прадстаўнікоў рэволюцыйнага крыла социялістычных партый розных краін Еўропы і Амерыкі, адыграўшую значную ролю ў барацьбе за стварэнне III, Комуністычнага Інтэрнацыянала.

У цяжкія дні Брэсцкага міру, калі вырашаўся лёс рэволюцыі, Сталін разам з Леніным цвёрда адстойваў большэвіцкую стратэгію і тактыку супроць здрадніка Троцкага і яго спадручнага Бухарына, якія ўкупе з англа-французскімі імперыялістамі хацелі паставіць маладую неўзмацнеўшую Рэспубліку Советаў пад удар германскага імперыялізма.

VI

Звергнутыя Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыяй расійскія памешчыкі і капіталісты сталі згаварвацца з капіталістамі іншых краін аб арганізацыі ваеннай інтэрвенцыі супроць краіны Советаў. Яны ставілі сабе мэтай разграміць рабочых і сялян, звергнуць Совецкую ўладу і закабаліць зноў нашу краіну. Пачалася грамадзянская вайна і інтэрвенцыя. Совецкі ўрад аб'явіў соцыялістычную бацькаўшчыну ў небяспецы і заклікаў увесь народ да барацьбы. Партыя большэвікоў падняла рабочых і сялян на **айчынную** вайну супроць замежных захватчыкаў і буржуазна-памешчыцкай белагвардзейшчыны.

Вясной 1918 г. англа-французскія імперыялісты арганізавалі мяцеж корпуса чэхаславакаў, які быў сфарміраван з ваенна-палонных аўстра-венгерскай арміі і накіроўваўся пасля заключэння міру з Германіяй цераз Сібір ва Францыю.

Выступленне чэхаславакаў, ка дню якога былі прыўрочаны белагвардзейска-эсэраўскія мецяжы ў 23 гарадах Паваложжа, мяцеж левых эсэраў у Маскве, высадка англійскага дэсанта ў Мурманску—развязалі ўсе сілы контррэволюцыі. Мяцеж чэхаславакаў адбыўся ў надта крытычны момант. Краіна толькі што вырвалася з ціскоў імперыялістычнай вайны. Гаспадаранне капіталістаў і памешчыкаў давяло краіну да катастрофы. Рабочыя сталіц атрымлівалі не больш васьмушкі фунта хлеба ў дзень. Рэспубліка была адрэзана ад украінскага і сібірскага хлеба. Аставалася толькі адна' обласць, адкуль можна было здабыць хлеб,—паўднёвы ўсход, Паваложжа і Паўночны Каўказ, дарога ад якіх ляжала па Волзе цераз Царыцын. Выратаваць рэволюцыю можна было толькі здабыўшы хлеб. Ленін звярнуўся да петраградскіх рабочых з заклікам арганізаваць паход у вёску ў дапамогу сялянскай беднаце супроць спекулянтаў хлебам, кулакоў, міраедаў. Сталін быў камандзіраван Цэнтральным Камітэтам партыі на поўдзень з наданымі яму надзвычайнымі правамі агульнага кіраўніка харчовай справы на поўдні Расіі.

6 чэрвеня 1918 года Сталін з атрадам рабочых прыбыў у Царыцын. Спалучэнне ў адной асобе празорлівасці палітычнага правадыра і таленту палкаводца дазволілі Сталіну разгадаць ролю Царыцына, як месца галоўнага ўдару з боку контррэволюцыі. Узяццё Царыцына адрэзала-б рэспубліку ад апошніх хлебных рэсурсаў, ад бакінскай нафты, дазваляючы белым аб'яднаць данскую контррэволюцыю з чэхаславацкай і агульным фронтам ісці на Маскву. Трэба было ва што-б там ні стала ўтрымаць у руках Совецкай улады Царыцын.

Ачысціўшы жалезнай рукою горад ад белагвардзейскіх змоўшчыкаў, здабыўшы і паслаўшы ў галадаючыя сталіцы значную колькасць прадуктаў харчавання, Сталін цалкам заняўся абаронай Царыцына. Бязлітасна ламаючы супраціўленне контррэвалюцыйных спецыялістаў, прысланых і падтрымліваемых Троцкім, Сталін быстрымі і рашучымі мерамі рэарганізаваў разрозненыя атрады, паскорыў прыбыццё часцей Варашылава, якія сталі ядром нанова сфарміраванай X арміі. Жалезная воля і геніяльная празорлівасць Сталіна адстаялі Царыцын, не далі белым прарвацца на Маскву.

Гераічная эпапея абароны Царыцына супала з крахам германскага імперыялізма на Украіне. У лістападзе 1918 г. успыхнула рэвалюцыя ў Германіі і Аўстра-Венгрыі. Цэнтральны Камітэт даручае Сталіну арганізаваць украінскі фронт у дапамогу украінскім рабочым і сялянам. У распараджэнне Сталіна вылучана 20 кіруючых партыйных работнікаў з X арміі на чале з таварышом Варашылавым. У канцы лістапада украінскія паўстанцкія войскі рушылі супроць петлюраўцаў і немцаў, вызваліўшы Харкаў. На захадзе быў вызвален Мінск. Сталін вёў велізарную работу па вызваленню заходніх абласцей і стварэнню Беларускай рэспублікі.

30 лістапада 1918 года быў створан Совет рабочай і сялянскай абароны на чале з Леніным для кіраўніцтва ўсёй работай па абароне на фронце і ў тылу, мабілізацыі прамысловасці і транспарта, мабілізацыі ўсіх рэсурсаў краіны. Прадстаўніком ад Усерасійскага ЦВК у Совет абароны быў уведзен Сталін, які стаў фактычным намеснікам Леніна.

У канцы 1918 г. стварылася катастрафічнае становішча на пермскім фронце. Армія Калчака спяшалася злучыцца з англійскімі войскамі, наступаўшымі з поўначы. Ад імені Совета абароны Ленін патрабаваў умацаваць становішча пад Перм'ю. Для ліквідацыі катастрофы ён прапанаваў Цэнтральнаму Камітэту паслаць Сталіна і Дзержынскага. Сталін быстра і рашуча аднавіў становішча пад Перм'ю. На поўдні пад Царыцынам яго магутная воля не дазволіла данской контррэвалюцыі зліць свае сілы з уральскай і паваложскай. На поўначы Сталін сарваў спробу інтэрвентаў звязацца з чэхамі і Калчаком. Чырвоныя войскі пачалі граміць Калчака, адрэзанага ад саюзнікаў і на поўдні і на поўначы.

Вярнуўшыся з усходняга фронта, Сталін бярэцца за справу арганізацыі дзяржаўнага кантроля і па прапанове Леніна ў сакавіку 1919 года назначаецца народным камісарам Дзяржаўнага кантроля, пазней рэарганізаванага ў Наркамат Рабоча-сялянскай інспекцыі. Наркомам РСІ Сталін астаецца да красавіка 1922 г. Гэтая работа мела велізарнае значэнне для ўцягнення працоўных у справу кіравання дзяржавай.

У маі 1919 г., у мэтах адцягнення чырвоных войск ад Калчака, генерал Юдзеніч пры падтрыманні белафінскіх і эстонскіх войск накіраваўся к Петраграду. Наступленне Юдзеніча было падтрымана англійскай эскадрай. У тылу Чырвонай арміі было арганізавана паўстанне на фортах «Красная горка» і «Серая лошадь». Чырвоны фронт дрогнуў, і вораг прарваўся да самага Петраграда.

Для арганізацыі адпору белым Цэнтральны Камітэт паслаў Сталіна. На фронт рушылі комуністы. Сталін быстра ліквідаваў замяшанне, бязлітасна знішчыў ворагаў і здраднікаў. Камбінаваным ударам пяхоты з сушы і караблёў з мора былі заняты мяцежныя форты, адкінуты белагвардзейскія войскі. Пагроза Петраграду была

ліквідавана. Планы Антанты—захваціць Петраград—былі разбіты. Армія Юдзеніча была разгромлена, яе астаткі ўцяклі ў Эстонію.

Летам 1919 года Сталін працуе на заходнім фронце, у Смаленску, арганізуючы адпор польскаму наступленню.

Антанта, разбітая пры першым паходзе, падавіўшы Советы ў Баварыі, Венгрыі, Эстоніі, Латвіі, к восені 1919 года прадпрыняла другі паход, уцягнуўшы ў яго, апрача белых войск і сваіх атрадаў, арміі дробных пагранічных з Расіяй дзяржаў. Гэты паход англійскі ваенны міністр выхвальна назваў «паходам 14 дзяржаў».

У той час, як Чырвоная армія граміла Калчака на усходзе, Дзенікін захапіў Данбас і ўварваўся шырокім фронтам на Украіну. Троцкі здрадніцкі разваліў работу на паўднёвым фронце. Чырвоныя войскі цярпелі паражэнне. У дапамогу Дзенікіну выступілі белапалякі, заняўшы Мінск. Юдзеніч пад Петраградам зноў перайшоў у наступленне, а Калчак папрабаваў затрымацца на Таболе. Ніколі яшчэ вораг не быў так блізка ад совецкай сталіцы. Данецкія капіталісты аб'явілі нават мільёны прыз таму з белых палкоў, хто першым увойдзе ў Маскву.

У адказ на наступленне белых Ленін ад імені Цэнтральнага Камітэта звярнуўся да партыйных арганізацый з палкім заклікам: «Усе на барацьбу з Дзенікіным!».

Паўднёвы фронт атрымаў масавыя папаўненні людзьмі, баявыя сродкі, але патрэбен быў кіраўнік, які здолеў-бы згуртаваць сотні тысяч байцоў, сцэментаваць іх адзінаю воляй і абрушыць на ворага. Цэнтральны Камітэт партыі пасылае Сталіна арганізаваць перамогу на паўднёвым фронце.

Палкаводзец рэволюцыі застаў на фронце мітусню, замяшанасць, адсутнасць стратэгічнага плана. Прагнаўшы са штабаў абанкроціўшыхся стаўленікаў Троцкага і патрабаваўшы поўнага неўмяшання Троцкага ў справы фронта, Сталін адкінуў злачынны стары план прарыву дзенікінскага фронта ад Волгі на Новарасійск і склаў свой план барацьбы, які геніяльна вырашаў задачу. Сталін прапанаваў накіраваць галоўны ўдар на Дзенікіна праз Харкаў—Данбас—Растоў, каб рассячы армію контррэволюцыі на дзве часткі. Гэты план забяспечваў быстрае прасоўванне Чырвонай арміі па раёну з пролетарскімі цэнтрамі, дзе насельніцтва з яўным спачуваннем чакала Чырвоную армію, дзе мелася багатая сетка чыгунак, што давала магчымасць войскам атрымліваць снабжэнне ўсім неабходным. У той-жа час гэты план вызваляў Данбас—магутную крыніцу рэволюцыйных сіл,—які забяспечваў краіну палівам.

План Сталіна быў прынят ЦК.

Сталін разгарнуў гіганцкую работу па арганізацыі перамогі. Ён наглядаў за ходам аперацый, выпраўляў на хаду памылкі, падбіраў камандзіраў і палітработнікаў, натхняючы іх на барацьбу. Пад кіраўніцтвам Сталіна на паўднёвым фронце была распрацавана інструкцыя для камісара палка, у якой задача камісара была сфармулявана ў наступных яркіх словах:

«Камісар палка з'яўляецца палітычным і маральным кіраўніком свайго палка, першым абаронцам яго матэрыяльных і духоўных інтарэсаў. Калі камандзір палка з'яўляецца главою палка, то камісар павінен быць бацькам і душою свайго палка».

Рэалізацыя плана Сталіна прывяла да поўнага разгрому Дзенікіна. Па ініцыятыве таварыша Сталіна была створана I Конная Армія на чале з Будзённым, Варашылавым, Шчадзенка. Легендарная Конная

Армія, падтрыманая арміямі паўднёвага фронта, пакончыла з войскамі Дзенікіна.

У 1920 годзе Сталін накіроўваецца ЦК на паўднёва-заходні фронт супроць польскіх паноў, пачаўшых трэці паход Антанты на Совецкую рэспубліку. Тут Сталін прымае непасрэдны кіруючы ўдзел у справе прарыву польскага фронта, у вызваленні Кіева і прасоўванні нашых войск к подступам да Львова. У тым-жа 1920 годзе Сталін вядзе работу па абароне поўдня Украіны ад наступлення Врангеля, намячае план знішчэння Врангеля. Сталінскія ўказанні ляжалі ў аснове аператыўнага плана Фрунзе, па якому быў разгромлен Врангель.

У годы грамадзянскай вайны ЦК партыі і асабіста Ленін пасылалі Сталіна на самыя рашаючыя і небяспечныя для рэволюцыі фронты. Таварыш Сталін з'яўляўся членам Рэўваенсовета Рэспублікі і членам Рэўваенсоветаў заходняга, паўднёвага, паўднёва-заходняга фронтаў. Там, дзе ў сілу раду прычын ствралася смяротная небяспека для Чырвонай арміі, дзе прасоўванне армій контррэволюцыі і інтэрвенцыі пагражала самому існаванню Совецкай улады, туды пасылалі Сталіна. Там, «дзе замяшанне і паніка маглі ў любую мінуту ператварыцца ў бездапаможнасць, катастрофу,—там паяўляўся таварыш Сталін» [18]).

Сталін арганізоўваў партыйныя і рабочыя масы, браў у свае цвёрдыя рукі кіраўніцтва; апіраючыся на масы, ён бязлітасна ламаў сабатаж, жалезнай рукою падаўляў змовы здраднікаў, прадажнікаў, шпіёнаў у тылу і на фронце; асабістым прыкладам самаадданай работы і яснай рэволюцыйнай перспектывай ён узнімаў баявы дух і рэволюцыйны энтузіязм рабочых і сялян, чырвонаармейцаў; у найкарацейшыя тэрміны ён дабіваўся карэннага пералому і перамогі Чырвонай арміі.

Ён разгадваў і разбіваў ушчэнт самыя тонкія і каварныя стратэгічныя планы ворагаў, апракідваў усю іх ваенную навуку, ваеннае майстэрства і вывучку.

Заслугі Сталіна на фронтах грамадзянскай вайны былі адзначаны па ініцыятыве Леніна пастановай Усерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта ад 27 лістапада 1919 года, у якой сказана:

«У мінуту смяротнай небяспекі, калі акружаная з усіх старон цесным кальцом ворагаў, Совецкая ўлада адбівала ўдары непрыяцеля; у мінуту, калі ворагі Рабоча-Сялянскай Рэволюцыі ў ліпені 1919 года падступалі да Чырвонага Піцера і ўжо авалодалі Краснай Горкай, у гэту цяжкую для Совецкай Расіі гадзіну, назначаны Прэзідыумам ВЦВК на баявы пост Іосіф Вісарыёнавіч Джугашвілі (Сталін) сваёй энергіяй і няўтомнай работай здолеў згуртаваць дрогнуўшыя рады Чырвонай Арміі.

Будучы сам у раёне баявой лініі, ён пад баявым агнём, асабістым прыкладам натхняў рады змагаючыхся за Совецкую Рэспубліку.

У азнаменаванне ўсіх заслуг па абароне Петраграда, а таксама самаадданай яго далейшай работы на паўднёвым фронце, Усерасійскі Цэнтральны Выканаўчы Камітэт пастанавіў узнагародзіць І. В. Джугашвілі (Сталіна) ордэнам «Чырвонага Сцяга».

Тварцом Чырвонай арміі—першай у свеце Чырвонай арміі, арміі вызваленых рабочых і сялян, арміі брацтва паміж народамі нашай краіны, арміі, выхаванай у духу інтэрнацыяналізма,—была партыя

[18]) **К. Е. Варашылаў.** Сталін і Чырвоная армія. 1937 г., стар. 4.

бальшэвікоў на чале з Леніным і Сталіным. Ленін і Сталін непасрэдна кіравалі справай абароны краіны разам з лепшымі дзеячамі бальшэвіцкай партыі.

**Непасрэдным натхніцелем і арганізатарам важнейшых перамог Чырвонай арміі быў Сталін.** Усюды, дзе на фронтах вырашаўся лёс рэвалюцыі, партыя пасылала Сталіна. Ён быў тварцом важнейшых стратэгічных планаў. Сталін непасрэдна кіраваў рашаючымі баявымі аперацыямі. Пад Царыцынам і пад Перм'ю, пад Петраградам і супроць Дзенікіна, на захадзе супроць панскай Польшчы і на поўдні супроць Врангеля—усюды жалезная воля і стратэгічны геній Сталіна забяспечвалі перамогу рэвалюцыі. Сталін быў выхавацелем і кіраўніком ваенных камісараў, без якіх, па вызначэнню Леніна, не было-б Чырвонай арміі.

Імя Сталіна звязана з самымі слаўнымі перамогамі нашай Чырвонай арміі.

VII

Скончыўшы пабеданосна вайну з інтэрвентамі, Совецкая ўлада стала пераходзіць да мірнага гаспадарчага будаўніцтва. Краіна была зруйнавана чатырохгадовай імперыялістычнай вайной і трохгадовай грамадзянскай вайной. Сялянства па сканчэнню грамадзянскай вайны выражала незадаволенне забраннем усіх лішкаў, сістэмай продразвёрсткі і патрабавала, каб яго забяспечвалі дастатковай колькасцю тавараў. На глебе голаду і стомленасці праяўлялася незадаволенне і сярод часткі рабочых. Класавы вораг прабаваў скарыстаць цяжкае гаспадарчае становішча краіны.

Перад партыяй паўстала пытанне аб выпрацоўцы новай установкі па ўсіх пытаннях гаспадарчага жыцця краіны. Цэнтральнаму Камітэту ясна было, што сістэма ваеннага комунізма, пасля ліквідацыі вайны і пераходу на мірнае будаўніцтва, ужо вычарпала сябе. Адпадала неабходнасць у продразвёрстцы, сялянам трэба было прадаставіць магчымасць скарыстаць большую частку лішкаў сваёй вытворчасці. Гэта дазволіла-б ажывіць сельскую гаспадарку, тавараабарот, падняць прамысловасць, палепшыць снабжэнне гарадоў, стварыць новую гаспадарчую аснову саюза рабочых і сялян.

Але антыпартыйныя групіроўкі прабавалі перашкодзіць партыі ў выпрацоўцы новых установак. У канцы 1920 г. яны навязалі партыі так званую дыскусію аб профсаюзах. На справе яна мела значна больш шырокае значэнне, чым пытанне аб профсаюзах. Па сутнасці барацьба ішла па пытанню аб адносінах да сялянства, аб адносінах партыі да беспартыйнай масы рабочых, наогул аб падыходзе партыі да мас у новай абстаноўцы. Трацкісты прапаноўвалі «завінчваць далей гайкі» ваеннага комунізма. Сваёй здрадніцкай палітыкай голага прымусу і камандавання ў адносінах мас яны імкнуліся настроіць беспартыйную масу рабочых супроць партыі, імкнуліся стварыць пагрозу існаванню Совецкай улады. Следам за трацкістамі выступілі і іншыя антыпартыйныя групкі: «рабочая апазіцыя», «дэмакратычныя цэнтралісты», «левыя комуністы».

Разам з Леніным Сталін паслядоўна праводзіў і адстойваў партыйную лінію і граміў усіх гэтых ворагаў партыі. Сталін арганізацыйна кіраваў барацьбой з антыленінскімі групіроўкамі ў перыяд профсаюзнай дыскусіі, згуртоўваючы партыю вакол ленінскай платформы. Да Сталіна сцякаліся ўсе даныя з месц аб ходзе барацьбы

за лінію партыі. Сталін накіроўваў у «Праўду» у тыя дні даныя аб выніках дыскусіі ў мясцовых арганізацыях, дэманстраваўшыя перамогу партыі і паражэнне антыленінскіх групіровак.

Буйнае значэнне ў справе перамогі партыйнай лініі і згуртавання партыі вакол Леніна, вакол ленінскай большасці ЦК меў апублікаваны 19 студзеня 1921 г. у «Праўдзе» артыкул Сталіна «Нашы рознагалоссі». Разам з Леніным Сталін адстаяў адзінства партыі супроць усіх атак антыпартыйных фракцый і групіровак.

Згуртаванай на ленінскіх пазіцыях прышла партыя на свой X з'езд, якому прадстаяла вырашыць асноўныя пытанні далейшага пабеданоснага руху рэвалюцыі. X з'езд (сакавік 1921 г.) падвёў вынікі дыскусіі аб прафсаюзах і адобрыў пераважнай большасцю галасоў ленінскую платформу. З'езд прыняў выключнай важнасці рашэнне аб пераходзе ад прадразвёрсткі да прадналога, аб пераходзе да новай эканамічнай палітыкі, тварцом і натхніцелем якой быў Ленін. Рашэнне X з'езда аб пераходзе да новай эканамічнай палітыкі забяспечвала моцны саюз рабочага класа і сялянства для будаўніцтва сацыялізма.

Гэтай-жа асноўнай задачы служыла і рашэнне з'езда аб нацыянальным пытанні. Даклад «Чарговыя задачы партыі ў нацыянальным пытанні» зрабіў на з'ездзе Сталін.

У дакладзе Сталіна і рэзалюцыі з'езда была дакладна і ясна сфармуліравана асноўная практычная задача ў нацыянальным пытанні. Мы ліквідавалі нацыянальны гнёт, гаварыў Сталін, але гэтага недастаткова: трэба ліквідаваць цяжкую спадчыну мінулага—гаспадарчую, палітычную і культурную адсталасць раней прыгнятаўшыхся народаў; трэба дапамагчы ім дагнаць у гэтых адносінах цэнтральную Расію. Сталін заклікаў партыю да барацьбы з вялікадзяржаўным, вялікарускім шавінізмам, як галоўнай небяспекай, і да барацьбы з мясцовым нацыяналізмам.

Прайшоў першы год нэпа. На XI з'ездзе (сакавік 1922 г.) партыя падвяла вынікі першаму году новай эканамічнай палітыкі. Гэтыя вынікі дазволілі Леніну заявіць:

«Мы год адступалі. Мы павінны цяпер сказаць ад імя партыі:— дастаткова! Тая мэта, якая адступленнем праследавалася, дасягнута. Гэты перыяд канчаецца, або кончыўся. Цяпер мэта высоўваецца другая—перагрупіроўка сіл» [19]).

Трэба было праводзіць у жыццё гістарычныя задачы, пастаўленыя Леніным на з'ездзе. Пленум Цэнтральнага Камітэта партыі пасля з'езда па прапанове Леніна выбірае генеральным сакратаром ЦК самага лепшага і вернага вучня і саратніка Леніна—Сталіна. З таго часу Сталін бяззменна працуе на гэтым пасту.

Раненне Леніна пры замаху на яго ў 1918 годзе і бесперапынная напружаная работа падарвалі яго здароўе. Пачынаючы з канца 1921 года Ленін вымушан быў усё часцей і часцей перарываць сваю работу. Усю работу па кіраўніцтву партыяй вёў Сталін.

У гэтыя годы Сталін правёў велізарную работу па стварэнню нацыянальных Савецкіх рэспублік, а затым па аб'яднанню ўсіх Савецкіх рэспублік у адну саюзную дзяржаву—СССР. 30 снежня 1922 года на I Усесаюзным з'ездзе Саветаў па прапанове Леніна і Сталіна было прынята гістарычнае рашэнне аб добраахвотным дзяржаўным аб'яд-

[19]) Ленін, т. XXVII, стар. 238.

нанні совецкіх народаў у Саюз Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік—СССР. Выступаючы на з'ездзе, Сталін гаварыў:

«Таварышы! У гісторыі совецкай улады сённяшні дзень з'яўляецца пераломным. Ён кладзе вехі паміж старым, ужо пройдзеным перыядам, калі совецкія рэспублікі хоць і дзейнічалі разам, але ішлі паасобку, занятыя перш за ўсё пытаннем свайго існавання, і паміж новым, ужо адкрыўшымся перыядам, калі асобнаму існаванню совецкіх рэспублік кладзецца канец, калі рэспублікі аб'ядноўваюцца ў адзіную саюзную дзяржаву для паспяховай барацьбы з гаспадарчай разрухай, калі совецкая ўлада думае ўжо не толькі аб існаванні, але і аб тым, каб развіцца ў сур'ёзную міжнародную сілу, якая можа ўздзейнічаць на міжнародную абстаноўку, якая можа змяніць яе ў інтарэсах працоўных» [20]).

Стварэнне СССР азначала буйную перамогу ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі. Совецкі Саюз быў створан на непахісным фундаменце давер'я раней прыгнечаных царызмам народаў да вялікага рускага народа, на моцнай аснове дружбы народаў Совецкай краіны.

У красавіку 1923 г. адбыўся XII з'езд партыі. Гэта быў першы з'езд пасля перамогі Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі, на якім Ленін па хваробе не мог прысутнічаць. Работай з'езда кіраваў Сталін. З'езд улічыў у сваіх рашэннях усе ўказанні Леніна, даныя ў яго апошніх артыкулах і пісьмах. З'езд даў рашучы адпор тым, хто прабаваў прадставіць нэп, як адступленне ад соцыялістычных пазіцый, хто прапаноўваў пайсці ў кабалу да капіталізма. З'езд закляйміў здрадніцкія, капітулянцкія прапановы трацкістаў і бухарынцаў.

На з'ездзе Сталін выступаў са справаздачай аб дзейнасці ЦК і з дакладам «Нацыянальныя моманты ў партыйным і дзяржаўным будаўніцтве». У справаздачным дакладзе Сталін даў шырокую карціну дзейнасці партыі, яе росту, умацавання прыводных рамнёў ад партыі да мас (профсаюзы, комсамол, Советы і т. д.), падвёў вынікі двух год нэпа, намеціў задачы далейшага руху наперад. «Наша партыя асталася спаянай, згуртаванай, вытрымаўшай найвялікшы паварот, ідучай наперад з шырока разгорнутым сцягам»,—закончыў сваю справаздачу Сталін.

З'езд удзяліў сур'ёзную ўвагу нацыянальнаму пытанню. У дакладзе па нацыянальнаму пытанню Сталін падкрэсліў велізарнае міжнароднае значэнне нашай нацыянальнай палітыкі, указаў, што прыгнечаныя народы Усхода і Захада бачаць у Совецкім Саюзе ўзор вырашэння нацыянальнага пытання. Сталін указаў на неабходнасць энергічнай работы па ліквідацыі гаспадарчай і культурнай няроўнасці паміж народамі Совецкага Саюза. Сталін заклікаў усю партыю да рашучай барацьбы з вялікарускім шавінізмам і мясцовым нацыяналізмам, якія ўзмацніліся ў сувязі з частковым ажыўленнем капіталізма. Сталін выкрыў грузінскіх нацыянал-ухілістаў, якіх падтрымлівалі трацкісты.

Не паспеў закончыцца XII з'езд, як на гарызонце вырысавалася сур'ёзная небяспека для Совецкай рэспублікі. Прышоўшыя да ўлады ў Англіі і Францыі найбольш рэакцыйныя і інтэрвенцыянісцкія элементы буржуазіі прабавалі арганізаваць новы паход супроць Совецкага Саюза. Пад кіраўніцтвам Сталіна партыя вышла з чэсцю з вострага становішча, атрымала буйную перамогу на дыпламатычным

---

[20]) **І. Сталін.** Марксізм і нацыянальна-каланіяльнае пытанне. 1939 г., стар. 126.

фронце. На змену пагрозам і ультыматумам прышоў у 1924 г. цэлы рад прызнанняў СССР з боку ўсіх буйных капіталістычных дзяржаў Еўропы. «Той факт, што мы вышлі тады з затрудненняў без шкоды для справы,—указваў пазней Сталін,—з несумненнасцю гаворыць аб тым, што вучні тав. Леніна ўжо навучыліся сяму-таму ў свайго настаўніка» [21]).

21 студзеня 1924 г. у Горках, пад Масквой, памёр Ленін, правадыр і аснавальнік партыі большэвікоў, правадыр працоўных усяго свету. Сцяг Леніна, сцяг партыі і Комінтэрна, высока падняў і панёс далей Сталін—лепшы сын большэвіцкай партыі, дастойны прыемчік і вялікі прадаўжальнік справы Леніна.

26 студзеня адкрылася жалобнае пасяджэнне II Усесаюзнага з'езда Советаў. На ім выступіў з прамовай Сталін. Ён даў ад імя партыі вялікую клятву:

«Мы, комуністы,—людзі асобага складу. Мы скроены з асобага матэрыялу. Мы—тыя, якія складаем армію вялікага пролетарскага стратэга, армію таварыша Леніна. Няма нічога вышэй, як чэсць належаць да гэтай арміі. Няма нічога вышэй, як званне члена партыі, аснавальнікам і кіраўніком якой з'яўляецца таварыш Ленін...

**Уходзячы ад нас, таварыш Ленін завяшчаў нам трымаць высока і захоўваць у чыстаце вялікае званне члена партыі. Клянемся табе, таварыш Ленін, што мы з чэсцю выканаем гэтую тваю запаведзь!..**

**Уходзячы ад нас, таварыш Ленін завяшчаў нам захоўваць адзінства нашай партыі, як зеніцу вока. Клянемся табе, таварыш Ленін, што мы з чэсцю выканаем і гэтую тваю запаведзь!..**

**Уходзячы ад нас, таварыш Ленін завяшчаў нам захоўваць і ўмацоўваць дыктатуру пролетарыята. Клянемся табе, таварыш Ленін, што мы не пашкадуем сваіх сіл для таго, каб выканаць з чэсцю і гэтую тваю запаведзь!..**

**Уходзячы ад нас, таварыш Ленін завяшчаў нам умацоўваць усімі сіламі саюз рабочых і сялян. Клянемся табе, таварыш Ленін, што мы з чэсцю выканаем і гэтую тваю запаведзь!..**

Таварыш Ленін нястомна гаварыў нам аб неабходнасці добраахвотнага саюза народаў нашай краіны, аб неабходнасці брацкага іх супрацоўніцтва ў рамках Саюза Рэспублік.

**Уходзячы ад нас, таварыш Ленін завяшчаў нам умацоўваць і расшыраць Саюз Рэспублік. Клянемся табе, таварыш Ленін, што мы выканаем з чэсцю і гэтую тваю запаведзь!..**

Ленін не раз указваў нам, што ўмацаванне Чырвонай арміі і паляпшэнне яе стану з'яўляецца адной з важнейшых задач нашай партыі... Паклянемся-ж, таварышы, што мы не пашкадуем сіл для таго, каб умацаваць нашу Чырвоную армію, наш Чырвоны флот...

**Уходзячы ад нас, таварыш Ленін завяшчаў нам вернасць прынцыпам Комуністычнага Інтэрнацыянала. Клянемся табе, таварыш Ленін, што мы не пашкадуем свайго жыцця для таго, каб умацоўваць і расшыраць саюз працоўных усяго свету—** Комуністычны Інтэрнацыянал!» [22]).

[21]) **І. Сталін.** Аб апазіцыі, стар. 74.
[22]) **І. Сталін.** Аб Леніне, стар. 12—16.

**Гэта была клятва бальшэвіцкай партыі свайму правадыру Леніну, які будзе жыць у вяках. Гэтую клятву партыя пад кіраўніцтвам Сталіна выканала і выконвае з чэсцю.**

Карыстаючыся спачатку хваробай, а затым смерцю Леніна, ворагі соцыялізма прабавалі звярнуць партыю з ленінскага шляху, каб тым самым падрыхтаваць умовы для аднаўлення капіталізма ў нашай краіне. Асабліва ярасна нападалі на партыю мацёры вораг ленінізма Троцкі і яго спадручныя. Трацкісты навязалі партыі новую дыскусію. Барацьба насіла жорсткі характар. Сталін ускрыў палітычную сутнасць выступленняў трацкістаў, паказаў, што справа ідзе аб жыцці і смерці партыі, згуртаваў партыйныя кадры і арганізаваў разгром трацкізма.

У студзені 1924 г. сабралася XIII партыйная канферэнцыя. Яна заслухала даклад Сталіна, які падвёў вынікі дыскусіі. Канферэнцыя рашуча асудзіла трацкістаў. Рашэнні канферэнцыі былі адобраны XIII партыйным з'ездам (май 1924 г.) і V кангрэсам Комінтэрна (лета 1924 г.).

У барацьбе з трацкізмам у гэты перыяд Сталін указваў, што «задача партыі заключаецца ў тым, каб **пахаваць трацкізм, як ідэйную плынь»**. Ён указаў партыі, што ў тагочасных умовах трацкізм з'яўляўся галоўнай небяспекай.

«У даны момант,—гаварыў Сталін,—пасля перамогі Кастрычніка, у даных умовах нэпа, найбольш небяспечным трэба лічыць трацкізм, бо ён стараецца прывіць нявер'е ў сілы нашай рэволюцыі, нявер'е ў справу саюза рабочых і сялян, нявер'е ў справу ператварэння Расіі нэпаўскай у Расію соцыялістычную» [23]).

Сталін даказаў, што ідэйны разгром трацкізма з'яўляецца ўмовай, неабходнай для таго, каб забяспечыць далейшы пабеданосны рух наперад да соцыялізма. Сталін гаварыў:

«Не разбіўшы трацкізма, нельга дабіцца перамогі ва ўмовах нэпа, нельга дабіцца ператварэння цяперашняй Расіі ў Расію соцыялістычную» [24]).

У баях супроць трацкізма Сталін згуртаваў партыю вакол яе ЦК і мабілізаваў яе на далейшую барацьбу за перамогу соцыялізма ў нашай краіне.

Выключна вялікае значэнне ў справе ідэйнага разгрому трацкізма, у справе абароны, абгрунтавання і развіцця ленінізма мае тэарэтычная работа Сталіна «Аб асновах ленінізма», якая вышла ў 1924 г. Гэтая работа з'яўляецца майстэрскім выкладаннем і глыбокім тэарэтычным абгрунтаваннем ленінізма. Яна ўзброіла тады і ўзбройвае цяпер бальшэвікоў ва ўсім свеце востраю зброяй марксісцка-ленінскай тэорыі.

У гэтай геніяльнай рабоце дана выкладанне асноў ленінізма, г. зн. таго новага і асаблівага, што звязана з іменем Леніна, што ўнёс Ленін у развіццё марксісцкай тэорыі. Ужо адна тая акалічнасць, што было дано такое абагульненне пытанняў ленінізма, што ўвесь ідэйны змест ленінскай спадчыны быў сабран і разгледжан пад вуглом погляду новай гістарычнай эпохі, азначала гіганцкі крок наперад у развіцці навукі марксізма-ленінізма. Усе пытанні ленінскага вучэння падняты ў гэтай рабоце на велізарную прынцыповую вышыню. У сваёй рабоце Сталін дае класічнае вызначэнне ленінізма. Сталін паказвае,

---

[23]) **І. Сталін.** Сялянскае пытанне. Зборнік артыкулаў. 1926 г., стар. 55.

[24]) Там-жа.

як Ленін развіў марксізм далей, ва ўмовах новай эпохі, эпохі імперыялізма і пролетарскіх рэволюцый.

Работа па аднаўленню народнай гаспадаркі падыходзіла к канцу. Змянілася міжнародная і ўнутраная абстаноўка Совецкага Саюза. У капіталістычных краінах наступіў часовы адліў рэволюцыі, устанавілася часовая частковая стабілізацыя капіталізма. У СССР быў дасягнут даваенны ўзровень гаспадаркі. Трэба было рухацца далей. З усёй астратою паўстала пытанне аб перспектывах нашага будаўніцтва, аб лёсе социялізма ў Совецкім Саюзе.

З геніяльнай празарлівасцю вызначае Сталін перспектыву і канкрэтныя шляхі далейшага развіцця рэволюцыі.

«Жадаю рабочым завода «Дынамо»,—пісаў ён,—як і рабочым усёй Расіі, каб прамысловасць пайшла ўгору, каб колькасць пролетарыяў у Расіі паднялася ў бліжэйшы перыяд да 20—30 млн.; каб калектыўная гаспадарка ў вёсцы расцвіла і падпарадкавала свайму ўплыву прыватную гаспадарку; каб высокая індустрыя і калектыўная гаспадарка на вёсцы згуртавалі канчаткова пролетарыяў фабрык і працаўнікоў зямлі ў адну социялістычную армію; каб перамога ў Расіі ўвянчалася перамогай ва ўсім свеце» [25]).

Тэарэтычна абагульваючы вопыт Вялікай Кастрычніцкай социялістычнай рэволюцыі, вопыт першых год социялістычнага будаўніцтва ў капіталістычным акружэнні, Сталін адстаяў і развіў далей ленінскае вучэнне аб перамозе социялізма ў адной краіне.

У снежні 1924 г. вышла вядомая работа Сталіна «Кастрычніцкая рэволюцыя і тактыка рускіх комуністаў». Абгрунтоўваючы ў гэтай рабоце ленінскае палажэнне аб перамозе социялізма ў адной краіне, Сталін паказаў, што трэба адрозніваць два бакі гэтага пытання: унутраны і міжнародны. Унутраны бок—гэта пытанне аб узаемаадносінах класаў унутры краіны, будуючай социялізм; міжнародны—гэта пытанне аб узаемаадносінах паміж СССР, пакуль яшчэ адзінай краінай социялізма, і капіталістычным акружэннем. З унутранымі труднасцямі рабочыя і сяляне СССР у поўнай меры могуць справіцца ўласнымі сіламі, яны ў поўнай меры могуць адолець эканамічна сваю ўласную буржуазію і пабудаваць поўнае социялістычнае грамадства. Але да таго часу, пакуль існуе капіталістычнае акружэнне, існуе і небяспека капіталістычнай інтэрвенцыі супроць СССР і рэстаўрацыі капіталізма. Каб устараніць гэтую небяспеку, неабходна знішчыць самае капіталістычнае акружэнне, а знішчыць капіталістычнае акружэнне магчыма толькі ў рэзультаце перамогі пролетарскай рэволюцыі па крайняй меры ў некалькіх краінах. Толькі тады перамога социялізма ў СССР зможа лічыцца поўнай, канчатковай перамогай.

Гэтыя палажэнні Сталіна ляглі ў аснову гістарычнай рэзалюцыі XIV канферэнцыі партыі (красавік 1925 г.). Канферэнцыя зацвердзіла ленінска-сталінскую ўстаноўку на перамогу социялізма ў СССР, як закон партыі, абавязковы для ўсіх членаў партыі.

У снежні 1925 г. адкрыўся XIV з'езд партыі: У палітычнай справаздачы ЦК Сталін намаляваў яркую карціну росту палітычнай і гаспадарчай магутнасці Совецкага Саюза. Аднак, гаварыў Сталін, мы не можам задаволіцца гэтымі поспехамі, бо краіна наша прадаўжае аставацца адсталай, аграрнай. Для таго, каб забяспечыць эканамічную самастойнасць нашай краіны і ўмацаваць яе абараназдольнасць, для таго, каб стварыць неабходную для перамогі социялізма экана-

[25]) **Г. К. Орджанікідзе.** Выбраныя артыкулы і прамовы. 1939 г., стар. 450.

мічную базу,—трэба ператварыць нашу краіну з аграрнай у індустрыяльную.

З трыбуны XIV з'езда правадыр партыі гаварыў:

«Ператварыць нашу краіну з аграрнай у індустрыяльную, здольную выраблаць сваімі ўласнымі сіламі неабходнае абсталяванне,—вось у чым сутнасць, аснова нашай генеральнай лініі» [26]).

Сталінскаму плану соцыялістычнай індустрыялізацыі абаронцы капіталізма Зіноўеў і Каменеў прабавалі проціпаставіць свой «план», згодна якому СССР павінен быў астацца аграрнай краінай. Гэта быў здрадніцкі план закабалення СССР і выдачы яго са звязанымі нагамі і рукамі імперыялістычным драпежнікам.

Сталін сарваў маскі з гэтых прэзрэнных капітулянтаў, ускрыў іх трацкісцка-меншавіцкую сутнасць.

На XIV з'ездзе Сталін падкрэсліў, што важнейшай задачай партыі з'яўляецца моцны саюз рабочага класа з серадняком у справе будаўніцтва соцыялізма.

XIV з'езд зацвердзіў у якасці асноўнай задачы партыі—правядзенне соцыялістычнай індустрыялізацыі, барацьбу за перамогу соцыялізма ў СССР. Пасля з'езда, у пачатку 1926 г., вышла работа Сталіна «Да пытанняў ленінізма». У гэтай гістарычнай рабоце Сталін ідэйна разграміў ліквідатарскую і капітулянцкую «філасофію» зіноўеўцаў і абгрунтаваў лінію XIV з'езда партыі, лінію на соцыялістычную індустрыялізацыю краіны і пабудову соцыялістычнага грамадства. Ён узброіў партыю і рабочы клас несакрушымай верай у перамогу соцыялістычнага будаўніцтва.

Пад кіраўніцтвам Сталіна партыя большэвікоў, накапіўшы сілы і сродкі і адкінуўшы прэч капітулянтаў і малавераў, падвяла краіну да новага гістарычнага этапа—да этапа соцыялістычнай індустрыялізацыі.

## VIII

Індустрыялізацыя ў гістарычна найкарацейшыя тэрміны такой велізарнай і разам з тым адсталай у эканамічных адносінах краіны, якою з'яўляўся Совецкі Саюз у той перыяд, прадстаўляла гіганцкія труднасці. Трэба было пабудаваць занова цэлы рад галін індустрыі, невядомых старой царскай Расіі. Трэба было стварыць новую абаронную прамысловасць, якой не было ў ранейшай Расіі. Трэба было пабудаваць заводы сучасных сельскагаспадарчых машын, невядомых старой вёсцы. Гэта патрабавала каласальных сродкаў. Капіталістычныя дзяржавы здабывалі іх бязлітаснай эксплуатацыяй народа, крывавым грабяжом калоній і залежных краін, знешнімі пазыкамі. Але Совецкая краіна не магла карыстацца гэтымі бруднымі крыніцамі, а шлях знешніх пазык быў для яе закрыт капіталістамі. Аставалася здабыць сродкі толькі ўнутры Совецкай краіны.

Апіраючыся на ўказанні Леніна, Сталін распрацаваў **вучэнне аб соцыялістычнай індустрыялізацыі** нашай краіны. Ён паказаў, што: 1) сутнасць індустрыялізацыі заключаецца не ў простым росце прамысловасці, а ў развіцці цяжкай індустрыі і, перш за ўсё, яе сэрцавіны—машынабудаўніцтва, бо толькі стварэнне цяжкай індустрыі і ўласнага машынабудаўніцтва забяспечвае матэрыяльную базу соцыя-

[26]) XIV з'езд Усесаюзнай комуністычнай партыі (б). Стэнаграфічная справаздача. 1926 г., стар. 488.

лізма і ставіць краіну соцыялізма ў незалежнае ад капіталістычнага свету становішча; 2) экспрапрыяцыя памешчыкаў і капіталістаў у нашай краіне ў рэзультаце Кастрычніцкай соцыялістычнай рэвалюцыі, знішчэнне прыватнай уласнасці на зямлю, фабрыкі, заводы, банкі і т. д. і перадача іх ў агульнанародную ўласнасць—стварылі магутную крыніцу соцыялістычнага накаплення для развіцця індустрыі; 3) соцыялістычная індустрыя ў корані адрозніваецца ад капіталістычнай—апошняя будуецца шляхам каланіяльных захватаў і грабяжоў, ваенных разгромаў, кабальных пазык і бязлітаснай эксплуатацыі рабочых мас і каланіяльных народаў, а соцыялістычная індустрыялізацыя апіраецца на грамадскую ўласнасць на сродкі вытворчасці, на накапленне і зберажэнне багаццяў, ствараемых працай рабочых і сялян; соцыялістычная індустрыялізацыя неразрыўна звязана з няўхільным паляпшэннем матэрыяльнага становішча працоўных мас; 4) таму карэннымі задачамі ў барацьбе за індустрыялізацыю з'яўляюцца павышэнне прадукцыйнасці працы, зніжэнне сабекошту, барацьба за працоўную дысцыпліну, рэжым эканоміі і т. д.; 5) умовы будаўніцтва соцыялізма ў СССР, працоўны энтузіязм рабочага класа—робяць магчымым ажыццяўленне неабходных высокіх тэмпаў індустрыялізацыі; 6) шлях да соцыялістычнай пераробкі сельскай гаспадаркі ляжыць праз індустрыялізацыю краіны, якая павінна стварыць тэхнічную базу для гэтай пераробкі.

Узброеныя гэтай чоткай і яснай праграмай, працоўныя Савецкага Саюза прыступілі да соцыялістычнай індустрыялізацыі краіны.

Напалоханыя поспехамі соцыялістычнай будоўлі, імперыялісты папрабавалі сарваць або хоць-бы затармазіць індустрыялізацыю краіны шляхам разрыву дыпламатычных і гандлёвых зносін з СССР (Англія), шляхам забойстваў савецкіх паслоў (Польшча), шляхам узмацнення шпіёнскай і дыверсійнай работы. Унутры краіны аб'ядноўваюцца трацкісты, зіноўеўцы, рэшткі раней разбітых антыпартыйных груп у здрадніцкі блок, які адкрыў супроць партыі шалёную атаку. «Ствараецца нешта накшталт адзінага фронта ад Чэмберлена да Троцкага»,—указваў тады таварыш Сталін. Нельга было дабіцца перамогі соцыялістычнай індустрыялізацыі без ідэйнага і арганізацыйнага разгрому трацкісцка-зіноўеўскага блока. Пад кіраўніцтвам таварыша Сталіна партыя разграміла трацкісцка-зіноўеўскі блок. Даклад Сталіна на XV партыйнай канферэнцыі «Аб соцыял-дэмакратычным ухіле ў нашай партыі» (лістапад 1926 г.) і даклад яго на VII пашыраным пленуме ВККІ «Яшчэ раз аб соцыял-дэмакратычным ухіле ў нашай партыі» (снежань 1926 г.) ідэйна ўзброілі ВКП(б) і Комінтэрн і забяспечылі маналітнасць і згуртаванасць партыйных радоў.

Пашыраны пленум ВККІ у сваіх рашэннях закляйміў староннікаў трацкісцка-зіноўеўскага блока, як раскольнікаў, якія скаціліся на меншавіцкія пазіцыі.

Разграміўшы і адкінуўшы прэзрэнных капітулянтаў і абаронцаў капіталізма, большэвікі прадаўжалі справу соцыялістычнай індустрыялізацыі нашай краіны.

Ні адна галіна, ні адно пытанне індустрыялізацыі не ўскальзалі з поля зроку Сталіна. Сталін—ініцыятар стварэння новых галін прамысловасці, развіцця і рэканструкцыі раней адсталых галін. Сталін—натхніцель стварэння другой вугальна-металургічнай базы ў нашай краіне, будаўніцтва Кузбаса. Сталін—арганізатар і кіраўнік соцыялістычных будоўляў. Сталінградскі трактарабуд, Днепрабуд, Магніта-

буд, Уралмашбуд, Растоўскі сельмашбуд, Кузнецкбуд, Турксіб, Саратаўскі камбайнбуд, будаўніцтва аўтамабільных заводаў у Маскве і Горкім і рад іншых будоўляў—усе яны звязаны з іменем Сталіна. Таму многія з індустрыяльных гігантаў, якімі ганарыцца ўся краіна, носяць імя Сталіна.

Грандыёзная карціна велічнага будынка соцыялізма, што ўзводзіцца ў СССР, рабіла непераможны ўплыў на рабочых капіталістычных краін. Пачалося сапраўднае паломніцтва ў СССР. Дзесяткі і сотні рабочых дэлегацый прыязджалі і з велізарнай цікавасцю і захапляючым хваляваннем знаёміліся з тым, як самі рабочыя, прагнаўшы сваіх эксплуататараў, будуюць нова'е, соцыялістычнае грамадства. Іх усё цікавіла, яны ўсё хацелі ведаць. 5 лістапада 1927 г. адбылася працяглая гутарка Сталіна з рабочымі дэлегацыямі Германіі, Францыі, Аўстрыі, Чэха-Славакіі, Кітая, Бельгіі і іншых краін.

Ужо к канцу 1927 г. вызначыліся рашаючыя поспехі палітыкі соцыялістычнай індустрыялізацыі. Першыя вынікі былі падведзены XV з'ездам партыі, які сабраўся ў снежні 1927 г. У сваім справаздачным дакладзе Сталін даў яркую карціну поспехаў соцыялістычнай індустрыялізацыі і падкрэсліў неабходнасць далейшага расшырэння і ўмацавання соцыялістычных камандных вышынь, як у горадзе, так і на вёсцы, трымаючы курс на ліквідацыю капіталістычных элементаў у народнай гаспадарцы.

На XV з'ездзе Сталін указаў на адставанне сельскай гаспадаркі ад прамысловасці і намеціў выхад з гэтага пагражаючага ўсёй народнай гаспадарцы становішча.

«Выхад,—гаварыў Сталін,—у пераходзе дробных і распыленых сялянскіх гаспадарак на буйныя і аб'яднаныя гаспадаркі на аснове грамадскай апрацоўкі зямлі, у пераходзе на калектыўную апрацоўку зямлі на базе новай, вышэйшай тэхнікі. Выхад у тым, каб дробныя і найдрабнейшыя сялянскія гаспадаркі паступова, але няўхільна, не ў парадку націску, а ў парадку паказу і пераканання аб'ядноўваць у буйныя гаспадаркі на аснове грамадскай, таварыскай, калектыўнай апрацоўкі зямлі, з прымяненнем сельскагаспадарчых машын і трактараў, з прымяненнем навуковых прыёмаў інтэнсіфікацыі земляробства. Другога выхаду няма» [27]).

Чаму наша краіна стала на шлях будаўніцтва калгасаў?

Ужо к перыяду XV з'езда партыі ўсё больш прыкметным рабілася адставанне сельскай гаспадаркі, асабліва зернавой гаспадаркі. Валавая прадукцыя зярна набліжалася к даваеннаму ўзроўню, але таварная частка зернавой прадукцыі, прадаваемая на старану для снабжэння гарадоў і арміі, складала нямногім больш адной трэцяй часткі (37 процантаў) даваеннага ўзроўню. У вёсцы налічвалася каля 25 мільёнаў дробных і найдрабнейшых сялянскіх гаспадарак. А дробныя сялянскія гаспадаркі па самой сваёй прыродзе з'яўляліся поўнатуральнымі гаспадаркамі, здольнымі даць толькі мінімум таварнага зярна і няздольнымі расшырыць вытворчасць, прымяняць трактары і машыны, павысіць ураджайнасць. Драбленне сялянскіх гаспадарак і падзенне таварнасці зернавой гаспадаркі прадаўжаліся.

«Не падлягала сумненню, што пры такім стане зернавой гаспадаркі армія і гарады СССР павінны былі апынуцца перад тварам хранічнага голаду» [28]).

---

[27]) Кароткі курс гісторыі ВКП(б), стар. 275.
[28]) Там-жа, стар. 272.

Перад краінай стаялі дзве магчымасці перайсці ў сельскай гаспадарцы на буйную вытворчасць, здольную пусціць у ход трактары і сельскагаспадарчыя машыны і падняць у некалькі раз таварнасць зернавой гаспадаркі. Першая магчымасць: перайсці на буйную **капіталістычную** вытворчасць у вёсцы, што азначала-б разарэнне сялянскіх мас, стварэнне масавага беспрацоўя ў горадзе, пагібель саюза рабочага класа і сялянства, узмацненне кулацтва і паражэнне соцыялізма. На гэты пагібельны шлях узмоцнена штурхалі партыю правыя капітулянты і здраднікі.

Другая магчымасць: стаць на шлях аб'яднання дробных сялянскіх гаспадарак у буйныя **соцыялістычныя** гаспадаркі, у калгасы, здольныя шырока выкарыстаць трактары і іншыя сучасныя машыны для хуткага ўздыму зернавой гаспадаркі і яе таварнай прадукцыі. Ясна, што партыя большэвікоў і Совецкая дзяржава маглі стаць толькі на другі шлях, на **калгасны** шлях развіцця сельскай гаспадаркі.

Партыя большэвікоў зыходзіла з мудрых указанняў Леніна аб неабходнасці пераходу ад дробных сялянскіх гаспадарак да буйнага, калектыўнага, машыннага земляробства, якое адно толькі магло вывесці дзесяткі мільёнаў сялянскіх гаспадарак з адвечных нястаткаў.

«Дробнай гаспадаркай з нястаткаў не выйсці»,—указваў Ленін.

Самая надзённая эканамічная патрэбнасць, народныя нястаткі патрабавалі пераходу на шлях калектывізацыі. І партыя большэвікоў пад кіраўніцтвам Сталіна правільна зразумела гэтую надзенную эканамічную патрэбнасць, здолела павярнуць мільённыя масы сялянства на шлях калектывізацыі.

XV з'езд вынес рашэнне аб усямерным разгортванні калектывізацыі сельскай гаспадаркі. У той-жа час з'езд даў дырэктыву аб складанні першага пяцігадовага плана народнай гаспадаркі. Так у самы разгар стварэння соцыялістычнай індустрыі Сталіным намечана была новая грандыёзная задача—калектывізацыя сельскай гаспадаркі. Выкананне такой гістарычнай задачы патрабавала самай старраннай падрыхтоўкі, якая па глыбіні і размаху можа быць смела пастаўлена ў адзін рад з падрыхтоўкай Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі. Геніяльны стратэг пролетарскай рэволюцыі смела і непахісна, старанна і асцярожна вёў партыю ўперад, ламаючы ўсе перашкоды на шляху да намечанай мэты, пільна сочачы за манеўрамі класавага ворага і бліскуча прадбачачы яго дзеянні ў бліжэйшай будучыні, па-майстэрску перагрупіроўваючы сілы ў ходзе самога наступлення, замацоўваючы занятыя пазіцыі, скарыстоўваючы рэзервы для развіцця поспеху.

Пад кіраўніцтвам Сталіна партыя падрыхтавала ўсе неабходныя матэрыяльныя ўмовы для масавага ўступлення сялянства ў калгасы. Была створана індустрыяльная база для снабжэння вёскі машынамі і трактарамі, база для тэхнічнага пераўзбраення сельскай гаспадаркі. Былі накоплены дастатковыя сродкі для фінансавання калгаснага і соўгаснага будаўніцтва і накіраваны на гэтае будаўніцтва лепшыя людзі партыі і рабочага класа, умацаваны першыя калгасы, якія паказвалі сялянам-аднаасобнікам узоры вядзення калектыўнай сельскай гаспадаркі. Былі створаны машынатрактарныя станцыі і соўгасы, дапамагаўшыя сялянам у справе паляпшэння гаспадаркі.

Адчуваючы сваю пагібель, кулацтва прабавала аказаць супраціўленне, арганізавала «хлебную стачку», думаючы такім шляхам прымусіць партыю калі не капітуліраваць, то па крайняй меры адступіць. У тым-жа 1928 годзе была раскрыта буйная шкодніцкая арганізацыя

буржуазных спецыялістаў у Шахцінскім раёне Данбаса, а затым і ў іншых раёнах. Шкоднікі былі звязаны з імперыялістычнымі дзяржавамі.

Кіруемая Сталіным партыя правяла надзвычайныя меры супроць кулацтва і зламіла яго супраціўленне. Шкоднікі былі сурова пакараны. Таварыш Сталін заклікаў партыю вынесці ўрокі з шахцінскай справы і перш за ўсё большэвікам-гаспадарнікам самім стаць знатакамі тэхнікі і паскорыць падрыхтоўку новых тэхнічных кадраў з рабочых.

З пераходам партыі ў наступленне супроць кулацтва, на змену разгромленым партыяй трацкістам і зіноўеўцам выступілі ў 1928—1929 гг. Бухарын, Рыкаў, Томскі і ўся іх антыпартыйная група правых капітулянтаў і рэстаўратараў капіталізма. У той-жа час імперыялісты, апіраючыся на капітулянцкую работу правых, робяць новую спробу ўцягнуць СССР у вайну. У генеральных штабах Англіі і Францыі распрацоўваюцца планы новай інтэрвенцыі супроць СССР, намечанай на 1929—1930 гг.

Падобна таму, як перамога Вялікай соцыялістычнай рэвалюцыі ў кастрычніку 1917 г. была-б немагчыма без разгрому капітулянтаў і штрэйкбрэхераў, акурат таксама немагчыма была-б перамога соцыялізма на вёсцы без разгрому правых капітулянтаў у 1928—1929 гг. Асабліва значэнне ў перамозе партыі над бухарынска-рыкаўскай антыпартыйнай групай мелі прамовы Сталіна «Аб правай небяспецы ў ВКП(б)» (на пленуме МК і МКК у кастрычніку 1928 г.) і «Аб правым ухіле ў ВКП(б)» (на пленуме ЦК ВКП(б) у красавіку 1929 г.).

У гэтых выступленнях Сталіна былі выкрыты да канца правыя, як ворагі ленінізма, было паказана, што правыя з'яўляюцца агентурай кулака ў партыі.

У баях супроць правых Сталін згуртаваў усю партыю і павёў яе на штурм апошняга аплоту капіталістычнай эксплуатацыі ў нашай краіне. Геній Сталіна, яго непахісная воля і мудрая празарлівасць забяспечылі падняцце рэволюцыі на новую, больш высокую ступень. У сваім гістарычным артыкуле «Год вялікага пералому», напісаным у 1929 годзе к XII гадавіне Кастрычніка, Сталін пісаў:

«Мінулы год быў годам вялікага пералому на ўсіх фронтах соцыялістычнага будаўніцтва. Пералом гэты ішоў і прадаўжае ісці пад знакам рашучага **наступлення** соцыялізма на капіталістычныя элементы горада і вёскі. Характэрная асаблівасць гэтага наступлення заключаецца ў тым, што яно ўжо дало нам рад рашаючых **поспехаў** у асноўных галінах соцыялістычнай перабудовы (рэканструкцыі) нашай народнай гаспадаркі» [29]).

Партыя дабілася рашучага пералому ў галіне прадукцыйнасці працы. Была вырашана ў асноўным адна з найцяжэйшых задач соцыялістычнай індустрыялізацыі—задача накаплення сродкаў для будаўніцтва цяжкай прамысловасці. Партыя дабілася карэннага пералому ў развіцці нашага земляробства, у развіцці нашага сялянства. Бурна стаў разгортвацца калгасны рух, па тэмпах свайго развіцця абганяючы нават буйную прамысловасць. Гэта быў пачатак масавага калгаснага руху.

«Новае і рашаючае ў цяперашнім калгасным руху заключаецца ў тым,—пісаў Сталін,—што ў калгасы ідуць сяляне не асобнымі гру-

---

[29]) І. Сталін. Пытанні ленінізма, выданне 11-е, стар. 264.

памі, як гэта мела месца раней, а цэлымі сёламі, валасцямі, раёнамі, нават акругамі. А што гэта значыць? Гэта значыць што **ў калгасы пайшоў серадняк.** У гэтым аснова таго карэннага пералому ў развіцці сельскай гаспадаркі, які складае важнейшае дасягненне Совецкай улады...» [30]).

Так пад кіраўніцтвам Сталіна быў падрыхтован гістарычны паварот ад палітыкі абмежавання і выцяснення кулацкіх элементаў да палітыкі ліквідацыі кулацтва, як класа, на аснове суцэльнай калектывізацыі.

## IX

27 снежня 1929 года Сталін выступіў на канферэнцыі аграрнікаў-марксістаў. У сваёй прамове таварыш Сталін выкрыў буржуазную тэорыю «роўнавагі» сектараў народнай гаспадаркі, разбіў антымарксісцкую тэорыю «самацёку» у социялістычным будаўніцтве і антымарксісцкую тэорыю «устойлівасці» дробнасялянскай гаспадаркі. Разграміўшы ўсе гэтыя буржуазныя, антымарксісцкія, праваапартуністычныя тэорыі, таварыш Сталін даў глыбокі аналіз прыроды калгасаў, як социялістычнай формы гаспадаркі, і абгрунтаваў пераход да суцэльнай калектывізацыі і ліквідацыі на гэтай аснове кулацтва, як класа.

Ленін яшчэ на XI з'ездзе партыі гаварыў аб апошнім і рашучым боі з рускім капіталізмам, які вырастае з дробнай сялянскай гаспадаркі, але ў той перыяд тэрмін гэтага бою яшчэ нельга было з дакладнасцю вызначыць. Таварыш Сталін з уласцівай яму геніяльнай празарлівасцю навукова даказаў, што **тэрмін** апошняга рашучага бою з унутраным капіталізмам ужо наступіў. Вялікі дыялектык—Сталін паказаў, што ліквідацыя кулацтва, як класа, не ёсць прадаўжэнне ранейшай палітыкі абмежавання і выцяснення кулацтва, а ёсць круты **паварот** у палітыцы партыі.

«Калі канфіскацыя зямлі ў памешчыкаў была **першым** крокам Кастрычніцкай рэволюцыі ў вёсцы,—так запісана ў рашэннях XVI з'езда партыі,—то пераход да калгасаў з'яўляецца **другім** і прытым рашаючым крокам, які вызначае важнейшы этап у справе пабудовы фундамента социялістычнага грамадства ў СССР» [31]).

Да социялістычнай гаспадаркі вёска прышла ў рэзультаце таго, што эканамічная неабходнасць патрабавала пераходу да буйнай арцельнай гаспадаркі, да калектыўнага, машыннага земляробства. Партыя большэвікоў і Совецкая дзяржава на працягу раду год стварылі ў вёсцы новыя прадукцыйныя сілы, насаджалі новую тэхніку—трактары, камбайны і т. д., падрыхтоўвалі кадры социялістычнага земляробства, мільёны людзей, авалодваючых новай тэхнікай.

У сваім гістарычным прывітанні рабочым Сталінградскага трактарнага завода ў дзень яго пуску (17 чэрвеня 1930 г.) таварыш Сталін пісаў:

«Прывітанне і віншаванні з перамогай рабочым і кіруючаму саставу першага ў СССР Чырвонасцяжнага трактарнага гіганта. 50 тысяч трактараў, якія вы павінны даваць краіне штогод, ёсць 50 тысяч снарадаў, узрываючых стары буржуазны свет і пра-

---

[30]) **І. Сталін.** Пытанні ленінізма, выданне 11-е, стар. 272.

[31]) ВКП(б) у рэзалюцыях і рашэннях з'ездаў, канферэнцый і пленумаў ЦК, ч. II, стар. 432.

кладваючых дарогу новаму соцыялістычнаму ўкладу ў вёсцы. Жадаю вам поспеху ў справе выканання вашай праграмы» [32]).

Новыя прадукцыйныя сілы, створаныя ў вёсцы, няўхільна прывялі да новых, **соцыялістычных** адносін паміж людзьмі.

Сталін, усебакова распрацаваўшы марксісцка-ленінскае вучэнне аб соцыялізме, паказаў, што пераход да калектывізацыі магчым не ў парадку простага і мірнага ўступлення сялян у калгасы, а ў парадку масавай барацьбы сялян супроць кулацтва. Неабходна было разбіць кулацтва ў адкрытым баі на вачах усяго сялянства, таму пераход да суцэльнай калектывізацыі неразрыўна звязваўся з задачай ліквідацыі кулацтва, як класа.

Указанні таварыша Сталіна аб неабходнасці павароту ў палітыцы партыі ад абмежавання эксплуататарскіх тэндэнцый кулацтва да ліквідацыі кулацтва, як класа, ляглі ў аснову пастановы ЦК ад 5 студзеня 1930 г. «Аб тэмпе калектывізацыі і мерах дапамогі дзяржавы калгаснаму будаўніцтву».

Ворагі партыі ўсяляк прабавалі сарваць узяты партыяй курс на калектывізацыю краіны. Гэтыя варожыя спробы выразіліся не толькі ў прамым выступленні супроць калектывізацыі з боку правых капітулянтаў, але і ў «лявацкіх» скрыўленнях партыйнай лініі, у нарушэнні ўстаноўленых партыяй тэмпаў калектывізацыі, у нарушэнні ленінска-сталінскага прынцыпа добраахвотнасці ў калгасным будаўніцтве, у галавацяпскім пераскокванні праз арцель да комуны, у прымусовым абагуленні жылых пабудоў, дробнай жывёлы, хатняй птушкі і т. д.

Унутраныя і знешнія ворагі, інтэрвенты і іх агенты спадзяваліся, што гэтая «лявацкая», а часам і свядома правакацыйная практыка пасварыць сялянства з Савецкаю ўладай. У штабах імперыялістычных дзяржаў ужо намячаліся тэрміны новай інтэрвенцыі. Але правадыр партыі своечасова заўважыў новую небяспеку.

2 сакавіка 1930 г. па рашэнню ЦК быў апублікован артыкул Сталіна «Галавакружэнне ад поспехаў», у якім Сталін даў адпор «лявацкім» перагібам, якія пагражалі пагубіць калгасны рух. «У артыкуле з усёй сілай падкрэсліваўся прынцып добраахвотнасці калгаснага будаўніцтва і ўказвалася на неабходнасць улічваць featureразнастайнасць умоў у розных раёнах СССР пры вызначэнні тэмпаў і метадаў калектывізацыі. Тав. Сталін напамінаў, што асноўным звяном калгаснага руху з'яўляецца сельскагаспадарчая арцель... Артыкул тав. Сталіна меў найвялікшае палітычнае значэнне. Гэты артыкул дапамог партыйным арганізацыям выправіць іх памылкі і нанёс сільнейшы ўдар ворагам Совецкай улады, якія спадзяваліся на тое, што на глебе перагібаў ім удасца настроіць сялянства супроць Совецкай улады» [33]).

Нанёсшы сакрушальны ўдар «лявацкім» скрыўленням і разам з тым развеяўшы па ветру надзеі інтэрвентаў, таварыш Сталін, як настаўнік мільённых мас, аб'ясняў партыйным і беспартыйным кадрам, у чым заключаецца майстэрства кіраўніцтва.

«Майстэрства кіраўніцтва,—пісаў Сталін,—ёсць сур'ёзная справа. Нельга адставаць ад руху, бо адстаць—значыць адарвацца ад мас. Але нельга і забягаць наперад, бо забегчы наперад—значыць страціць сувязь з масамі. Хто хоча кіраваць рухам і захаваць разам з

[32]) „Правда" № 166, 18 чэрвеня 1930 г.

[33]) Кароткі курс гісторыі ВКП(б), стар. 291—292.

тым сувязі з мільённымі масамі, той павінен весці барацьбу на два фронта—і супроць адстаючых і супроць забягаючых наперад»[34]).

У апублікаваным услед за гэтым артыкуле ад 3 красавіка 1930 г. «Адказ таварышам калгаснікам», звернутым да мільёнаў калгаснікаў, Сталін, паказаўшы корань памылак у сялянскім пытанні і галоўныя памылкі ў калгасным руху, з выключнаю сілай раз'ясніў, у чым сутнасць законаў наступлення на фронце класавай барацьбы. Нельга весці наступленне, не замацоўваючы заваяваных пазіцый,—указваў таварыш Сталін,—не перагрупіроўваючы сіл, не забяспечваючы фронт рэзервамі, не падцягваючы тылы. Апартуністы не разумеюць класавай прыроды наступлення: наступленне на які клас, у саюзе з якім класам? Нам трэба,—гаварыў Сталін,—не ўсякае наступленне, а наступленне на кулака ў саюзе з серадняком.

Дзякуючы сталінскаму кіраўніцтву, у рэзультаце выпраўлення перагібаў, была створана моцная аснова для новага магутнага росту калгаснага руху. Партыя на чале з таварышом Сталіным вырашыла найцяжэйшую пасля заваявання ўлады задачу пролетарскай рэвалюцыі, задачу пераводу дробных сялянскіх гаспадарак на рэльсы сацыялізма, задачу ліквідацыі кулацтва, як самага шматлікага, эксплуататарскага класа.

«Гэта быў найглыбейшы рэвалюцыйны пераварот, скачок са старога якаснага стану грамадства ў новы якасны стан, роўназначны па сваіх выніках рэвалюцыйнаму перавароту ў кастрычніку 1917 года.

Своеасаблівасць гэтай рэвалюцыі заключалася ў тым, што яна была праведзена **зверху,** па ініцыятыве дзяржаўнай улады, пры прамым падтрыманні **знізу,** з боку мільённых мас сялян, якія змагаліся супроць кулацкай кабалы, за свабоднае калгаснае жыццё»[35]).

Апіраючыся на ўказанні Леніна аб неабходнасці пераходу ад дробных сялянскіх гаспадарак да буйнай, арцельнай, калектыўнай гаспадаркі ў земляробстве, апіраючыся на каапераційны план Леніна, Сталін распрацаваў тэарэтычна і ажыццявіў практычна **вучэнне аб калектывізацыі сельскай гаспадаркі.** Новае ў гэтай галіне ў Сталіна заключаецца ў тым, што ён: 1) усебакова распрацаваў пытанне аб калгаснай форме соцыялістычнай гаспадаркі ў вёсцы; 2) паказаў, што асноўным і галоўным звяном калгаснага будаўніцтва на сучасным этапе з'яўляецца сельскагаспадарчая арцель, як найбольш правільная і зразумелая сялянам форма, якая дае магчымасць спалучаць асабістыя інтарэсы калгаснікаў з іх грамадскімі інтарэсамі, прыстасоўваць асабістыя інтарэсы калгаснікаў да грамадскіх інтарэсаў; 3) абгрунтаваў пераход ад палітыкі абмежавання і выцяснення кулацтва да палітыкі ліквідацыі кулацтва, як класа, на аснове суцэльнай калектывізацыі; 4) раскрыў значэнне МТС, як апорных пунктаў у справе соцыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі і аказання дапамогі сельскай гаспадарцы і сялянству з боку соцыялістычнай дзяржавы.

У лютым 1930 года па шматлікіх хадайніцтвах раду арганізацый, агульных сходаў рабочых, сялян і чырвонаармейцаў Цэнтральны Выканаўчы Камітэт СССР пастанавіў узнагародзіць І. В. Сталіна другім ордэнам Чырвонага Сцяга за велізарныя заслугі на фронце соцыялістычнага будаўніцтва.

XVI з'езд партыі (26 чэрвеня—13 ліпеня 1930 г.) увайшоў у гісто-

---

34) І. Сталін. Пытанні ленінізма, стар. 304.

35) Кароткі курс гісторыі ВКП(б), стар. 288—289.

рыю, як з'езд разгорнутага наступлення соцыялізма па ўсяму фронту. Раскрыўшы сутнасць разгорнутага наступлення соцыялізма на капіталістычныя элементы па ўсяму фронту, Сталін устанавіў у сваім дакладзе, што наша краіна ўжо **ўступіла ў перыяд соцыялізма.**

Дакладваючы з'езду аб дасягненнях у справе індустрыялізацыі краіны і калектывізацыі сельскай гаспадаркі, Сталін указаў разам з тым, якія задачы ставіць перад намі новы перыяд развіцця. Калі па **тэмпах** развіцця мы дагналі і перагналі перадавыя капіталістычныя краіны, то па **ўзроўню** прамысловай вытворчасці мы яшчэ вельмі адстаем ад перадавых капіталістычных краін. Адсюль задача далейшага ўзмацнення тэмпаў, задача дагнаць і перагнаць капіталістычныя краіны таксама і па ўзроўню прамысловай вытворчасці. У сваім дакладзе таварыш Сталін указаў задачы партыі ў справе ажыццяўлення першай пяцігодкі ў чатыры годы.

Працоўныя ўсёй краіны з энтузіязмам прыступілі да вырашэння гіганцкіх задач, пастаўленых з'ездам. Шырока разгарнулася соцыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва. К моманту XVI з'езда соцыялістычным спаборніцтвам было ахоплена не менш двух мільёнаў рабочых, а ва ўдарныя брыгады ўваходзіла больш мільёна рабочых

«Самае выдатнае ў спаборніцтве,—гаварыў таварыш Сталін на XVI з'ездзе,—заключаецца ў тым, што яно робіць карэнны пераварот у поглядах людзей на працу, бо яно ператварае працу з ганебнага і вялікага цяжару, якім яна лічылася раней, у справу **чэсці,** у справу **славы,** у справу **доблесці і геройства.** Нічога падобнага няма і не можа быць у капіталістычных краінах» [36]).

Выкананне плана першай пяцігодкі патрабавала рэканструкцыі ўсіх галін народнай гаспадаркі на базе новай, сучаснай тэхнікі. Тэхніка набывала рашаючае значэнне. Правадыр партыі ў сувязі з гэтым высунуў 4 лютага 1931 г. у прамове «Аб задачах гаспадарнікаў» на першай Усесаюзнай канферэнцыі работнікаў соцыялістычнай прамысловасці новы лозунг: «Большэвікі павінны авалодаць тэхнікай», «Тэхніка ў перыяд рэканструкцыі рашае ўсё».

У перыяд напружанай работы партыі па будаўніцтву соцыялізма набывала ўсё большае значэнне марксісцка-ленінскае выхаванне членаў і кандыдатаў партыі, вывучэнне гістарычнага вопыту большэвіцкай партыі, барацьба з фальсіфікатарамі яе гісторыі.

У лістападзе 1931 года Сталін апублікаваў вядомае пісьмо ў рэдакцыю журнала «Пролетарская революция», якое адыграла выключную ролю ў далейшым ідэйным згуртаванні радоў партыі. У гэтым пісьме Сталін, выкрываючы трацкісцкіх фальсіфікатараў гісторыі большэвізма, паказаў, што ленінізм нарадзіўся, вырас і ўмацаваўся ў бязлітаснай барацьбе з апартунізмам усіх масцей, што большэвікі з'явіліся адзінай у свеце рэволюцыйнай арганізацыяй, якая разграміла да канца апартуністаў і цэнтрыстаў і выгнала іх вон з партыі. У гэтым пісьме Сталін з усёй сілай паказаў, што трацкізм ёсць перадавы атрад контррэволюцыйнай буржуазіі, які вядзе барацьбу супроць комунізма, супроць Совецкай улады, супроць будаўніцтва соцыялізма ў СССР.

К пачатку 1933 г. першая пяцігодка была выканана раней тэрміна. У студзені 1933 года Сталін выступіў на пленуме ЦК і ЦКК з дакладам «Вынікі першай пяцігодкі». Наша краіна—указваў ён—ператварылася з аграрнай у індустрыяльную, з дробнасялянскай—у краіну

---

[36]) **І. Сталін.** Пытанні ленінізма. Выданне 10-е, стар. 393.

самага буйнага, перадавога, соцыялістычнага земляробства. Эксплуататарскія класы былі выбіты са сваіх вытворчых пазіцый. Іх астаткі рассеяліся па ўсёй краіне і павялі барацьбу супроць Совецкай улады ціхаю сапай. Таму неабходна было павысіць пільнасць, павесці барацьбу за ахову соцыялістычнай уласнасці, асновы совецкага ладу, усямерна ўмацоўваць дыктатуру пролетарыята.

У другім выступленні на пленуме ЦК «Аб рабоце ў вёсцы» Сталін даў глыбокі аналіз недахопаў работы партыі ў вёсцы і намеціў цэлую праграму работ па ўмацаванню калгаснага ладу.

Перад партыяй стала новая задача—барацьба за ўмацаванне калгасаў, за арганізацыю працы ў калгасах, за тое, каб зрабіць калгасы большэвіцкімі, ачысціць калгасы ад варожых кулацкіх, шкодніцкіх элементаў. Для гэтай мэты таварыш Сталін прапанаваў стварыць палітаддзелы у МТС і соўгасах. Палітаддзелы МТС за два годы (1933—1934 гг.) паспелі прарабіць вялікую работу па ўмацаванню калгасаў.

На першым Усесаюзным з'ездзе калгаснікаў-ударнікаў 19 лютага 1933 г. таварыш Сталін высунуў і абгрунтаваў лозунг: зрабіць калгасы большэвіцкімі, а калгаснікаў заможнымі.

«Каб стаць калгаснікам заможнымі,—гаварыў Сталін,—для гэтага патрабуецца цяпер толькі адно—працаваць у калгасе чэсна, правільна скарыстоўваць трактары і машыны, правільна скарыстоўваць рабочую жывёлу, правільна апрацоўваць зямлю, берагчы калгасную ўласнасць [37]).

Прамова Сталіна дайшла да сазнання мільёнаў калгаснікаў, стала практычнай баявой праграмай калгасаў.

У сваім дакладзе аб рабоце ЦК ВКП(б), зробленым у Ленінградзе напярэдадні XVII з'езда партыі, натхнёны трыбун рэволюцыі і любімец партыі С. М. Кіраў наступным чынам характарызаваў вялікага арганізатара соцыялістычных перамог рабочага класа:

«Таварышы, гаворачы аб заслугах нашай партыі, аб поспехах нашай партыі, нельга не сказаць **аб вялікім арганізатары тых гіганцкіх перамог, якія мы маем. Я гавару аб таварышу Сталіне.**

Я павінен сказаць вам, што гэта сапраўды поўны, сапраўды ўсеграины паслядоўнік, прадаўжальнік таго, што нам пакінуў вялікі аснавальнік нашай партыі, якога мы страцілі вось ужо дзесяць год таму назад.

Цяжка ўявіць сабе фігуру гіганта, якім з'яўляецца Сталін. **За апошнія годы, з таго часу, калі мы працуем без Леніна, мы не ведаем ні аднаго павароту ў нашай рабоце, ні аднаго колькі-небудзь буйнага пачынання, лозунга, напрамку ў нашай палітыцы, аўтарам якога быў-бы не таварыш Сталін, а хто-небудзь іншы. Уся асноўная работа—гэта павінна ведаць партыя—праходзіць па ўказаннях, па ініцыятыве і пад кіраўніцтвам таварыша Сталіна.** Самыя вялікія пытанні міжнароднай палітыкі рашаюцца па яго ўказанню, і не толькі гэтыя вялікія пытанні, але і, здавалася-б, трэцерадныя і нават дзесяцірадныя пытанні цікавяць яго, калі яны датычаць рабочых, сялян і ўсіх працоўных нашай краіны.

Я павінен сказаць, што гэта адносіцца не толькі да будаўніцтва соцыялізма ў цэлым, але і да паасобных пытанняў нашай работы. Напрыклад, калі ўзяць пытанні абароны нашай краіны, то трэба з усёй сілаю падкрэсліць, што ўсімі нашымі поспехамі, аб якіх я гаварыў, мы цалкам і поўнасцю абавязаны Сталіну.

[37]) І. Сталін. Пытанні ленінізма. Выданне 11-е, стар. 418.

**Магутная воля, каласальны арганізатарскі талент гэтага чалавека забяспечвае партыі своечасовае правядзенне вялікіх гістарычных паваротаў, звязаных з пабеданосным будаўніцтвам соцыялізма.**

Вазьміце лозунгі таварыша Сталіна: «Зрабіць калгасніка заможным», «Зрабіць калгасы большэвіцкімі», «Авалодаць тэхнікай», шэсць гістарычных умоў таварыша Сталіна,—усё, што накіроўвае будаўніцтва соцыялізма на данай стадыі нашай работы, выходзіць ад гэтага чалавека, і ўсё, што намі заваявана ў першай пяцігодцы, дасягнута на аснове яго ўказанняў» [38]).

У пачатку 1934 года Сталін кіруе работамі XVII з'езда партыі, які ўвайшоў у гісторыю, як **з'езд пераможцаў.** У сваім справаздачным дакладзе на з'ездзе таварыш Сталін падвёў вынік гістарычным перамогам партыі, перамогам соцыялізма ў СССР.

Перамагла палітыка індустрыялізацыі, суцэльнай калектывізацыі, ліквідацыі кулацтва, як класа. Перамагло вучэнне аб магчымасці пабудовы соцыялізма ў адной краіне. Соцыялістычны ўклад стаў непадзельна пануючай сілай ва ўсёй народнай гаспадарцы, усе астатнія ўклады пайшлі ка дну. Калгасы перамаглі канчаткова і беспаваротна.

Але Сталін папярэджваў, што барацьба далёка не скончана. Хоць ворагі і разбіты, але астаткі іх ідэалогіі жывуць і нярэдка даюць аб сабе ведаць. Асталося капіталістычнае акружэнне. Яно ажыўляе і скарыстоўвае перажыткі капіталізма ў сазнанні людзей.

Таварыш Сталін ўказваў, што перажыткі капіталізма ў сазнанні людзей значна больш жывучы ў галіне нацыянальнага пытання, чым у любой іншай галіне. Адказваючы на пытанне, які ўхіл прадстаўляе галоўную небяспеку,—ухіл да вялікарускага нацыяналізма або ўхіл да мясцовага нацыяналізма,—таварыш Сталін гаварыў, што пры сучасных умовах «галоўную небяспеку прадстаўляе той ухіл, супроць якога перасталі змагацца і якому далі такім чынам разрасціся да дзяржаўнай небяспекі» [39]).

Патрэбна сістэматычная работа па пераадаленню перажыткаў капіталізма ў сазнанні людзей; патрэбна сістэматычная крытыка ідэалогіі ўсіх варожых ленінізму плыней; неабходна нястомная прапаганда ленінізма, павышэнне ідэалагічнага ўзроўню членаў партыі, інтэрнацыянальнае выхаванне працоўных. Сталін з асаблівай сілай падкрэсліў неабходнасць павышэння пільнасці партыі:

«Не ўбаюкваць трэба партыю,—а развіваць у ёй пільнасць, не ўсыпляць яе,—а трымаць у стане баявой гатоўнасці, не раззбройваць,—а ўзбройваць, не дэмабілізоўваць,—а трымаць яе ў стане мабілізацыі для ажыццяўлення другой пяцігодкі» [40]).

У дакладзе Сталіна была дана канкрэтна распрацаваная праграма далейшай работы партыі ў галіне прамысловасці, сельскай гаспадаркі, гандлю, транспарта, праграма арганізацыйнай работы (кадры, праверка і кантроль выканання); пастаўлена задача—«падняць арганізацыйнае кіраўніцтва да ўзроўню палітычнага кіраўніцтва». У дакладзе Сталіна дана праграма работы ў галіне культуры, навукі, народнай асветы, ідэалагічнай барацьбы. XVII з'езд па прапанове С. М. Кірава прыняў даклад таварыша Сталіна цалкам, як рашэнне з'езда, як партыйны закон, як праграму работы партыі на бліжэйшы перыяд. На з'ездзе быў зацверджан і другі пяцігадовы план развіцця народнай гаспадаркі.

[38]) **С. М. Кіраў**. Выбраныя артыкулы і прамовы 1912—1934. 1939 г., стар. 609—610.
[39]) **І. Сталін**. Пытанні ленінізма, стар. 474.
[40]) Там-жа, стар. 484.

## X

У рэзультаце поспехаў генеральнай лініі партыі ў краіне прадаўжаўся няўхільны рост прамысловасці і сельскай гаспадаркі. Другая Сталінская пяцігодка па прамысловасці была выканана к красавіку 1937 г., датэрмінова—у чатыры годы і тры месяцы. Завяршэнне рэканструкцыі прамысловасці і сельскай гаспадаркі прывяло да таго, што наша народная гаспадарка аказалася снабжонай самай перадавой у свеце тэхнікай. Наша прамысловасць атрымала велізарную колькасць машын, станкоў і іншых сродкаў вытворчасці. Наша сельская гаспадарка атрымала першакласныя совецкія трактары, камбайны і іншыя складаныя сельскагаспадарчыя машыны. Транспарт атрымаў першакласныя аўтамабілі, паравозы, параходы, самалёты. Рабоча-Сялянская Чырвоная армія атрымала новае, выдатнае тэхнічнае аснашчэнне—артылерыю, танкі, самалёты, караблі ваенна-марскога флота.

Уся гэтая гіганцкая работа па тэхнічнаму пераўзбраенню нашай народнай гаспадаркі праходзіць пад непасрэдным кіраўніцтвам таварыша Сталіна. Новыя маркі машын, буйныя тэхнічныя навіны або вынаходніцтвы ўкараняліся і ўкараняюцца ў жыццё па непасрэдных указаннях таварыша Сталіна. Ён асабіста ўваходзіць ва ўсе дэталі работы па тэхнічнай рэканструкцыі прамысловасці і сельскай гаспадаркі, натхняе і акрыляе рабочых і інжынераў, кіраўнікоў прадпрыемстваў і главкаў, вынаходцаў і канструктараў. Асабліва вялікую і любоўную ўвагу ён удзяляе тэхнічнаму аснашчэнню нашай Чырвонай арміі, Ваенна-Паветранага і Ваенна-Марскога флотаў, у рэзультаце чаго Чырвоная армія стала грознай для ворагаў соцыялізма і непераможнай сілай.

Новая, магутная тэхніка патрабавала людзей, якія могуць асядлаць гэтую тэхніку, выціснуць з яе ўсё, што яна можа даць. Неабходна было крута павярнуць увагу нашых кадраў у бок асваення новай тэхнікі, у бок усямернага ўзмацнення работы па вырошчванню шматлікіх кадраў, здольных атрымаць з гэтай тэхнікі максімум эфекта. У гэтых адносінах выключнае значэнне мела выступленне таварыша Сталіна на выпуску акадэмікаў Чырвонай арміі ў маі 1935 года.

«Каб прывесці тэхніку ў рух,—гаварыў тав. Сталін,—і выкарыстаць яе да дна, патрэбны людзі, авалодаўшыя тэхнікай, патрэбны кадры, здольныя асвоіць і скарыстаць гэтую тэхніку па ўсіх правілах майстэрства. Тэхніка без людзей, авалодаўшых тэхнікай,—мёртва. Тэхніка на чале з людзьмі, авалодаўшымі тэхнікай, можа і павінна даць цуды. Калі-б на нашых першакласных заводах і фабрыках, у нашых соўгасах і калгасах, на нашым транспарце, у нашай Чырвонай арміі мелася дастатковая колькасць кадраў, здольных асядлаць гэтую тэхніку, краіна наша атрымала-б эфекта ўтрая і ўчацвёра больш, чым яна мае цяпер... Трэба, нарэшце, зразумець, што з усіх каштоўных капіталаў, якія ёсць у свеце, самым каштоўным і самым рашаючым капіталам з'яўляюцца людзі, кадры. Трэба зразумець, што пры нашых цяперашніх умовах **«кадры рашаюць усё»**. Будуць у нас добрыя і шматлікія кадры ў прамысловасці, у сельскай гаспадарцы, на транспарце, у арміі,—наша краіна будзе непераможна. Не будзе ў нас такіх кадраў—будзем кульгаць на абедзве нагі» [41]).

---

41) **І. Сталін.** Пытанні ленінізма, стар. 490, 491.

Выступленне таварыша Сталіна з'явілася магутным штуршком для рашэння адной з важнейшых задач соцыялістычнага будаўніцтва—праблемы кадраў. Сіла гэтага ўказання правадыра партыі заключалася не толькі ў тым, што яно павярнула ўвагу ўсіх партыйных і совецкіх арганізацый да праблемы кадраў. Сіла яго заключалася і ў тым, што яно атрымала шырокі і масавы водгук знізу, выклікала новы працоўны ўздым.

Па ініцыятыве перадавых рабочых знізу ўзняўся з магутнай сілай **стаханаўскі рух.** Пачаўшыся ў Данбасе, у вугальнай прамысловасці, ён з неймавернай быстрынёю ахапіў усю краіну, усе галіны народнай гаспадаркі. Дзесяткі і сотні тысяч выдатных герояў працы паказалі ўзоры аваладання тэхнікай і соцыялістычнай прадукцыйнасці працы ў прамысловасці, на транспарце, у сельскай гаспадарцы.

Таварыш Сталін асвятліў перад усёй партыяй вялікае гістарычнае значэнне гэтага новага руху. Выступаючы ў лістападзе 1935 г. на першай Усесаюзнай нарадзе стаханаўцаў, Сталін гаварыў, што стаханаўскі рух «выражае новы ўздым соцыялістычнага спаборніцтва, новы, вышэйшы этап соцыялістычнага спаборніцтва... Значэнне стаханаўскага руху заключаецца ў тым, што ён з'ўляецца такім рухам, які ламае старыя тэхнічныя нормы, як недастатковыя, перакрывае ў цэлым радзе выпадкаў прадукцыйнасць працы перадавых капіталістычных краін і адкрывае, такім чынам, практычную магчымасць далейшага ўмацавання соцыялізма ў нашай краіне, магчымасць пераварэння нашай краіны ў найбольш заможную краіну» [42]).

Таварыш Сталін паказаў, што гэты рух пракладвае шлях да комунізма, што ён заключае ў сабе зярно такога культурна-тэхнічнага ўздыму рабочага класа, які вядзе да ліквідацыі процілегласці разумовай і фізічнай працы.

Гаворачы аб прадпасылках стаханаўскага руху, таварыш Сталін паказаў, у чым вялікая сіла і непераможнасць нашай рэволюцыі:

«Наша рэволюцыя з'ўляецца адзінай, якая не толькі разбіла аковы капіталізма і дала народу свабоду, але паспела яшчэ даць народу матэрыяльныя ўмовы для заможнага жыцця. У гэтым сіла і непераможнасць нашай рэволюцыі» [43]).

Сталін непасрэдна кіраваў работай Усесаюзнай нарады стаханаўцаў і іншых нарад перадавікоў прамысловасці, транспарта і сельскай гаспадаркі ў Крэмлі. Разам са стаханаўцамі прамысловасці і транспарта, з камбайнерамі, з трактарыстамі, даяркамі, з гераінямі бураковых палёў ён абмяркоўваў у дэталях пытанні тэхнікі і вытворчасці ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі.

У Крэмлі Сталін сумесна з членамі ЦК і Урада прымаў шматлікія дэлегацыі квітнеючых брацкіх соцыялістычных рэспублік. Гэта была яркая дэманстрацыя вялікай дружбы народаў Совецкага Саюза, дасягнутай на аснове правядзення ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі. Разам з перадавымі рабочымі і калгаснікамі таварыш Сталін і яго саратнікі выпрацоўвалі важнейшыя рашэнні па самых буйных пытаннях соцыялістычнага будаўніцтва.

«Ленін вучыў, што сапраўднымі кіраўнікамі-большэвікамі могуць быць толькі такія кіраўнікі, якія ўмеюць не толькі вучыць рабочых і сялян, але і вучыцца ў іх»,—так гаварыў таварыш Сталін у сваім выступленні на нарадзе стаханаўцаў. Ён сам даў лепшы ўзор такой

[42]) **І. Сталін.** Пытанні ленінізма, стар. 493, 494—495.
[43]) Там-жа, стар 499.

сувязі з масамі, пачынаючы з першых-жа крокаў сваёй рэволюцыйнай дзейнасці.

Соцыялістычная рэканструкцыя ўсёй народнай гаспадаркі выклікала карэннае змяненне ў суадносінах класаў у краіне. Гэта патрабавала змяненняў у Канстытуцыі, прынятай яшчэ ў 1924 годзе. Па ініцыятыве тав. Сталіна ЦК партыі высунуў на VII з'ездзе Советаў СССР прапанову аб змяненні Канстытуцыі.

Спецыяльная Канстытуцыйная камісія пад старшынствам таварыша Сталіна выпрацавала праект новай Канстытуцыі. Праект быў падвергнут усенароднаму абмеркаванню, якое прадаўжалася пяць з паловінай месяцаў. Не было кутка ў нашай краіне, дзе-б працоўныя не вывучалі і не абмяркоўвалі гэты найвялікшы дакумент у гісторыі чалавецтва. Увесь Совецкі народ з велізарнай радасцю і гордасцю вітаў і адабраў праект Канстытуцыі.

У сваім дакладзе на Надзвычайным VIII з'ездзе Советаў аб праекце новай Канстытуцыі таварыш Сталін даў глыбокае абгрунтаванне гэтага праекта Канстытуцыі, ускрыўшы тыя велізарныя зрухі, якія адбыліся ў нашай краіне з часу прыняцця Канстытуцыі 1924 года. Перамога соцыялізма дала магчымасць перайсці да далейшай дэмакратызацыі выбарчай сістэмы, да ўвядзення ўсеагульнага, роўнага і прамога выбарчага права пры тайным галасаванні.

Усе найвялікшыя перамогі соцыялізма замацаваны ў Канстытуцыі СССР. Згодна Канстытуцыі совецкае грамадства складаецца з двух дружаственных адзін аднаму класаў—рабочых і сялян. Палітычную аснову СССР складаюць Советы дэпутатаў працоўных. Эканамічнай асновай СССР з'яўляецца соцыялістычная ўласнасць на сродкі вытворчасці. Усім грамадзянам СССР забяспечваецца права на працу, на адпачынак, на асвету, на матэрыяльнае забеспячэнне ў старасці, у выпадку хваробы і страты працаздольнасці. Роўнапраўе грамадзян незалежна ад іх нацыянальнасці, расы і полу з'яўляецца непахісным законам. Канстытуцыя—у інтарэсах умацавання соцыялістычнага грамадства—гарантыруе свабоду слова, друку, сходаў і мітынгаў, права аб'яднання ў грамадскія арганізацыі, недатыкальнасць асобы, недатыкальнасць жылля і тайну перапіскі, права прытулку іншакраінным грамадзянам, праследуемым за абарону інтарэсаў працоўных, або за навуковую дзейнасць, або за нацыянальна-вызваленчую барацьбу. Гэтыя нябачаныя ў гісторыі найвялікшыя правы і свабоды працоўных забяспечаны матэрыяльна, эканамічна ўсёй сістэмай соцыялістычнай гаспадаркі, якая не ведае крызісаў, анархіі, беспрацоўя.

Канстытуцыя СССР разам з тым накладае на ўсіх грамадзян сур'ёзныя абавязацельствы: захоўваць законы, дысцыпліну працы, чэсна адносіцца да грамадскага абавязку, паважаць правілы соцыялістычнага агульна-сумеснага жыцця, берагчы і ўмацоўваць соцыялістычную ўласнасць, абараняць соцыялістычную бацькаўшчыну.

Тое, аб чым марылі сотні год лепшыя, перадавыя розумы чалавецтва, зрабіла непахісным законам Канстытуцыя СССР—Канстытуцыя перамогшага соцыялізма і разгорнутай соцыялістычнай дэмакратыі.

Гэта Канстытуцыя была адобрана і зацверджана VIII з'ездам Советаў 5 снежня 1936 года. Народы СССР аднадушна назвалі новую Канстытуцыю СССР у чэсць яе тварца Сталінскай Канстытуцыяй. Для працоўных СССР яна з'яўляецца вынікам барацьбы і перамог, для працоўных ўсіх капіталістычных краін—вялікай праграмай барацьбы. Яна замацавала той сусветна-гістарычны факт, што СССР уступіў у новую паласу развіцця, у паласу завяршэння будаўніцтва

соцыялістычнага грамадства і паступовага пераходу да комунізма. Яна ўзбройвае працоўных усяго свету маральна і палітычна на барацьбу з буржуазнай рэакцыяй. Яна паказвае, што ажыццёўленае ў СССР можа быць ажыццёўлена і ў іншых краінах.

Даклад таварыша Сталіна аб праекце новай Канстытуцыі з'яўляецца каштоўнейшым укладам у скарбніцу марксізма-ленінізма; ён стаіць у раду з такім геніяльным творам марксізма, як «Маніфест комуністычнай партыі».

Перамогі соцыялізма, атрыманыя партыяй пад кіраўніцтвам Сталіна, прыводзілі ворагаў народа яшчэ ў большае шаленства. У 1937 г. былі ўскрыты новыя даныя аб ізвергах з бухарынска-трацкісцкай банды шпіёнаў, шкоднікаў, забойц на службе разведак капіталістычных дзяржаў. Судовыя працэсы паказалі, што гэтыя падонкі чалавечага роду былі ў змове супроць Леніна, партыі, Совецкай дзяржавы ўжо з першых дзён Кастрычніцкай рэволюцыі. Выконваючы волю сваіх імперыялістычных гаспадароў, яны ставілі сваёй мэтай разрушэнне партыі і Совецкай дзяржавы, падрыў абароны краіны, аблягчэнне замежнай інтэрвенцыі, падрыхтоўку паражэння Чырвонай арміі, расчляненне СССР,ператварэнне яго ў калонію імперыялізма, аднаўленне ў СССР капіталістычнага рабства. Пад кіраўніцтвам Сталіна партыя і Совецкая ўлада разграмілі асіныя гнёзды ворагаў народа. У сваім дакладзе на пленуме ЦК у сакавіку 1937 г. «Аб недахопах партыйнай работы» Сталін даў чоткую праграму ўмацавання партыйных і совецкіх органаў, праграму мерапрыемстваў па павышэнню палітычнай пільнасці, высунуўшы лозунг «Авалодаць большэвізмам». Сталін узброіў партыю для барацьбы з ворагамі народа, навучыў зрываць з іх маскі. Совецкі суд раскрыў іх злодзеянні і прыгаварыў трацкісцка-бухарынскіх ізвергаў да расстрэлу. Совецкі народ адобрыў разгром трацкісцка-бухарынскай банды і перайшоў да чарговых спраў—да падрыхтоўкі выбараў у Вярхоўны Совет СССР, каб правесці іх арганізавана.

Пад кіраўніцтвам ЦК і таварыша Сталіна партыя разгарнула ва-ўсю падрыхтоўчую работу да выбараў. Увядзенне новай Канстытуцыі азначала паварот у палітычным жыцці краіны, далейшую дэмакратызацыю ўсяго яе палітычнага жыцця. Новая выбарчая сістэма прывяла да ўзмацнення палітычнай актыўнасці мас, іх кантролю ў адносінах органаў Совецкай улады, да ўзмацнення адказнасці органаў Совецкай улады перад народам. Пад кіраўніцтвам ЦК, пад кіраўніцтвам Сталіна партыя перабудавала ў адпаведнасці з новымі задачамі формы сваёй работы ў духу разгортвання ўнутрыпартыйнай дэмакратыі, умацавання пачаткаў дэмакратычнага цэнтралізма, развіцця крытыкі і самакрытыкі, узмацнення адказнасці партыйных органаў перад партыйнымі масамі. У аснову выбарчай кампаніі партыя паклала сталінскую ідэю блока комуністаў і беспартыйных.

11 снежня 1937 г., напярэдадні выбараў, Сталін выступіў у сваёй выбарчай акрузе. У сваёй прамове ён ускрыў карэннае адрозненне выбараў у СССР, сапраўды свабодных, ад выбараў у капіталістычных краінах, дзе на народ давяць эксплуататарскія класы. У нас у СССР эксплуататарскія класы ліквідаваны, соцыялізм ужо ўвайшоў у быт і на гэтай аснове адбываюцца выбары. Сталін вызначыў далей, якімі палітычнымі дзеячамі павінны быць выбраннікі народа, дэпутаты Вярхоўнага Совета. Народ павінен патрабаваць, каб яны былі палітычнымі дзеячамі ленінскага тыпу, такімі-ж яснымі, пэўнымі, бясстрашнымі ў баі, свабоднымі ад усякага падабенства панікі, бязлі-

тасны мі да ворагаў народа, мудрымі і непаспешлівымі ў вырашэнні складаных палітычных пытанняў, дзе патрэбна ўсебаковая арыентацыя, такімі-ж праўдзівымі і любячымі свой народ, якім быў Ленін.

Уся краіна слухала прамову свайго мудрага, геніяльнага правадыра. Словы яго глыбока запалі ў сазнанне працоўных. Прамова Сталіна вызначыла прынцыпы дзейнасці выбраннікаў народа, яна натхніла народ, яшчэ больш змацавала блок комуністаў і беспартыйных.

12 снежня адбыліся выбары ў Вярхоўны Совет СССР. Яны ператварыліся ва ўсенароднае свята, у таржаство Совецкага народа. З 94 мільёнаў выбаршчыкаў прымала ўдзел у галасаванні 91 мільён з лішнім (96,8 процанта); 90 мільёнаў чалавек сваім аднадушным галасаваннем за кандыдатаў блока комуністаў і беспартыйных пацвердзілі перамогу соцыялізма. Гэта была выдатнейшая перамога сталінскага блока комуністаў і беспартыйных, трыумф партыі Леніна—Сталіна, трыумф ленінска-сталінскага кіраўніцтва партыі.

Маральна-палітычнае адзінства Совецкага народа атрымала тут сваё бліскучае пацвярджэнне. Сталін—першы выбраннік народа, першы дэпутат Вярхоўнага Совета СССР.

Узросшая ў гіганцкай ступені актыўнасць мас і велізарныя задачы далейшага соцыялістычнага будаўніцтва па-новаму паставілі пытанне аб ідэйнай і палітычнай загартоўцы нашых кадраў.

Таварыш Сталін у радзе сваіх выступленняў з усёй астрынёй паставіў перад нашымі кадрамі задачу авалодання большэвізмам. Таварыш Сталін указваў, што ў нас ёсць усе сродкі і магчымасці, неабходныя для таго, каб падрыхтаваць нашы кадры ідэалагічна і загартаваць іх палітычна, і што ад гэтага залежыць на дзевяць дзесятых вырашэнне ўсіх нашых практычных задач. Камісія Цэнтральнага Камітэта ВКП(б) пад кіраўніцтвам таварыша Сталіна, пры яго асабістым актыўнейшым удзеле, стварае «Кароткі курс гісторыі Усесаюзнай комуністычнай партыі (большэвікоў)».

Выхад у свет гэтай кнігі з'явіўся буйнейшай падзеяй у ідэйным жыцці большэвіцкай партыі. Партыя атрымала новую магутную ідэйную зброю большэвізма, сапраўдную энцыклапедыю асноўных ведаў у галіне марксізма-ленінізма. Са сталінскай чоткасцю і глыбінёй у гэтай кнізе выкладзен і абагулен гіганцкі гістарычны вопыт комуністычнай партыі, роўнага якому не мела і не мае ні адна партыя ў свеце. У «Кароткім курсе гісторыі ВКП(б)» паказана далейшае развіццё марксізма ў новых умовах класавай барацьбы пролетарыята, марксізма эпохі імперыялізма і пролетарскіх рэволюцый, марксізма эпохі перамогі соцыялізма на адной шостай частцы зямлі. Гэта кніга за кароткі тэрмін разыйшлася ў велізарнай колькасці экземпляраў. «Трэба прама сказаць,—гаварыў тав. Жданаў на XVIII з'ездзе партыі,—што за час існавання марксізма гэта першая марксісцкая кніга, якая атрымала такое шырокае распаўсюджанне».

У рабоце таварыша Сталіна, напісанай для «Кароткага курса гісторыі ВКП(б)», «Аб дыялектычным і гістарычным матэрыялізме», дано ў гранічна яснай і сціслай форме геніяльнае ізлажэнне асноў дыялектычнага і гістарычнага матэрыялізма. У гэтай рабоце таварыш Сталін дае абагуленне ўсяго, што ўнеслі Маркс, Энгельс і Ленін у вучэнне аб дыялектыцы, і развівае далей вучэнне дыялектычнага і гістарычнага матэрыялізма на аснове навейшых даных навукі і рэволюцыйнай практыкі.

Таварыш Сталін развівае дыялектычны матэрыялізм як тэарэ-

тычную аснову комунізма, як светапогляд марксісцка-ленінскай партыі, які ідэйна ўзбройвае рабочы клас у яго барацьбе за заваяванне дыктатуры пралетарыята і пабудову комунізма. З асобаю сілай паказана ў гэтай рабоце ўнутраная сувязь, існуючая паміж філасофіяй марксізма-ленінізма і практычнай рэволюцыйнай дзейнасцю большэвіцкай партыі. Каб не памыліцца ў палітыцы, вучыць тав. Сталін, трэба кіравацца палажэннямі марксісцкага дыялектычнага метада, трэба ведаць законы гістарычнага развіцця.

Работа І. В. Сталіна «Аб дыялектычным і гістарычным матэрыялізме», напісаная непараўнальным майстрам марксісцкага дыялектычнага метада, абагульваючая гіганцкі практычны і тэарэтычны вопыт большэвізма, **узнімае на новую, вышэйшую ступень дыялектычны матэрыялізм, з'яўляецца сапраўднай вяршыняй марксісцка-ленінскай філасофскай мыслі.**

У сакавіку 1939 года Сталін кіруе работай XVIII з'езда партыі. З'езд з'явіўся велічнай дэманстрацыяй нябачанага яшчэ адзінства і маналітнасці ўсёй партыі, яе згуртавання вакол ленінска-сталінскага Цэнтральнага Камітэта.

У справаздачным дакладзе Сталін даў глыбокі аналіз міжнароднага становішча Совецкага Саюза і выкрыў планы падпальшчыкаў вайны і інтэрвенцыі супроць СССР. З часу XVII з'езда партыі прайшло пяць год. Для капіталістычных краін гэты перыяд быў перыядам сур'ёзнейшых патрасенняў як у галіне эканомікі, так і ў галіне палітыкі. За эканамічным крызісам 1929—1932 гг. і дэпрэсіяй асобага роду паследаваў з другой палавіны 1937 г. новы эканамічны крызіс, які захваціў ЗША, Англію, Францыю і рад іншых капіталістычных краін. Абвастрылася да крайніх межаў міжнароднае становішча, пацярпела крушэнне пасляваенная сістэма мірных дагавораў, пачалася новая, другая імперыялістычная вайна. Сапраўды з геніяльнай празарлівасцю таварыш Сталін раскрыў махінацыі правакатараў вайны і з усёй дакладнасцю вызначыў нашы прынцыпы ў галіне знешняй палітыкі ў гэтай складанай міжнароднай абстаноўцы. Ён гаварыў:

«Задачы партыі ў галіне знешняй палітыкі:

1. Праводзіць і надалей палітыку міру і ўмацавання дзелавых сувязей з усімі краінамі;

2. Захоўваць асцярожнасць і не даваць уцягнуць у канфлікты нашу краіну правакатарам вайны, якія прывыклі заграбаць жар чужымі рукамі;

3. Усямерна ўмацоўваць баявую магутнасць нашай Чырвонай арміі і Ваенна-Марскога Чырвонага флота;

4. Мацаваць міжнародныя сувязі дружбы з працоўнымі ўсіх краін, зацікаўленымі ў міры і дружбе паміж народамі» [44]).

Ахарактарызаваўшы дасягненні і поспехі соцыялізма, рост соцыялістычнай гаспадаркі, уздым матэрыяльнага і культурнага ўзроўню народа, далейшае ўмацаванне совецкага ладу, таварыш Сталін высунуў перад партыяй і ўсім Совецкім народам новую вялікую гістарычную задачу: на працягу бліжэйшых 10—15 год дагнаць і перагнаць галоўныя капіталістычныя краіны ў эканамічных адносінах, г. зн. у сэнсе вытворчасці прадукцыі на душу насельніцтва.

«Мы перагналі,—гаварыў таварыш Сталін,—галоўныя капіталі-

[44]) **І. Сталін.** Пытанні ленінізма, стар. 574—575.

стычныя краіны ў сэнсе тэхнікі вытворчасці і тэмпаў развіцця прамысловасці. Гэта вельмі добра. Але гэтага мала. Трэба перагнаць іх таксама ў эканамічных адносінах. Мы гэта можам зрабіць, і мы гэта павінны зрабіць. Толькі ў тым выпадку, калі перагонім эканамічна галоўныя капіталістычныя краіны, мы можам разлічваць, што наша краіна будзе поўнасцю насычана прадметамі спажывання, у нас будзе багацце прадуктаў, і мы атрымаем магчымасць зрабіць пераход ад першай фазы комунізма да другой яго фазы» [45]).

У якасці адной з цэнтральных задач партыі таварыш Сталін у сваім дакладзе намеціў цэлую навукова-абгрунтаваную большэвіцкую праграму работы па вырошчванню, выхоўванню, падбору, вылучэнню і праверцы кадраў.

Абрысоўваючы шлях, пройдзены партыяй за перыяд ад XVII да XVIII з'езда, таварыш Сталін гаварыў:

«Галоўны вынік заключаецца ў тым, што рабочы клас нашай краіны, знішчыўшы эксплуатацыю чалавека чалавекам і ўцвярдзіўшы соцыялістычны лад, даказаў усяму свету правату сваёй справы. У гэтым галоўны вынік, бо ён умацоўвае веру ў сілы рабочага класа і ў немінучасць яго канчатковай перамогі» [46]).

Даклад Сталіна на XVIII з'ездзе ВКП(б) з'явіўся праграмным дакументам комунізма, далейшым крокам наперад у развіцці марксісцка-ленінскай тэорыі. Сталін развіў далей ленінскую тэорыю соцыялістычнай рэволюцыі. Ён прадоўжыў вучэнне аб магчымасці пабудовы соцыялізма ў адной краіне да **вучэння аб магчымасці пабудовы комунізма ў нашай краіне і ў тым выпадку, калі захаваецца капіталістычнае акружэнне.** Гэты вывад таварыша Сталіна належыць да выдатных адкрыццяў марксісцка-ленінскай тэорыі, роўным па свайму значэнню ленінскаму адкрыццю аб магчымасці перамогі соцыялізма ў адной краіне. Ён узбагачае ленінізм, узбройвае рабочы клас новай ідэйнай зброяй, дае партыі вялікую перспектыву барацьбы за перамогу комунізма, рухае наперад марксісцка-ленінскую тэорыю.

Ленін напісаў сваю вядомую работу «Дзяржава і рэволюцыя» у жніўні 1917 года, г. зн. за некалькі месяцаў да Кастрычніцкай рэволюцыі і стварэння Совецкай дзяржавы. Ленін абараніў у гэтай кнізе вучэнне Маркса і Энгельса аб дзяржаве ад скажэння і апашлення з боку апартуністаў. Ленін збіраўся напісаць другую частку «Дзяржавы і рэволюцыі», дзе ён разлічваў падвесці галоўныя вынікі вопыту рускіх рэволюцый 1905 і 1917 гадоў. Аднак смерць перашкодзіла яму выканаць гэту задачу.

Таварыш Сталін, апіраючыся на гіганцкі вопыт больш чым дваццацігадовага існавання совецкай соцыялістычнай дзяржавы ва ўмовах капіталістычнага акружэння, стварыў **цэльнае і закончанае вучэнне аб соцыялістычнай дзяржаве.** Сталін даў разгорнуты аналіз этапаў развіцця соцыялістычнай дзяржавы, змянення яе функцый, у сувязі са змяненнем абстаноўкі, абагуліў увесь вопыт будаўніцтва Совецкай дзяржавы, прышоў да вываду аб неабходнасці захавання дзяржавы пры комунізме ў выпадку, калі будзе прадаўжаць існаваць капіталістычнае акружэнне.

Тое, чаго ў пытаннях тэорыі дзяржавы і дыктатуры рабочага класа не паспеў зрабіць Ленін, тое зрабіў Сталін!

---

[45]) **І. Сталін.** Пытанні ленінізма, стар. 578—579.
[46]) Там-жа, стар. 610.

Даклад таварыша Сталіна на XVIII з'ездзе ВКП(б)—гэта праграма завяршэння пабудовы бяскласавага соцыялістычнага грамадства і паступовага пераходу ад соцыялізма да комунізма. З'езд большэвікоў аднадушна адобрыў справаздачны даклад свайго правадыра і зацвердзіў гэты даклад як дырэктыву, як закон усёй дзейнасці партыі.

Даклад таварыша Сталіна на XVIII з'ездзе ВКП(б) з'яўляецца бліскучым прыкладам марксісцка-ленінскага навуковага прадбачання ў галіне міжнародных адносін. Сталінскія мудрыя ўказанні аб задачах нашай знешняй палітыкі, сталінскае майстэрства кіраўніцтва забяспечылі буйнейшыя перамогі знешняй палітыкі Совецкага Саюза, яшчэ вышэй узнялі значэнне Совецкага Саюза як сур'ёзнай міжнароднай сілы, якая можа ўздзейнічаць на міжнародную абстаноўку і змяняць яе ў інтарэсах працоўных. Кіруючыся ўказаннямі таварыша Сталіна, урад Совецкага Саюза расстроіў каварныя планы падпальшчыкаў вайны, якія любяць заграбаць жар чужымі рукамі, забяспечыў мірную працу народаў СССР. Заключыўшы дагаворы аб узаемадапамозе з прыбалтыйскімі дзяржавамі, Совецкі Саюз нязмерна ўмацаваў пазіцыі абароны краіны соцыялізма, умацаваў сваё міжнароднае становішча.

Совецкі Саюз пад кіраўніцтвам Сталіна вырваў з-пад іга польскіх памешчыкаў і капіталістаў нашых адзінакроўных братоў—народы Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі. Гэтыя народы ўліліся ў адзіную брацкую сям'ю свабодных і шчаслівых народаў СССР.

Нельга гаварыць аб таварышу Сталіне, не сказаўшы аб яго ўплыве на міжнародны рабочы рух. Комуністычны Інтэрнацыянал рос і развіваўся пад кіраўніцтвам вялікіх правадыроў Леніна і Сталіна. Як гісторыя І Інтэрнацыянала неразрыўна звязана з імёнамі Маркса і Энгельса, так гісторыя III, Комуністычнага Інтэрнацыянала астанецца назаўсёды злітай з імёнамі Леніна і Сталіна. Ленін і Сталін заклалі асновы Комуністычнага Інтэрнацыянала і вялі яго ў першы перыяд бурных пасляваенных гадаў. Сталін адстаяў Комуністычны Інтэрнацыянал ад нападу ўсіх ворагаў ленінізма.

У Сталіне рабочыя масы капіталістычных краін бачаць свайго правадыра, які мудра накіроўвае вялікі карабль соцыялізма ў інтарэсах вызвалення пролетарыята і працоўных усяго свету. У Сталіне мільёны рабочых бачаць свайго настаўніка, на класічных працах якога яны вучыліся і вучацца, як трэба паспяхова змагацца супроць класавага ворага, як трэба рыхтаваць умовы канчатковай перамогі пролетарыята. Уплыў Сталіна—гэта ўплыў вялікай слаўнай большэвіцкай партыі, у якой рабочыя капіталістычных краін бачаць узорную партыю рабочага класа, дастойную пераймання. Пад кіраўніцтвам гэтай партыі, партыі **новага тыпу** быў не толькі нізвергнут капіталізм і ўстаноўлена пролетарская дыктатура, але і пабудован соцыялізм у СССР. Няхай папрабуюць паны рэакцыянеры вытравіць у рабочых жаданне ісці па стапах такой партыі!

Рабочыя ўсіх краін ведаюць, што кожнае слова, сказанае Сталіным,—гэта слова 183-мільённага народа, што за кожным яго словам следуе справа, што сума гэтых спраў мяняе суадносіны сіл паміж светам працы і светам капітала на міжнароднай арэне. Уплыў Сталіна вынікае з таго, што правата намячаемых ім перспектыў пацверджана ў сазнанні працоўных мас усяго свету сусветна-гістарычным вопытам пабеданоснай соцыялістычнай рэволюцыі.



* * *

Жыццё і дзейнасць таварыша Сталіна неразрыўна звязаны з дзейнасцю В. І. Леніна, з гісторыяй нашай гераічнай большэвіцкай партыі. У суровыя годы падполля, у барацьбе за перамогу Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі, у грамадзянскай вайне, у барацьбе з ворагамі народа, з ворагамі соцыялізма, у барацьбе за пабудову і ўмацаванне соцыялістычнага грамадства—ярка сказаліся стальная воля і рэволюцыйная энергія таварыша Сталіна.

І. В. Сталін—геніяльны правадыр і настаўнік партыі, вялікі стратэг соцыялістычнай рэволюцыі. Непрымірымасць да ворагаў соцыялізма, найглыбейшая прынцыповасць, спалучэнне ў сваёй дзейнасці яснай рэволюцыйнай перспектывы, яснасці мэты з выключнай цвёрдасцю і настойлівасцю ў дасягненні мэты, мудрасць і канкрэтнасць кіраўніцтва, неразрыўная сувязь з масамі—такія характэрныя рысы сталінскага стылю ў рабоце. Ні аднаму правадыру ў свеце не прыходзілася яшчэ кіраваць такімі велізарнымі, мільёнымі масамі рабочых і сялян, як І. В. Сталіну. І. В. Сталін умее, як ніхто, абагульняць рэволюцыйны вопыт мас, падхватваць і развіваць іх ініцыятыву, вучыцца ў мас і вучыць масы, весці іх наперад да перамогі.

Уся дзейнасць Сталіна дае нам узор спалучэння велізарнай тэарэтычнай магутнасці з выключным па свайму аб'ёму і размаху практычным вопытам рэволюцыйнай барацьбы.

Сталін—разам са сваімі бліжэйшымі саратнікамі тт. Молатавым, Варашылавым, Кагановічам, Калініным, Мікаянам, Андрэевым, Жданавым, Хрушчовым, Берыя, Швернікам і іншымі выпрабаванымі ленінцамі, на чале вялікай партыі большэвікоў кіруе нябачанай у гісторыі многанацыянальнай соцыялістычнай дзяржавай рабочых і сялян. Ва ўсіх галінах соцыялістычнага будаўніцтва яго ўказанні з'яўляюцца кіраўніцтвам для дзеяння. Работа таварыша Сталіна выключна многагранна; яго энергія сапраўды здзіўляюча. Круг пытанняў, якія займаюць увагу Сталіна, неабдымны: складанейшыя пытанні тэорыі марксізма-ленінізма—і школьныя падручнікі для дзяцей; праблемы знешняй палітыкі Совецкага Саюза—і штодзенныя клопаты аб добрабыце пролетарскай сталіцы; стварэнне Вялікага паўночнага марскога шляху—і асушэнне балот Калхіды; праблемы развіцця совецкай літаратуры і мастацтва—і рэдагаванне статута калгаснага жыцця.

Усе ведаюць непераадалімую сакрушальную сілу сталінскай логікі, крыштальную яснасць яго розуму, стальную волю, адданасць партыі, гарачую веру ў народ і любоў да народа. Усім вядома яго скромнасць, прастата, чуткасць да людзей і бязлітаснасць да ворагаў народа. Усім вядома яго нецярпімасць да шуміхі, да фразёраў і балбатуноў, да ныцікаў і панікёраў. Сталін мудры, непаспешлівы ў вырашэнні складаных палітычных пытанняў, там, дзе патрэбен усебаковы ўлік усіх плюсаў і мінусаў. І разам з тым Сталін—найвялікшы майстар смелых рэволюцыйных рашэнняў і крутых паваротаў.

Сталін—гэта Ленін сёння.

Адказваючы арганізацыям і таварышам, вітаўшым яго ў 1929 г. у дзень 50-годдзя з дня нараджэння, Сталін пісаў: «Вашы віншаванні і прывітанні адношу на кошт вялікай партыі рабочага класа, нарадзіўшай і выхаваўшай мяне па вобразу свайму і падабенству... Можаце не сумнявацца, таварышы, што я гатоў і надалей аддаць справе рабочага класа, справе пролетарскай рэволюцыі і сусветнага кому-

нізма ўсе свае сілы, усе свае здольнасці і, калі патрэбна будзе, усю сваю кроў, каплю за капляй» [47]).

У Сталіне народы СССР бачаць увасабленне свайго гераізма, сваёй любві да радзімы, свайго патрыятызма. «За Сталіна! За радзіму!»—з такім лозунгам байцы слаўнай Чырвонай арміі разграмілі ворага і ўстанавілі совецкі флаг на сопках ля возера Хасан.

У Сталіне народы Совецкага Саюза бачаць увасабленне сваіх надзей і спадзяванняў, увасабленне атрыманых перамог. «За Сталіна! За Сталінскую Канстытуцыю!»—з такімі воклічамі ішлі героі Чырвонай арміі ў бой супроць нарушыцеляў граніц на Далёкім Усходзе.

Імя Сталіна—сцяг вызвалення. «За Сталіна!—з такім заклікам Чырвоная армія імклівым маршам ішла на вызваленне братоў беларусаў і украінцаў ад іга панскай Польшчы.

Імя Сталіна—сімвал мужнасці, сімвал славы Совецкага народа, заклік да новых гераічных спраў ва славу Совецкага народа. З іменем Сталіна папанінцы рабілі свой гістарычны подвіг. З мыслю аб Сталіне стаханаўцы і стаханаўкі ствараюць нябачаныя ў свеце ўзоры высокай прадукцыйнасці працы, паскараючы пераход нашай радзімы да светлых вяршынь комунізма. З думай аб Сталіне няўтомна працуюць калгаснікі і калгасніцы, змагаючыся за права быць адзначанымі на Усесаюзнай Сельскагаспадарчай выстаўцы, закладваючы асновы для поўнага багацця прадуктаў, уласцівага комуністычнаму грамадству. З іменем Сталіна лятаюць усё вышэй, усё быстрэй, усё далей героі-лётчыкі, любоўна празваныя ў народзе сталінскімі сокаламі.

Імя Сталіна носяць у сваім сэрцы юнакі і дзяўчаты краіны соцыялізма, піонеры і піонеркі. Самая заветная іх мара—быць, як Ленін, як Сталін, быць палітычнымі дзеячамі ленінска-сталінскага тыпу. Па закліку партыі, таварыша Сталіна совецкая моладзь будавала гіганты соцыялістычнай індустрыі, стварала гарады ў тайзе, будавала і будуе цудоўныя караблі, заваёўвае Арктыку, асвойвае новую тэхніку ў індустрыі і ў сельскай гаспадарцы, мацуе абарону нашай радзімы, творча працуе ў навуцы, у мастацтве. Выхаваны Леніным і Сталіным комсамол з'яўляецца верным памочнікам большэвіцкай партыі, надзейнаю зменай старэйшага пакалення змагароў за комунізм.

На шматлікіх мовах складаюць народы Совецкага Саюза песні аб Сталіне. У гэтых песнях адлюстравана найвялікшая любоў і бязмежная адданасць народаў Совецкага Саюза да свайго вялікага правадыра, настаўніка і друга.

Імя Сталіна ў народнай творчасці зліваецца разам з іменем Леніна. «Мы ідзем са Сталіным як з Леніным, гаворым са Сталіным як з Леніным, ведае ўсе ён нашы думкі-думушкі, усё жыццё сваё ён аб нас клапоціцца»—гаворыцца ў адным з выдатных рускіх народных сказаў.

Імя Сталіна з'яўляецца сімвалам маральнага і палітычнага адзінства совецкага грамадства.

«Імёны Леніна і Сталіна нараджаюць светлыя надзеі ва ўсіх кутках свету і грымяць, як заклік да барацьбы за мір і шчасце народаў, да барацьбы за поўнае вызваленне ад капіталізма» (Молатаў).

Соцыялізм перамог у СССР і атрымлівае новыя перамогі таму, што ўсёй нашай работай і барацьбой кіруе найвялікшы чалавек су-

[47]) „Правда" № 302, 22 снежня 1929 г.

часнасці, верны прадаўжальнік справы Леніна—Іосіф Вісарыёнавіч Сталін.

Аднадушнаю думкай, ідучым з глыбіні сэрца пажаданнем працоўных нашай краіны і ўсяго свету, з'яўляецца:

Няхай жыве і здраўствуе на многія годы наш родны і вялікі Сталін!

Няхай жыве вялікі, непераможны сцяг Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна!

*Інстытут Маркса—Энгельса—Леніна пры ЦК ВКП(б).*

## І. СТАЛІН

# Як разумее соцыялдэмакратыя нацыянальнае пытанне?

*1904 г. Газета „Пролетарыяціс брдзола“ („Барацьба пролетарыята“).*

*Пераклад з грузінскай.*

Усё змяняецца... Змяняецца грамадскае жыццё і разам з ім змяняецца і «нацыянальнае пытанне». У розныя часы розныя класы выступаюць на арэну барацьбы,— і кожны клас па свойму разумее «нацыянальнае пытанне». Ясна, што «нацыянальнае пытанне» у розныя часы **служыць розным інтарэсам,** прымае розныя адценні ў залежнасці ад таго, **які** клас і **калі** высоўвае яго.

Існавала, напрыклад, у нас так званае **дваранскае «нацыянальнае пытанне»,** калі—пасля «далучэння Грузіі да Расіі»—грузінскае дваранства адчула як нявыгадна было для яго страціць старыя прывілеі і магутнасць, якія яно мела пры грузінскіх царах, і, лічачы «простае падданства» умаленнем свайго дастоінства, пажадала **«вызвалення Грузіі». Гэтым яно хацела паставіць на чале «Грузіі» грузінскіх цароў і дваранства і перадаць ім,** такім чынам, **лёс грузінскага народа!** Гэта быў **феадальна-манархічны «нацыяналізм».** Гэты «рух» не пакінуў ніякага прыкметнага следу ў жыцці грузін, не здабыў сабе славы ні адным фактам, калі не мець на ўвазе паасобныя змовы грузінскіх дваран супроць рускіх правіцеляў на Каўказе. Дастаткова было падзеям грамадскага жыцця злёгку датыкнуцца гэтага і без таго слабога «руху», каб разбурыць яго да аснавання. І, сапраўды, развіццё таварнай вытворчасці, адмена прыгонніцтва, аснаванне дваранскага банка, узмацненне класавага антаганізма ў горадзе і ў вёсцы, узмацніўшыйся рух сялянскай беднаты і т. п.—усё гэта нанесла смяротны ўдар грузінскаму дваранству і, разам з ім, **«феадальна-манархічнаму нацыяналізму».** Грузінскае дваранства раскалолася на дзве групы. Адна з іх адмовілася ад усякага «нацыяналізма» і працягнула руку рускаму самадзяржаўю з тым, каб замест гэтага атрымаць ад яго цёплыя мясцечкі, танны крэдыт і сельскагаспадарчыя прылады, каб урад забяспечыў яе ад сельскіх «бунтаўшчыкоў» і т. п. Другая-ж, больш слабая, група грузінскага дваранства падружылася з грузінскімі епіскапамі і архімандрытамі і, такім чынам,

укрыла ганімы жыццём «нацыяналізм» пад крыльца клерыкалізма. Гэта група з вялікім захапленнем займаецца аднаўленнем разбураных грузінскіх цэркваў (гэта з'яўляецца галоўным артыкулам яе «праграмы»!)—«помнікаў былой велічы»—і пачціва чакае цуда, заклікаючага ажыццявіць яе **прыгонніцка-манархічныя** «жаданні».

Такім чынам, феадальна-манархічны нацыяналізм у апошнія мінуты свайго жыцця прыняў клерыкальную форму.

Разам з тым сучаснае жыццё высунула ў нас **нацыянальнае пытанне буржуазіі. Калі маладая** грузінская буржуазія адчула, наколькі цяжка для яе свабодная канкурэнцыя з «замежнымі» капіталістамі, яна вуснамі грузінскіх нацыянал-дэмакратаў пачала лепятаць аб **незалежнай Грузіі.** Грузінская буржуазія хацела аградзіць грузінскі рынак таможным кардонам, сілаю выгнаць з гэтага рынку «замежную» буржуазію, штучна падняць цэны на тавары і такімі «патрыятычнымі» штукамі дабіцца поспеху на арэне ўзбагачэння.

Такой была і застаецца мэта нацыяналізма грузінскай буржуазіі. Няма чаго і казаць, што для ажыццяўлення гэтай мэты патрэбна была сіла, а сіла—у пролетарыяце. Толькі пролетарыят мог удыхнуць жыццё выхалашчанаму «патрыятызму» буржуазіі. Неабходна было прыцягнуць на свой бок пролетарыят і, вось, на сцэну выходзяць «нацыянал-дэмакраты». Многа пораху патрацілі яны для абвяржэння навуковага соцыялізма, многа ганілі яны соцыял-дэмакратаў і раілі грузінскім пролетарыям адыйсці ад іх, усхвалялі грузінскі пролетарыят і ўгаварвалі яго «у інтарэсах саміх-жа рабочых» узмацніць як-небудзь грузінскую буржуазію. Яны неадступна ўпрашалі грузінскіх пролетарыяў: не губіце «Грузію» (або грузінскую буржуазію?!), забудзьце «унутраныя рознагалоссі», падружыцеся з грузінскай буржуазіяй і т. п. Але марна! Саладжавыя казкі буржуазных публіцыстаў не маглі ўсыпіць грузінскі пролетарыят! Бязлітасныя атакі грузінскіх марксістаў, у асаблівасці-ж магутная класавая сутычка, ператварыўшая ў адзін соцыялістычны атрад рускіх, армянскіх, грузінскіх і іншых пролетарыяў,—нанеслі нашым **буржуазным нацыяналістам** сакрушальны ўдар і выгналі іх з поля барацьбы.

«Для аднаўлення пасаромленага імені» нашым збегшым патрыётам неабходна было «змяніць хоць-бы афарбоўку», хоць-бы апрануцца ў соцыялістычны ўбор, калі яны і не маглі засвоіць соцыялістычных мысляй. І, сапраўды, на сцэну вынырнуў нелегальны... буржуазна-нацыяналістычны—з дазволу кажучы—«соцыялістычны» орган **«Сакартвело»!** Так хацелі спакусіць грузінскіх рабочых! Але было ўжо позна! Грузінскія рабочыя навучыліся адрозніваць чорнае ад белага, яны лёгка здагадаліся, што буржуазныя нацыяналісты «змянілі толькі афарбоўку», а не сутнасць сваіх поглядаў, што ў **«Сакартвело» адна толькі назва соцыялістычная.** Так, зразумелі гэта і паднялі на смех «збавіцеляў» Грузіі! Не апраўдаліся надзеі донкіхотаў з «Сакартвело»!

З другога боку, наша эканамічнае развіццё паступова пракладае мост паміж перадавымі кругамі грузінскай буржуазіі і «Расіяй», эканамічна і палітычна звязвае гэтыя кругі з «Расіяй», і тым самым расхіствае глебу і без таго расхістанага буржуазнага нацыяналізма. І гэта другі ўдар па нашаму буржуазнаму нацыяналізму!

На арэну барацьбы выступіў новы клас, **пролетарыят,**—і разам з ім узнікла новае «нацыянальнае пытанне», **«нацыянальнае пытанне» пролетарыята.** Наколькі адрозніваецца пролетарыят ад дваранства і буржуазіі, настолькі-ж адрозніваецца высунутае пролетарыятам «нацыянальнае пытанне» ад «нацыянальнага пытання» дваранства і буржуазіі

Цяпер пагаворым аб гэтым «нацыяналізме».

Як разумее соцыял-дэмакратыя **«нацыянальнае пытанне»?** Расійскі пролетарыят даўно загаварыў аб барацьбе. Як вядома, мэтаю ўсякай барацьбы з'яўляецца перамога. Але для перамогі пролетарыята неабходна аб'яднанне **ўсіх** рабочых **без адрознення нацыянальнасці.** Ясна, што разбурэнне нацыянальных перагародак і цеснае згуртаванне рускіх, грузінскіх, армянскіх, польскіх, яўрэйскіх і інш. пролетарыяў з'яўляецца неабходнай умовай перамогі расійскага пролетарыята. Такавы інтарэсы расійскага пролетарыята.

Але расійскае самадзяржаўе, як злейшы вораг расійскага пролетарыята, пастаянна аказвае супраціўленне справе аб'яднання пролетарыяў. Яно разбойніцкі праследуе нацыянальную культуру, мову, звычаі і ўстановы «чужых» нацыянальнасцей Расіі; самадзяржаўе пазбаўляе іх неабходных грамадзянскіх праў, прыцясняе з усіх бакоў, фарысейскі сее паміж імі недавер'е і варожасць, падбухторвае іх да кровепралітных сутычак, паказваючы гэтым, што адзіная мэта рускага самадзяржаўя заключаецца ў тым, каб рассварыць нацыі, якія насяляюць Расію, абвастрыць паміж імі нацыянальнае адрозненне, умацаваць нацыянальныя перагародкі і тым самым з большым поспехам раз'яднаць пролетарыяў, з большым поспехам распыліць увесь расійскі пролетарыят на дробныя нацыянальныя групы і такім чынам вырыць магілу класавай самасвядомасці рабочых, іх класаваму аб'яднанню.

Такавы інтарэсы рускай рэакцыі, такава палітыка рускага самадзяржаўя.

Ясна, што інтарэсы расійскага пролетарыята, рана ці позна, немінуча павінны былі сутыкнуцца з рэакцыйнай палітыкай царскага самадзяржаўя. Так і адбылося, і іменна на гэтай глебе ўзнікла ў соцыялдэмакратыі «нацыянальнае пытанне».

Як разбурыць нацыянальныя перагародкі, пабудаваныя паміж нацыямі, як знішчыць нацыянальную замкнутасць, каб лепш зблізіць аднаго з другім расійскіх пролетарыяў, каб шчыльней згуртаваць іх?

Такі змест «нацыянальнага пытання» у соцыялдэмакратыі. Раз-

дзяліцца на асобныя нацыянальныя партыі і стварыць з іх «свабодны саюз»,—адказваюць **федэралісты**-соцыялдэмакраты.

Тое-ж самае цвердзіць «соцыялдэмакратычная арганізацыя армянскіх рабочых».

Як бачыце, нам раяць не аб'яднацца ў адну расійскую партыю з адзіным цэнтрам на чале, а раздзяліцца на некалькі партый з некалькімі кіруючымі цэнтрамі, і ўсё гэта для ўзмацнення класавага адзінства! Мы хочам **зблізіць** аднаго з другім пролетарыяў розных нацый. Што-ж мы павінны прадпрыняць?—Аддаліце аднаго ад другога пролетарыяў і дасягнеце мэты!—адказваюць федэралісты-соцыялдэмакраты. Мы хочам пролетарыяў аб'яднаць у адну партыю. Што-ж мы павінны прадпрыняць?—Распыліце расійскі пролетарыят на паасобныя партыі і вы дасягнеце мэты!—адказваюць федэралісты-соцыялдэмакраты. Мы хочам знішчыць нацыянальныя перагародкі. Якія меры прадпрыняць?—Умацуйце нацыянальныя перагародкі арганізацыйнымі перагародкамі і дасягнеце мэты!—адказваюць яны. І ўсё гэта раяць нам, расійскім пролетарыям, якія вядуць барацьбу ў аднолькавых палітычных умовах, маюць аднаго і таго-ж агульнага ворага! Адным словам, нам гавораць: дзейнічайце на радасць ворагам і пахавайце вашу святую мэту вашымі-ж рукамі!

Але згодзімся на мінуту з федэралістамі-соцыялдэмакратамі і паследуем за імі,—паглядзім, куды яны нас прывядуць! Сказана: праследуй ашуканца да парога ашуканства.

Дапусцім, што мы паслухаліся нашых федэралістаў і аснавалі паасобныя нацыянальныя партыі. Якія паследуюць за гэтым вынікі?

Гэта не цяжка зразумець. Калі да сучаснага моманту, пакуль мы былі **цэнтралістамі**, галоўную ўвагу звaрачалі на **агульныя** ўмовы становішча пролетарыяў, на **адзінства** іх інтарэсаў, а аб іх «нацыянальных адрозненнях» гаварылі толькі пастолькі, паколькі гэта не супярэчыла іх **агульным** інтарэсам,—калі да сучаснага моманту пярвейшым пытаннем для нас было пытанне аб тым,—у чым сходзяцца паміж сабою пролетары нацыянальнасцей Расіі, што агульнага паміж імі,—каб на глебе гэтых агульных інтарэсаў пабудаваць адну цэнтралісцкую партыю рабочых усёй Расіі,—у сучасны момант, калі «мы» сталі федэралістамі, нашу ўвагу прыцягвае новае галоўнейшае пытанне: чым адрозніваюцца адзін ад другога пролетары нацыянальнасцей Расіі, якая розніца паміж імі, каб на глебе «нацыянальнага адрознення» пабудаваць паасобныя нацыянальныя партыі. Такім чынам другарадныя для цэнтраліста «нацыянальныя адрозненні» становяцца для федэраліста фундаментам нацыянальных партый.

Калі мы будзем следаваць па гэтаму шляху, то рана ці позна вымушаны будзем заключыць, што «нацыянальныя» і яшчэ якія-небудзь іншыя «адрозненні», напрыклад, армянскага пролетарыя такія-ж,

як і армянскай буржуазіі, што ў армянскага пролетарыя і армянскага буржуа аднолькавыя звычаі і характар, што яны складаюць адзін народ, адну непадзельную «нацыю» *). Адсюль недалёка да «глебы сумеснага дзеяння», на якую павінны стаць і буржуа і пролетары і працягнуць адзін другому рукі, як члены адной і той-жа «нацыі». Фарысейская палітыка самадзяржаўнага цара можа паказацца «новым» довадам такой дружбы. А разгаворы аб класавым антаганізме пакажуцца «няўмесным дактрынёрствам». А там яшчэ чыя-небудзь палітычная рука «смялей» датыкнецца вузка-нацыянальных

*) «Соцыялдэмакратычная арганізацыя армянскіх рабочых» толькі што зрабіла гэты пахвальны крок. Яна ў сваім «маніфесце» рашуча заяўляе, што «пролетарыят (армянскі, І. С.) нельга аддзяліць ад грамадства (армянскага, І. С.): аб'яднаны (армянскі) пролетарыят павінен быць самым разумным і моцным органам армянскага народа», што «армянскі пролетарыят, аб'яднаны ў соцыялістычную партыю, павінен імкнуцца да вызначэння армянскай грамадскай думкі, што армянскі пролетарыят будзе родным сынам свайго племені» і інш. (гл. арт. 3 Маніфеста «Соцыялдэмакратычнай арганізацыі армянскіх рабочых»).

Па-першае, незразумела: чаму «нельга аддзяліць армянскі пролетарыят ад армянскага грамадства», калі гэта «аддзяленне» адбываецца на кожным кроку? Хіба аб'яднаны армянскі пролетарыят не «аддзяліўся» ад армянскага грамадства, калі ён у 1900 годзе (у Тіфлісе) аб'явіў вайну армянскай буржуазіі і буржуазна-мыслячым армянам?! Што-ж прадстаўляе сабою «Соцыялдэмакратычная арганізацыя армянскіх рабочых», калі не класавую арганізацыю пролетарыяў армян, якія «аддзяліліся» ад іншых класаў армянскага грамадства? Або, можа быць «Соцыялдэмакратычная арганізацыя армянскіх рабочых» з'яўляецца арганізацыяй усіх класаў!? Ну, а ці можа змагаючыйся армянскі пролетарыят абмежавацца «вызначэннем армянскай грамадскай думкі», ці не абавязан ён ісці ўперад, аб'явіць барацьбу гэтай—да мазга касцей буржуазнай «грамадскай думцы» і ўдыхнуць у яе рэволюцыйны дух? Факты гавораць, што ён абавязан. Але калі гэта так, то само сабою ясна, што «Маніфест» павінен быў звярнуць увагу чытача не на «вызначэнне грамадскай думкі», а на барацьбу з гэтай думкай, на неабходнасць яе рэволюцыянізавання: гэтым ён лепш ахарактарызаваў-бы абавязкі «соцыялістычнага пролетарыята». І, урэшце, хіба армянскі пролетарыят можа быць «родным сынам свайго племені», калі адна частка гэтага племені—армянская буржуазія—як павук смокча яго кроў, а другая частка—армянскае духавенства—паміма таго, што смокча кроў рабочых, сістэматычна разбэшчвае яго свядомасць? Усе гэтыя пытанні простыя і немінучы, калі глядзець на справу з пункту погляду класавай барацьбы, але аўтары «Маніфеста» не заўважаюць гэтых пытанняў, таму што яны глядзяць на справу з федэралістычна-нацыяналістычнага пункту погляду, перанятага імі ў Бунда (яўрэйскі рабочы саюз). І наогул, аўтары «Маніфеста» як-бы паставілі сабе мэтай—ва ўсім пераймаць Бунд. У свой «Маніфест» яны ўнеслі і другі артыкул рэзалюцыі V з'езда Бунда «Аб становішчы Бунда ў партыі». Яны называюць «Соцыялдэмакратычную арганізацыю армянскіх рабочых» адзінай абаронцай інтарэсаў армянскага пролетарыята (гл. арт. 3 указанага «Маніфеста»). Аўтары «Маніфеста» забылі, што каўказскія камітэты нашай партыі вось ужо некалькі год лічацца прадстаўнікамі армянскіх (і іншых) пролетарыяў на Каўказе, што яны развіваюць у іх класавую самасвядомасць шляхам вуснай і друкаванай прапаганды і агітацыі на армянскай мове, кіруюць імі ў час барацьбы і інш., тады як «Соцыялдэмакратычная арганізацыя армянскіх рабочых» нарадзілася толькі пазаўчора. Усё гэта яны забылі, і, трэба спадзявацца, многае яшчэ забудуць, абы толькі дакладна пераняць арганізацыйныя і палітычныя погляды Бунда.

струн, пакуль яшчэ існуючых сярод пролетарыяў нацыянальнасцей Расіі, і прымусіць іх загучэць на адпаведны лад. Шавіністычнаму шарлатанству адкрыецца крэдыт (давер'е), сябры пакажуцца ворагамі, ворагі сябрамі—адбудзецца перапалох, здрабнее класавая самасвядомасць расійскага пролетарыята! Замест таго, каб **разбурыць нацыянальныя перагародкі,** мы па міласці федэралістаў, **яшчэ больш умацуем** іх арганізацыйнымі перагародкамі; замест таго, каб **рушыць уперад** класавую самасвядомасць пролетарыята, мы **адкінем яго назад** і падвергнем небяспечным іспытам. І «узрадуецца сэрца» самадзяржаўнага цара, бо яму ніколі не ўдалося-б запалучыць падобных нам даравых памочнікаў.

Няўжо гэта было нашай мэтай?!

І, урэшце, у той час, калі нам неабходна адзіная, гібкая, цэнтралізаваная партыя, Цэнтральны Камітэт якой зможа ў момант паставіць на ногі рабочых усёй Расіі і павесці іх на рашучы штурм самадзяржаўя і буржуазіі,—нам суюць у рукі ўродлівы, распылены на паасобныя партыі «федэралістычны саюз»! Замест вострай зброі нам даюць заржаўленую і запэўніваюць: гэтым вы, моў, хутчэй паканчыце з вашымі кроўнымі ворагамі!

Вось куды вядуць нас федэралісты-соцыялдэмакраты!

Але паколькі мы дамагаемся не «ўмацавання нацыянальных перагародак», а іх разбурэння, паколькі нам неабходна не заржаўленая, а вострая зброя, каб з коранем вырваць цяперашнюю несправядлівасць; паколькі мы хочам даставіць ворагу не радасць, а горыч, хочам зраўняць яго з зямлёй, ясна, што наш свяшчэнны абавязак—адвярнуцца ад федэралістаў і знайсці лепшы адказ для вырашэння «нацыянальнага пытання».

II

Да гэтага часу мы гаварылі аб тым, як не следуе вырашаць «нацыянальнае пытанне». Цяпер пагаворым аб тым, як трэба вырашаць гэта пытанне, г. зн. як вырашыла яго соцыялдэмакратычная рабочая партыя *).

Перш за ўсё неабходна памятаць, што дзеючая ў Расіі соцыялдэмакратычная партыя назвала сябе **Расійскай** (а не **рускай).** Відавочна, гэтым яна хацела нам паказаць, што яна пад сваім сцягам будзе збіраць не толькі рускіх пролетарыяў, але і пролетарыяў **усіх нацыянальнасцей** Расіі і, значыць, яна прыме ўсе меры для знішчэння ўзведзеных паміж імі **нацыянальных перагародак.**

Далей, наша партыя ачысціла «нацыянальнае пытанне» ад ахутваючага яго туману, які надаваў яму таемны выгляд, расчляніла гэта пытанне на паасобныя элементы, надала кожнаму з іх характар класавага патрабавання і падала іх у праграме ў выглядзе паасобных

*) Не лішнім будзе заўважыць, што ніжэйнаступнае з'яўляецца каментарыем да артыкулаў нашай партыйнай праграмы, якія адносяцца да нацыянальнага пытання.

артыкулаў. Гэтым яна ясна нам паказала, што **ўзятыя самі па сабе** так званыя «нацыянальныя інтарэсы» і «нацыянальныя патрабаванні» не маюць ніякай цаны, што гэтыя «інтарэсы» і «патрабаванні» варты ўвагі толькі настолькі, наколькі яны рухаюць уперад або могуць рушыць уперад класавую самасвядомасць пролетарыята, яго класавае развіццё.

Усім гэтым Расійская соцыялдэмакратычная рабочая партыя ясна намеціла той шлях, на які яна ўстала і тую пазіцыю, якую яна заняла пры вырашэнні «нацыянальнага пытання».

З якіх частак складаецца «нацыянальнае пытанне», чаго патрабуюць пп. федэралісты-соцыялдэмакраты?

1) **«Грамадзянская роўнасць для нацыянальнасцей Расіі»?**

Вас хвалюе пануючая ў Расіі грамадзянская няроўнасць? Вы хочаце звярнуць нацыянальнасцям Расіі адабраныя ўрадам грамадзянскія правы і таму патрабуеце для гэтых нацыянальнасцей грамадзянскай роўнасці? А мы хіба супроць **гэтага** патрабавання? Мы даскана разумеем, якое вялікае значэнне маюць грамадзянскія правы для пролетарыяў. Грамадзянскія правы—гэта зброя барацьбы; адабраць гэтыя правы—значыць адабраць зброю; а хто не ведае, што бяззбройныя пролетарыі не могуць добра змагацца? Для расійскага-ж. пролетарыята неабходна, каб пролетарыі ўсіх нацыянальнасцей Расіі змагаліся добра, бо чым лепш будуць змагацца гэтыя пролетарыі, тым больш у іх будзе класавай самасвядомасці, а чым больш будзе ў іх класавай самасвядомасці, тым цясней будзе класавае адзінства расійскага пролетарыята. Так, усё гэта нам вядома і таму ўсімі нашымі сіламі мы змагаемся і будзем змагацца за грамадзянскую роўнасць нацыянальнасцей Расіі! Прачытайце 7-мы артыкул нашай партыйнай праграмы, дзе партыя гаворыць аб «поўным роўнаpraўі ўсіх грамадзян незалежна ад полу, рэлігіі, расы і **нацыянальнасці»,**—і вы ўбачыце, што Расійская соцыялдэмакратычная рабочая партыя прымае на сябе ажыццяўленне гэтых патрабаванняў.

Чаго яшчэ патрабуюць федэралісты-соцыялдэмакраты?

2) **«Свабоды мовы для нацыянальнасцей Расіі»?**

Вас хвалюе той факт, што пролетарыям «чужых» нацыянальнасцей Расіі амаль забаронена вучыцца на роднай мове, гаварыць на роднай мове ў грамадскіх, дзяржаўных і іншых установах? Сапраўды, ёсць ад чаго хвалявацца! Мова—сродак развіцця і барацьбы. У розных нацый—розная мова. Інтарэсы расійскага пролетарыята патрабуюць, каб пролетарыі нацыянальнасцей Расіі мелі поўнае права карыстацца **той мовай,** на якой яны могуць больш свабодна атрымаць асвету, на якой лепш могуць змагацца з ворагамі на сходах, у грамадскіх, дзяржаўных і іншых установах. **Такою** мовай прызнана **родная мова.** Пролетарыяў «чужых» нацыянальнасцей пазбаўляюць роднай мовы, і хіба мы можам маўчаць,—гавораць яны. Ну, а як адказвае на гэта расійскаму пролетарыяту наша партыйная праграма?

Прачытайце 8-ы артыкул нашай партыйнай праграмы, у сілу якой наша партыя патрабуе: «Права насельніцтва атрымліваць асвету на роднай мове, якое забяспечваецца стварэннем на кошт дзяржавы і органаў самакіравання неабходных для гэтага школ; права кожнага грамадзяніна аб'ясняцца на роднай мове на сходах; увядзенне роднай мовы нароўні з дзяржаўнай ва ўсіх мясцовых грамадскіх і дзяржаўных установах»,—прачытайце ўсё гэта і пераканайцеся, што Расійская социялдэмакратычная рабочая партыя прымае на сябе ажыццяўленне і гэтага патрабавання.

Яшчэ чаго патрабуюць федэралісты-соцыялдэмакраты?

3) **«Самакіраўніцтва для нацыянальнасцей Расіі»?**

Вы хочаце гэтым сказаць, што адны і тыя-ж законы нельга аднолькава прымяняць да розных мясцовасцей расійскай дзяржавы, якія адрозніваюцца адна ад другой своеасаблівымі бытавымі ўмовамі і складам насельніцтва? Вы хочаце, каб паказаным мясцовасцям было прадастаўлена права прыстасаваць **агульныя** дзяржаўныя законы да іх своеасаблівых умоў? Калі гэта так, калі такі змест вашага патрабавання,—то неабходна надаць яму і адпаведную форму, трэба адкінуць нацыяналістычную туманнасць, блытаніну і назваць рэчы сваімі імёнамі. І калі вы паследуеце гэтай радзе, то вы пераканаецеся, што мы нічога не маем супроць такога патрабавання. Для нас само сабою зразумела, што розныя мясцовасці расійскай дзяржавы, якія адрозніваюцца адна ад другой своеасаблівымі бытавымі ўмовамі і складам насельніцтва, не могуць аднастайна прымяняць дзяржаўную канстытуцыю, што неабходна такім мясцовасцям прадаставіць права ажыццяўляць агульную дзяржаўную канстытуцыю ў той форме, у якой яны здабудуць большую карысць, у якой яны паўней разаўюць наяўныя ў народзе палітычныя сілы. Гэтага патрабуюць класавыя інтарэсы расійскага пролетарыята. І калі вы перачытаеце 3-ці артыкул нашай партыйнай праграмы, дзе наша партыя патрабуе «шырокага мясцовага самакіраўніцтва; абласнога самакіраўніцтва для тых мясцовасцей, якія адзначаюцца асобымі бытавымі ўмовамі і складам насельніцтва»,—то вы ўбачыце, што Расійская соцыялдэмакратычная рабочая партыя спачатку ачысціла гэта патрабаванне ад нацыяналістычнага туману, і затым—узяла на сябе яго ажыццяўленне.

4) Вы ўказваеце нам на царскае самадзяржаўе, якое па-зверску праследуе «нацыянальную культуру» «чужых» нацыянальнасцей Расіі, якое разбойніцкі ўмешваецца ў іх унутранае жыццё і прыцясняе іх з усіх бакоў, якое варварскі разбурыла (і працягвае разбураць) культурныя ўстановы фінляндцаў, разбойніцкі захапіла армянскую нацыянальную маемасць і т. д.? Вы патрабуеце гарантыі ад разбойніцкіх гвалтаў самадзяржаўя? Але хіба мы не бачым гвалтаў царскага самадзяржаўя, і хіба мы не змагаліся пастаянна супроць гэтых гвалтаў?! У сучасны момант для ўсякага відавочна, як пры-

цясняе і душыць цяперашні расійскі ўрад «чужыя» нацыянальнасці Расіі. Не падлягае таксама сумненню, што падобная палітыка ўрада з дня ў дзень разбэшчвае і падвяргае небяспечным іспытам класавую самасвядомасць расійскага пролетарыята. Значыць, мы заўсёды і ўсюды будзем змагацца супроць разбэшчваючай палітыкі царскага ўрада. Значыць, мы заўсёды і ўсюды будзем абараняць ад паліцэйскіх гвалтаў самадзяржаўя не толькі карысныя, але нават бескарысныя ўстановы гэтых нацыянальнасцей, бо інтарэсы расійскага пролетарыята падказваюць нам, што толькі самі нацыянальнасці маюць права знішчаць або развіваць тыя ці іншыя бакі сваёй нацыянальнай культуры. Але чытайце 9-ты артыкул нашай праграмы. Хіба не аб гэтым ідзе гутарка ў 9-м артыкуле нашай партыйнай праграмы,— якая, да рэчы кажучы, выклікала многа перасудаў як сярод нашых ворагаў, так і сярод прыяцеляў.

Але тут перарываюць нас і раяць спыніць размовы аб 9-м артыкуле. Але чаму? пытаем мы. «Таму» адказваюць яны, што гэты артыкул нашай праграмы «карэнным чынам супярэчыць» 3-му, 7-му і 8-му артыкулам той-жа праграмы, што, калі нацыянальнасцям прадастаўляюцца правы па сваёй волі ўстрайваць усе свае нацыянальныя справы (гл. арт. 9), то тады ў памянёнай праграме не павінна быць ніякага месца артыкулам 3-му, 7-му і 8-му,—і, наадварот, калі гэтыя артыкулы застаюцца ў праграме, то тады несумненна павінен быць выключан з праграмы артыкул 9-ты. Несумненна, нешта падобнае гаворыць «Сакартвело» *), калі з уласцівай яму лёгкадумнасцю пытае: «што за логіка—сказаць нацыі: я прадастаўляю табе абласное самакіраўніцтва,—і ў той-жа самы час напомніць ёй, што яна мае права па свайму погляду ўстрайваць усе свае нацыянальныя справы?» (гл. «Сакартвело» № 9). «Відаць» у праграму ўкралася лагічнае супярэчанне, «відаць» для знішчэння гэтай супярэчнасці неабходна выключыць з праграмы які-небудзь адзін або некалькі артыкулаў! Так, «безумоўна» трэба выключыць, а то як-жа, глядзіце, сама логіка пратэстуе вуснамі нелагічнага «Сакартвело».

Успамінаецца адно старажытнае паданне. Жыў калісь «мудрэц-анатом». У яго распараджэнні было «усё неабходнае» для «сапраўднага» анатома: дыплом, памяшканне, інструманты, непамерныя прэтэнзіі. Нехапала яму толькі малога—ведання анатоміі. Аднойчы да яго звярнуліся з просьбай растлумачыць, якая існуе сувязь паміж часткамі шкілета, якія былі раскіданы ім на анатамічным стале. Такім чынам, нашаму «праслаўленаму мудрацу» прадставіўся выпадак паказаць сябе. «Мудрэц» з вялікай помпай і ўрачыстасцю прыступіў да «справы»! Але вось бяда!—«Мудрэц» ні аза не разумеў у анатоміі,

*) Мы тут закранаем «Сакартвело» толькі для таго, каб лепш выясніць змест 9-га артыкула. Мэтай гэтага артыкула з'яўляецца крытыка федэралістаўсоцыялдэмакратаў, а не «сакартвелаістаў», якія карэнным чынам адрозніваюцца ад першых (гл. раздзел I).

ён не ведаў, якую частку да чаго прыставіць, каб у выніку атрымаць цэлы шкілет! Доўга вазіўся бядак, многа пацеў, але марна! Урэшце, калі ў яго ўсё перablыталася і нічога не вышла, ён схапіў некалькі частак шкілета, адшвырнуў іх далёка ад сябе і пры гэтым філасофскі эблаяў «злонамераных» асоб, быццам-бы палажыўшых на яго стол несапраўдныя часткі шкілета. Гледачы, вядома, паднялі на смех «мудраца-анатома».

Падобная «прыгода» адбылася і з «Сакартвело». Яму ўздумалася разабраць нашу партыйную праграму, але яно, аказваецца, не ведала, што-ж прадстаўляе сабою наша праграма і як яе следуе разбіраць, не зразумела, якая існуе сувязь між паасобнымі артыкуламі гэтай праграмы і што прадстаўляе сабою кожны артыкул паасобку,—і вось «філасофскі» раіць нам: паколькі я не мог зразумець такіх-то і такіх-то артыкулаў вашай праграмы, то пагэтаму (?!) неабходна выкінуць іх вон з праграмы.

Але я не хачу паднімаць на смех і без таго смешнага «Сакартвело»,—гавораць: ляжачага не б'юць! Наадварот, я гатоў нават аказаць яму дапамогу ў справе растлумачэння нашай праграмы, але пры ўмове, каб яно 1) уласнымі вуснамі прызнала сваё абураючае невуцтва; 2) уважліва слухала мяне і 3) было-б у згодзе з логікай *).

Справа вось у чым. 3-ці, 7-мы і 8-мы артыкул нашай праграмы ўзніклі на глебе **палітычнага цэнтралізма.** Калі Расійская соцыял-дэмакратычная рабочая партыя ўнесіла гэтыя артыкулы ў сваю праграму, яна кіравалася тымі меркаваннямі, што так званае «канчатковае» вырашэнне «нацыянальнага пытання», г. зн. «вызваленне» «чужых» нацыянальнасцей Расіі, наогул кажучы, немагчыма да таго часу, пакуль палітычнае панаванне знаходзіцца ў руках буржуазіі. Гэта мае дваякую прычыну: па-першае, цяперашняе эканамічнае развіццё паступова пракладае мост паміж «чужымі нацыянальнасцямі» і «Расіяй», устанаўляе ўсё большую і большую сувязь іх адна з другою і тым самым параджае прыяцельскія пачуцці ў кіруючых кругах буржуазіі гэтых нацыянальнасцей, што пазбаўляе глебы іх «нацыянальна-вызваленчыя» імкненні; і па-другое, **наогул кажучы,** пролетарыят не будзе падтрымліваць так званы «нацыянальна-вызваленчы» рух, паколькі да сучаснага моманту ўсякі **такі** рух адбываўся ў карысць буржуазіі, разбэшчваў і калечыў класавую самасвядомасць пролетарыята. Гэта агульнае перакананне парадзіла ідэю **палітычнага цэнтралізма** і абумоўленыя ёю 3-ці, 7-мы і 8-мы артыкулы нашай партыйнай праграмы.

Але гэта, як сказана вышэй, з'яўляецца **агульным** поглядам.

Могуць стварыцца такія эканамічныя і палітычныя ўмовы, пры

---

*) Лічу неабходным паведаміць чытачу, што «Сакартвело» з першых-жа нумароў аб'явіла вайну логіцы, як аковам, з якімі неабходна змагацца. Не трэба зварачаць увагі на тую акалічнасць, што «Сакартвело» часта гаворыць ад імені логікі, яно паступае так па ўласцівых яму лёгкадумнасці і забыўчывасці.

якіх перадавыя кругі буржуазіі «чужых» нацыянальнасцей захочуць «нацыянальнага вызвалення».

Можа здарыцца таксама, што такі рух акажацца выгадным для развіцця класавай самасвядомасці пролетарыята.

Як павінна паступіць тады наша партыя?

Вось, іменна, для такіх магчымых выпадкаў і ўключан у нашу праграму 9-ты артыкул, іменна ў прадбачанні такіх магчымых акалічнасцей прадастаўляецца нацыянальнасцям права, у сілу якога яны будуць старацца ўстроіць свае нацыянальныя справы згодна сваім жаданням (напрыклад, зусім «вызваліцца»).

Наша партыя, партыя, якая ставіць сваёй мэтай быць кіраўніком змагаючагася пролетарыята ўсёй Расіі,—павінна сустрэць падрыхтаванаю такія магчымыя выпадкі ў жыцці пролетарыята і таму яна павінна была ўнесці адпаведны артыкул у сваю праграму. Так павінна паступаць усякая прадбачлівая, дальнавідная партыя.

Аднак, аказваецца, «мудрацоў» з «Сакартвело», а таксама некаторых федэралістаў-соцыялдэмакратаў не задавальвае падобны сэнс 9-га артыкула. Яны патрабуюць «рашучага», «прамога» адказу на пытанне: выгадна ці нявыгадна пролетарыяту «нацыянальная незалежнасць»?*).

Я ўспамінаю рускіх метафізікаў 50-х год мінулага стагоддзя, якія дакучліва пыталі тагочасных дыялектыкаў: карысны ці шкодны дождж для ўраджаю, і патрабавалі ад іх «рашучага» адказу. Дыялектыкам не цяжка было даказаць, што такая пастаноўка пытання зусім не навукова, што ў розны час па-рознаму трэба адказваць на такія пытанні, што ў час засухі дождж—карысны, а ў дажджлівы час—бескарысны, і нават шкодны, што, значыць, патрабаванне «рашучага» адказу на такое пытанне з'яўляецца яўным глупствам.

Але падобныя прыклады «Сакартвело» не пайшлі на карысць!

Такога-ж «рашучага» адказу патрабавалі ад марксістаў паслядоўцы Бернштэйна на пытанне: карысны ці шкодны для пролетарыята кааператывы (г. зн. спажывецка-вытворчыя таварыствы)? Марксістам не цяжка было даказаць беззмястоўнасць падобнай пастаноўкі пытання, яны вельмі проста растлумачылі, што ўсё залежыць ад часу і месца, што там, дзе класавая самасвядомасць пролетарыята дасягнула належнага ўзроўню развіцця, дзе пролетарыі аб'яднаны ў адну моцную палітычную партыю,—там кааператывы могуць прынесці вялікую карысць пролетарыяту, калі за іх стварэнне і кіраўніцтва возьмецца сама партыя, там-жа, дзе гэтых умоў няма—кааператывы з'яўляюцца шкоднымі для пролетарыята, бо яны параджаюць у рабочых дробнагандлярскія тэндэнцыі і цэхавую замкнутасць і такім чынам скажаюць іх класавую самасвядомасць.

Але і гэты прыклад «сакартвелаістам» не пайшоў на карысць.

*) Гл. артыкул «Старога (г. зн. устарэўшага!) рэволюцыянера» у № 9 «Сакартвело».

Яны яшчэ настойлівей пытаюць: карысна ці шкодна для пролетарыята нацыянальная незалежнасць? Дайце рашучы адказ!

Але мы бачым, што тых акалічнасцей, якія могуць парадзіць і развіць «нацыянальна-вызваленчы» рух сярод буржуазіі «чужых» нацыянальнасцей,—гэтых акалічнасцей пакуль не існуе і яны не так-то ўжо немінучы ў будучым,—яны дапушчаны намі толькі як магчымыя акалічнасці. Акрамя таго, аднак-жа пакуль і немагчыма ведаць, на якой ступені развіцця будзе тады класавая самасвядомасць пролетарыята, наколькі карысны ці шкодны будзе гэты рух для пролетарыята! Паўстае пытанне, на якой-жа глебе будаваць*) «рашучы» адказ на гэта пытанне, адкуль вывесці яго? І хіба не глупа патрабаваць «рашучага» адказу пры такім становішчы рэчаў?

Ясна, што вырашэнне гэтага пытання трэба прадаставіць самім «чужым» нацыянальнасцям, а мы павінны заваяваць ім права вырашэння гэтага пытання. Няхай самі нацыянальнасці рашаюць, калі гэта патрабуецца ад іх, карысна ці шкодна для іх «нацыянальная незалежнасць» і калі карысна—то ў якой форме следуе ажыццявіць яе? Толькі яны могуць вырашыць гэта пытанне! Такім чынам, у сілу 9-га артыкула «чужым» нацыянальнасцям прадастаўлена права ўстрайваць свае нацыянальныя справы адпаведна сваім жаданням. А мы, у сілу таго-ж артыкула, абавязаны дамагацца таго, каб жаданні гэтых нацыянальнасцей былі сапраўды соцыялдэмакратычнымі, каб гэтыя жаданні зыходзілі з класавых інтарэсаў пролетарыята. А для гэтага неабходна ў соцыялдэмакратычным духу адукоўваць пролетарыяў гэтых нацыянальнасцей, падвергнуць суровай соцыялдэмакратычнай крытыцы некаторыя рэакцыйныя «нацыянальныя» норавы, звычаі і ўстановы, што зусім не пашкодзіць нам абараняць гэтыя-ж норавы, звычкі і ўстановы ад паліцэйскага гвалту.

Такая асноўная мысль 9-га артыкула.

Лёгка заўважыць, якую глыбокую лагічную сувязь мае гэты артыкул нашай праграмы з прынцыпамі пролетарскай класавай барацьбы. І паколькі ўся наша праграма пабудавана на гэтым прынцыпе, само сабою ясна лагічная сувязь артыкула 9-га з усімі астатнімі артыкуламі нашай партыйнай праграмы.

Бязглуздае «Сакартвело» таму і называецца «мудрым» органам друку, што яно не пераварвае такіх простых мыслей.

Што-ж яшчэ засталося ад «нацыянальнага пытання»?

**5) «Абарона нацыянальнага духу і яго ўласцівасцей»?**

Але што-ж такое гэты «нацыянальны дух і яго ўласцівасці»? Навука вуснамі дыялектычнага матэрыялізма даўно даказала, што ніякага «нацыянальнага духу» не існуе і існаваць не можа. Ці абвергнуў хто-небудзь гэты погляд дыялектычнага матэрыялізма? Гісторыя

*) П. п. «сакартвелаісты» заўсёды будуюць свае патрабаванні на пяску і не ўяўляюць сабе існаванне людзей, якія могуць знайсці больш трывалую глебу сваім патрабаванням!

гаворыць нам, што ніхто не абвергнуў. Значыць, мы абавязаны згадзіцца з указаным поглядам навукі, абавязаны разам з навукай паўтарыць, што ніякага «нацыянальнага духу» не існуе і існаваць не можа. І калі гэта так, калі ніякага «нацыянальнага духу» не існуе,— то само сабою ясна, што ўсякая абарона таго, што не існуе, з'яўляецца лагічным глупствам, якое неміནуча пацягне за сабою адпаведныя гістарычныя (непажаданыя) вынікі. Гаварыць аб такіх «філасофскіх» глупствах да твару хіба толькі «Сакартвело»—«органу рэвалюцыйнай партыі грузінскіх соцыял-федэралістаў» (гл. «Сакартвело» № 9) *).

* * *

«Нацыянальнае пытанне» вычарпана! Наша партыя расчляніла яго на паасобныя часткі, выцягнула з яго жыццёвыя сокі, разліла іх па венах сваёй праграмы і ўсім гэтым паказала як трэба вырашаць «нацыянальнае пытанне» у соцыялдэмакратыі, каб дашчэнту разбурыць нацыянальныя перагародкі, ні на мінуту не аддаляючыся ад дарагіх нам прынцыпаў.

Для чаго патрэбны—паўстае пытанне—паасобныя нацыянальныя партыі? Або дзе-ж той соцыялдэмакратычны «базіс», на якім павінны

*) Што-ж прадстаўляе сабою так дзіўна імянуючая сябе «партыя»? «Сакартвело» апавядае (гл. дадатак першы да № 10 «Сакартвело»), што «вясною бягучага года за граніцай сабраліся грузінскія рэволюцыянеры: грузінскія анархісты, староннікі «Сакартвело», грузінскія соцыял-рэволюцыянеры і... аб'ядналіся... у «партыю» грузінскіх соцыялістаў-федэралістаў»... Так, іменна анархісты, якія ўсім сэрцам і душой пагарджаюць усякай палітыкай, соцыял-рэволюцыянеры, якія абажаюць палітыку, «сакартвелаісты», якія адмаўляюць усякія тэрарыстычныя і анархічныя мерапрыемствы,—вось гэткая пярэстая і ўзаемна адмаўляючая адзін другога публіка, аказваецца, аб'ядналася... у «партыю»! Ідэальная рознашэрснасць, якую толькі калі-небудзь можа сабе ўявіць чалавек! Вось дзе чалавеку не будзе сумна! Памыляюцца тыя арганізатары, якія сцвярджаюць, што для аб'яднання людзей у партыю неабходна агульнасць прынцыпаў! Не агульнасць прынцыпаў, гаворыць нам гэта пярэстая публіка, а адсутнасць прынцыпаў з'яўляецца той глебай, на якой павінна быць пабудавана «партыя»! Прэч ад нас «тэорыя», прынцыпы—гэтыя рабскія аковы! Чым хутчэй мы вызвалімся ад іх, тым лепш,—філасофствуе гэта пярэстая публіка. І, сапраўды, як толькі гэтыя людзі вызваліліся ад прынцыпаў, яны зараз-жа адным узмахам пабудавалі... картачны домік—выбачайце—«партыю грузінскіх соцыял-федэралістаў». Аказваецца, «сем з паловай чалавек» у любы час могуць стварыць «партыю», калі яны збяруцца разам! І як тут не пасмяяцца, калі гэтыя невукі, «афіцэры» без арміі аддаюцца філасофстваванню: Расійская соцыялдэмакратычная рабочая партыя «з'яўляецца антысоцыялістычнай, рэакцыйнай» і інш.; рускія соцыялдэмакраты—«шавіністы», Каўказскі саюз нашай партыі «рабскі» падпарадкуецца Цэнтральнаму Камітэту партыі **) і т. д. (гл. рэзалюцыі першай канферэнцыі грузінскіх рэволюцыянераў). Лепшага і нельга было чакаць ад археалагічных астаткаў часоў Бакуніна: якія дрэвы—такія і плады, якія фабрыкі—такія і тавары. Такая каротка буржуазна-нацыяналістычная партыя пярэстай публікі.

**) Павінен адзначыць, што ўзгодненыя дзеянні паасобных частак партыі некаторым ненармальным «індывідам» паказаліся «рабскім падпарадкаваннем». Гэта ўсё ад слабасці нерваў—гавораць урачы.

быць пабудаваны арганізацыйныя і палітычныя погляды федэралістаў-соцыялдэмакратаў? Такога «базіса» не відаць, яго не існуе. Федэралісты-соцыялдэмакраты вісяць у паветры.

З такога нязручнага становішча яны могуць выйсці дваякім шляхам. Або яны павінны канчаткова адыйсці ад пункту погляду рэвалюцыйнага пролетарыята і прыняць прынцып умацавання нацыянальных перагародак (апартунізм у федэралістычнай форме); або яны павінны адмовіцца ад усякага федэралізма ў партыйнай арганізацыі, смела ўзняць сцяг знішчэння нацыянальных перагародак і згуртавацца ў лагеры Расійскай Соцыялдэмакратычнай Рабочай Партыі.

*„Барацьба пролетарыята“ № 7,*

*1(14) верасня 1904 г.*

## І. СТАЛІН

# Клас пролетарыяў і партыя пролетарыяў

### (Па поваду першага пункта статута партыі)

*1905 г. Газета „Пролетарыяціс брдзола“ („Барацьба пролетарыята“).*

*Пераклад з грузінскай*

Прайшоў той час, калі смела абвяшчалі: «адзіная і недзялімая Расія». Цяпер і дзіця ведае, што «адзінай і недзялімай» Расіі не існуе, што яна даўно раздзялілася на два процілеглыя класы: на буржуазію і пролетарыят. Цяпер ні для каго не з'яўляецца тайнай, што барацьба паміж гэтымі двума класамі ператварылася ў тую вось, вакол якой круціцца наша сучаснае жыццё.

Так, цяпер гэта ні для каго ўжо не складае тайны.

Тым не менш, да сучаснага моманту ўсё гэта цяжка было заўважыць,—і гэта таму, што да гэтага часу мы бачылі на арэне барацьбы толькі паасобныя групы, бо змагаліся толькі паасобныя групы ў паасобных гарадах і кутках, а пролетарыята і буржуазіі, як класаў, не было відаць, іх цяжка было заўважыць. Але, вось, аб'ядналіся гарады і раёны, розныя групы пролетарыята працягнулі адна другой руку, успыхнулі агульныя забастоўкі і дэманстрацыі,—і перад намі адкрыўся велічны малюнак барацьбы паміж двума Расіямі, Расіяй буржуазнай і Расіяй пролетарскай. На арэну барацьбы выступілі дзве вялікія арміі: армія пролетарыяў і армія буржуа, і барацьба паміж гэтымі двума арміямі ахапіла ўсю нашу сучасную гісторыю.

Паколькі армія не можа дзейнічаць без кіраўнікоў і паколькі кожная армія мае свой перадавы атрад, які ідзе ўперадзе яго і асвятляе ёй шлях,—то ясна, што разам з гэтымі арміямі павінны былі выступіць і адпаведныя групы кіраўнікоў, адпаведныя партыі, як гавораць звычайна.

Ітак, малюнак набыў наступны выгляд: на адным баку армія буржуа на чале з ліберальнай партыяй, а на другім—армія пролетарыяў на чале з соцыялдэмакратычнай партыяй,—кожнай арміяй у яе класавай барацьбе кіруе ўласная партыя *).

*) Мы нічога не гаворым аб іншых партыях у Расіі, бо для выяснення разбіраемых намі пытанняў няма ніякай неабходнасці гаварыць аб іх.

Мы закранулі ўсё гэта для таго, каб параўнаць партыю пролетарыяў з класам пролетарыяў і тым самым выясніць коротка яе агульную фізіяномію.

Сказанае ў дастатковай меры выясніла, што партыя пролетарыяў, як баявая група кіраўнікоў, па-першае, павінна быць значна менш класа пролетарыяў па колькасці сваіх членаў; па-другое, павінна стаяць вышэй класа пролетарыяў па сваёй свядомасці і па свайму вопыту; і, па-трэцяе, павінна прадстаўляць з сябе згуртаваную арганізацыю.

Сказанае, па нашай думцы, не мае патрэбы ў довадах, бо само сабою зразумела, што пакуль існуе капіталістычны парадак, які нязменна суправаджаецца галечай і адсталасцю народных мас,—увесь пролетарыят не зможа ўзняцца да пажаданай свядомасці, што, стала быць, неабходна група свядомых кіраўнікоў, якая соцыялістычна адукоўвае армію пролетарыяў, аб'ядноўвае яе і кіруе ёю ў час барацьбы. Ясна таксама і тое, што партыя, якая паставіла сваёй мэтай кіраваць **змагаючымся** пролетарыятам, павінна прадстаўляць не выпадковае скапленне адзіночак, а згуртаваную цэнтралізаваную **арганізацыю**, каб можна было накіроўваць яе работу па адзінаму плану.

Такая, коротка, агульная фізіяномія нашай партыі.

Запомнім усё гэта і пяройдзем да нашага галоўнага пытання: каго мы можам назваць членам партыі? Першы пункт партыйнага Статута, па поваду якога напісан гэты артыкул, датычыць іменна гэтага пытання. Ітак, разгледзім гэта пытанне.

Каго-ж, стала быць, мы можам назваць членам Рас. Соц. Дэм. Рабочай Партыі, г. зн. якія абавязкі члена партыі?

Партыя наша—соцыялдэмакратычная. Гэта значыць, што яна мае сваю ўласную праграму (бліжэйшыя і канчатковыя мэты руху), сваю ўласную тактыку (способы барацьбы) і свой уласны арганізацыйны прынцып (форму аб'яднання). **Адзінства** праграмы, тактычных і арганізацыйных поглядаў з'яўляецца той глебай, на якой будуецца наша партыя. Толькі **адзінства** гэтых поглядаў можа аб'яднаць членаў партыі ў **адну** цэнтралізаваную партыю. Разбураецца адзінства поглядаў—разбураецца і партыя. Значыць, членам партыі можна назваць толькі таго, хто поўнасцю прымае партыйную праграму, тактыку і арганізацыйны прынцып. Толькі той, хто дастаткова вывучыў і поўнасцю прыняў праграмныя, тактычныя і арганізацыйныя погляды нашай партыі, можа быць у радах нашай партыі і разам з тым у радах кіраўнікоў арміі пролетарыяў.

Але ці дастаткова для члена партыі толькі **прынящце** партыйнай праграмы, тактыкі і арганізацыйных поглядаў? Ці можна назваць такога чалавека сапраўдным кіраўніком арміі пролетарыяў? Вядома, не! Па-першае, усім вядома, што на свеце існуе не мала балбатуноў, якія з прыемнасцю «прымуць» партыйную праграму, тактыку і арганізацыйныя погляды, але ні на што, акрамя балбатні, не здольны.

Было-б апаганьваннем святая-святых партыі назваць такога балбатуна членам партыі (г. зн. кіраўніком арміі пролетарыяў)! Ды да таго-ж наша партыя не філасофская школа, або рэлігійная секта. Хіба наша партыя не ёсць партыя **барацьбы?** І калі гэта так, хіба не ясна само сабою, што нашу партыю не задаволіць платанічнае **прыняцце** яе праграмы, тактыкі і арганізацыйных поглядаў, што яна несумненна патрабуе ад свайго члена **ажыццяўлення** прынятых поглядаў? Значыць, хто хоча быць членам нашай партыі, той не можа задавальняцца прыняццем праграмных, тактычных і арганізацыйных поглядаў нашай партыі і павінен узяцца за ажыццяўленне гэтых поглядаў, за правядзенне іх у жыццё.

Але што значыць для члена партыі ажыццяўленне партыйных поглядаў? Калі ён можа ажыццявіць гэтыя погляды? Толькі тады, калі ён змагаецца, калі ён разам з усёй партыяй ідзе ўперадзе арміі пролетарыята. Ці магчыма барацьба ў адзіночку, уразброд? Вядома, не! Наадварот, людзі спачатку аб'ядноўваюцца, спачатку арганізуюцца і потым ужо ідуць у бой. Без гэтага бясплодна ўсякая барацьба. Ясна, што і члены партыі толькі тады змогуць змагацца і, стала быць, ажыццяўляць партыйныя погляды, калі яны аб'яднаюцца ў згуртаваную **арганізацыю.** Ясна таксама, што чым у больш згуртаваную арганізацыю аб'яднаюцца члены партыі, тым лепш яны будуць змагацца, стала быць, тым паўней ажыццёвяць праграму, тактыку і арганізацыйныя погляды партыі. Недарма гавораць, што наша партыя ёсць **арганізацыя** кіраўнікоў, а не скапленне адзіночак. А калі наша партыя ёсць **арганізацыя** кіраўнікоў, то ясна, што членам гэтай партыі, гэтай арганізацыі можна лічыць толькі таго, хто працуе ў гэтай арганізацыі, хто, стала быць, лічыць сваім абавязкам зліць свае жаданні з жаданнямі партыі і дзейнічаць разам з партыяй.

Значыць для членства ў партыі неабходна ажыццяўленне праграмы, тактыкі і арганізацыйных поглядаў партыі; для ажыццяўлення поглядаў партыі неабходна барацьба за гэтыя погляды; для барацьбы за гэтыя погляды неабходна работа ў партыйнай арганізацыі і работа разам з партыяй. Ясна, што для членства ў партыі неабходна ўступленне ў адну з партыйных арганізацый *). Толькі тады, калі мы ўступім у адну з партыйных арганізацый і, такім чынам, нашы асабістыя інтарэсы сальем з інтарэсамі партыі,—толькі тады мы зможам стаць членамі партыі і разам з тым сапраўднымі кіраўнікамі арміі пролетарыяў.

*) Як усякі складаны арганізм складаецца з безлічы прасцейшых арганізмаў, так і наша партыя, як складаная і агульная арганізацыя, складаецца з мноства раённых, мясцовых арганізацый, якія называюцца партыйнымі арганізацыямі, калі яны зацверджаны партыйным з'ездам або Цэнтральным Камітэтам. Як бачыце, партыйнай арганізацыяй называюцца не толькі камітэты. Для накіравання работы гэтых арганізацый па адзінаму плану існуе Цэнтральны Камітэт, пры дапамозе якога гэтыя мясцовыя партыйныя арганізацыі складаюць адну вялікую цэнтралізаваную арганізацыю.

Калі наша партыя не ёсць зброд адзіночак-балбатуноў, а **арганізацыя** кіраўнікоў, якая пры дапамозе Цэнтральнага Камітэта дастойна вядзе ўперад армію пролетарыяў, то тады ўсё сказанае вышэй ясна само сабою.

Неабходна заўважыць яшчэ вось што.

Да сённешняга дня наша партыя была падобна на гасцінную патрыярхальную сям'ю, якая гатова прыняць усіх спачуваючых. Але пасля таго, як наша партыя ператварылася ў цэнтралізаваную **арганізацыю,** яна скінула з сябе патрыярхальнае аблічча і поўнасцю ўпадобілася **крэпасці,** дзверы якой адчыняцца толькі для дастойных. А гэта мае для нас вялікае значэнне. У той час, як самадзяржаўе стараецца разбэсціць класавую самасвядомасць пролетарыята «трэд'юніянізмам», нацыяналізмам, клерыкалізмам і т. п., калі, з другога боку, ліберальная інтэлігенцыя ўпарта стараецца забіць палітычную самадзейнасць пролетарыята і дабіцца апекі над ім,—у гэты час мы павінны быць надта пільнымі і не павінны забываць, што наша партыя ёсць **крэпасць,** дзверы якой адчыняюцца толькі для дастойных.

Мы выяснілі дзве неабходныя ўмовы (прыняцце праграмы і работа ў партыйнай арганізацыі) членства ў партыі. Калі да гэтага дадамо і трэцюю ўмову, якая абавязвае члена партыі аказваць ёй матэрыяльную дапамогу,—тады ў нас будуць у наяўнасці ўсе тыя ўмовы, якія даюць права насіць званне члена партыі.

Значыць, членам Расійскай Соцыял-Дэмакратычнай Рабочай Партыі можа быць назван той, хто прымае праграму гэтай партыі, аказвае партыі матэрыяльную дапамогу і **прымае ўдзел у адной з партыйных арганізацый.**

Такое вызначэнне першага пункта партыйнага статута, данае тав. Леніным *).

Гэта вызначэнне, як бачыце, цалкам выцякае з таго погляду, па якому наша партыя ёсць цэнтралізаваная **арганізацыя,** а не **зброд** адзіночак.

У гэтым найвялікшая вартасць гэтага вызначэння.

Але вось знайшліся некаторыя таварышы, якія бракуюць ленінскае вызначэнне, як «вузкае» і «нязручнае» і прапануюць сваё вызначэнне, якое, трэба думаць,—не будзе ні «вузкім», ні «нязручным». Мы гаворым аб вызначэнні Мартава **), да разбору якога мы зараз прыступім. Па вызначэнню Мартава—«членам РСДРП лічыцца ўсякі, хто прымае яе праграму, падтрымлівае партыю матэрыяльнымі сродкамі і аказвае ёй рэгулярнае асабістае садзеянне пад кіраўніцтвам адной з яе арганізацый».

Як бачыце, у гэтым вызначэнні выпушчана трэцяя неабходная ўмова членства партыі, па якой члены партыі абавязаны **ўдзельнічаць** у адной з партыйных **арганізацый.** Гэту акрэсленую і неабход-

*) Ленін—выдатны тэарэтык і практык рэволюцыйнай соцыялдэмакратыі.

**) Мартаў—адзін з рэдактараў «Искры».

ную ўмову Мартаў, аказваецца, знайшоў залішняй і замест яе ўнёс у сваё вызначэнне туманнае і сумніцельнае «асабістае садзеянне пад кіраўніцтвам адной з партыйных арганізацый». Выходзіць, што можна быць членам партыі, не ўваходзячы ў якую-небудзь партыйную арганізацыю (вось дык «партыя»!) і не лічачы сябе абавязаным падпарадкоўвацца волі партыі (вось дык «партыйная дысцыпліна»!)! Ну, а як-жа партыя можа «рэгулярна» кіраваць тымі асобамі, якія не ўваходзяць ні ў адну партыйную арганізацыю і, якія, значыць, не лічаць сябе безумоўна абавязанымі падпарадкоўвацца партыйнай дысцыпліне?

Вось пытанне, аб якое разбіваецца вызначэнне першага пункта партыйнага статута, данае Мартавым і якое атрымлівае майстэрскае вырашэнне ў вызначэнні Леніна, паколькі яно акрэслена прызнае **ўдзел у адной з партыйных арганізацый,** як трэцюю і неабходную ўмову для членства ў партыі.

Нам застаецца толькі выкінуць з вызначэння Мартава яго туманную і пазбаўленую сэнсу «асабістую дапамогу пад кіраўніцтвам адной з партыйных арганізацый». Без гэтай-жа ўмовы ў вызначэнні Мартава застаюцца толькі дзве ўмовы (прыняцце праграмы і матэрыяльная дапамога), якія самі па сабе не маюць ніякай цаны, бо ўсякі балбатун можа «прыняць» партыйную праграму і аказаць партыі матэрыяльную дапамогу, што зусім не дае яму права быць членам партыі.

Вось вам і «зручнае» вызначэнне!

Мы гаворым, што сапраўдныя члены партыі ні ў якім выпадку не павінны задавольвацца толькі прыняццем партыйнай праграмы, што яны абавязкова павінны старацца ажыццявіць прынятую праграму. Мартаў адказвае: надта строга паступаеце, бо для члена партыі не так-то ўжо неабходна ажыццяўленне прынятай праграмы, калі ён не адмаўляецца ад матэрыяльнай дапамогі партыі і таму падобнае. Мартаў як-бы шкадуе некаторых балбатуноў—«соцыялдэмакратаў» і не хоча закрыць ім дзверы ў партыю.

Мы гаворым, далей, што паколькі для ажыццяўлення праграмы неабходна барацьба, а для барацьбы—аб'яднанне, то пагэтаму абавязак будучага члена партыі—увайсці ў адну з арганізацый, зліць свае жаданні з жаданнямі партыі і разам з партыяй кіраваць баявой арміяй пролетарыяў, г. зн. арганізавацца ў стройныя атрады цэнтралізаванай партыі. Мартаў адказвае: не так-то ўжо неабходна для членаў партыі арганізоўвацца ў стройныя атрады, аб'ядноўвацца ў арганізацыі, можна абыйсціся і барацьбой у адзіночку.

Дык што-ж такое наша партыя, пытаем мы?—выпадковае скапленне адзіночак або згуртаваная арганізацыя кіраўнікоў? І калі яна—арганізацыя кіраўнікоў, ці можна членам гэтай арганізацыі лічыць таго, хто ў яе не ўваходзіць, хто, стала быць, не лічыць сваім неабходным абавязкам падпарадкавацца яе дысцыпліне? Мартаў адказвае,

што партыя не ёсць арганізацыя, або вярней, партыя ёсць **неарганізаваная** арганізацыя (вось вам і «цэнтралізм»!)!

Як відаць, па думцы Мартава, наша партыя не ёсць цэнтралізаваная арганізацыя, а зброд, скапленне мясцовых арганізацый і «сацыялдэмакратычных» адзіночак, якія прынялі нашу партыйную праграму і т. д. Але калі наша партыя не ёсць цэнтралізаваная арганізацыя, то яна не будзе прадстаўляць крэпасці, дзверы якой могуць адчыняцца толькі для дастойных. І на самай справе, для Мартава, як гэта відаць з яго вызначэння, партыя не крэпасць, а—банкет, куды волен доступ для ўсякага спачуваючага. Крыху ведаў, столькі-ж спачування, крыху матэрыяльнай дапамогі і ўсё ў парадку, вы маеце поўнае права лічыцца членам партыі. Не слухайце,—падбадзёрвае Мартаў перапалоханых «членаў партыі»,—не слухайце некаторых людзей, па думцы якіх член партыі абавязан увайсці ў адну з партыйных арганізацый і, такім чынам, падпарадкаваць свае жаданні жаданням партыі. Па-першае, цяжка чалавеку згадзіцца на гэтыя ўмовы, бо не жарты-ж падпарадкаваць свае жаданні жаданням партыі? А па-другое, я ўжо адзначыў у сваім растлумачэнні, што думка гэтых некаторых людзей памылкова. Дык міласці просім, панове, прыходзьце... на банкет!

Мартаў як-бы шкадуе некаторых прафесараў і гімназістаў, якія не рашаюцца падпарадкаваць свае жаданні жаданням партыі, партыйнай дысцыпліне, і такім чынам прабівае брэш у крэпасці нашай партыі, праз якую могуць пралезці кантрабандай у нашу партыю гэтыя паважаныя паны. Ён адчыняе дзверы апартунізму і гэта ў той час, калі на класавую самасвядомасць пролетарыята напіраюць тысячы ворагаў!

Але гэта не ўсё. Справа ў тым, што дзякуючы сумніцельнаму вызначэнню Мартава магчымасць апартунізма ў нашай партыі ўзнікае і з другога боку.

У вызначэнні Мартава, як мы ведаем, гутарка ідзе толькі аб прыняцці праграмы, аб тактыцы-ж і арганізацыі—ні гуку, у той час як для адзінства партыі адзінства арганізацыйных і тактычных поглядаў неабходна ў такой-жа меры, як і адзінства іх праграмных поглядаў. Нам скажуць, што аб гэтым не гаворыцца і ў вызначэнні тав. Леніна. Правільна! Але-ж у вызначэнні тав. Леніна і няма патрэбы гаварыць аб гэтым! Хіба не ясна само сабою, што той, хто працуе ў адной з партыйных арганізацый і, стала быць, змагаецца разам з партыяй, падпарадкуецца партыйнай дысцыпліне, не можа следаваць якой-небудзь іншай тактыцы і іншым арганізацыйным прынцыпам, акрамя тактыкі партыі і арганізацыйных прынцыпаў партыі. Але што вы скажаце аб тым «члене партыі», які прыняў партыйную праграму, але не састаіць ні ў адной партыйнай арганізацыі? Якая гарантыя, што ў гэтага «члена» тактыка і арганізацыйныя погляды будуць партыйныя, а не іншыя! Вось чаго не можа растлумачыць нам вызна-

чэнне Мартава! І як вынік вызначэння Мартава, у нас у руках павінна застацца дзіўная «партыя», «члены» якой маюць аднолькавую праграму (гэта яшчэ пытанне!), а тактычныя і арганізацыйныя погляды—розныя! Ідэальная markdown рознастайнасць! Чым-жа наша партыя не будзе паходзіць на банкет?

Аб адным толькі трэба запытаць: куды выкінуць той ідэйны і практычны цэнтралізм, які завяшчаў нам другі партыйны з'езд і якому ў корані супярэчыць вызначэнне Мартава? Без сумнення, калі справа дойдзе да выбару, то правільней было-б выкінуць вон вызначэнне Мартава.

Вось якое бязглуздае вызначэнне прыпадносіць нам Мартаў у процівагу вызначэнню тав. Леніна!

Мы лічым вынікам недамысля рашэнне другога партыйнага з'езда, які (з'езд) прыняў вызначэнне Мартава, і выражаем надзею, што трэці партыйны з'езд несумненна выправіць памылку другога і прыме вызначэнне тав. Леніна.

Паўторым каротка сказанае. На арэну барацьбы выступіла армія пролетарыяў. Калі ўсякая армія адчувае патрэбу ў сваім перадавым атрадзе, то і гэтай арміі павінен быў спатрэбіцца такі атрад. Адсюль з'яўленне групы пролетарскіх кіраўнікоў—Расійскай Соцыял-Дэмакратычнай Рабочай Партыі. Як перадавы атрад акрэсленай арміі, гэта партыя, па-першае, павінна быць узброена сваёй уласнай праграмай, тактыкай і арганізацыйным прынцыпам і, па-другое, павінна прадстаўляць згуртаваную арганізацыю. Калі запытаем: каго мы павінны назваць членам Расійскай Соцыял-Дэмакратычнай Рабочай Партыі, то гэта партыя можа даць толькі адказ: таго хто прымае праграму партыі, матэрыяльна дапамагае партыі і працуе ў адной з партыйных арганізацый.

Гэту іменна відавочную ісціну і выразіў тав. Ленін у сваім выдатным вызначэнні.

*„Барацьба Пролетарыята“*
*№ 8, 1(14) студзеня 1905 г.*

Ф. Кошэлеў

# Вучэнне таварыша Сталіна аб соцыялістычнай індустрыялізацыі краіны

Вучэнне таварыша Сталіна аб індустрыялізацыі краіны з'яўляецца далейшым навуковым абгрунтаваннем і развіццём вучэння Леніна аб значэнні цяжкай індустрыі, новай передавой тэхнікі, электрыфікацыі і пабудове соцыялістычнага грамадства ў нашай краіне ў абстаноўцы капіталістычнага акружэння. Пытанне аб індустрыялізацыі краіны стала цэнтральным звяном, пытаннем непасрэднай практыкі к канцу аднаўленчага перыяда таму, што ад яго вырашэння залежаў лёс соцыялізма ў нашай краіне. Толькі правільнае навукова абгрунтаванае рашэнне гэтага пытання магло даць ясную перспектыву ў справе будаўніцтва соцыялістычнага грамадства ў нашай краіне, магло стаць сродкам мабілізацыі мас, іх творчай актыўнасці для барацьбы за ператварэнне нашай краіны з аграрнай у індустрыяльную, у краіну передавую ў тэхніка-эканамічных адносінах.

На працягу першых чатырох год новай эканамічнай палітыкі народная гаспадарка нашай краіны была ў асноўным адноўлена. К канцу 1924—1925 гаспадарчага года буйная прамысловасць давала каля трох чвертак даваеннай прамысловай прадукцыі, сельская гаспадарка—87% ад даваеннага ўзроўню. Мірная перадышка, якую заваявала краіна, патрабавала хуткага развіцця прамысловасці і сельскай гаспадаркі. Пакуль ішло аднаўленне народнай гаспадаркі, пытанне аб новай тэхніцы не з'яўлялася надзённым пытаннем нашага развіцця. І прамысловасць, і сельская гаспадарка аднаўляліся на старой тэхнічнай аснове.

Дасягнуўшы ў асноўным даваеннага ўзроўню, мы павінны былі рухацца ўперад, развіваць далей прадукцыйныя сілы, узнімаць краіну ў эканамічных адносінах на ўзровень самых передавых капіталістычных краін. Апіраючыся на старую адсталую тэхніку, мы не маглі вырашыць гэтай задачы. Трэба было падвесці пад нашу прамысловасць, пад усе галіны народнай гаспадаркі новую тэхнічную аснову, якою магла стаць передавая індустрыя, передавая тэхніка. Стары, даваенны ўзровень не мог задаволіць краіну дыктатуры рабочага класа. Стары ўзровень гаспадаркі з'яўляецца паказчыкам адсталасці краіны, а мы павінны былі пабудаваць передавую ў свеце прамысловасць, передавую сельскую гаспадарку. У гэтых умовах пытанне аб далейшым развіцці нашай народнай гаспадаркі з'яўлялася пытаннем аб перспектывах нашага развіцця, пытаннем аб лёсе соцыялізма ў Совецкім Саюзе.

«У якім напрамку трэба весці гаспадарчае будаўніцтва ў Совецкім Саюзе, у напрамку да соцыялізма, або ў якім-небудзь

іншым напрамку? Ці павінны і ці можам мы пабудаваць соцыялістычную гаспадарку, або нам суджана ўгнаіць глебу для другой, капіталістычнай гаспадаркі? Ці магчыма наогул пабудаваць соцыялістычную гаспадарку ў СССР, а калі магчыма, то ці магчыма яе пабудаваць пры зацяжцы рэволюцыі ў капіталістычных краінах і стабілізацыі капіталізма? Ці магчыма пабудова соцыялістычнай гаспадаркі на шляхах новай эканамічнай палітыкі, якая, усямерна ўмацоўваючы і расшыраючы сілы соцыялізма ў краіне, разам з тым пакуль што дае і некаторы рост капіталізма? Як трэба будаваць соцыялістычную народную гаспадарку, з якога канца трэба пачаць гэта будаўніцтва?» [1]).

Як партыя большэвікоў вырашыла ўсе гэтыя пытанні? Партыя вуснамі таварыша Сталіна цвёрда заявіла, што ў нашай краіне ёсць усё для таго, каб пабудаваць поўнае соцыялістычнае грамадства, ёсць усе ўмовы для таго, каб у працэсе соцыялістычнага будаўніцтва дабіць капіталізм эканамічна. Пачаць-жа будаўніцтва соцыялізма неабходна з індустрыялізацыі краіны. Партыя пры гэтым лічыла, што мы павінны будаваць не проста індустрыю, а соцыялістычную індустрыю, будаваць такую індустрыю, якая-б з дня ў дзень умацоўвала пазіцыі соцыялізма ў краіне і аслабляла пазіцыі капіталістычных элементаў, будаваць такую індустрыю, якая дала-б магчымасць рэканструіраваць усе галіны народнай гаспадаркі, у тым ліку адсталую сялянскую гаспадарку, на базе новай тэхнікі, на базе электрыфікацыі.

Развіваючы далей ленінскую тэорыю соцыялістычнай рэволюцыі, тэорыю пабудовы соцыялізма ў адной краіне, даючы навуковае абгрунтаванне ленінскаму вучэнню аб ролі цяжкай індустрыі і пераўтварэнні ўсёй народнай гаспадаркі, таварыш Сталін узброіў партыю, рабочы клас планам соцыялістычнай індустрыялізацыі краіны, адстаяў гэты план у жорсткіх класавых баях з трацкісцка-бухарынскімі, буржуазна-нацыяналістычнымі і іншымі ворагамі соцыялізма, ператварыў яго ў баявую праграму соцыялістычнага будаўніцтва, у план соцыялістычнай пераробкі дробнай сялянскай гаспадаркі на аснове калгаснага ладу, у план пабудовы соцыялістычнай эканомікі, ліквідацыі эксплаататарскіх класаў і пабудовы соцыялізма.

## I

Ленінска-сталінскі план соцыялістычнай індустрыялізацыі краіны з'яўляецца велізарнейшым дакументам творчага марксізма. Пад гэты план была падведзена глыбокая навуковая аснова. Ленінска-сталінскі план індустрыялізацыі краіны ёсць рэзультат усебаковага ведання законаў грамадскага развіцця і законаў класавай барацьбы ва ўмовах дыктатуры пролетарыята. Ён грунтуецца на глыбокім веданні прадукцыйных сіл і вытворчых адносін капіталістычнага грамадства і яго супярэчнасцей, на глыбокім веданні задач, якія неабходна было вырашаць дыктатуры пролетарыята ў пераходны перыяд ад капіталізма да соцыялізма.

Марксізм-ленінізм вучыць, што грамадска-эканамічныя фармацыі—гэта ступенькі ў развіцці чалавечага грамадства, ступенькі, якія паказваюць рух чалавечага грамадства ўперад па ўзыходзячай лініі.

[1]) „Кароткі курс гісторыі ВКП(б)", стар. 257.

Капіталізм перамог феадалізм тым, што ён рушыў гіганцкімі тэмпамі наперад развіццё прадукцыйных сіл у параўнанні з феадалізмам.

> «Менш чым за сто год свайго класавага панавання буржуазія стварыла больш шматлікія і больш грандыёзныя прадукцыйныя сілы, чым усе папярэднія пакаленні, разам узятыя. Падначаленне сіл прыроды, увядзенне машын, прымяненне хіміі ў прамысловасці і земляробстве, параходства, чыгункі, электрычныя тэлеграфы, ператварэнне ў прамысловыя області цэлых частак свету, прыстасаванне рэк для суднаходства, цэлыя, як-бы выклікаьыя з-пад зямлі, насельніцтвы,—якое з папярэдніх стагоддзяў прадчувала, што такія прадукцыйныя сілы драмалі ў нетрах грамадскай працы?» [1]).

Капіталізм узняў прадукцыйнасць працы на такую вышыню, якая нямысліма была ва ўмовах феадалізма. Феадальная сістэма гаспадаркі аказалася негрунтоўнай у параўнанні з капіталізмам. Стварыўшы больш высокую прадукцыйнасць працы, капіталізм атрымаў перамогу над феадалізмам.

> «Чаму капіталізм разбіў і пераадолеў феадалізм? Таму, што ён стварыў больш высокія нормы прадукцыйнасці працы, ён даў магчымасць грамадству атрымліваць непараўнальна больш прадуктаў, чым гэта мела месца пры феадальных парадках. Таму, што ён зрабіў грамадства больш багатым. Чаму можа, павінен і абавязкова пераможа соцыялізм капіталістычную сістэму гаспадаркі? Таму, што ён можа даць больш высокія ўзоры працы, больш высокую прадукцыйнасць працы, чым капіталістычная сістэма гаспадаркі. Таму, што ён можа даць грамадству больш прадуктаў і можа зрабіць грамадства больш багатым, чым капіталістычная сістэма гаспадаркі» [2]).

Соцыялізм—вышэйшая ў параўнанні з капіталізмам ступ'ень у развіцці чалавечага грамадства, вышэйшая ступень у развіцці прадукцыйнасці працы. Але яшчэ ва ўмовах панавання капіталізма аб'ектыўна, незалежна ад волі капіталістаў ствараюцца матэрыяльныя прадпасылкі для будаўніцтва соцыялізма. У нетрах капіталізма не толькі вырастаюць тэхнічныя прадпасылкі (сродкі вытворчасці, сродкі сувязі і т. п.), але ствараецца ў асобе пролетарыята паслядоўна-рэволюцыйная сіла, якая здольна звергнуць буржуазную ўладу і пабудаваць у саюзе з працоўнымі масамі горада і вёскі соцыялізм. Перамога соцыялістычнай рэволюцыі ў нашай краіне адкрыла новую эру ў гісторыі чалавецтва, паклала пачатак новай грамадскаэканамічнай фармацыі. Будаўніцтва соцыялістычнай фармацыі ў нашай краіне пачалося ва ўмовах варожага капіталістычнага акружэння, пры наяўнасці слаба развітай эканомікі.

Царская Расія з'яўлялася аграрнай краінай. Звыш 80 проц. насельніцтва краіны было занята ў сельскай гаспадарцы. Расія адставала ў сваім развіцці ад перадавых капіталістычных краін на 50—100 год. Усё гэта стварала нямала цяжкасцей у справе будаўніцтва соцыялізма. Совецкая ўлада павінна была навярстаць гэту адлегласць у

---

1) „Маніфест комуністычнай партыі" К. Маркс, выбраныя творы, т. I, стар. 156—157.
2) Сталін „Пытанні ленінізма", стар. 494.

найкарацейшы гістарычны тэрмін і не толькі дагнаць, але і перагнаць капіталістычныя краіны. І партыя большэвікоў, мабілізаваўшы ўсе свае сілы, прынялася за вырашэнне гэтай сусветна-гістарычнай задачы. Партыя ўзялася смела за вырашэнне гэтай задачы таму, што яна мела геніяльна распрацаваны ленінска-сталінскі план індустрыялізацыі краіны, навукова распрацаваны практычны план будаўніцтва соцыялізма ў нашай краіне ў абстаноўцы капіталістычнага акружэння.

Ленін надаваў выключнае значэнне ролі індустрыі наогул, цяжкай індустрыі, вытвараючай сродкі вытворчасці, у асаблівасці. Ленін не раз падкрэсліваў, што толькі цяжкая індустрыя можа і павінна стаць моцнай матэрыяльнай базай соцыялізма. У новай тэхніцы, якая развіваецца на базе электрыфікацыі, Ленін бачыў адзіны сродак для перамагання спрадвечнай адсталасці Расіі. Ва ўсіх сваіх выступленнях Ленін неаднаразова падкрэсліваў вялікае значэнне новай тэхнікі, значэнне электрыфікацыі. Калі паўстала пытанне аб узнаўленні народнай гаспадаркі, Ленін гаварыў, што ўзнаўленне народнай гаспадаркі з'яўляецца асноўнай задачай, але мы не можам яе ўзнавіць на старой эканамічнай і тэхнічнай аснове, што неабходна знайсці новую аснову і што такой новай асновай з'яўляецца электрыфікацыя.

Абгрунтоўваючы неабходнасць узнаўлення і развіцця цяжкай індустрыі, Ленін пісаў:

> «Выратаваннем для Расіі з'яўляецца не толькі добры ўраджай у сялянскай гаспадарцы—гэта яшчэ мала,—і не толькі добры стан лёгкай прамысловасці, якая пастаўляе сялянству прадметы спажывання,—гэтага таксама яшчэ мала,—нам неабходна таксама цяжкая індустрыя. А для таго, каб прывесці яе ў добры стан, патрабуецца многа год работы.
>
> ... Без выратавання цяжкай прамысловасці, без яе ўзнаўлення мы не зможам пабудаваць ніякай прамысловасці, а без яе мы наогул загінем, як самастойная краіна» [1]).

Ленін бачыў, наколькі адстала ў сваім эканамічным развіцці наша краіна ад перадавых капіталістычных краін. Ён усебакова ўлічваў тыя цяжкасці, якія ляжалі на шляху пераадалення гэтай адсталасці, прадбачыў цяжкасці, якія будуць ствараццa пры будаўніцтве соцыялізма ў слаба развітай у эканамічных адносінах краіне.

Але Ленін навукова даказаў, што эканамічная адсталасць Расіі не з'яўляецца перашкодай для пабудовы буйнай соцыялістычнай індустрыі, для стварэння цяжкай прамысловасці, вытвараючай сродкі вытворчасці, для пабудовы соцыялізма. Ленін адкрыў у электрыфікацыі краіны той цудоўны сродак, пры дапамозе якога можна было ў найкарацейшы тэрмін перамагчы эканамічную адсталасць Расіі і пабудаваць соцыялізм.

> «Паглядзіце на карту Р. С. Ф. С. Р.,—гаварыў Ленін пасля перамогі соцыялістычнай рэволюцыі.—На поўнач ад Волагды, на паўднёвы ўсход ад Растова-на-Дану і ад Саратава, на поўдзень ад Орэнбурга і ад Омска, на поўнач ад Томска ідуць неасяжнейшыя прасторы, на якіх умясціліся-б дзесяткі велізарных культурных дзяржаў. І на ўсіх гэтых прасторах пануе патрыярхальшчына, поўдзікасць і самая сапраўдная дзікасць. А ў сялянскіх захалусцях усёй астатняй Расіі? Усюды, дзе дзесяткі вёрст

[1]) Ленін, т. XXVII. стар. 349.

прасёлка—вярней: дзесяткі вёрст бездарожжа—аддзяляюць вёску ад чыгунак, г. зн. ад матэрыяльнай сувязі з культурай, з капіталізмам, з буйнай прамысловасцю, з вялікім горадам. Хіба не пераважае ўсюды ў гэтых месцах таксама патрыярхальшчына, абломаўшчына, поўдзікасць?.

Ці мысліма ажыццяўленне непасрэднага пераходу ад гэтага, пераважаючага ў Расіі, становішча да соцыялізма? Так, мысліма да вядомай ступені, але толькі пры адной умове, якую мы ведаем цяпер, дзякуючы адной велізарнай і завершанай навуковай рабоце, дакладна. Гэта ўмова—электрыфікацыя» [1]).

Гэты сродак не з'яўляўся новым для перадавых капіталістычных краін. Такія краіны як Швецыя, Германія, Амерыка, Францыя дабіліся ў галіне электрыфікацыі велізарнейшых рэзультатаў. Прамысловасць гэтых краін развівалася ўсё больш і больш на базе электрыфікацыі. Але, калі пры капіталізме электрыфікацыя адыгрывае вялікае значэнне, то выключна вялікую ролю электрыфікацыя павінна была адыгрываць пры дыктатуры пролетарыята. Сучасная перадавая тэхніка ставіць у парадак дня пытанне аб электрыфікацыі ўсёй краіны і нават раду суседніх краін па аднаму плану. Ад гэтага больш за ўсё выйграла-б сельская гаспадарка і, асабліва, сялянства. Але рамкі капіталізма, рамкі прыватнай уласнасці стаяць тормазам на шляху развіцця электрыфікацыі па адзінаму плану. Па-першае, ва ўмовах капіталізма развіццё гэтай, найвялікшай па свайму значэнню галіны народнай гаспадаркі не можа быць быстрым і планамерным, па-другое, развіццё электрыфікацыі не ідзе на карысць рабочых і сялян. Пры капіталізме ўсякі прагрэс у галіне вытворчасці вядзе і не можа не весці да ўзмацнення гнёту буйных банкаў над рабочымі і сялянамі, да ўзмацнення ўлады фінансавай буржуазіі над народам.

Зусім па іншаму працякае і павінна працякаць развіццё электрыфікацыі ва ўмовах совецкага ладу. Дыктатура пролетарыята ў нашай краіне ўпершыню ў свеце стварыла ўмовы для быстрага і планавага развіцця электрыфікацыі на карысць рабочых і сялян.

Ленінскі план Гоэлро, складзены ў цяжэйшыя годы грамадзянскай вайны і гаспадарчай разрухі, з'яўляўся першым этапам па шляху электрыфікацыі ўсёй краіны. Па гэтаму плану меркавалася пабудаваць на працягу бліжэйшых 10 год 30 буйнейшых раённых электрастанцый, якія павінны былі забяспечыць перавод прамысловасці на ўзровень сучаснай тэхнікі. Ленін лічыў план Гоэлро, план электрыфікацыі другой праграмай партыі, праграмай партыі ў галіне гаспадарчага будаўніцтва. У сувязі з гэтым Ленін пісаў:

> «Наша праграма партыі не можа аставацца толькі праграмай партыі. Яна павінна ператварыцца ў праграму нашага гаспадарчага будаўніцтва, інакш яна нягодна і як праграма партыі. Яна павінна дапоўніцца другой праграмай партыі, планам работ па ўзнаўленню ўсёй народнай гаспадаркі і давядзенню яе да сучаснай тэхнікі. Без плана электрыфікацыі мы перайсці да сапраўднага будаўніцтва не можам» [2]).

Ленін цяснейшым чынам звязваў з планам электрыфікацыі праблему ўзнаўлення ў найкарацейшы тэрмін прадукцыйных сіл і іх

[1]) Ленін, т. XXVI, стар. 338.
[2]) Там-жа, стар. 45.

далейшага развіцця, праблему рацыянальнага размяшчэння прамысловасці з пункту погляду блізасці сыравіны і «магчымасці найменшай страты працы пры пераходзе ад апрацоўкі сыравіны да ўсіх паслядоўных стадый апрацоўкі поўфабрыкатаў аж да атрымання гатовага прадукта» [1]). План Гоэлро быў першым адзіным планам гаспадарчага будаўніцтва, які ахапляў усе галіны народнай гаспадаркі (прамысловасць, транспарт, сельская гаспадарка) і забяспечваў іх рэканструкцыю на базе электрастанцый. План Гоэлро трымаў курс на хуткае павышэнне прадукцыйнасці працы шляхам павышэння ролі машыны ў вытворчасці.

У годы, калі выпрацоўваўся і зацвярджаўся план Гоэлро, наша краіна мела самую перадавую палітычную ўладу ў свеце і далёка адстаючую ад патрабаванняў гэтай улады эканоміку. План Гоэлро меў на ўвазе ўзняць адсталую эканоміку краіны да ўзроўню перадавой палітычнай улады.

Ленінскі план Гоэлро быў сустрэнут у штыкі рэстаўратарамі капіталізма. Усякага роду манеўрамі яны хацелі праваліць план Гоэлро, адсунуць яго зацверджанне на няпэўны час. Супроць плана выступіў закляты вораг партыі і народа Іуда Троцкі.

Партыя адвергла ўсякага роду спробы рэстаўратараў капіталізма пахаваць план Гоэлро. Партыя дабілася зацверджання плана і мабілізавала свае сілы, сваю волю, сваю большэвіцкую страсць на ажыццяўленне гэтага плана. Партыя пайшла за Леніным і Сталіным. Таварыш Сталін, азнаёміўшыся з планам Гоэлро, адзначыў яго велізарнейшую ролю. У сваім пісьме да Леніна таварыш Сталін пісаў:

> «Апошнія тры дні я меў магчымасць прачытаць зборнік **«План электрыфікацыі Расіі»**. Хвароба дапамагла (няма худа без дабра!). Выдатная, добра складзеная кніга. Майстэрскі нарыс сапраўды **адзінага** і сапраўды **дзяржаўнага** гаспадарчага плана **без двукоссяў**. Адзіная ў наш час марксісцкая спроба падвядзення пад савецкую надбудову гаспадарча-адсталай Расіі сапраўды рэальнай і адзіна магчымай пры цяперашніх умовах тэхнічна вытворчай базы. Памятаеце леташні «план» Троцкага (яго тэзісы) «гаспадарчага адраджэння» Расіі на аснове масавага прымянення да абломкаў даваеннай прамысловасці працы некваліфікаванай сялянска-рабочай масы («прац арміі»). Якое ўбоства, якая адсталасць у параўнанні з планам **Гоэлро!** Сярэдневяковы саматужнік, вазамніўшы сябе ібсенаўскім героем, закліканым «ратаваць» Расію сагай старажытнай... А чаго варты дзесяткі «адзіных планаў», якія так часта паяўляюцца ў нашым друку на ганьбу нам,—дзіцячы лепет прыгатавішак... Або яшчэ: абывательскі «рэалізм» (на самай справе **манілаўшчына)** Рыкава, які ўсё яшчэ «крытыкуе» **Гоэлро** і па вушы паграз у руціне...» [2]).

У сваім пісьме да Леніна таварыш Сталін патрабаваў неадкладнага практычнага прыступу да ажыццяўлення гэтага плана, мабілізацыі сродкаў, падрыхтоўкі рабочай сілы, папулярызацыі плана праз друк і т. д.

У электрыфікацыі краіны Ленін і Сталін бачылі адзіную матэры-

---

[1]) Ленін, т. XXII, стар. 434.
[2]) „Ленін і Сталін", т. II, стар. 365.

яльную базу для пабудовы соцыялізма. Толькі на базе электрыфікацыі, гаварыў Ленін, можна пабудаваць сучасную буйную індустрыю, здольную рэарганізаваць землякробства на соцыялістычнай аснове.

«Пакуль мы жывем у дробна-сялянскай краіне,—гаварыў Ленін,—для капіталізма ў Расіі ёсць больш моцная эканамічная база, чым для комунізма. Гэта неабходна запомніць. Кожны, уважліва назіраўшы за жыццём вёскі, у параўнанні з жыццём горада, ведае, што мы карэнняў капіталізма не вырвалі і фундамент, аснову ва ўнутранага ворага не падарвалі. Апошні трымаецца на дробнай гаспадарцы, і каб падарваць яго, ёсць адзін сродак—перавесці гаспадарку краіны, у тым ліку і землякробства, на новую тэхнічную базу, на тэхнічную базу сучаснай буйнай вытворчасці. Такой базай з'яўляецца толькі электрычнасць. Комунізм—гэта ёсць Совецкая ўлада плюс электрыфікацыя ўсёй краіны» [1]).

Толькі цяжкая прамысловасць, здольная забяспечыць вёску ў дастатковай колькасці трактарамі і іншымі сучаснымі прыладамі, магла змяніць карэнным чынам псіхалогію селяніна, прымусіць яго адмовіцца ад дробнай жабрацкай індывідуальнай гаспадаркі і перайсці на тараў, забяспечыць іх бензінам, забяспечыць іх машыністамі рэйкі буйнай соцыялістычнай механізаванай гаспадаркі.

«Калі-б мы маглі даць заўтра 100 тысяч першакласных трак- (вы дасканала ведаеце, што пакуль гэта—фантазія), то сярэдні селянін сказаў-бы: «Я за комунію» (г. зн. за комунізм)» [2]).

Ленін не толькі даў навуковае абгрунтаванне электрыфікацыі краіны і яе значэння ў барацьбе за соцыялізм, але распрацаваў у асноўным план соцыялістычнай індустрыялізацыі краіны, намеціў асноўныя звенні гэтай грандыёзнай работы.

«Соцыялізм—пісаў Ленін,—нямыслім без буйна-капіталістычнай тэхнікі, пабудаванай па апошняму слову навейшай навукі, без планамернай дзяржаўнай арганізацыі, якая падначальвае дзесяткі мільёнаў людзей найстражэйшаму захаванню адзінай нормы ў справе вытворчасці і размеркавання прадуктаў» [3]).

Ленінская распрацоўка пытання электрыфікацыі і індустрыялізацыі краіны арганічна звязана з барацьбой за павышэнне прадукцыйнасці працы. Ленін надаваў выключнае значэнне ўздыму прадукцыйнасці працы ва ўмовах совецкага ладу. Ён бачыў, як на далоні, у паспяховым вырашэнні гэтай праблемы перамогу соцыялізма над капіталізмам. У сваім артыкуле «Вялікі пачын», напісаным у перыяд найвялікшай гаспадарчай разрухі і грамадзянскай вайны, Ленін указваў на велізарнае значэнне прадукцыйнасці працы для перамогі любога грамадскага ладу.

«Прадукцыйнасць працы,—пісаў Ленін,—гэта, у канчатковым выніку, самае важнае, самае галоўнае для перамогі новага грамадскага ладу» [4]).

Ленін надаваў велізарнае значэнне дысцыпліне працы. Без дыс-

[1]) Ленін, т. XXVI, стар. 46.
[2]) Ленін, т. XXIV, стар. 170.
[3]) Ленін, т. XXVI, стар. 325.
[4]) Ленін, т. XXIV, стар. 342.

цыпліны працы, не раз указваў Ленін, не можа існаваць ні адзін грамадскі лад, без дысцыпліны працы не можа існаваць і совецкая ўлада. Але дысцыпліна працы пры соцыялізме павінна ў корані адрозніваецца ад дысцыпліны працы пры феадалізме і капіталізме. Ленін пісаў, што дысцыпліна працы пры феадалізме падтрымлівалася пры дапамозе палкі, голым гвалтам, пры капіталізме—голадам, пры соцыялізме дысцыпліна павінна будавацца на добраахвотным супрацоўніцтве свабодных людзей, будуючых новае жыццё. Ленін адкрыў у спаборніцтве мас магутную зброю ў барацьбе за соцыялістычную арганізацыю працы, асноўны метад працы ва ўмовах дыктатуры пролетарыята.

«Наша задача цяпер,—пісаў Ленін,—калі соцыялістычны ўрад ва ўладзе,—арганізаваць спаборніцтва» [1]).

II

Такімі з'яўляюцца асноўныя палажэнні Леніна аб канкрэтных шляхах пабудовы поўнага соцыялістычнага грамадства ў нашай краіне. Яны з'ўляліся далейшым развіццём марксізма, узбагачэннем марксісцкай навукі. Яны сталі дырэктывай, законам для комуністычнай партыі ў цэлым і для кожнага яе члена паасобку. Вучэнне Леніна з'явілася для партыі баявою праграмай соцыялістычнага будаўніцтва.

Супроць ленінскага плана пабудовы соцыялізма апалчыліся ўсе ворагі рабочага класа і партыі. Яны з азвярэннем змагаліся супроць ленінізма, супроць ленінскай ісціны аб магчымасці перамогі соцыялізма ў адной, асобна ўзятай, краіне. Трацкісты, бухарынцы і іншыя ворагі соцыялізма, выконваючы соцыяльны заказ эксплаататарскіх класаў і замежных разведак, вялі падрыўную работу, стараючыся пасеяць у працоўных нявер'е ў справу соцыялізма. Яны прабавалі апарочыць ленінскую тэорыю аб пабудове соцыялізма і тыя канкрэтныя шляхі і сродкі, якія былі намечаны Леніным для пабудовы поўнага соцыялістычнага грамадства.

Таварыш Сталін у жорсткай барацьбе з трацкістамі, бухарынцамі і буржуазнымі нацыяналістамі, у барацьбе з усімі агентамі капіталізма адстаяў у чыстаце ленінскую навуку аб шляхах і сродках соцыялістычнага будаўніцтва, развіў далей гэту навуку ў новых умовах класавай барацьбы, узбагаціў яе новымі палажэннямі, новымі вывадамі прыстасоўна да новай грамадска-гістарычнай абстаноўкі.

Таварыш Сталін, следуючы ва ўсім Леніну, даў разгорнутае навуковае абгрунтаванне матэрыяльнай базы соцыялізма. У дакладзе на VII пашыраным пленуме ІККІ (1926 г.) «Яшчэ раз аб соцыял-дэмакратычным ухіле ў нашай партыі» таварыш Сталін выкрыў манеўры трацкісцка-зіноўеўскага блока, яго барацьбу супроць ленінізма, супроць ленінскай тэорыі пабудовы соцыялізма ў адной краіне. Таварыш Сталін абгрунтаваў магчымасць пабудовы поўнага соцыялістычнага грамадства ў нашай краіне сіламі рабочага класа і сялянства.

«Гутарка ідзе,—гаварыў таварыш Сталін,—аб такой краіне, дзе быў і развіваўся імперыялізм, дзе ёсць вядомы мінімум буй-

[1]) Ленін, т. XXII, стар. 158.

най прамысловасці, дзе ёсць вядомы мінімум пролетарыята, дзе ёсць партыя, кіруючая пролетарыятам» [1]).

Заваяваўшы дыктатуру пролетарыята ў нашай краіне, партыя Леніна—Сталіна стварыла палітычную базу для пабудовы соцыялізма. Неабходна было стварыць на базе дыктатуры пролетарыята эканамічную базу соцыялізма з тых матэрыяльных прадпасылак, якія былі ў краіне. Таварыш Сталін даказаў, што наша краіна мае ўсё неабходнае для стварэння эканамічнай базы соцыялізма і што яна яе створыць.

> «У чым заключаецца эканамічная сутнасць і эканамічная база соцыялізма? Ці не ў тым, каб насадзіць на зямлі «рай нябесны» і ўсеагульнае давольства? Не, не ў гэтым. Гэта ёсць абывательскае, мяшчанскае ўяўленне аб эканамічнай сутнасці соцыялізма. Стварыць эканамічную базу соцыялізма—гэта значыць самкнуць сельскую гаспадарку з соцыялістычнай індустрыяй у адну цэласную гаспадарку, падначаліць сельскую гаспадарку кіраўніцтву соцыялістычнай індустрыі, наладзіць адносіны паміж горадам і вёскай на аснове прамога абмену прадуктаў сельскай гаспадаркі і індустрыі, закрыць і ліквідаваць усе тыя каналы, пры дапамозе якіх нараджаюцца класы і нараджаецца, перш за ўсё, капітал, стварыць, у канцы канцоў, такія ўмовы вытворчасці і размеркавання, якія вядуць прама і непасрэдна да знішчэння класаў» [2]).

Развіваючы далей ленінскае вучэнне аб ролі індустрыі ў соцыялістычным будаўніцтве, таварыш Сталін зыходзіў з канкрэтных умоў развіцця нашай краіны, з яе эканамічнага ўзроўню, з яе вялікай тэхніка-эканамічнай адсталасці. Задача партыі большэвікоў заключалася ў тым, каб перамагчы ў найкарацейшы тэрмін гэту адсталасць. Для вырашэння гэтай задачы неабходна было ва ўсю рушыць уперад справу будаўніцтва соцыялістычнай індустрыі і безупынна змыкаць яе з земляробствам, змыкаць яе з сялянскай гаспадаркай на базе кааперацыі.

Неабходна было ўсямерна павышаць удзельную вагу пролетарыята ў складзе насельніцтва, умацоўваць яго вядучую і кіруючую ролю ў адносінах да пераважаючага ў краіне сялянства. Тая індустрыя, якую мы адваявалі ў рускай і замежнай буржуазіі ў нашай краіне, з'яўлялася толькі адпраўным пунктам для будаўніцтва соцыялізма. Нам патрэбна была першакласная соцыялістычная індустрыя, здольная вытвараць усе сродкі вытворчасці, здольная ператварыць нашу краіну ў незалежную ў эканамічных адносінах дзяржаву, здольная забяспечыць ваенную абарону краіны ад капіталістычнага акружэння.

У сваім выступленні аб выніках работ XIV канферэнцыі РКП(б) таварыш Сталін гаварыў:

> «Зараз у нас ёсць каля 4 мільёнаў індустрыяльнага пролетарыята. Гэтага, вядома, мала, але гэта ўсё-ж сёе-тое для таго, каб будаваць соцыялізм і пабудаваць абарону нашай краіны на страх ворагам пролетарыята. Але мы не можам і не павінны спыніцца на гэтым. Нам патрэбна мільёнаў 15—20 індустрыяльных пролетарыяў, электрыфікацыя асноўных раёнаў нашай

[1]) „Ленін і Сталін", т. III, стар. 154.
[2]) Там-жа, стар. 155.

краіны, кааператаваная сельская гаспадарка і высока развітая металічная прамысловасць. І тады нам не страшны ніякія небяспекі. І тады мы пераможам у міжнародным маштабе» [1]).

Металічную індустрыю таварыш Сталін лічыў сарцавінай соцыялістычнай індустрыі, асноўнай базай усёй прамысловасці. Без добра развітай металічнай прамысловасці нельга было паставіць на ногі, нельга было развіваць лёгкую прамысловасць, транспарт, паліва, электрыфікацыю, сельскую гаспадарку. «Рост металічнай індустрыі ёсць аснова росту ўсёй індустрыі наогул і народнай гаспадаркі наогул» (Сталін). Таварыш Сталін надаваў развіццю металічнай прамысловасці велізарнае міжнароднае значэнне, як факту, які паказвае, што пролетарыят здольны не толькі разрушаць старую, але і будаваць новую гаспадарку, новую прамысловасць, новае грамадства без класаў, без эксплаатацыі чалавека чалавекам. Усё гэта, як гаварыў таварыш Сталін, не можа не спрыяць разгортванню сусветнай соцыялістычнай рэволюцыі.

> «Паломніцтва заходне-еўрапейскіх рабочых у нашу краіну—не выпадковасць. Яно мае велізарнейшае агітацыйнае і практычнае значэнне для развіцця рэволюцыйнага руху ва ўсім свеце. Тое, што прыязджаюць да нас рабочыя, шчупаюць у нас кожны куток на фабрыках і заводах,—гэта азначае, што яны не вераць кнігам і хочуць пераканацца ўласным вопытам у здольнасці пролетарыята будаваць новую прамысловасць, ствараць новае грамадства. І калі яны пераканаюцца ў гэтым, можаце быць упэўнены, што справа міжнароднай рэволюцыі будзе рушана ўперад сямімільнымі крокамі» [2]).

XIV з'езд партыі ўвайшоў у гісторыю нашай краіны, як з'езд індустрыялізацыі. На гэтым з'ездзе таварыш Сталін геніяльна абгрунтаваў план соцыялістычнай індустрыялізацыі краіны.

Ленінска-сталінскі план індустрыялізацыі нашай краіны з'яўляўся адзіна правільным планам, забяспечваючым рашэнне ўсіх задач, пастаўленых у парадак дня соцыялістычнай рэволюцыяй у нашай краіне ва ўмовах капіталістычнага акружэння. Толькі ажыццяўленнем гэтага плана можна было гарантаваць Совецкаму Саюзу самастойнае існаванне і адстаяць справу соцыялізма ва ўсім свеце. Супроць ленінска-сталінскага плана індустрыялізацыі краіны выступілі зіноўеўцы. Яны процівапаставілі сталінскаму плану індустрыялізацыі краіны свой буржуазны план, разлічаны на ўвекавечанне эканамічнай адсталасці нашай краіны, на рэстаўрацыю капіталізма ў нашай краіне, на ператварэнне нашай краіны ў сыравінны прыдатак імперыялістычных краін.

Па плану зіноўеўцаў совецкая краіна павінна была аставацца, як і да рэволюцыі, аграрнай краінай, якая выпускае ў асноўным сыравіну і харчы і атрымлівае з заграніцы ўзамен сыравіны і харчоў машыны. План зіноўеўцаў выключаў вытворчасць у нашай краіне машын, вытворчасць сродкаў вытворчасці. Іх план з'яўляўся планам эканамічнага закабалення нашай краіны прамыслова развітымі капіталістычнымі краінамі, ён меў на ўвазе пакінуць нашу краіну бяззбройнай

---

1) „Ленін і Сталін", т. III, стар. 27.
2) Там-жа, стар. 26.

перад тварам варожага нам капіталістычнага акружэння. Ён быў разлічан на паражэнне соцыялізма ў СССР.

Капіталістычным краінам ўгодна было трымаць нас на становішчы эканамічна адсталай краіны, на становішчы сыравіннага каланіяльнага прыдатка. У эканамічнай адсталасці краіны акулы сусветнага імперыялізма бачылі сродак ліквідацыі дыктатуры пролетарыята ў нашай краіне і ператварэння яе ў свой каланіяльны прыдатак. Зіноўеўцы сваім буржуазным планам прабавалі нанесці смяротны ўдар справе будаўніцтва соцыялізма ў нашай краіне. Апраўдваючы свой буржуазны план, зіноўеўцы адмаўлялі соцыялістычны характар нашай індустрыі, паклёпнічалі на серадняка, што апошні не можа быць саюзнікам пролетарыята ў барацьбе за соцыялізм.

Таварыш Сталін нанёс смяротны ўдар зіноўеўскай так званай «новай апазіцыі», раскрыўшы яе трацкісцка-меншавіцкую сутнасць.

Выкрываючы Сакольнікава, які выступіў на з'ездзе з планам аграрызацыі краіны, таварыш Сталін гаварыў:

> «Што такое аграрная краіна? Аграрная краіна, гэта—такая краіна, якая вывозіць сельска-гаспадарчыя прадукты і ўвозіць абсталяванне, але сама гэтага абсталявання (машыны і інш.) не вытварае або амаль не вытварае сваімі ўласнымі сіламі. Калі мы застранем на той ступені развіцця, на якой нам прыходзіцца ўвозіць абсталяванне і машыны, а не вытвараць іх уласнымі сіламі, то мы не можам быць гарантаваны ад ператварэння нашай краіны ў прыдатак капіталістычнай сістэмы. Іменна таму мы павінны трымаць курс на развіццё ў нас вытворчасці сродкаў вытворчасці...
>
> Ператварыць нашу краіну з аграрнай у індустрыяльную, здольную вытвараць сваімі ўласнымі сіламі неабходнае абсталяванне,—вось у чым сутнасць, аснова нашай генеральнай лініі» [1]).

Выкрываючы зіноўеўцаў, як рэстаўратараў капіталізма, таварыш Сталін гаварыў:

> «Яны, аўтары плана Дауэса, хацелі-б абмежаваць нас вытворчасцю, скажам, паркалю, але нам гэтага мала, бо мы хочам вытвараць не толькі паркаль, але і машыны, неабходныя для вытворчасці паркалю. Яны хацелі-б, каб мы абмяжоўваліся вытворчасцю, скажам, аўтамабіляў, але нам гэтага мала, бо мы хочам вытвараць не толькі аўтамабілі, але і машыны, якія вытвараюць аўтамабілі. Яны хочуць абмежаваць нас вытворчасцю, скажам, чаравікаў, але нам гэтага мала, бо мы хочам вытвараць не толькі чаравікі, але і машыны, якія вытвараюць чаравікі. І т. д. і т. п.» [2]).

Таварыш Сталін геніяльна абгрунтаваў характар соцыялістычнай індустрыялізацыі, паказаў, што соцыялістычная індустрыялізацыя не можа быць вычарпана развіццём усякай прамысловасці, не можа быць вычарпана толькі лёгкай прамысловасцю, што аснову соцыялістычнай індустрыялізацыі павінна складаць цяжкая прамысловасць з яе сарцавінай, з яе асноўным нервам—машынабудаўніцтвам. Толькі такая

[1]) „Ленін і Сталін", т. III, стар. 28.
[2]) Там-жа, стар. 29.

індустрыялізацыя зможа, гаварыў таварыш Сталін, забяспечыць нашай краіне эканамічную самастойнасць.

«Не ўсякае развіццё прамысловасці прадстаўляе сабой індустрыялізацыю. Цэнтр індустрыялізацыі, аснова яе заключаецца ў развіцці цяжкай прамысловасці (паліва, метал і т. п.), у развіцці, у канцы канцоў, вытворчасці сродкаў вытворчасці, у развіцці свайго ўласнага машынабудаўніцтва. Індустрыялізацыя мае сваёй задачай не толькі тое, каб весці нашу народную гаспадарку ў цэлым да павелічэння ў ёй долі прамысловасці, але яна мае яшчэ тую задачу, каб у гэтым развіцці забяспечыць за нашай краінай, акружанай капіталістамі, гаспадарчую самастойнасць, уберагчы яе ад ператварэння ў прыдатак сусветнага капіталізма» [1]).

Партыя дала рашучы бой гэтым буржуазным здрадніцкім устаноўкам зіноўеўцаў па пытанню гаспадарчага развіцця нашай краіны і паставіла ў якасці першаступеннай задачы развіццё цяжкай прамысловасці, развіццё машынабудаўніцтва як асноўнага, вядучага звяна нашай металічнай прамысловасці.

XIV з'езд партыі аднадушна адверг капітулянцкія планы зіноўеўцаў і зацвердзіў ленінска-сталінскі план соцыялістычнай індустрыялізацыі, як адзіна правільны і адзіна прыемлемы для краіны пралетарскай дыктатуры. У рашэнні з'езда партыі ззяюць яркім факелам наступныя словы:

«У галіне эканамічнага будаўніцтва з'езд выходзіць з таго, што наша краіна, краіна дыктатуры пралетарыята, мае «усё неабходнае для пабудовы поўнага соцыялістычнага грамадства» **(Ленін)**. З'езд лічыць, што барацьба за перамогу соцыялістычнага будаўніцтва ў СССР з'яўляецца асноўнай задачай нашай партыі» [2]).

Ленінска-сталінскі план соцыялістычнай індустрыялізацыі стаў практычнай праграмай партыі ў барацьбе за соцыялізм.

Таварыш Сталін адкрыў і навукова абгрунтаваў крыніцы, за кошт якіх павінна ажыццяўляцца соцыялістычная індустрыялізацыя. Сродкі, якія мы павінны былі чэрпаць і чэрпалі для правядзення індустрыялізацыі, не мелі нічога агульнага з тымі сродкамі, якімі карысталіся для ажыццяўлення сваёй індустрыялізацыі развітыя краіны капіталізма. Прырода нашага совецкага ладу патрэбавала іншых крыніц накаплення. Такімі крыніцамі з'яўляліся ўнутраныя рэсурсы нашай краіны. Мы маглі і павінны былі абаперціся толькі на нашы ўласныя сродкі, паколькі іншых крыніц для індустрыялізацыі краіны ў нас не было.

«Гісторыя,—гаварыў таварыш Сталін,—ведае розныя спосабы індустрыялізацыі. Англія індустрыялізавалася дзякуючы таму, што яна грабіла дзесяткі і сотні год калоніі, збірала там «дадатковыя» капіталы, укладвала іх у сваю прамысловасць і паскарала тэмп сваёй індустрыялізацыі. Гэта адзін спосаб індустрыялізацыі. Германія паскорыла сваю індустрыялізацыю ў рэзультаце пераможнай вайны з Францыяй у 70-х годах мінулага стагоддзя, калі яна, узяўшы пяць мільярдаў кантрыбу-

1) „Ленін і Сталін", т. III, стар. 57.
2) „Кароткі курс гісторыі ВКП(б)", стар. 262.

цыі ў французаў, уліла іх у сваю прамысловасць. Гэта другі спосаб індустрыялізацыі. Абодва гэтыя спосабы для нас закрыты, бо мы—краіна советаў, бо каланіяльныя грабяжы і ваенныя захваты ў мэтах грабяжу несумяшчальны з прыродай Совецкай улады. Расія, старая Расія, здавала кабальныя канцэсіі і атрымлівала кабальныя пазыкі, старaючыся такім чынам выбрацца паступова на шлях індустрыялізацыі. Гэта ёсць трэці спосаб. Але гэта—шлях кабалы або поўкабалы, шлях ператварэння Расіі ў поўкалонію. Гэты шлях таксама закрыты для нас, бо не для таго мы вялі трохгадовую грамадзянскую вайну, адбіваючы ўсіх і ўсякіх інтэрвенцыяністаў, каб потым, пасля перамогі над інтэрвенцыяністамі, добраахвотна пайсці ў кабалу да імперыялістаў. Астаецца чацверты шлях індустрыялізацыі, шлях уласных збераджэнняў для справы прамысловасці, шлях соцыялістычнага накаплення, на які неаднаразова ўказваў тав. Ленін, як на адзіны шлях індустрыялізацыі нашай краіны» [1]).

Крыніцамі соцыялістычнай індустрыялізацыі з'яўляліся: камандныя эканамічныя вышыні (зямля, фабрыкі, заводы і т. д.), якія перайшлі ў рукі совецкай дзяржавы ў выніку перамогі соцыялістычнай рэволюцыі; ануляраванне царскіх даўгоў і ўплаты па іх соцень мільёнаў процантаў; устанаўленне манаполіі знешняга гандлю, які з'яўляўся некаторай крыніцай накаплення; нацыяналізацыя банкавай сістэмы, якая дае пэўны прыбытак і фінансіруе нашу прамысловасць па меры сіл, наяўнасць совецкай дзяржаўнай улады, якая трымала ў сваіх руках дзяржаўны бюджэт, скарыстоўваючы ўсе сродкі на справу развіцця соцыялістычнай індустрыі.

Совецкае сялянства, вызваленае дыктатурай пролетарыята ад улады памешчыкаў, ад штогодняй уплаты памешчыкам каля 500 мільёнаў рублёў золатам арэнднай платы, дапамагло пабудаваць магутную прамысловасць, у якой сяляне былі кроўна зацікаўлены.

Гэта такія крыніцы накаплення, якіх не мела і не магла мець ні адна капіталістычная краіна. Гэтыя крыніцы маглі дзейнічаць толькі ва ўмовах дыктатуры рабочага класа, ва ўмовах совецкай сістэмы гаспадаркі. Усе гэтыя крыніцы накаплення далі сотні мільёнаў і мільярды рублёў для стварэння цяжкай індустрыі.

Але для таго, каб рушыць усе гэтыя крыніцы ў дзейнасць, скарыстаць іх найлепшым чынам, неабходна, гаварыў таварыш Сталін, праводзіць наступныя мерапрыемствы: максімальна збіраць усе лішкі накапленняў у крэдытных установах, у кааперацыўных і дзяржаўных, збіраць гэтыя накапленні праз дзяржаўныя пазыкі і ашчадныя касы; старанна закрываць усе каналы і шляхі, па якіх маглі ісці лішкі накаплення ў кішэні прыватных капіталістаў ва ўшчэрб соцыялістычнаму накапленню; ствараць унутры прамысловасці запасы на прадмет амартызацыі прадпрыемстваў, на прадмет іх расшырэння, іх далейшага развіцця; ствараць дзяржаўныя рэзервы, без якіх наша дзяржава не магла абыходзіцца—ствараць рэзервы харчовыя, сыравінныя, валютныя і т. д.

У бязлітаснай барацьбе з правымі рэстаўратарамі капіталізма, якія прабавалі звярнуць індустрыялізацыю краіны ў інтарэсах кулацтва, таварыш Сталін адстаяў справу соцыялістычнай індустрыялізацыі, ге-

[1]) „Ленін і Сталін", т. III, стар. 59.

ніяльна абгрунтаваў неабходнасць быстрых тэмпаў будаўніцтва соцыялістычнай індустрыі.

Быстрыя тэмпы развіцця соцыялістычнай індустрыі дыктаваліся як унутранымі, так і знешнімі ўмовамі развіцця нашай краіны. У нашай краіне мелася самая передавая ў свеце палітычная ўлада. Але ў нас не было развітой прамысловасці, цяжкай індустрыі, машынабудаўніцтва, перадавой тэхнікі.

Акружаючыя нас капіталістычныя краіны мелі больш развітую, больш перадавую тэхніку. Наяўнасць у нашай соцыялістычнай краіне самай перадавой палітычнай улады і самай адсталай тэхнікі прадстаўляла з сябе велізарную супярэчнасць, якую можна было перамагчы, рашыўшы задачу «дагнаць і перагнаць» перадавыя капіталістычныя краіны ў тэхніка-эканамічных адносінах у найкарацейшы гістарычны тэрмін. Не рашыўшы гэтай задачы, мы не маглі забяспечыць перамогі соцыялізма, адстаяць незалежнасць нашай краіны ў абстаноўцы варожага нам капіталістычнага акружэння. І гэту задачу маглі рашыць толькі большэвікі і ніхто больш.

> «Пытанне аб быстрым тэмпе развіцця індустрыі,—гаварыў таварыш Сталін,—не стаяла-б у нас так востра, як стаіць яно цяпер, калі-б мы мелі такую-ж развітую прамысловасць і такую-ж развітую тэхніку, як, скажам, у Германіі, калі-б удзельная вага індустрыі ва ўсёй народнай гаспадарцы стаяла ў нас гэтак сама высока, як стаіць яна, напрыклад, у Германіі. **Пры гэтай умове** мы маглі-б развіваць індустрыю менш быстрым тэмпам, не баючыся адстаць ад капіталістычных краін і ведаючы, што мы можам іх адным ударам перагнаць. Але тады ў нас не было-б той сур'ёзнай тэхніка-эканамічнай адсталасці, якая ёсць цяпер. Але ў тым-то і справа, што мы стаім у гэтых адносінах ззаду Германіі і мы далёка яшчэ не дагналі яе ў тэхніка-эканамічных адносінах» [1]).

Пытанне аб быстрым тэмпе развіцця будаўніцтва індустрыі не стаяла-б так востра, калі-б наша краіна не з'яўлялася адзінай краінай дыктатуры пролетарыята, калі-б нас акружалі не капіталістычныя краіны, а развітыя ў тэхніка-эканамічных адносінах краіны пролетарскай дыктатуры. А паколькі мы аказаліся адзінай краінай у свеце з пролетарскай уладай, быстры тэмп развіцця індустрыі з'яўляўся пярвейшай жыццёвай неабходнасцю, з'яўляўся адзіным сродкам «дагнаць і перагнаць» у найкарацейшы гістарычны тэрмін перадавыя ў тэхніка-эканамічных адносінах капіталістычныя краіны.

Быстры тэмп развіцця індустрыі дыктаваўся таксама і ўнутранымі ўмовамі. Наша краіна з'яўлялася аграрнай, з надзвычай адсталым земляробствам. У краіне пераважалі дробныя таваравытворцы з адсталай вытворчасцю. Гэту прымітыўную сельскую гаспадарку неабходна было перабудаваць на соцыялістычнай аснове. Вядучым пачаткам, ключом такой перабудовы магла стаць і сапраўды стала соцыялістычная індустрыя, развіццё якой у сваю чаргу залежыць ад развіцця сельскай гаспадаркі.

> «... Калі індустрыя з'яўляецца вядучым пачаткам, то сельская гаспадарка прадстаўляе базу развіцця індустрыі і як ры-

---

1) „Ленін і Сталін", т. III, стар 317.

нак, паглынаючы прадукцыю індустрыі, і як пастаўшчык сыравіны і харчоў, і як крыніца экспартных рэзерваў, неабходных для таго, каб увезці абсталяванне для патрэб народнай гаспадаркі» [1]).

Адсталая індывідуальная сялянская гаспадарка з'яўлялася перашкодай на шляху развіцця соцыялістычнай індустрыі. Каб пераадолець гэту перашкоду, неабходна было перабудаваць сельскую гаспадарку на соцыялістычнай аснове, зрабіць аснову сельскай гаспадаркі эднатыпнай аснове індустрыі. Гэта задача для свайго рашэння патрабавала таксама быстрых тэмпаў развіцця. Наша партыя не магла базіраваць доўгі час совецкую краіну на двух процілеглых асновах: на аснове буйнай соцыялістычнай індустрыі і на аснове самай адсталай, раздробленай індывідуальнай сельскай гаспадаркі. Першая аснова пераадольвала капіталізм, другая параджала капіталізм у масавым маштабе. Неабходна было перавесці дробную сялянскую гаспадарку на рэйкі калгасаў, узброіць іх перадавой сучаснай сельскагаспадарчай тэхнікай. А гэта можна было ажыццявіць, апіраючыся толькі на развітую соцыялістычную індустрыю, якой у нас у той перыяд не было.

Таварыш Сталін навукова абгрунтаваў пытанне аб новых, вытворчых формах змычкі паміж горадам і вёскай. Да старых форм змычкі рабочага класа з сялянствам, калі прамысловасць задавальняла ў асноўным асабістыя патрэбы селяніна (прадметы шырокага ўжытку), неабходна было дадаць новыя формы змычкі, разлічаныя на задавальненне нашай прамысловасцю вытворчых патрэб селяніна (машыны, трактары, насенне, угнаенні).

Гэтыя новыя формы змычкі неабходны былі для таго, каб пераўзброіць тэхнічна сельскую гаспадарку. Характэрная асаблівасць «распыленых дробных гаспадарак заключаецца ў тым, што яны не ў сілах у належнай меры скарыстаць тэхніку, машыны, трактары, даныя агранамічнай навукі, што яны з'яўляюцца гаспадаркамі малатаварнымі. Адсюль недахоп таварнага выхаду сельска-гаспадарчых прадуктаў. Адсюль небяспека разрыву паміж горадам і вёскай, паміж прамысловасцю і сельскай гаспадаркай. Адсюль неабходнасць падцягнуць, падагнаць сельскую гаспадарку да тэмпу развіцця нашай індустрыі» [2]).

Таварыш Сталін не толькі ўзброіў партыю большэвікоў усебакова распрацаваным планам соцыялістычнай індустрыялізацыі, але забяспечыў яго ажыццяўленне. Ужо к канцу 1928 года былі закладзены асновы цяжкай індустрыі. Першая пяцігодка, план якой быў дэтальна распрацован і навукова абгрунтован геніем таварыша Сталіна, у корані змяніла нашу краіну, зрабіла яе эканоміку непазнавальнай. Па плану першай пяцігодкі ўкладанні ў народную гаспадарку былі вызначаны ў размеры 64,6 мільярда рублёў, з якіх на развіццё прамысловасці было адпушчана 19,5 мільярда рублёў. Партыя, адвергнуўшы здрадніцкі план правых рэстаўратараў капіталізма, закасаўшы рукавы, прыступіла да рэалізацыі першай сталінскай пяцігодкі. Першы год гэтай пяцігодкі аказаўся сусветна-гістарычным. Ён увайшоў у гісторыю нашай краіны, як год вялікага пералому. Магутнае соцыялістычнае спаборніцтва, што разгарнулася ў нашай краіне, і ўздым творчай ініцыятывы мас знайшлі сваё канкрэтнае выражэнне

[1]) „Ленін і Сталін", т. III, стар. 318.
[2]) Там-жа, стар. 358.

ў лозунгу партыі выканаць пяцігодку ў чатыры годы. Пяцігодка была выканана ў асноўным у чатыры годы. Наша краіна ператварылася з аграрнай у індустрыяльную. За годы першай пяцігодкі ў нашай краіне з'явіліся новыя галіны прамысловасці, якіх не ведала царская Расія. Мы нанова стварылі металургічную, трактарную, аўтамабільную, хімічную, станкабудаўнічую і авіяцыйную прамысловасць. Наша краіна зрабіла гіганцкі крок у галіне электрыфікацыі, вытворчасці вугалю, нафты, торфу і іншых відаў індустрыі. К канцу першай пяцігодкі ўдзельная вага прамысловай прадукцыі паднялася з 48 проц. у 1928 годзе да 70 проц. у 1932 годзе. Капіталістычныя элементы былі канчаткова выцеснены з прамысловасці. Аб'ём прамысловай прадукцыі павялічыўся ў годы першай пяцігодкі больш чым у 3 разы ў параўнанні з даваенным узроўнем.

У сваім выступленні, прысвечаным вынікам года вялікага пералому, таварыш Сталін гаварыў:

> «Мы ідзем на ўсіх парах па шляху індустрыялізацыі—да соцыялізма, пакідаючы ззаду нашу спрадвечную, «расейскую» адсталасць. Мы становімся краінай металічнай, краінай аўтамабілізацыі, краінай трактарызацыі. І калі пасадзім СССР на аўтамабіль, а мужыка на трактар,—няхай паспрабуюць даганяць нас шаноўныя капіталісты, якія фанабэрацца сваёй «цывілізацыяй». Мы яшчэ паглядзім, якія з краін можна будзе тады «вызначыць» у адсталыя і якія ў перадавыя» [1]).

Гэтую задачу пад сталінскім кіраўніцтвам партыя бальшэвікоў паспяхова вырашала ў годы першай пяцігодкі. Поспехі соцыялістычнага будаўніцтва мянялі погляды совецкіх людзей на працу, апошняя ператваралася ў справу славы, чэсці, доблесці і геройства.

Першая пяцігодка з'явілася пяцігодкай суцэльнай калектывізацыі і ліквідацыі на яе аснове кулацтва як класа. Ленінскі кааперацыйны план, развіты далей таварышом Сталіным, пачаў паспяхова праводзіцца ў жыццё. Соцыялістычная індустрыя пачала аказваць сваё перадтвараючае дзеянне на развіццё сельскай гаспадаркі, ператвараючы яе ў перадавую соцыялістычную вытворчасць, ліквідуючы самы зверскі і самы шматлікі эксплаататарскі клас, клас кулакоў,—апошні аплот капіталістычнай рэстаўрацыі ў СССР.

Пераможнае завяршэнне плана першай пяцігодкі высунула ў якасці баявой задачы—рэканструкцыю ўсіх галін народнай гаспадаркі. Гэта задача была па-бальшэвіцку выканана за годы другой пяцігодкі. Другі пяцігадовы план, распрацаваны партыяй пад непасрэдным кіраўніцтвам і пры прамым удзеле таварыша Сталіна, закончыўся пабудовай у нашай краіне ў асноўным соцыялізма—першай фазы камуністычнага грамадства. Другі пяцігадовы план быў закончан у 4 годы і 3 месяцы. Перамога соцыялізма стала фактам. Была даказана на практыцы жыццёвая праўда ленінска-сталінскай тэорыі аб перамозе соцыялізма ў адной краіне, вялікая пераўтвараючая роля ленінска-сталінскага плана індустрыялізацыі краіны і калектывізацыі сельскай гаспадаркі ў пабудове соцыялістычнага грамадства, у перамаганні эксплаататарскіх класаў, у змяненні класавай структуры грамадства ва ўмовах дыктатуры рабочага класа.

Прадукцыя прамысловасці павялічылася к канцу другой пяцігодкі больш, чым у сем раз у параўнанні з даваенным узроўнем.

---

[1]) **Сталін**, „Пытанні ленінізма", стар. 274, выд. 11.

У нетрах другой пяцігодкі зарадзіўся магутны, непераможны рух сучаснасці—стаханаўскі рух, які выражаў сабою пераход соцыялістычнага спаборніцтва на вышэйшы этап. Стаханаўскі рух мог узнікнуць толькі на базе новай, сучаснай тэхнікі, якая была створана ў нас у вялікай колькасці за годы двух сталінскіх пяцігодак.

Даючы ацэнку стаханаўскаму руху, таварыш Сталін гаварыў:

> «Хіба не ясна, што стаханаўцы з'яўляюцца наватарамі ў нашай прамысловасці, што стаханаўскі рух прадстаўляе будучыню нашай індустрыі, што ён змяшчае ў сабе зярно будучага культурна-тэхнічнага ўздыму рабочага класа, што ён адкрывае нам той шлях, на якім толькі і можна дабіцца тых вышэйшых паказчыкаў прадукцыйнасці працы, якія неабходны для пераходу ад соцыялізма да комунізма і знішчэння процілегласці паміж працай разумовай і працай фізічнай?» [1]).

На XVIII з'ездзе партыі ў сакавіку 1939 года таварыш Сталін падвёў вялікія вынікі будаўніцтва і перамогі соцыялізма ў нашай краіне і намеціў шляхі і сродкі барацьбы за перамогу комунізма ў нашай краіне ў абстаноўцы капіталістычнага акружэння. Таварыш Сталін сказаў на з'ездзе, што наша краіна, пабудаваўшы соцыялізм, уступіла ў новую паласу развіцця, у паласу завяршэння пабудовы бясклясавага соцыялістычнага грамадства і паступовага пераходу ад соцыялізма да комунізма. «... Па тэхніцы вытворчасці і тэмпах росту нашай прамысловасці мы ўжо дагналі і перагналі галоўныя капіталістычныя краіны» [2]). Таварыш Сталін паставіў перад партыяй у новай паласе развіцця ў якасці асноўнай эканамічнай задачы—дагнаць і перагнаць у бліжэйшыя 10—15 год перадавыя капіталістычныя краіны ў эканамічных адносінах. Гэта задача патрабуе далейшага развіцця прамысловасці, будаўніцтва новых фабрык, заводаў, рэзкага павелічэння вытворчасці ўсіх відаў прамысловай прадукцыі на душу насельніцтва. Гэта задача воляй большэвікоў паспяхова ажыццяўляецца ў нашай краіне. Пройдзе яшчэ невялікі гістарычны тэрмін і наша краіна не будзе мець сабе роўных у эканамічных адносінах. Сталінская задача «дагнаць і перагнаць» перадавыя капіталістычныя краіны ў эканамічных адносінах стане адбыўшымся фактам.

* * *

Наша краіна паказала рабочаму класу ўсяго свету шляхі і метады соцыялістычнага будаўніцтва, шляхі і сродкі барацьбы за перамогу соцыялізма.

Ажыццяўляючы ленінска-сталінскі план індустрыялізацыі, партыя большэвікоў ператварыла нашу краіну ў вялікую індустрыяльную дзяржаву, у краіну самага буйнага ў свеце земляробства, у краіну, непераможную ў ваенных адносінах. Не раз імперыялісты прабавалі напасці на СССР, рэстаўрыраваць у ім старыя капіталістычныя парадкі, ператварыць яго ў свой сыравінны каланіяльны прыдатак, але кожны раз яны вымушаны былі адсоўваць выкананне сваіх планаў. Растучая з года ў год эканамічная магутнасць СССР з'яўлялася магутным фактарам сусветнага значэння, з якім імперыялісты вымушаны лічыцца. Эканамічная і ваенная магутнасць СССР, памножаная на маральна-палітычнае адзінства совецкага грамадства, з'яўляецца

[1]) **Сталін** „Пытанні ленінізма“, стар. 496.
[2]) Там-жа, стар. 577.

грознай перасцярогай для паноў імперыялістаў, якія выношваюць планы нападу на нашу соцыялістычную радзіму.

Наша краіна магла захаваць сваю самастойнасць, пабудаваць соцыялізм і ператварыцца ў велізарнейшы фактар сусветнага развіцця таму, што яна развівалася на базе ленінска-сталінскага вучэння, што ёю кіравала і кіруе вялікая і непераможная партыя большэвікоў, якая ўладае законамі грамадскага развіцця, законамі пабудовы соцыялізма, якая не баіцца ніякіх цяжкасцей і смела перамагае ўсе і ўсякія перашкоды на шляху да мэты.

Наша краіна стала краінай перамогшага соцыялізма таму, што партыя большэвікоў на чале з вялікім Сталіным разбіла трацкістаў, бухарынцаў і буржуазных нацыяналістаў, якія змагаліся супроць індустрыялізацыі краіны і калектывізацыі сельскай гаспадаркі. Толькі ажыццяўленне ленінска-сталінскага плана індустрыялізацыі і калектывізацыі магло вывесці нашу краіну на шырокую дарогу соцыялістычнага будаўніцтва, падрыхтаваць глебу для пабудовы комунізма.

Таварыш Сталін адстаяў вучэнне Леніна аб перамозе соцыялізма ў адной краіне, канкрэтна ў нашай краіне, падняў яго вучэнне на новую, больш высокую ступень; адстаяў і рушыў наперад ленінскае вучэнне аб канкрэтных формах будаўніцтва соцыялізма; развіў далей вучэнне Леніна аб індустрыялізацыі краіны і калектывізацыі сельскай гаспадаркі. Ленінска-сталінскі план індустрыялізацыі краіны з'явіўся навукова-абгрунтаванай, геніяльна прадуманай праграмай соцыялістычнага будаўніцтва.

Маючы на руках такі сусветна-гістарычны дакумент, наша партыя смела ішла ўперад, упэўнена будавала будынак соцыялізма і дабілася ў гэтай справе сусветна-гістарычных перамог. Пачатак ажыццяўлення гэтага плана адкрыў новую эру ў гісторыі чалавецтва, эру будаўніцтва комунізма.

Пад кіраўніцтвам таварыша Сталіна народы нашай краіны пабудавалі соцыялізм і ўпэўнена ідуць уперад, да комунізма. Таварыш Сталін—сцяг нашай эпохі, увасабленне сіл нашай партыі, нашага народа, увасабленне волі да працы, да творчай адвагі, да смелага руху наперад.

**Сталін**—гэта **Ленін** сёння.

---

С. Ажгірэй

# Вучэнне таварыша Сталіна аб калектывізацыі сельскай гаспадаркі

XVIII з'езд ВКП(б) мае велізарнае гістарычнае значэнне ў жыцці нашай краіны.

У сваім дакладзе на гэтым з'ездзе таварыш Сталін вызначыў гіганцкія перспектывы новай паласы ў развіцці нашай краіны—паласы завяршэння будаўніцтва соцыялістычнага грамадства і паступовага пераходу ад соцыялізма да комунізма.

Намечаны план будаўніцтва ў трэцім пяцігоддзі азначае новы гіганцкі крок па шляху да поўнага трыумфа комунізма. Ажыццяўленне гэтага плана з'яўляецца новым яркім сведчаннем усеперамагаючай сілы комунізма ў яго спаборніцтве з капіталізмам.

Грандыёзныя задачы пастаўлены тав. Сталіным у галіне далейшага ўздыму сельскай гаспадаркі:

> «Разгарнуць далей уздым нашага земляробства і жывёлагадоўлі з тым, каб на працягу бліжэйшых 3—4 год дабіцца штогодняй вытворчасці зярна 8 мільярдаў пудоў з сярэдняй ураджайнасцю на гектар у 12—13 цэнтнераў, павялічыць вытворчасць па тэхнічных культурах на 30—35 процантаў у сярэднім, павялічыць пагалоўе авечак і свіней удвая, пагалоўе буйнай рагатай жывёлы—процантаў на 40, пагалоўе коней—процантаў на 35» [1]).

Наша сельская гаспадарка мае невычарпальныя магчымасці для выканання гэтай задачы.

Партыя большэвікоў на аснове ленінска-сталінскай палітыкі індустрыялізацыі краіны падрыхтавала матэрыяльную базу для пераробкі сялянскай гаспадаркі на соцыялістычнай аснове. У нашай краіне ажыццёўлен ленінскі кааперацыйны план, развіты пад геніяльным кіраўніцтвам таварыша Сталіна. Перамога калгаснага ладу і ачыстка нашай краіны ад кулакоў і іншых эксплаататараў стварылі яшчэ большыя магчымасці для пераможнага ўздыму соцыялістычнай сельскай гаспадаркі.

У сучасны момант у калгасах аб'яднана 18.800.000 сялянскіх гаспадарак, што складае 93,5 проц. усіх сялянскіх двароў. Калгасы засяваюць 99,4 проц. усёй пасеўнай плошчы зернавых і амаль 100 проц. тэхнічных культур. Аднаасобныя гаспадаркі засяваюць толькі 0,6 проканта пасеўнай плошчы.

> «Гэта значыць,—гаварыў таварыш Сталін,—што калгасы канчаткова замацаваны і ўпрочаны, а соцыялістычная сістэма гас-

1) „XVIII з'езд ВКП(б)", стэн. справ., стар. 27.

падаркі з'яўляецца цяпер адзінай формай нашага земляробства» [1]).

Наша сельская гаспадарка—самая буйная ў свеце, узброеная самай перадавой тэхнікай.

Соцыялістычная дзяржава ў першую-ж ноч вялікага Кастрычніцкага перавароту вырашыла карэнным чынам аграрнае пытанне. II з'езд Советаў прыняў тады дэкрэт аб зямлі, па якому «памешчыцкая ўласнасць на зямлю адмяняецца неадкладна, без усякага выкупу». Па гэтаму дэкрэту сялянства атрымала ад соцыялістычнай дзяржавы, акрамя тых зямель, якімі яно карысталася да рэволюцыі, яшчэ звыш 150 мільёнаў гектараў памешчыцкіх, царкоўных, манастырскіх і ўдзельных. Гэта зямля магла быць атрымана толькі ў выніку знішчэння ўлады памешчыкаў і капіталістаў і ўстанаўлення дыктатуры рабочага класа. Але заваяваннем дыктатуры рабочага класа і правядзеннем нацыяналізацыі зямлі быў пакладзен толькі пачатак пераўтварэння совецкай вёскі на новы, соцыялістычны лад. Патрабаваўся доўгі перыяд часу для таго, каб на аснове ўмацавання саюза рабочага класа з сялянствам, на аснове росту соцыялістычнай індустрыі падрыхтаваць асноўныя масы сялянства да пераходу на соцыялістычныя рэйкі, на шлях каоперацыі. А гэта магчыма было зрабіць таму, што ў працоўнага сялянства і рабочага класа—агульныя карэнныя інтарэсы. Яны заключаюцца ў тым, каб не дапусціць аднаўлення капіталізма і пабудаваць комуністычнае грамадства. Наконт гэтага Ленін пісаў:

> «...Карэннага разыходжання інтарэсаў наёмных рабочых з інтарэсамі працоўных і эксплуатуемых сялян **няма.** Соцыялізм **упаўне** можа задаволіць інтарэсы тых і другіх. **Толькі** соцыялізм можа задаволіць іх інтарэсы. Адсюль магчымасць і неабходнасць «чэснай кааліцыі» між пролетарыямі і працоўнымі і эксплуатуемымі сялянамі» [2]).

Правільная палітыка нашай партыі ў адносінах да сялянства забяспечыла ператварэнне старой жабрацкай вёскі ў квітнеючую калгасную вёску. Партыя большэвікоў зыходзіла пры гэтым з указанняў В. І. Леніна:

> «Толькі ў тым выпадку, калі ўдасца на справе паказаць сялянам перавагі грамадскай, калектыўнай, таварыскай, арцельнай апрацоўкі зямлі, толькі, калі ўдасца дапамагчы селяніну, пры дапамозе таварыскай, арцельнай гаспадаркі, тады толькі рабочы клас, які трымае ў сваіх руках дзяржаўную ўладу, сапраўды дакажа селяніну сваю правату, сапраўды прыцягне на свой бок моцна і належным чынам шматмільённую сялянскую масу» [3]).

З перамогай соцыялістычнай рэволюцыі перад рабочым класам, устанавіўшым моцны саюз з асноўнымі масамі сялянства, паўстала найцяжэйшая задача соцыялістычнай рэволюцыі—перавесці дробную і найдрабнейшую аднаасобную гаспадарку, якая асуджае селяніна на спрадвечную галечу, на рэйкі буйнай высокапрадукцыйнай соцыялістычнай гаспадаркі, якая забяспечвае заможнае і культурнае жыццё ўсяму працоўнаму сялянству. Ленін наконт гэтага ўказваў:

«Толькі калі практычна, на вопыце, блізкім для сялян, будзе

[1]) „XVIII з'езд ВКП(б)", стэн. справ., стар. 19.
[2]) **Ленін,** т. XXII, стар. 89.
[3]) **Ленін,** т. XXIV, стар. 579.

даказана, што пераход да таварыскага, арцельнага земляробства неабходны і магчымы, толькі тады мы ўправе будзем сказаць, што ў такой велізарнай сялянскай краіне, як Расія, па шляху соцыялістычнага земляробства зроблен сур'ёзны крок» [1]).

* * *

Практычнае вырашэнне гэтай задачы знайшло сваё выражэнне ў ленінска-сталінскім кааперацыйным плане. У кааперацыі наогул і ў сельскагаспадарчай кааперацыі асабліва Ленін бачыў даступны, зразумелы для мільёнаў сялян шлях пераходу ад дробнай аднаасобнай сельскай гаспадаркі да буйнай соцыялістычнай.

Зыходзячы з вялікага кааперацыйнага плана, развіццё гаспадаркі ў нашай краіне павінна было пайсці па шляху ўцягнення сялян у соцыялістычнае будаўніцтва праз кааператыванне, па шляху паступовага ўкаранення ва ўсе галіны сельскай гаспадаркі ідэй калектывізма: спачатку ў галіне збыту, а потым і ў галіне вытворчасці сельскагаспадарчых прадуктаў. Сіла ленінскага плана, разлічанага на перамогу соцыялізма, на ператварэнне працоўнага селяніна-ўласніка ў труженіка соцыялістычнага грамадства, заключалася ва ўліку своеасаблівасці шляхоў, якія вядуць да вырашэння гэтай задачы. Сялянская дробнатаварная гаспадарка ў «сваёй аснове аднатыпна з капіталістычнай гаспадаркай, бо апіраецца на прыватную ўласнасць на сродкі вытворчасці» [2]). З гэтага выцякала, што ў нашай дробнасялянскай краіне, як гаварыў Ленін, для капіталізма была больш трывалая база, чым для комунізма. Зыходзячы з гэтай асаблівасці сялянскай гаспадаркі, партыя большэвікоў на кожным этапе развіцця соцыялістычнай эканомікі насаджала ў вёсцы кааперацыйныя пачаткі ў формах, найбольш зразумелых і даступных працоўнаму сялянству. Такімі формамі была спачатку спажывецка-збытавая, а потым—калгасная кааперацыя.

Таварыш Сталін, развіўшы і канкрэтызаваўшы ленінскі кааперацыйны план, адстаяў яго ў барацьбе з ворагамі партыі—трацкісцка-бухарынскімі бандытамі—і паказаў, што калгасы ёсць вышэйшы тып вытворчай кааперацыі.

Таварыш Сталін пісаў:

> «...Калгасы ёсць від кааперацыі, найбольш яркі від вытворчай кааперацыі. Ёсць кааперацыя збытавая, ёсць спажывецкая, ёсць і вытворчая. Калгасы прадстаўляюць неразрыўную састаўную частку кааперацыйнага руху, наогул, ленінскага кааперацыйнага плана, у прыватнасці. Праводзіць ленінскі кааперацыйны план—гэта значыць падымаць сялянства ад кааперацыі збытавой і спажывецкай да кааперацыі вытворчай, да кааперацыі, так сказаць, калгаснай» [3]).

Выключнае значэнне кааперацыя мае ў нашай краіне, дзе яна з'яўляецца магутным сродкам уцягнення працоўных мас у соцыялістычнае будаўніцтва.

> «Яна набывае асобае значэнне пасля ўмацавання дыктатуры пролетарыята, у перыяд шырокага будаўніцтва. Яна аблягчае сувязь авангарда пролетарыята з масамі сялянства і стварае

[1]) **Ленін,** т. XXIV, стар. 580.
[2]) **Сталін** „Пытанні ленінізма", стар. 279.
[3]) Там-жа, стар. 189.

магчымасць уцягнення апошніх у русло соцыялістычнага будаўніцтва» [1]).

Каапера цыйная форма арганізацыі працоўных у руках перамогшага пролетарыята становіцца магутным сродкам пераробкі экономікі і псіхалогіі дробнага сялянства.

У сваім артыкуле «Аб кааперацыі», напісаным у 1923 годзе, В. І. Ленін так вызначае ролю кааперацыі:

> «У нас, сапраўды, раз дзяржаўная ўлада ў руках рабочага класа, раз гэтай дзяржаўнай уладзе належаць усе сродкі вытворчасці, у нас, сапраўды, задачай засталося толькі кааперанне насельніцтва. Пры ўмове максімальнага каапераваня насельніцтва сам сабою дасягае мэты той соцыялізм, які раней выклікаў законныя насмешкі, ухмылку, пагардлівыя адносіны да сябе з боку людзей, справядліва пераконаных у неабходнасці класавай барацьбы, барацьбы за палітычную ўладу і т. д.» [2]).

Іменна ў той перыяд праз кааперацыю была знойдзена тая «ступень з'яднання прыватнага інтарэсу, прыватнага гандлёвага інтарэсу, праверкі і кантролю яго дзяржавай, ступень падпарадкавання яго агульным інтарэсам, якая раней з'яўлялася камнем спатыкання для многіх і многіх соцыялістаў» [3]).

Ленін далей указвае, што пры дыктатуры пролетарыята пры саюзе рабочага класа са шматмільённымі сялянскімі масамі, пры наяўнасці соцыялістычнай прамысловасці,—правільна арганізаваная, ахапляючая мільёны сялянства вытворчая кааперацыя з'яўляецца тым сродкам, пры дапамозе якога можна пабудаваць соцыялістычнае грамадства ў нашай краіне.

Ленін і Сталін заўсёды вучылі, што пераход дробных сялянскіх гаспадарак да буйнай соцыялістычнай гаспадаркі можа адбыцца толькі пры ўмове наяўнасці матэрыяльнай базы.

> «Справа пераапрацоўкі дробнага земляроба, пераапрацоўкі ўсёй яго псіхалогіі і звычак ёсць справа, якая патрабуе пакаленняў. Рашыць гэта пытанне ў адносінах да дробнага земляроба, аздаравіць, так сказаць, усю яго псіхалогію можа толькі матэрыяльная база, тэхніка, прымяненне трактараў і машын у земляробстве ў масавым маштабе, электрыфікацыі ў масавым маштабе» [4]).

К 1927 году партыя дабілася велізарных поспехаў у справе соцыялістычнай індустрыялізацыі краіны. Прадукцыя прамысловасці і сельскай гаспадаркі перавысіла даваенны ўзровень. Аднак сельская гаспадарка ўсё яшчэ адставала ад тэмпаў развіцця прамысловасці. Валавая прадукцыя зернавой гаспадаркі складала ўсяго 91 проц. даваеннага ўраджаю, а яе таварная частка—37 проц. Партыя не магла далей цярпець такога адставання ў развіцці зернавой гаспадаркі, бо гэта прыводзіла да крызісу сельскай гаспадаркі і стварала пагрозу сарваць забеспячэнне гарадоў хлебам.

> «Перад краінай стаялі дзве магчымасці: або перайсці на буйную **капіталістычную** вытворчасць, што азначала-б разарэнне сялянскіх мас, гібель саюза рабочага класа і сялянства, узмац-

[1]) **Сталін** „Пытанні ленінізма", стар. 119.
[2]) **Ленін**, т. XXVII, стар. 391.
[3]) **Тэм-жа**, стар. 391—392.
[4]) **Ленін**, т. XXVI, стар. 239.

ненне кулацтва і паражэнне соцыялізма ў вёсцы, або стаць на шлях аб'яднання дробных сялянскіх гаспадарак у буйныя **сацыялістычныя** гаспадаркі, у калгасы, здольныя скарыстаць трактары і іншыя сучасныя машыны для быстрага ўздыму зернавой гаспадаркі і яе таварнай прадукцыі.

Зразумела, што партыя большэвікоў і Совецкая дзяржава маглі стаць толькі на другі шлях, на калгасны шлях развіцця сельскай гаспадаркі» [1]).

У палітычнай справаздачы ЦК ВКП(б) на XV з'ездзе таварыш Сталін намеціў канкрэтную праграму дзейнасці, якая забяспечвала перамогу соцыялізма ў вёсцы, уздым прадукцыйных сіл у сельскай гаспадарцы.

Таварыш Сталін бачыў

«...выхад у пераходзе дробных і распыленых сялянскіх гаспадарак на буйныя і аб'яднаныя гаспадаркі на аснове грамадскай апрацоўкі зямлі, у пераходзе на калектыўную апрацоўку зямлі на базе новай, вышэйшай тэхнікі. Выхад у тым, каб дробныя і найдрабнейшыя сялянскія гаспадаркі пастпова, але няўхільна, не ў парадку націску, а ў парадку паказу і пераканання, аб'ядноўваць у буйныя гаспадаркі на аснове грамадскай, таварыскай, калектыўнай апрацоўкі зямлі, з прымяненнем сельскагаспадарчых машын і трактароў, з прымяненнем навуковых прыёмаў інтэнсіфікацыі земляробства. Другога выхаду няма» [2]).

Без гэтага немагчыма было і марыць аб пераводзе дробных сялянскіх гаспадарак на шлях соцыялізма, на шлях калектывізацыі.

У снежні 1929 г. на канферэнцыі аграрнікаў-марксістаў тав. Сталін, выкрываючы правых рэстаўратараў капіталізма з іх тэорыяй «роўнавагі», раскрыў іх дробнаўласніцкае нутро і паказаў, да чаго магла прывесці гэта «тэорыя». Тым самым таварыш Сталін узбагаціў марксісцка-ленінскае вучэнне ў аграрным пытанні ва ўмовах будаўніцтва соцыялізма ў нашай краіне. Таварыш Сталін указаў, што ў нашай краіне немагчыма развіваць соцыялістычную індустрыю, маючы такую базу, як дробнатаварная гаспадарка, якая вытварае амаль **толькі для ўласных патрэб і не здольна да пашыранага ўзнаўлення.**

Хіба можна на працягу больш ці менш доўгага перыяда часу базіраваць Совецкую ўладу і соцыялістычнае будаўніцтва на двух розных асновах: на аснове самай буйнай і аб'яднанай соцыялістычнай прамысловасці і на аснове самай раздробленай і адсталай дробнатаварнай сялянскай гаспадаркі?

«Не, нельга. Гэта калі-небудзь павінна скончыцца поўным развалам усёй народнай гаспадаркі. Дзе-ж выхад? Выхад у тым, каб узбуйніць сельскую гаспадарку, зрабіць яе здольнай к накапленню, к расшыранаму ўзнаўленню і пераўтварыць такім чынам сельскагаспадарчую базу народнай гаспадаркі. Але як яе ўзбуйніць? Для гэтага існуюць два шляхі. Існуе шлях **капіталістычны,** які заключаецца ва ўзбуйненні сельскай гаспадаркі з дапамогай насаджэння ў ёй капіталізма, шлях, які вядзе да збяднення сялянства і да развіцця капіталістычных прадпрыемстваў у сельскай гаспадарцы. Гэты шлях адвяргаецца намі, як шлях, несумяшчальны з совецкай гаспадаркай. Існуе другі шлях,

[1]) „Кароткі курс гісторыі ВКП(б)", стар. 272.
[2]) Там-жа, стар. 273.

шлях **сацыялістычны,** які заключаецца ў насаджэнні калгасаў і соўгасаў у сельскай гаспадарцы, шлях, які вядзе да аб'яднання дробнасялянскіх гаспадарак у буйныя калектыўныя гаспадаркі, узброеныя тэхнікай і навукай, і да выцяснення капіталістычных элементаў з земляробства. Мы стаім за гэты другі шлях.

Стала быць, пытанне стаіць так: або адзін шлях, або другі, або **назад**—да капіталізма, або **ўперад**—да соцыялізма. Ніякага трэцяга шляху няма і не можа быць»[1]).

* * *

Масавая калектывізацыя ў нашай краіне магла пачацца толькі з 1929 года—з года вялікага пералому, бо для перамогі калгаснага ладу патрэбна была каласальная падрыхтоўка, патрэбна была і матэрыяльная база.

Ажыццяўляючы сталінскі план індустрыялізацыі краіны, прыняты на XIV з'ездзе ВКП(б), партыя стварыла магутную матэрыяльную базу калектывізацыі. Ажыццяўляючы ленінскі кааперацыйны план, партыя, на кожным этапе развіцця соцыялістычнай эканомікі, умела спалучала асабісты інтарэс паасобных таваравытворцаў з інтарэсамі дзяржавы, падпарадкаваючы яго інтарэсам грамадскім, і арганізоўвала ў вёсцы розныя віды кааперацыі, паслядоўна развіваючы гэтыя кааперацыйныя формы ад ніжэйшых да вышэйшых.

Таварыш Сталін указваў, што перавод сялянскіх гаспадарак у калгасы павінен быць ажыццёўлен «не ў парадку нажыму, а ў парадку паказу і пераконвання».

«...Пакуль не было масавага калгаснага руху, «сталбавой дарогай» з'яўляліся ніжэйшыя формы кааперацыі, спажывецкая і збытавая кааперацыя, а калі выступіла на сцэну вышэйшая форма кааперацыі, яе калгасная форма, апошняя стала «сталбавой дарогай» развіцця. Гаворачы без двукоссяў, сталбавую дарогу соцыялістычнага развіцця вёскі складае кааперацыйны план Леніна, ахватваючы ўсе формы сельска-гаспадарчай кааперацыі, ад ніжэйшых (спажывецка-збытавая) да вышэйшых (вытворча-калгасная). **Процістаўляць** калгасы кааперацыі—значыць здзекавацца над ленінізмам і распісацца ў сваім уласным невуцтве»[2]).

Гэтым былі выкрыты і развеяны ў прах спробы правых рэстаўратараў капіталізма проціпаставіць калгасы кааперацыі.

Праводзячы калектывізацыю ў вёсцы, партыя большэвікоў вырашыла адну з самых складаных задач соцыялістычнай рэволюцыі. Адбыўся найглыбейшы рэволюцыйны пераварот у вёсцы. Ажыццяўленне гэтага перавароту забяспечыла кіруючая і арганізуючая роля ленінска-сталінскай партыі.

Партыя арганізавала сілы рабочага класа і сялянства на выкананне пастаўленай тав. Сталіным гістарычнай задачы—індустрыялізацыі нашай краіны. Партыя забяспечыла сельскую гаспадарку фінансавай і арганізацыйнай дапамогай з боку дзяржавы. Партыя праводзіла ленінскую палітыку соцыялістычнага выхавання сялянскіх мас.

Калектывізацыя вызваліла сялян ад раду выключна цяжкіх фізічных

---

1) **Сталін** „Пытанні ленінізма", стар. 278.
2) Там-жа, стар. 272.

работ, якія цяпер выконваюцца машынамі. Партыя пад кіраўніцтвам таварыша Сталіна разграміла правакулацкую контррэволюцыю, трацкісцка-бухарынскіх агентаў замежных разведак, якія змагаліся супроць калгаснага ладу, імкнучыся рэстаўраваць капіталізм у нашай краіне.

Партыя большэвікоў паказала ўсяму працоўнаму сялянству адзіна правільны шлях развіцця—шлях суцэльнай калектывізацыі. Партыя стварыла для сельскай гаспадаркі матэрыяльную базу. Калгасы і соўгасы ўжо ў 1929 г. далі таварнага хлеба звыш 130 млн. пудоў, г. зн. больш, чым далі кулацкія гаспадаркі ў 1927 г. Партыя перайшла ад палітыкі абмежавання эксплаататарскіх тэндэнцый кулацтва, да палітыкі ліквідацыі кулацтва як класа на базе суцэльнай калектывізацыі. Партыя стварыла ўсе ўмовы для таго, каб сяляне пайшлі ў калгасы цэлымі вёскамі, паветамі, раёнамі, каб у калгасы пайшоў серадняк.

Калектыўны лад перамог. Сялянства зажыло радасным, шчаслівым, заможным жыццём.

Сацыялістычная сельская гаспадарка няўхільна развіваецца. Растуць пасеўныя плошчы калгасаў. У 1933 г. пасеўная плошча зернавых калгасаў складала 75 млн. га, а ў 1938 г. яна вырасла да 92 млн. га. Роля індывідуальнай сялянскай гаспадаркі зведзена да нуля. У 1938 годзе пасеўная плошча зернавых культур вырасла на 130,4 проц. супроць даваеннага часу, а па тэхнічных культурах амаль патроілася.

Сацыялістычнае земляробства ўзброена першакласнай тэхнікай.

Колькасць машына-трактарных станцый к 1940 году дасягнула 6.500. На сацыялістычных палях працуе звыш поўмільёна трактараў, 165.000 камбайнаў і вялікая колькасць розных складаных сельскагаспадарчых машын. Бясспрэчныя поспехі дасягнуты і ў галіне жывёлагадоўлі. Колькасць ферм і пагалоўя ў іх расце з года ў год.

XVIII з'езд ВКП(б) паставіў грандыёзныя задачы ў галіне далейшага развіцця сельскай гаспадаркі. Ураджайнасць сацыялістычных палёў павінна дасягнуць 13 цэнтнераў з га. Для гэтага неабходна ўвесці ва ўсіх калгасах правільныя севазвароты, у шырокіх маштабах прымяняць як хімічнае, так і натуральнае ўгнаенне глебы, праводзіць падкормку раслін.

Неабходна дабіцца прыросту пагалоўя жывёлы: коней—на 35 проц., буйнай рагатай жывелы—на 40 проц., свіней—на 100 проц., авечак і коз—на 110 проц. Для гэтага неабходна карэнным чынам палепшыць племянную справу, узмацніць кармовую базу, палепшыць догляд за жывёлай.

Асаблівую ўвагу трэба звярнуць на далейшае ўмацаванне дысцыпліны і арганізацыі працы ў калгасах. Для гэтага неабходна зжыць элементы абязлічкі і ўраўнілаўкі, якія з'яўляюцца тормазам далейшага росту прадукцыйнасці працы ў калгасах.

На падставе калгаснага ладу хутка рушылі ўперад прадукцыйныя сілы сельскай гаспадаркі. Паспяхова выконваецца пастаўленая тав. Сталіным задача—дабіцца ўраджаю 7—8 мільярдаў пудоў хлеба ў год.

Калгасны лад перамог канчаткова. Калгасы сталі адзіным гаспадаром у вёсцы, жыццё па-за калгасам стала для селяніна нямыслімым. Наша земляробства перашло на сацыялістычныя рэйкі. Такім чынам вырашана адна з велізарнейшых задач, дзякуючы геніяльнаму кіраўніцтву тав. Сталіна.

«Гэта быў найглыбейшы рэволюцыйны пераварот, скачок са старога якаснага стану грамадства ў новы якасны стан, роўна-

значны па сваіх выніках рэвалюцыйнаму перавароту ў кастрычніку 1917 года.

Своеасаблівасць гэтай рэвалюцыі заключалася ў тым, што яна была праведзена **зверху,** па ініцыятыве дзяржаўнай улады, пры прамым падтрыманні **знізу,** з боку мільённых мас сялян, якія змагаліся супроць кулацкай кабалы, за свабоднае калгаснае жыццё» [1]).

Распрацаваны тав. Сталіным Статут сельскагаспадарчай арцелі з'яўляецца асноўным законам калгаснага жыцця, узорам правільнага спалучэння асабістых інтарэсаў калгаснікаў з грамадскімі інтарэсамі калгаса. Сталінскі Статут знамянуе сабою новы этап у развіцці калгаснага будаўніцтва—этап бурнага развіцця і ўздыму прадукцыйных сіл калгасаў, іх арганізацыйна-гаспадарчага ўмацавання. Статут— магутная зброя ў барацьбе шматмільённых калгасных мас за далейшы росквіт калгасаў, за заможнае жыццё калгаснікаў, за падрыхтоўку ўмоў паступовага пераходу ад соцыялізма да комунізма.

Ленін і Сталін вучылі, што патрэбны доўгія годы ўпартай барацьбы для ажыццяўлення соцыялістычнага перавыхавання сялянства. Яны вучылі, што нельга ўяўляць сабе селяніна, як прыроджанага соцыяліста. Партыі патрэбна было выбраць такую форму калгаснага руху, якая-б палегчыла справу соцыялістычнага перавыхавання калгаснікаў. Гэта задача і была вырашана тав. Сталіным. Ён указаў тое асноўнае звяно, за якое трэба было ўхапіцца,—сельскагаспадарчую арцель.

* * *

У трэцім пяцігоддзі асноўнай формай калгаснай гаспадаркі будзе таксама сельскагаспадарчая арцель, бо ў ёй усе асноўныя сродкі вытворчасці з'яўляюцца грамадскай уласнасцю, бо яна ажыццяўляе соцыялістычны прынцып размеркавання даходаў па працы. Калгас, як буйная соцыялістычная гаспадарка, стварае ўсе ўмовы для гіганцкага росту прадукцыйных сіл, для шырокага прымянення машын.

На XVII з'ездзе партыі тав. Сталін гаварыў:

> «...Арцель з'яўляецца пры сучасных умовах адзіна правільнай формай калгаснага руху. І гэта зусім зразумела: а) арцель правільна спалучае асабістыя, бытавыя інтарэсы калгаснікаў з іх грамадскімі інтарэсамі, б) арцель удачна прыстасоўвае асабістыя, бытавыя інтарэсы—да грамадскіх інтарэсаў, аблягчаючы тым самым выхаванне ўчарашніх аднаасобнікаў у духу калектывізма» [2]).

Галоўным і рашаючым у калгасным будаўніцтве з'яўляецца не асабістая гаспадарка, а грамадская—калгасная. Аднак многія кіраўнікі савецкіх і партыйных органаў сталі на антыпартыйны шлях раздування асабістай падсобнай гаспадаркі калгаснікаў ва ўшчэрб грамадскай, чым спрыялі пранікненню ў калгасы буржуазных тэндэнцый. Гэту апартуністычную практыку выкарыстоўваюць мнімыя калгаснікі, якія імкнуцца прыкрыць свае спекулянцкія махінацыі шырмай калгасніка.

---

1) „Кароткі курс гісторыі ВКП(б)". стар. 288—289.
2) **Сталін** „Пытанні ленінізма", стар. 468.

ЦК ВКП(б) і СНК СССР у сваёй пастанове «Аб мерах аховы грамадскіх зямель калгасаў ад разбазарвання», прынятай па ініцыятыве тав. Сталіна, з уласцівай партыі прынцыповасцю ўскрылі буржуазныя тэндэнцыі ў калгасах і асудзілі антыпартыйную, антыдзяржаўную практыку парушэння статута сельгасарцелі, указаўшы, што

> «...Падобныя грубейшыя скажэнні статута сельскагаспадарчай арцелі атрымалі шырокае распаўсюджанне толькі таму, што партыйныя і совецкія кіраўнікі, замест штодзённага выхавання калгасаў і калгаснікаў у духу строгага захавання калгаснага статута, самі спрыяюць сваёй апартуністычнай практыкай парушэнню статута і злачынна-благадушна адносяцца да пранікнення ў калгасы варожых калгаснаму ладу прыватна-ўласніцкіх, буржуазных тэндэнцый, занасімых астаткамі разбітага кулацтва».

У барацьбе супроць прыватна-ўласніцкіх, буржуазных тэндэнцый партыя апіраецца на падтрымку пераважнай большасці калгаснікаў, якія чэсна працуюць на соцыялістычных палях.

Партыя і ўрад выключна вялікую ўвагу ўдзяляюць пытанню правільнай арганізацыі працы ў калгасах, бо праца ў соцыялістычнай дзяржаве—абавязак кожнага працаздольнага грамадзяніна. Толькі ў СССР праца стала справай чэсці, справай славы, справай доблесці і геройства. Кожны калгаснік павінен захоўваць дысцыпліну працы, гэтак сама, як і кожны грамадзянін нашай соцыялістычнай радзімы.

Асноўная маса калгаснікаў працуе чэсна і добрасумленна, але сіла перажыткаў капіталізма ў свядомасці калгаснікаў яшчэ значна. Селянін, уступаючы ў калгас, не становіцца яшчэ па свядомасці сваёй соцыялістам. Неабходна вялікая і ўпартая выхаваўчая работа.

Тав. Молатаў у сваім дакладзе на XVIII з'ездзе ВКП(б), гаворачы аб тым, што ў СССР пасля ліквідацыі рэштак эксплаататарскіх элементаў стварылася грамадства з двух дружаственных адзін другому класаў: з класа рабочых і класа сялян, адзначыў:

> Але «Ці значыць гэта, што ўжо **ўсе** рабочыя і **ўсе** сяляне сталі перадавымі людзьмі нашага грамадства? Не, яшчэ не значыць.
>
> І сярод рабочых ёсць перадавыя і ёсць адсталыя... Таксама і сярод сялян: ёсць і перадавыя, ёсць і адсталыя. Ёсць, вядома, і горш, чым проста адсталыя... Сярод сялян таксама не мала яшчэ такіх, якім няма справы не толькі да інтарэсаў дзяржавы, але і да інтарэсаў свайго калгаса, якія думаюць толькі аб тым, каб урваць для сябе пабольш і ў дзяржавы і ў калгаса. І тут патрэбны сур'ёзныя меры ў галіне ўмацавання дысцыпліны і ў галіне выхавання» **(Молатаў).**

* * *

Далейшае развіццё і ўмацаванне сельскагаспадарчай арцелі ёсць неабходная ўмова для пераходу ад яе ніжэйшай формы да вышэйшай: ад калгаса да комуны. Для таго, каб перайсці да вышэйшай формы калгаснага руху—да комуны, патрэбен далейшы рост тэхнікі, далейшая механізацыя вытворчасці, далейшы рост грамадскай гаспадаркі.

Таварыш Сталін на XVII з'ездзе ВКП(б) з вычарпальнай паўнатою даў адказ на гэта пытанне:

«Будучая комуна вырасце з развітай і заможнай арцелі. Будучая сельскагаспадарчая комуна ўзнікне тады, калі на палях і ў фермах арцелі будзе багацце зярна, жывёлы, птушкі, гародніны і ўсякіх іншых прадуктаў, калі пры арцелях завядуцца механізаваныя пральні, сучасныя кухні-сталовыя, хлебазаводы і т. д., калі калгаснік убачыць, што яму выгадней атрымліваць мяса і малако з фермы, чым заводзіць сваю карову і дробную жывёлу, калі калгасніца ўбачыць, што ёй выгадней абедаць у сталовай, браць хлеб з хлебазавода і атрымліваць сціраную бялізну з грамадскай пральні, чым самой займацца гэтай справай. Будучая комуна ўзнікне на базе больш развітай тэхнікі і больш развітай арцелі, на базе багацця прадуктаў... Працэс перарастання арцелі ў будучую комуну павінен адбывацца паступова, па меры таго, як **усе** калгаснікі будуць пераконвацца ў неабходнасці такога перарастання» [1]).

Умацаванне сельскагаспадарчай арцелі, захаванне статута і ўсямернае развіццё грамадскай гаспадаркі—неабходныя ўмовы ў барацьбе за новы ўздым прадукцыйнасці працы.

XVIII з'езд большэвікоў, на аснове геніяльных указанняў таварыша Сталіна, намеціў план грандыёзнейшых работ на трэцяе пяцігоддзе, даў праграму развіцця і ўмацавання калгаснага ладу:

«У калгасным будаўніцтве задачы заключаюцца ў далейшым усямерным арганізацыйна-гаспадарчым умацаванні сельскагаспадарчай арцелі, у развіцці і ўмацаванні грамадскай уласнасці калгаса, у развіцці калгасных жывёлагадоўчых ферм, грамадскіх пабудоў, грамадскіх страхавых фондаў і іншых відаў калгаснай уласнасці, што з'яўляецца асновай далейшага ўздыму сельскай гаспадаркі і матэрыяльна-культурнага ўзроўню жыцця калгаснага сялянства. У адпаведнасці з гэтым неабходна ўзмацніць барацьбу з нарушэннямі Статута сельскагаспадарчай арцелі, не дапускаць незаконнага расшырэння прысядзібнай гаспадаркі, прысядзібных зямельных участкаў і жывёлы ў паасобных калгаснікаў, што вядзе да парушэння інтарэсаў калгаса, перашкаджае ўмацаванню калгаснай дысцыпліны» [2]).

Пад кіраўніцтвам тав. Сталіна наша партыя ў трэцім пяцігоддзі даб'ецца новага нябачанага росквіту прадукцыйных сіл у соцыялістычнай сельскай гаспадарцы, што забяспечыць яшчэ большы ўздым заможнасці і культуры калгасных мас, павялічыць магутнасць нашай радзімы і забяспечыць далейшы пераможны рух па шляху да комунізма.

---

1) Сталін „Пытанні ленінізма“, стар. 469.
2) „XVIII з'езд ВКП(б)“, стэн. справ., стар. 666.

З. Элімелах

# Вучэнне таварыша Сталіна аб соцыялістычнай дзяржаве ў капіталістычным акружэнні

На XVIII з'ездзе партыі таварыш Сталін у сваім дакладзе, які з'яўляецца новым каштоўнейшым укладам у тэорыю марксізма-ленінізма, па-новаму паставіў пытанне аб совецкай дзяржаве перыяда комунізма ва ўмовах капіталістычнага акружэння.

На падставе геніяльнага абагульнення вопыту больш як дваццацігадовага існавання пролетарскай дзяржавы і практыкі соцыялістычнага будаўніцтва таварыш Сталін даў закончанае класічнае вучэнне аб соцыялістычнай дзяржаве, аб задачах, метадах дзейнасці, функцыях і значэнні дзяржавы ў пераходны ад капіталізма да комунізма перыяд і ў перыяд комунізма.

Гэта вучэнне таварыша Сталіна цалкам зыходзіць з марксісцка-ленінскага вучэння аб дзяржаве, аб яе паходжанні, сутнасці і прыродзе. Таварыш Сталін развівае яго прыстасоўна да новых канкрэтных умоў, у поўнай адпаведнасці з марксісцка-ленінскім дыялектычным метадам.

Як вялікі майстар марксісцкай дыялектыкі, таварыш Сталін разглядае совецкую дзяржаву ў яе руху, адзначае галоўныя этапы яе развіцця, ускрывае аб'ектыўную аснову і законамернасць гэтага развіцця, да канца выясняе ролю і задачы пролетарскай дзяржавы ў перыяд соцыялізма ва ўмовах капіталістычнага акружэння, дае ясны, вычарпальны адказ на пытанне аб далейшых перспектывах і шляхах яе развіцця.

Ускрываючы контррэволюцыйную рэстаўратарскую сутнасць поглядаў трацкістаў і бухарынцаў па пытаннях пролетарскай дыктатуры і совецкай дзяржавы, таварыш Сталін нястомна заклікаў і заклікае партыю мацаваць магутнасць дыктатуры пролетарыята і соцыялістычнай дзяржавы—рашаючай сілы ў барацьбе за перамогу комунізма ў нашай краіне.

* * *

Марксізм, які стварыў навуку аб законах грамадскага развіцця, упершыню даў сапраўды навуковае тлумачэнне паходжання і сутнасці дзяржавы. Марксізм-ленінізм развеяў у прах антынавуковыя сцвярджэнні ідэолагаў пануючай буржуазіі аб тым, што дзяржава, як і ўсе іншыя ўстоі капіталізма, ёсць нешта надкласавае, існуючае нібы вечна і нязменна.

Ленін гаварыў:

«... Наўрад ці знойдзецца другое пытанне, настолькі заблытанае наўмысна і ненаўмысна прадстаўнікамі буржуазнай навукі,

філасофіі, юрыспрудэнцыі, палітычнай эканоміі і публіцыстыкі, як пытанне аб дзяржаве» [1]).

Імкненне ідэолагаў буржуазіі прадставіць дзяржаву ў выглядзе пазакласавай і надкласавай установы, якая нібыта стаіць на стражы «права і справядлівасці», выклікана патрэбай апраўдаць існаванне эксплаатацыі, класавыя прывілеі буржуазіі. Так, напрыклад, французскі прасвяціцель XVIII века, прадстаўнік рэволюцыйнага крыла буржуазіі Жан-Жак Русо (1712—1778 гг.) сцвярджаў, што грамадства і дзяржава першапачаткова ўтварыліся шляхам свабоднага «грамадскага дагавора» паміж свабоднымі, незалежнымі адзін ад другога людзьмі. Нямецкі буржуазны філосаф Гегель (1770—1831 гг.) сцвярджаў, што дзяржава ёсць «розум у сабе і для сябе», ажыццяўленне «маральнай ідэі». Буржуазны соцыёлаг Спенсер, а разам з ім і рускі народніцкі ідэолаг Міхайлоўскі імкнуліся давесці, што дзяржава пароджана нібыта «ускладненнем грамадскага жыцця», «дыферэнцыяцыяй функцый». Такі быў асноўны напрамак ілжывай буржуазнай так званай «навукі» у пытанні аб дзяржаве, усе намаганні якой накіраваны на тое, каб зацямніць эксплаататарскую прыроду буржуазнай дзяржавы.

Усім гэтым буржуазным «тэорыям», якія нічога агульнага з навукай не маюць, процістаіць распрацаванае Марксам і Энгельсам вучэнне аб дзяржаве, аснаванае на веданні законаў грамадскага развіцця, на навуковым абагульненні фактычнай гісторыі развіцця чалавечага грамадства, на прымяненні дыялектычнага і гістарычнага матэрыялізма да вывучэння матэрыяльных умоў жыцця грамадства і яго палітычных устаноў.

Асноўнае ў марксісцка-ленінскім вучэнні аб дзяржаве заключаецца ў прызнанні таго, што дзяржава не існуе вечна, што яна ўзнікла разам з падзелам грамадства на антаганістычныя класы, як асобая машына для падаўлення эксплаататарамі і прыгнятальнікамі эксплаатуемых і прыгнечаных.

Пры ўсёй рознастайнасці форм дзяржава ў грамадстве, дзе пануюць эксплаататарскія класы, ёсць прылада ў іх руках для падаўлення эксплаатуемага народа. Усякай эксплаататарскай дзяржаве ўласцівы функцыі, чотка акрэсленыя таварышом Сталіным:

> «Дзве асноўныя функцыі характарызуюць дзейнасць дзяржавы: унутраная (галоўная)—трымаць эксплаатуемую большасць у вуздзе і знешняя (не галоўная)—расшыраць тэрыторыю свайго, пануючага класа за кошт тэрыторыі іншых дзяржаў, або абараняць тэрыторыю сваёй дзяржавы ад нападаў з боку іншых дзяржаў. Так была справа пры рабаўладальніцкім ладзе і феадалізме. Так абстаіць справа пры капіталізме» [2]).

Якімі-ж павінны быць адносіны пролетарыята да буржуазнай дзяржавы? Асновапаложнікі навуковага комунізма Маркс і Энгельс, абагульняючы вопыт барацьбы пролетарыята супроць буржуазіі, прышлі да вываду, што пролетарыят павінен зламаць, разбіць старую буржуазную дзяржаўную машыну. Пры гэтым марксізм рашуча выступае супроць шкоднага для пролетарскай рэволюцыі анархісцкага патрабавання «узрыву» дзяржавы.



[1]) **Ленін**, т. XXIV, стар. 343.
[2]) **Сталін** „Пытанні ленінізма“, стар. 604.

Энгельс у пісьме да амерыканскага соцыяліста Ван-Патэна катэгарычна абвяргае анархісцкую ідэю «скасавання» дзяржавы пасля перамогі рэволюцыі. Іменна ў пролетарскай дзяржаве Энгельс бачыць тую арганізацыю, той апарат,

> «... з дапамогай якога пераможны пролетарыят можа ажыццяўляць сваю толькі што заваяваную ўладу, падаўляць сваіх ворагаў-капіталістаў—і ўтварыць тую эканамічную рэволюцыю грамадства, без якой уся перамога немінуча закончылася-б паражэннем і масавай разнёй рабочых, як гэта было пасля Парыжскай Комуны» [1]).

Маркс і Энгельс паказалі не толькі адмоўную ролю дзяржавы, калі яна з'яўляецца сродкам прыгнечання (эксплаататарская дзяржава), але і станоўчую ролю дзяржавы пры дыктатуры пролетарыята, калі яна служыць спецыфічнай прыладай класавай барацьбы, магутным пераўтвараючым, рэволюцыйна-творчым фактарам.

Асновай марксісцка-ленінскага вучэння аб дзяржаве пераходнага ад капіталізма да комунізма перыяда з'яўляецца сцвярджэнне аб немагчымасці простага, механічнага выкарыстання дзяржаўнай машыны буржуазнага грамадства ў інтарэсах пролетарыята. Ленін, прыводзячы ў кнізе «Дзяржава і рэволюцыя» сцвярджэнне Маркса аб тым, што «усе пераваροты ўдасканалілі гэту машыну, замест таго каб зламаць яе»,—указвае, што гэты вывад ёсць галоўнае, асноўнае ў вучэнні марксізма аб дзяржаве.

Марксізм, такім чынам, абгрунтаваў палажэнне аб неабходнасці дзяржавы дыктатуры пролетарыята, аб тым, што на месца разбітай старой дзяржаўнай буржуазнай машыны пролетарыят павінен ствараць сваю дзяржаву, дзяржаву новага тыпу, неабходную для падаўлення звергнутых эксплаататарскіх класаў, для рэволюцыйнай перапрацоўкі грамадства, для пабудовы соцыялізма.

Марксісцкае вучэнне аб дыктатуры пролетарыята атрымала далейшае развіццё ў класічных работах Леніна і Сталіна.

Велізарнейшай заслугай В. І. Леніна была распрацоўка ідэі дыктатуры пролетарыята, выкрыццё каўцкіянцкіх і іншых скажэнняў марксісцкай тэорыі дзяржавы. Яшчэ да перамогі Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі, у жніўні—верасні 1917 года ва ўступе да сваёй кнігі «Дзяржава і рэволюцыя» Ленін указваў: «Пытанне аб дзяржаве набывае ў сучасны момант асаблівую важнасць і ў тэарэтычных, і ў практычна-палітычных адносінах» [2]). У гэтай сваёй геніяльнай працы Ленін вядзе барацьбу на два фронты: супроць апартуністаў, якія адмаўлялі неабходнасць зломy старой буржуазнай дзяржаўнай машыны, і супроць анархістаў, якія прапаведвалі «узрыў» і безадкладную «адмену» дзяржавы. Не гледзячы на ўяўнае знешняе адрозненне пазіцыі апартуністаў і анархістаў, яны зыходзіліся на адным і тым-жа: яны адмаўлялі той факт, што пролетарская дзяржава карэнным чынам адрозніваецца ад дзяржавы буржуазнай, і ігнаравалі процілегласць класавай прыроды і функцый паміж дзяржавай дыктатуры буржуазіі і дзяржавай дыктатуры пролетарыята.

У барацьбе супроць апартуністаў з II Інтэрнацыянала Ленін разві-

[1]) „Маркс і Энгельс", т. XXVII, стар. 304.
[2]) Ленін, т. XXI, стар. 369.

вае далей асноўныя выказванні Маркса і Энгельса аб пролетарскай дзяржаве, як дзяржаве новага тыпу. Ён паказвае, у чым заключаецца зло старога буржуазнага дзяржаўнага апарата і якім павінен быць дзяржаўны апарат пролетарскай дзяржавы.

Ленін не толькі аднавіў ва ўсёй чыстаце марксісцкае вучэнне аб дыктатуры пролетарыята, але і ўзбагаціў яго новым укладам. Апіраючыся на тэорыю марксізма ў сваім вучэнні аб магчымасці перамогі соцыялізма ў адной краіне і абагульваючы вялікі вопыт двух рускіх рэволюцый, Ленін упісаў у марксісцкае вучэнне аб дзяржаве новую старонку. Ён адкрыў совецкую ўладу, як дзяржаўную форму дыктатуры пролетарыята, распрацаваў пытанне аб класавым саюзе пролетарыята з працоўнымі масамі, падкрэсліўшы, што дыктатура пролетарыята з'яўляецца вышэйшым тыпам дэмакратыі ва ўмовах класавага грамадства.

Вучэнне Леніна аб рэспубліцы советаў, як найбольш мэтазгоднай форме палітычнай арганізацыі грамадства ў пераходны ад капіталізма да комунізма перыяд з'явілася важнейшым крокам па шляху далейшага развіцця марксісцкай тэорыі, каштоўнейшым укладам у скарбніцу марксізма.

> «Ленін не ведаў яшчэ ў 1915 г. совецкай улады як дзяржаўнай формы дыктатуры пролетарыята,—гаварыў тав. Сталін у сваім заключным слове на VII пашыраным пленуме ІККІ.—Ленін ведаў яшчэ ў 1905 г., што паасобныя советы з'яўляюцца зачаткам рэволюцыйнай улады ў перыяд звяржэння царызма. Але аб'яднаную ў дзяржаўным маштабе совецкую ўладу, як дзяржаўную форму дыктатуры пролетарыята, ён яшчэ не ведаў тады. Рэспубліку Советаў, як дзяржаўную форму дыктатуры пролетарыята, Ленін адкрыў толькі ў 1917 г. і падрабязна распрацаваў пытанне аб гэтай новай форме палітычнай арганізацыі пераходнага грамадства летам 1917 г., галоўным чынам у сваёй кнізе «Дзяржава і рэволюцыя» [1]).

З'яўляючыся палітычнай формай дыктатуры рабочага класа, Совецкая ўлада прадстаўляе сабою новы тып дзяржавы, карэнным чынам адметны ад буржуазнай дзяржавы.

> «Совецкі лад ёсць максімум дэмакратызма для рабочых і сялян і ў той-жа час ён азначае разрыў з **буржуазным** дэмакратызмам і ўзнікненне **новага,** сусветна-гістарычнага, **тыпу** дэмакратыі, іменна: пролетарскага дэмакратызма або дыктатуры пролетарыята» [2]).

У «Кароткім курсе гісторыі ВКП(б)» гаворыцца, што да Леніна

> «... марксісцкія тэарэтыкі лічылі парламентарную рэспубліку лепшай палітычнай формай пераходу да соцыялізма. Цяпер Ленін прапанаваў замяніць парламентарную рэспубліку рэспублікай Советаў, як найбольш мэтазгоднай формай палітычнай арганізацыі грамадства ў пераходны перыяд ад капіталізма да соцыялізма» [3]).

[1]) Сталін „Аб апазіцыі", стар. 520.
[2]) Ленін, т. XXVII, стар. 26.
[3]) „Кароткі курс гісторыі ВКП(б)", стар. 176.

Усебакова прааналізаваўшы сутнасць і характар совецкай улады як дзяржаўнай формы дыктатуры пролетарыята, таварыш Сталін прыходзіць да вываду:

> «Рэспубліка Советаў з'яўляецца, такім чынам, той шуканай і знойдзенай, нарэшце, палітычнай формай, у рамках якой павінна быць здзейснена эканамічнае вызваленне пролетарыята, поўная перамога социялізма» [1]).

Советы—найбольш дэмакратычныя, найбольш аўтарытэтныя арганізацыі мас. Совецкая ўлада—гэта форма саюза рабочага класа з сялянствам пры гегемоніі рабочага класа, гэта гібкая форма сувязі авангарда—пролетарыята, як найбольш згуртаванага і свядомага ядра Советаў, з найшырэйшымі масамі ўсіх працоўных. Гэта найбольш інтэрнацыянальная з усіх дзяржаўных арганізацый класавага грамадства.

Советы—усеаб'емлючыя, масавыя арганізацыі, якія, як указваў тав. Сталін, у максімальнай меры аблягчаюць працоўным удзел у будаўніцтве новай дзяржавы і кіраванні ёю, узнімаюць рэволюцыйную энергію, ініцыятыву і творчыя здольнасці мас у барацьбе за социялізм.

Совецкая дзяржава—гэта крок уперад у развіцці ўсяго чалавецтва. Дыктатура пролетарыята, социялістычная дзяржава—магутны сродак арганізацыі сіл працоўнага чалавецтва ўсіх краін, людзей чэсных, адданых прагрэсу чалавечага грамадства.

Толькі ў выніку перамогі Вялікай Кастрычніцкай социялістычнай рэволюцыі ператварылася ў жыццё вучэнне Леніна—Сталіна аб Совецкай дзяржаве, як дзяржаўнай форме дыктатуры пролетарыята, узнік новы тып дзяржавы, у корані адметны ад усіх вядомых у гісторыі дзяржаў—социялістычная дзяржава.

* * *

Таварыш Сталін—геніяльны прадаўжальнік справы Маркса—Энгельса—Леніна—бліскуча і ўсебакова распрацаваў вучэнне аб социялістычнай дзяржаве і ўсе звязаныя з ім пытанні: аб дыктатуры пролетарыята, аб узаемасувязі і адзінстве трох яе бакоў, аб сістэме і механізме дыктатуры рабочага класа і т. д.

Пытанне аб механізме дзяржавы, яе рычагах, метадах і прыёмах займае важнейшае месца ў сталінскім вучэнні аб дзяржаве.

На XVIII з'ездзе партыі таварыш Сталін асабліва падкрэсліў значэнне гэтага пытання. Ён ускрыў усю шкоднасць недаацэнкі акружаючых нас капіталістычных дзяржаў і іх разведвальных органаў. Каб своечасова выкрыць каварныя метады і шкодніцкую дзейнасць агентаў замежных разведак, трэба мець яснае ўяўленне аб механізме капіталістычных дзяржаў. З другога боку, тав. Сталін з асобаю сілай падкрэсліў ролю і значэнне механізма нашай магутнай социялістычнай дзяржавы і яе разведкі.

Тав. Сталін распрацаваў пытанне аб формах і метадах актыўнаўздзеючай ролі социялістычнай дзяржавы, аб суадносінах паміж арганізацыйнымі і палітычнымі момантамі ў дзяржаўным будаўніцтве многанацыянальнай социялістычнай дзяржавы. Тав. Сталін развіў ленінскае вучэнне аб партыі як кіруючай і накіроўваючай сілы ў сістэме дыктатуры пролетарыята; аб социялістычнай інтэлігенцыі,

[1]) **Сталін** „Пытанні ленінізма", стар. 35.

без якой не можа абыйсціся савецкая дзяржава; аб соцыялістычным праве і законнасці, якое нямысліма без соцыялістычнай дзяржавы.

Тав. Сталін стварыў вучэнне аб двух фазах у развіцці соцыялістычнай дзяржавы і даў закончаны адказ на пытанне аб далейшых шляхах і перспектывах яе развіцця.

Асноўнае і галоўнае патрабаванне марксісцка-дыялектычнага метада—аб неабходнасці гістарычнага падыходу да грамадскіх з'яў—тав. Сталін геніяльна прымяніў і да аналіза развіцця савецкай соцыялістычнай дзяржавы. Разглядаючы савецкую дзяржаву ў яе руху і змяненні, ён ускрывае галоўныя этапы яе развіцця і вызначае яго перспектывы з улікам канкрэтна даных гістарычных умоў.

На XVIII з'ездзе партыі таварыш Сталін з выключнай глыбінёю раскрыў асноўны характэр, сутнасць і асаблівасць пройдзеных нашай соцыялістычнай дзяржавай галоўных фаз развіцця.

З часу Вялікай Кастрычніцкай рэволюцыі наша соцыялістычная дзяржава прайшла дзве галоўныя фазы: першая—ад кастрычніка да ліквідацыі эксплаататарскіх класаў горада і вёскі і другая—ад ліквідацыі капіталістычных элементаў да поўнай перамогі соцыялістычнай сістэмы гаспадаркі і прыняцця новай Канстытуцыі.

У кожнай з гэтых фаз перад нашай дзяржавай стаялі асобыя задачы, якія і вызначалі яе функцыі.

Якава была асноўная задача, якавы былі функцыі нашай дзяржавы ў першай фазе яе развіцця?

> «Асноўная задача гэтага перыяда заключалася ў падаўленні супраціўлення звергнутых класаў, у арганізацыі абароны краіны ад нападу інтэрвентаў, у аднаўленні прамысловасці і сельскай гаспадаркі, у падрыхтоўцы ўмоў для ліквідацыі капіталістычных элементаў» [1]).

У адпаведнасці з асноўнай задачай гэтага перыяда наша дзяржава ажыццяўляла дзве асноўныя функцыі: падаўленне звергнутых класаў унутры краіны і абарону краіны ад нападу звонку. Савецкая дзяржава ажыццяўляла на першай фазе свайго развіцця таксама гаспадарча-арганізатарскую і культурна-выхаваўчую функцыю, але гэта функцыя не атрымала тады яшчэ дастаткова сур'ёзнага развіцця.

Але чаму іменна гэтыя дзве функцыі: падаўленне звергнутых класаў і абарона краіны ад нападу звонку—складалі асноўную задачу першай фазы ў развіцці соцыялістычнай дзяржавы?

Перамога Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі выклікала шалёнае супраціўленне звергнутых эксплаататараў. Капіталісты, памешчыкі, царскія чыноўнікі, духавенства, чорнасоценная верхавіна арміі і іншыя контррэволюцыйныя элементы з шалёнай ярасцю кінуліся ў атаку супроць Савецкай улады. Звергнутыя класы мабілізавалі і пусцілі ў ход самыя гнусныя і агідныя сродкі барацьбы супроць дыктатуры рабочага класа, супроць савецкай дзяржавы. Антысавецкая агітацыя, яўны і скрыты сабатаж, тэрор, дыверсіі, бандытызм, антысавецкія змовы і контррэволюцыйныя паўстанні—усё было пушчана ў ход унутранай контррэволюцыяй у мэтах рэстаўрацыі капіталізма ў нашай краіне. У сваёй барацьбе супроць Савецкай улады звергнутыя эксплаататарскія класы атрымлівалі прамую падтрымку з боку капіталістычных дзяржаў.

[1]) **Сталін** „Пытанні ленінізма", стар. 605.

Вось чаму на першай фазе развіцця соцыялістычнай дзяржавы функцыя падаўлення звергнутых класаў была галоўнай і рашаючай. Толькі пры ўмове яе паслядоўнага ажыццяўлення можна было зламаць і паралізаваць контррэвалюцыйнае супраціўленне звергнутых класаў справе перамогі соцыялістычнага будаўніцтва ў СССР.

Але каб адстаяць і ўмацаваць соцыялістычную дзяржаву, адной гэтай функцыі было недастаткова.

Ужо з першых дзён устанаўлення совецкай улады памешчыкі, капіталісты, белагвардзейскія генералы ўступілі з замежнай буржуазіяй у змову для падрыхтоўкі ваеннай інтэрвенцыі супроць краіны Советаў. Каб абараніць соцыялістычную дзяржаву ад нападу інтэрвентаў, трэба было ўзняць «рабочых і сялян на **ацечэственную** вайну супроць іншакраінных захватчыкаў і буржуазна-памешчыцкай белагвардзейшчыны. Совецкая рэспубліка і яе Чырвоная армія разбіваюць аднаго за другім стаўленікаў Антанты—Калчака, Юдзеніча, Дзенікіна, Краснова, Врангеля, вышыбаюць з Украіны і Беларусі яшчэ аднаго стаўленіка Антанты—Пілсудскага і, такім чынам, адбіваюць замежную інтэрвенцыю, выганяюць вон яе войскі з межаў Совецкай краіны» [1]).

Пасля сканчэння грамадзянскай вайны перад соцыялістычнай дзяржавай стаяла задача аднаўлення прамысловасці і сельскай гаспадаркі і падрыхтоўка ўмоў для ліквідацыі капіталістычных элементаў.

У гэты перыяд быў ажыццёўлен найцяжэйшы пераход ад палітыкі ваеннага комунізма да нэпа. Ужо ў 1925 г. аднаўленчы перыяд падыходзіў к канцу. XIV з'езд партыі, які сабраўся ў снежні 1925 г., кіруючыся ўказаннямі тав. Сталіна, аб'явіў, што барацьба за перамогу соцыялістычнага грамадства ў СССР з'яўляецца асноўнай задачай. Перамогшы велізарныя ўнутраныя і міжнародныя цяжкасці, наша краіна паспяхова індустрыялізавалася, былі закладзены асновы цяжкай індустрыі. У 1929 годзе быў прынят першы сталінскі пяцігадовы план. Прасоўванне ўперад па шляху пабудовы соцыялістычнага грамадства адбывалася пры абвастрэнні класавай барацьбы ўнутры краіны і ўнутрыпартыйнай барацьбы. Вынікі гэтай барацьбы: выкрыццё антысовецкага трацкісцка-зіноўеўскага блока і кулацкай агентуры ў партыі—правых рэстаўратараў капіталізма; выгнанне трацкістаў з партыі. Партыя і совецкая дзяржава арганізавалі рашучае наступленне соцыялізма на капіталістычныя элементы горада і вёскі. 1929 год—год вялікага пералому, калі былі дасягнуты вялікія поспехі ў галіне прамысловасці і першыя сур'ёзныя поспехі ў галіне сельскай гаспадаркі: паварот серадняка ў бок калгасаў, масавы калгасны рух.

Такім чынам, сканцэнтраваўшы ў сваіх руках усе камандныя эканамічныя вышыні, маючы ў сваім распараджэнні магутную Чырвоную Армію і совецкую разведку, соцыялістычная дзяржава падавіла і ваеннае і эканамічнае супраціўленне звергнутых эксплаататарскіх класаў. Праз індустрыялізацыю краіны і каапераванне сялянства яна падрыхтавала ўмовы для ліквідацыі капіталістычных элементаў.

На аснове разгортвання масавай калектывізацыі сельскай гаспадаркі была ажыццёўлена ліквідацыя кулацтва—гэтага апошняга і самага шматлікага эксплаататарскага класа, апошняга аплота рэстаўрацыі капіталізма ў нашай краіне. Была вырашана важнейшая задача ліквідацыі капіталістычных элементаў, што азначала завяршэнне пер-

[1]) „Кароткі курс гісторыі ВКП(б)", стар. 233—234.

шай фазы развіцця соцыялістычнай дзяржавы і ўступленне яе ў другую фазу.

Другая фаза ў развіцці соцыялістычнай дзяржавы, як указвае тав. Сталін,—«гэта перыяд ад ліквідацыі капіталістычных элементаў горада і вёскі да поўнай перамогі соцыялістычнай сістэмы гаспадаркі і прыняцця новай Канстытуцыі».

Цяпер перад соцыялістычнай дзяржавай паўсталі і новыя задачы, якія патрабавалі змянення яе функцый і форм. Асноўнай задачай стала «арганізацыя соцыялістычнай гаспадаркі па ўсёй краіне і ліквідацыя апошніх рэшткаў капіталістычных элементаў, арганізацыя культурнай рэволюцыі, арганізацыя ўпаўне сучаснай арміі для абароны краіны» **(Сталін).**

У перыяд другой фазы совецкая дзяржава хутка прасоўваецца ўперад па шляху соцыялістычнага будаўніцтва.

У 1933 годзе, на студзеньскім пленуме ЦК і ЦКК ВКП(б) тав. Сталін, падводзячы вынікі першай пяцігодкі, указаў, што соцыялістычная сістэма гаспадаркі ліквідавала капіталістычныя элементы ў галіне прамысловасці і сельскай гаспадаркі і стала безраздзельна пануючай сістэмай ва ўсёй народнай гаспадарцы.

Магутная соцыялістычная індустрыя поўнасцю выцесніла прыватную прамысловасць, перавысіўшы ў 1936 годзе ў сем раз прамысловую прадукцыю даваеннага часу. У галіне сельскай гаспадаркі безраздзельна пануе буйнейшая ў свеце і ўзброеная навейшай тэхнікай соцыялістычная гаспадарка ў выглядзе калгасаў і соўгасаў, а аднаасобны сектар ужо не адыгрывае ніякай сур'ёзнай ролі ў эканамічным жыцці краіны. Увесь тавараабарот сканцэнтраваўся ў руках дзяржавы, кааперацыі і калгасаў. Вялікія перамогі соцыялізма запісаны ў Сталінскай Канстытуцыі.

У сувязі са змяненнем класавай структуры совецкага грамадства, з канчатковым знішчэннем эксплаататарскіх класаў, у совецкай дзяржавы «адпала—адмерла функцыя ваеннага падаўлення ўнутры краіны, бо эксплаатацыя знішчана, эксплаататараў няма больш і падаўляць няма каго. Замест функцыі падаўлення паявілася ў дзяржавы функцыя аховы соцыялістычнай уласнасці ад зладзеяў і раскрадвальнікаў народнага дабра» **(Сталін).**

Ажыццяўляючы гэту функцыю—абароны і аховы грамадскай соцыялістычнай уласнасці—совецкая дзяржава ахоўвае аснову соцыялістычнага ладу, крыніцу культурнага, заможнага, шчаслівага жыцця працоўных нашай краіны.

На другой фазе развіцця соцыялістычнай дзяржавы яе галоўнай і рашаючай функцыяй унутры краіны з'яўляецца гаспадарча-арганізатарская і культурна-выхаваўчая работа дзяржаўных органаў. Гэтым другая фаза асабліва рэзка адрозніваецца ад першай фазы развіцця соцыялістычнай дзяржавы.

У сувязі з фактам наяўнасці капіталістычнага акружэння на другой фазе развіцця соцыялістычнай дзяржавы поўнасцю захавалася функцыя ваеннай абароны краіны ад нападу звонку. Гэту функцыю ажыццяўляюць, галоўным чынам, такія магутныя органы нашай дзяржавы, як Чырвоная Армія, Ваенна-Марскі Флот і совецкая разведка. Прычым наша армія і разведка «сваім астрыём звернуты ўжо не ва ўнутр краіны, а ў зне яе, супроць знешніх ворагаў» **(Сталін).**

Са зменай задач і функцый соцыялістычнай дзяржавы на другой фазе развіцця адпаведна змянілася і яе форма. Гэта змяненне выра-

зілася, галоўным чынам, у поўнай дэмакратызацыі палітычнага жыцця нашай краіны, у ажыццяўленні да канца разгорнутага, усенароднага соцыялістычнага дэмакратызма, законадаўча замацаванага ў Сталінскай Канстытуцыі.

Стала быць, цяпер наша соцыялістычная дзяржава і па форме і па функцыях значна адрозніваецца ад соцыялістычнай дзяржавы першай фазы.

Робячы вывады са свайго геніяльнага аналіза развіцця соцыялістычнай дзяржавы, таварыш Сталін адзначае:

> «Мы маем цяпер зусім новую соцыялістычную дзяржаву, нябачаную яшчэ ў гісторыі і значна адметную па сваёй форме і функцыях ад соцыялістычнай дзяржавы першай фазы».

Дзве галоўныя фазы развіцця соцыялістычнай дзяржавы не аддзелены адна ад другой «кітайскай сцяною», пераход ад адной фазы да другой—працэс дыялектычны.

Распрацоўка таварышом Сталіным пытання аб двух фазах развіцця совецкай дзяржавы, вучэнне аб зменах функцый соцыялістычнай дзяржавы, яе форм разам са змяненнем задач і канкрэтных умоў соцыялістычнага будаўніцтва—усё гэта з'яўляецца бліскучым развіццём ленінскага вучэння аб ролі дзяржавы ў перыяд соцыялізма.

* * *

Развіваючы і ўзбагачаючы новымі геніяльнымі ідэямі марксісцка-ленінскае вучэнне аб дзяржаве, тав. Сталін усебакова распрацаваў пытанне аб формах і метадах актыўна-ўздзейнай ролі нашай дзяржавы; аб соцыялістычнай дзяржаве як вялікай творчай, пераўтвараючай сіле, якая забяспечвае паспяховае завяршэнне будаўніцтва бяскласавага соцыялістычнага грамадства і паступовы пераход ад соцыялізма да комунізма.

У нашай краіне пабудавана ў асноўным першая фаза комуністычнага грамадства—соцыялізм. Гэта велізарнейшая сусветна-гістарычная перамога совецкага народа, дасягнутая пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна, законадаўча замацавана ў Сталінскай Канстытуцыі.

Совецкі Саюз уступіў цяпер «у новую паласу развіцця, у паласу завяршэння будаўніцтва соцыялістычнага грамадства і паступовага пераходу да комуністычнага грамадства, дзе кіруючым пачаткам грамадскага жыцця павінен быць комуністычны прынцып: «Ад кожнага—па яго здольнасцях, кожнаму—па яго патрэбнасцях» [1]).

У эпоху соцыялізма гіганцкі ўзрасла роля совецкай дзяржавы як арганізатара і выхаваццеля совецкага народа. Гэта з'яўляецца адным з важнейшых палажэнняў сталінскага вучэння аб соцыялістычнай дзяржаве.

Важнейшая задача соцыялістычнай дзяржавы—забяспечыць далейшае развіццё прадукцыйных сіл краіны, высокаразвітую прадукцыйнасць працы, якая стварае неабмежаванае багацце прадуктаў і дазваляе перайсці ад прынцыпа размеркавання па працы да прынцыпа размеркавання па патрэбнасцях.

1) „Кароткі курс гісторыі ВКП(б)", стар. 326—327.

Соцыялістычная дзяржава, апіраючыся на строга прадуманы план соцыялістычнага будаўніцтва, усямерна выкарыстоўваючы навейшыя дасягненні навукі і тэхнікі, будзе пашыраць і ўмацоўваць матэрыяльную базу комунізма. Арганізуючая і актыўна-ўздзейная роля соцыялістычнай дзяржавы, кіруемай партыяй большэвікоў, асабліва ярка праяўляецца ў распрацоўцы народна-гаспадарчых планаў і барацьбе за іх ажыццяўленне.

У артыкуле 11 Сталінскай Канстытуцыі гаворыцца:

> «Гаспадарчае жыццё ў СССР вызначаецца і накіроўваецца дзяржаўным народна-гаспадарчым планам у інтарэсах павелічэння грамадскага багацця, няўхільнага ўздыму матэрыяльнага і культурнага ўзроўню працоўных, умацавання незалежнасці СССР і ўзмацнення яго абароназдольнасці».

Гіганцкі вяліка арганізатарская і актыўна-ўздзейная роля соцыялістычнай дзяржавы яшчэ і таму, што толькі для нашай дзяржавы, як указвае тав. Сталін, характэрна адзінства гаспадарчага і палітычнага кіраўніцтва.

Важнейшай умовай павышэння прадукцыйнасці працы, ліквідацыі процілегласці паміж працай разумовай і фізічнай з'яўляецца далейшы ўздым палітычнага і культурна-тэхнічнага ўзроўню працоўных мас Совецкага Саюза. І ў вырашэнні гэтых складанейшых задач актыўная і кіруючая роля належыць соцыялістычнай дзяржаве.

Уздым культурна-тэхнічнага ўзроўню рабочага класа да ўзроўню інжынерна-тэхнічных работнікаў разам з уздымам культурнага ўзроўню ўсёй масы працоўных горада і вёскі, далейшае развіццё стаханаўскага руху дапамагае вырашыць важнейшую задачу ў пабудове комунізма—знішчыць процілегласць паміж разумовай і фізічнай працай і забяспечвае тую высокую прадукцыйнасць працы і тое багацце прадметаў ужывання, якое неабходна для пераходу да вышэйшай фазы соцыялізма—да комунізма.

Таварыш Сталін, геніяльна распрацаваўшы і асвятліўшы ўсе бакі дыктатуры пролетарыята, паказаў, што соцыялістычная дзяржава—не толькі сродак падаўлення ворагаў соцыялізма. Дыктатура пролетарыята, соцыялістычная дзяржава, вучыць тав. Сталін,—велізарнейшая сіла ў справе палітычнага і культурнага выхавання шырокіх мас працоўных. Гэта роля соцыялістычнай дзяржавы ў перыяд завяршэння бяскласавага соцыялістычнага грамадства і паступовага пераходу ад соцыялізма да комунізма яшчэ больш узрастае. Задача нашай дзяржавы—перамагчы перажыткі капіталізма ў быту і свядомасці людзей, павышаць узровень культурнасці ўсяго насельніцтва, выхоўваць працоўных у духу комунізма, прывіваючы ім рысы людзей комуністычнага грамадства: мужнасць, чэснасць, нянавісць да ворагаў комунізма, любоў да радзімы і бязмежную адданасць партыі Леніна—Сталіна.

Для таго, каб соцыялістычная дзяржава магла справіцца са сваёй задачай комуністычнага арганізатара і выхавацеля, патрэбен выключны размах дзяржаўнай работы, ідэальная зладжанасць і чоткасць дзеяннаў усіх дзяржаўных органаў, неабходна ўдасканаленне самой дзяржавы, яе органаў і форм.

Умацоўваючы і ўдасканальваючы соцыялістычную дзяржаўнасць, мы ўсямерна павінны развіваць соцыялістычную дэмакратыю, ідэалагічна выхоўваць, павышаць агульную культуру кадраў совецкіх

дзяржаўных дзеячоў, социялістычнай інтэлігенцыі, развіваць соцыялістычную законнасць, якая з'яўляецца дзейсным сродкам умацавання дзяржавы, сродкам комуністычнага выхавання ўсяго насельніцтва нашай краіны.

Паколькі асноўная наша задача ў сучасны момант заключаецца ў комуністычным выхаванні мас, трэба паляпшаць работу і ўдасканальваць структуру нашых грамадскіх арганізацый: прафесіянальных саюзаў, Комуністычнага саюза моладзі, калгасных і кааперацыйных арганізацый і т. д.

Нарэшце, галоўнейшы з галоўных сродкаў узмацнення магутнасці і арганізаванасці соцыялістычнай дзяржавы—гэта кіраўніцтва магутнай непераможнай партыі Леніна—Сталіна як асноўнай кіруючай сілы ў сістэме дыктатуры пролетарыята. «Кіраўніцтва партыі,—гаворыць тав. Сталін,—ёсць галоўнае ў дыктатуры пролетарыята». Яшчэ больш умацоўваць і расшыраць свае сувязі з масамі, згуртоўваць масы вакол сябе, вучыць масы і вучыцца ў мас—у гэтым, як вучыць тав. Сталін,—«сіла і непераможнасць большэвіцкага кіраўніцтва».

Партыя Леніна—Сталіна, кіруючыся марксісцка-ленінскім вучэннем, стварыла першую ў свеце соцыялістычную дзяржаву, дзяржаву нябачанай моцнасці і сілы, небывалай палітычнай, маральнай, матэрыяльнай і арганізацыйнай магутнасці. Каб паспяхова завяршыць будаўніцтва соцыялізма і забяспечыць поўную перамогу комунізма, мы павінны і ў далейшым умацоўваць магутнасць і ўдасканальваць гэту першую ў свеце соцыялістычную дзяржаву, якая знаходзіцца яшчэ ў капіталістычным акружэнні.

* * *

Да апошняга часу заставалася недапрацаваным вельмі важнае пытанне аб лёсе і законамернасцях развіцця соцыялістычнай дзяржавы пры ўмове, калі яна знаходзіцца ў капіталістычным акружэнні. У гэтым пытанні да апошняга часу выходзілі з таго вядомага тэарэтычнага палажэння Энгельса, што пры комунізме дзяржава становіцца непатрэбнай, што яна адамрэ.

Маркс і Энгельс, у перыяд, калі не было яшчэ развітога імперыялізма, вырашаючы пытанне аб адміранні дзяржавы, выходзілі з правільнага для таго часу меркавання, што соцыялізм пераможа адначасова ва ўсіх важнейшых капіталістычных краінах. У сілу гэтага і не ставілася пытанне аб міжнароднай абстаноўцы, аб капіталістычным акружэнні.

Рашаючы пытанне аб адміранні дзяржавы пасля ліквідацыі класаў і класавых адрозненняў, Энгельс выходзіў з умоў унутранага развіцця соцыялістычнага грамадства. Паколькі пытанне аб абароне краіны перамогшага соцыялізма ад капіталістычнага акружэння тады не стаяла перад Энгельсам, пастолькі формула Энгельса ў яе агульным выглядзе была правільнай.

У далейшым, у новых умовах імперыялістычнага развіцця капіталізма, Ленін даказаў, што нероўнамернасць і скачкападобнасць эканамічнага і палітычнага развіцця ёсць безумоўны закон капіталізма. Выходзячы з гэтага закона, ленінска-сталінская тэорыя ўстанаўляе, што адначасовая перамога соцыялістычнай рэволюцыі ва ўсіх краінах немагчыма, што яна пераможа спачатку ў адной, асобна ўзятай, капіталістычнай краіне або ў некалькіх краінах.

А ўсё гэта азначае, што ў наш час адбылося карэннае змяненне

гістарычнай абстаноўкі ў параўнанні з перыядам, калі жылі Маркс і Энгельс. Гэта змяненне, якое прадвырашыла пытанне аб перамозе соцыялізма, не магло не аказаць уплыву і на развіццё марксісцкага вучэння аб дзяржаве.

Канкрэтныя гістарычныя ўмовы будаўніцтва соцыялізма ў СССР наглядна пацвердзілі вучэнне Леніна—Сталіна аб будаўніцтве соцыялізма ў адной краіне, калі яна нават і знаходзіцца ў акружэнні капіталістычных дзяржаў.

Вядома, што Ленін меў на ўвазе развіць далей у другой частцы сваёй кнігі «Дзяржава і рэволюцыя» марксісцкае вучэнне аб дзяржаве, апіраючыся ўжо на вопыт існавання совецкай улады. Смерць, як указвае таварыш Сталін, перашкодзіла яму выканаць гэту задачу. «Але чаго не паспеў зрабіць Ленін, павінны зрабіць яго вучні» **(Сталін).** XVIII з'езд партыі адказаў на гэтыя словы бурнымі апладысментамі, выражаючы імі вялікую ўдзячнасць Іосіфу Вісарыёнавічу, які зрабіў тое, што не паспеў зрабіць Ленін.

Тав. Сталін, аналізуючы агульную формулу Энгельса аб умовах адмірання дзяржавы, гаворыць:

...«Нельга пашыраць агульную формулу Энгельса аб лёсе соцыялістычнай дзяржавы наогул на прыватны і канкрэтны выпадак перамогі соцыялізма ў адной, асобна ўзятай краіне, якая мае вакол сябе капіталістычнае акружэнне, якая падвержана пагрозе ваеннага нападу звонку, якая не можа з прычыны гэтага адцягвацца ад міжнароднай абстаноўкі і якая павінна мець у сваім распараджэнні і добра абучаную армію, і добра арганізаваныя карныя органы, і моцную разведку, значыць, павінна мець сваю дастаткова моцную дзяржаву,—для таго, каб мець магчымасць абараняць заваёвы соцыялізма ад нападу звонку» [1].

Тав. Сталін, як вялікі майстар марксісцкай дыялектыкі, геніяльна вырашыў самае жыццёвае не толькі вялікае тэарэтычнае, але і практычнае пытанне аб лёсе соцыялістычнай дзяржавы. Ці захаваецца ў нас дзяржава таксама і ў перыяд комунізма? І тав. Сталін у сваім дакладзе на XVIII партыйным з'ездзе класічна вырашае гэта пытанне:

«Так, захаваецца, калі не будзе ліквідавана капіталістычнае акружэнне, калі не будзе знішчана небяспека ваенных нападаў звонку, прычым зразумела, што формы нашай дзяржавы зноў будуць зменены, адпаведна са змяненнем унутранай і знешняй абстаноўкі.

Не, не захаваецца і адамрэ, калі капіталістычнае акружэнне будзе ліквідавана, калі яно будзе заменена акружэннем соцыялістычным» [2].

Гэта палажэнне тав. Сталіна з'яўляецца новым геніяльным адкрыццём, каштоўнейшым укладам у развіццё марксісцка-ленінскага вучэння аб дзяржаве, класічным узорам творчай распрацоўкі марксісцка-ленінскай тэорыі. Гэта палажэнне прасякнута сталінскім мудрым аналізам, улікам канкрэтна даных гістарычных умоў, і велізар-

[1] Сталін „Пытанні ленінізма", стар. 603.
[2] Там-жа, стар. 606.

нейшага практычнага вопыту, канкрэтызацыяй на яго аснове і далейшым развіццём тэорыі дзяржавы.

Яшчэ ў 1924 годзе ў «Плане семінара па ленінізму» таварыш Сталін паставіў пытанне аб задачах і функцыях «дыктатуры пролетарыята ў абстаноўцы капіталістычнага акружэння». У паследуючыя годы гэта важнейшая праблема была распрацавана ў радзе сталінскіх работ.

Ворагі соцыялізма—бухарынцы і трацкісты, змагаючыся за рэстаўрацыю капіталізма ў нашай краіне, усімі сродкамі імкнуліся расхістаць моцнасць дыктатуры пролетарыята, соцыялістычнай дзяржавы. Тав. Сталін выкрыў гэтыя спробы ворагаў соцыялістычнай дзяржавы, іх «схемы» і «тэорыі» адмірання дзяржавы ва ўмовах, калі яшчэ існуе капіталістычнае акружэнне. Тав. Сталін заўсёды падкрэсліваў неабходнасць умацавання дыктатуры рабочага класа, соцыялістычнай дзяржавы.

У 1926 годзе ў рабоце «Да пытанняў ленінізма» тав. Сталін асоба падкрэсліў:

> «Не следуе забываць, што рэволюцыя перамагла пакуль што ўсяго толькі ў адной краіне. Не следуе забываць, што, пакуль ёсць капіталістычнае акружэнне, будзе і небяспека інтэрвенцыі з усімі выцякаючымі з гэтай небяспекі вынікамі» [1].

У сувязі з гэтым тав. Сталін падкрэсліваў, што армія і іншыя арганізацыі неабходны цяпер, у перыяд будаўніцтва, гэтак сама, як і ў перыяд грамадзянскай вайны.

На XVI з'ездзе ВКП(б) у 1930 годзе тав. Сталін зноў падкрэсліваў, што адміранне дзяржавы можа прыйсці толькі праз усямернае ўмацаванне дыктатуры пролетарыята і толькі пры падрыхтоўцы ўмоў для адмірання дзяржавы.

На студзеньскім пленуме ЦК і ЦКК ВКП(б) у 1933 годзе тав. Сталін у сваім дакладзе аб выніках першай пяцігодкі рашуча абвяргае гнілыя, шкодніцкія «тэорыі» адмірання і аслаблення дыктатуры рабочага класа, высясняе яе функцыі па ахове соцыялістычнай уласнасці ад раскрадвання і зладзейства, указвае задачы соцыялістычнай дзяржавы ў справе канчатковай ліквідацыі рэштак капіталістычных элементаў.

У 1934 годзе, на XVII з'ездзе ВКП(б), тав. Сталін зноў указвае на неабходнасць рашучай барацьбы з варожымі тэорыямі адмірання дыктатуры пролетарыята, напамінае аб капіталістычным акружэнні і неабходнасці ўсямерна ўмацоўваць соцыялістычную дзяржаву.

Значэнне гэтай праблемы асабліва падкрэслена ў дакладзе тав. Сталіна на лютаўска-сакавіцкім пленуме ЦК ВКП(б) у 1937 годзе: «Аб недахопах партыйнай работы і мерах ліквідацыі трацкісцкіх і іншых двурушнікаў».

І, нарэшце, у дакладзе на XVIII з'ездзе партыі тав. Сталін даў закончанае вучэнне аб соцыялістычнай дзяржаве, аб яе лёсе ва ўмовах капіталістычнага акружэння. Тав. Сталін паказаў, што да той пары, пакуль існуе капіталістычнае акружэнне, не можа быць і гутаркі аб адміранні дзяржавы, што адміранне дзяржавы на вышэйшай фазе комунізма мяркуе замену капіталістычнага акружэння соцыялістычным.

[1] Сталін „Пытанні ленінізма", стар. 118.

Сталінскае вучэнне аб социялістычнай дзяржаве патрабуе далейшага ўмацавання нашай дзяржавы, яшчэ большага ўзмацнення магутнасці Чырвонай Арміі і совецкай разведкі.

Магутная социялістычная дзяржава неабходна не толькі ўсяму совецкаму народу ў інтарэсах пабудовы і абароны комунізма, яна неабходна таксама і працоўным усяго свету, як несакрушальная крэпасць сусветнай пролетарскай рэволюцыі, як база для яе разгортвання.

Вучэнне тав. Сталіна аб неабходнасці захавання і ўмацавання нашай дзяржавы і пры комунізме пры наяўнасці капіталістычнага акружэння звязана і выцякае з яго вучэння аб магчымасці перамогі комунізма ў адной краіне.

Найвялікшая заслуга тав. Сталіна перад навукай і чалавецтвам заключаецца ў тым, што сваім вучэннем ён ліквідаваў недапрацаванасць і недастатковасць некаторых агульных палажэнняў марксісцкай тэорыі аб дзяржаве, распрацаваў закончанае вучэнне аб социялістычнай дзяржаве і паказаў умовы яе развіцця ў абстаноўцы капіталістычнага акружэння.

Увесь совецкі народ можа разам з тав. Молатавым сказаць, што ў галіне тэорыі і практыкі совецкай социялістычнай дзяржавы, таксама як і ва ўсіх галінах совецкай навукі і совецкага будаўніцтва, «відна вядучая і натхняючая воля нашай вялікай большэвіцкай партыі і яе правадыра тав. Сталіна» [1]).

Сталінскае вучэнне аб социялістычнай дзяржаве ўзброіла партыю, увесь совецкі народ ясным, чоткім разуменнем сутнасці і значэння ролі і задач совецкай дзяржавы, асвятліла далейшы шлях нашага няўхільнага руху ўперад, да ззяючых вяршынь комунізма.

Социялістычная дзяржава рабочых і сялян—гэта магутная і неперамажная сіла совецкага многамільённага народа, які ўпэўнена і радасна ідзе ўперад пад выпрабаваным кіраўніцтвам сваёй вялікай партыі большэвікоў, свайго вялікага правадыра і настаўніка таварыша Сталіна.

---

[1]) Молатаў, даклад аб 21-й гадавіне Кастрычніцкай рэволюцыі.

Л. Ільічоў

# Філасофская праца таварыша Сталіна

Філасофская праца таварыша Сталіна, апублікаваная спачатку ў «Кароткім курсе гісторыі ВКП(б)», а затым увайшоўшая ў 11-ае выданне «Пытанняў ленінізма», прадстаўляе геніяльны ўклад у марксісцка-ленінскую філасофію. Гэта праца таварыша Сталіна ўзбагаціла большэвіцкую філасофію, творча развіла далей тэарэтычныя асновы большэвіцкай партыі.

Такую цэльную філасофскую працу, якая будзе жыць вякі, мог стварыць толькі чалавек, які ў дасканаласці валодае дыялектычным метадам, умее майстэрскі прымяняць гэты метад пры рашэнні новых практычных пытанняў рэволюцыйнага руху ў розных умовах класавай барацьбы. Такую працу мог стварыць толькі чалавек, які ўвабраў у сябе ўсю рэволюцыйную мудрасць, глыбока ведае законы грамадскага развіцця і таму бачыць нязмерна глыбей і далей іншых перспектывы гістарычнага развіцця.

Марксісцкая філасофія выкладзена ў класічных творах Маркса, Энгельса, Леніна і Сталіна. Побач з такімі творамі, як «Нямецкая ідэалогія», «Анты-Дзюрынг», «Людвіг Фейербах», «Матэрыялізм і эмпірыокрытыцызм», работа таварыша Сталіна «Аб дыялектычным і гістарычным матэрыялізме» утварае залаты фонд марксісцка-ленінскай філасофіі.

Выхад гэтай працы—знамянальная падзея, бо яна яшчэ раз сведчыць аб найглыбейшай і непарыўнай сувязі паміж рэволюцыйнай барацьбой рабочага класа і большэвіцкай філасофіяй, паміж палітыкай і філасофіяй, паміж тэорыяй і практыкай.

Марксісцка-ленінская філасофія з'яўляецца тэарэтычным фундаментам комунізма, яна абгрунтоўвае стратэгію і тактыку класавай барацьбы пролетарыята і яго партыі.

Вялікі Ленін, змагаючыся за стварэнне партыі новага тыпу, партыі, непрымірымай у адносінах ворагаў рабочага класа, ствараў і распрацоўваў яе ідэалагічныя, арганізацыйныя, палітычныя і тэарэтычныя асновы. Геніяльная філасофская праца Леніна «Матэрыялізм і эмпірыокрытыцызм» з'яўляецца тэарэтычнай падрыхтоўкай большэвіцкай партыі. У гэтай кнізе Ленін развіў усе асноўныя пытанні філасофіі марксізма, заклаў непахісныя тэарэтычныя асновы партыі рабочага класа.

> «Можна з ўпэўненасцю сказаць,—чытаем мы ў «Кароткім курсе гісторыі ВКП(б)»,—што ніколі яшчэ ў гісторыі ні адна палітычная група не была так грунтоўна падрыхтавана да таго, каб аформіцца ў партыю, як большэвіцкая група» [1]).

[1]) „Кароткі курс гісторыі ВКП(б)", стар. 134.

Большэвіцкая група аказалася так грунтоўна падрыхтаванай да афармлення ў партыю іменна таму, што Ленін і Сталін з дня ў дзень узбройвалі рабочы клас рэволюцыйнай тэорыяй, узбройвалі марксісцка-ленінскай філасофіяй. Ленін і Сталін з першых-жа крокаў сваёй рэволюцыйнай дзейнасці надавалі велізарнае значэнне абгрунтаванню і далейшаму развіццю філасофскіх поглядаў марксізма. Падобна Марксу і Энгельсу, якія прымянялі матэрыялістычную дыялектыку да ўсіх галін практычнай і тэарэтычнай дзейнасці, Ленін і Сталін, распрацоўваючы стратэгію і тактыку класавай барацьбы, аналізуючы новыя з'явы грамадскага жыцця, ускрываючы законамернасці гістарычнага развіцця ў новую эпоху, карысталіся астрэйшай зброяй матэрыялістычнай дыялектыкі.

Ленін указваў, што асновапаложнікі марксізма прымянялі дыялектычны матэрыялізм да тактыкі і палітыкі рабочага класа.

> «Асноўную задачу тактыкі пролетарыята Маркс вызначаў у строгай адпаведнасці з усімі пасылкамі свайго матэрыялістычна-дыялектычнага светапогляду» [1]).

Гэтыя словы Леніна ўказваюць на тое, што палітычная барацьба пролетарыята і яго партыі звязана ў адно з марксісцкай філасофіяй. Класікі марксісцка-ленінскай навукі ніколі не разглядалі рэволюцыйную тэорыю як нейкі фетыш, а разглядалі яе, як кіраўніцтва да барацьбы, да дзеяння. Навука для іх заўсёды выступала ў якасці гістарычна рухаючай рэволюцыйнай сілы. Створаны і развіты імі светапогляд ад пачатку да канца прасякнут верай у рэволюцыйную творчасць мас, у гістарычную немінучасць перамогі пролетарыята.

Адной з найбольш характэрных рыс марксісцкай філасофіі з'яўляецца яе класава-партыйны характар, яе арганічная сувязь з палітычнай барацьбой комуністычнай партыі. Недарма Ленін указваў, што без таго боку дыялектычнага матэрыялізма, які навукова абгрунтоўвае палітыку пролетарыята, нельга зразумець самой сутнасці марксісцкай філасофіі, яе рэволюцыйнага духу. Таварыш Сталін у сваёй філасофскай рабоце ўдзяляе асобую ўвагу гэтаму боку дыялектычнага матэрыялізма. Якое-б пытанне ні разглядалася ў рабоце таварыша Сталіна «Аб дыялектычным і гістарычным матэрыялізме», усюды мы знаходзім здзіўляючыя абагульненні, яркія і глыбокія прыклады, якія дэманструюць вялікую рэволюцыйную сілу філасофіі марксізма-ленінізма.

Работа таварыша Сталіна пачынаецца словамі:

«Дыялектычны матэрыялізм ёсць светапогляд марксісцка-ленінскай партыі». Гэтым палажэннем таварыш Сталін падкрэсліў два важнейшыя моманты. З аднаго боку, ён вызначыў месца і значэнне філасофіі марксізма-ленінізма ў жыцці большэвіцкай партыі, у яе гераічнай гісторыі, у яе слаўных справах; з другога—раскрыў і канцэнтравана выразіў сутнасць і рэволюцыйную накіраванасць марксісцкай філасофіі.

Мысль таварыша Сталіна, выказаная ў пачатку яго работы, напісанай у 1938 годзе, знаходзіцца ў непасрэднай сувязі з яго раннімі філасофскімі работамі, якія адносяцца да перыяда 1906 года. Ужо тады таварыш Сталін асаблівую ўвагу зварочваў на канкрэтнае прымяненне палажэнняў філасофіі марксізма ў рэволюцыйнай барацьбе пролетарыята, на глыбокую сувязь тэорыі навуковага соцыя-

---

1) Ленін, т. XVIII, стар. 28.

лізма з філасофскімі поглядамі марксізма. Так, характарызуючы марксізм, таварыш Сталін пісаў:

«Марксізм не ёсць толькі тэорыя соцыялізма. Гэта ёсць цэльны светапогляд, філасофская сістэма, з якой лагічна выцякае пролетарскі соцыялізм Маркса. Гэта філасофская сістэма называецца дыялектычным матэрыялізмам» [1]).

* * *

Работа таварыша Сталіна «Аб дыялектычным і гістарычным матэрыялізме» прадстаўляе цэльнае сістэматычнае выкладанне асноўных прынцыпаў дыялектычнага і гістарычнага матэрыялізма. Марксісцкі дыялектычны метад, марксісцкі філасофскі матэрыялізм і гістарычны матэрыялізм—усе гэтыя бакі і часткі марксісцка-ленінскай філасофіі ў рабоце таварыша Сталіна з'яднаны арганічна. У цэлым тэарэтычная праца таварыша Сталіна—гэта энцыклапедыя марксісцка-ленінскай філасофіі.

Ужо адно тое, што таварыш Сталін даў у адной рабоце закончаны нарыс дыялектычнага і гістарычнага матэрыялізма, з'яўляецца велізарным укладам у большэвіцкую філасофію. Ён ажыццявіў неаднаразовыя намеры класікаў марксізма-ленінізма напісаць сістэматычнае выкладанне асноў матэрыялістычнай дыялектыкі.

Вядома, што Маркс і Ленін ставілі перад сабою задачу ў кароткім і папулярным нарысе выкласці асноўныя пытанні матэрыялістычнай дыялектыкі. Так, у адным з пісем Энгельсу Маркс пісаў, што калі яму дазволяць час і абставіны, ён мае намер «у аб'ёме 2—3 друкаваных аркушаў зрабіць даступным агульнаму чалавечаму рассудку тое разумнае ў метадзе, што Гегель адкрыў і разам з тым зацямніў» [2]).

Не менш важнае значэнне сістэматычнаму выкладанню асноў матэрыялістычнай дыялектыкі надаваў Ленін. У перыяд першай імперыялістычнай вайны Ленін спецыяльна заняўся вывучэннем філасофскай літаратуры, каб ажыццявіць задуманы план кнігі па матэрыялістычнай дыялектыцы.

І Маркс і Ленін прарабілі велізарную работу, падрыхтоўваючы матэрыял для ажыццяўлення намечанай імі задачы. Яны напісалі геніяльныя працы па дыялектычнаму і гістарычнаму матэрыялізму, але гэту спецыяльна пастаўленую перад сабою задачу яны не здолелі выканаць па цэламу раду прычын. І толькі зараз таварыш Сталін сваёй філасофскай працай выканаў замысел тварцоў марксізма, выкарыстаўшы велізарнейшую тэарэтычную спадчыну Маркса, Энгельса і Леніна.

Чаму можна сказаць, што гэта сталінская работа—праца класічная? Чым яна выдатна? Якавы яе асноўныя асаблівасці?

Гэта праца класічная па творчай распрацоўцы ўсіх пытанняў марксісцка-ленінскай філасофіі. Тут абагулены сродкамі філасофскага мышлення ўсе тыя змены, якія адбыліся ў рабочым руху, усё тое новае, што нарадзілася ў нас у працэсе будаўніцтва соцыялізма за час пасля смерці Леніна.

Гэта работа класічная па паказу дыялектыкі ў дзеянні, па майстэрскаму раскрыццю рэволюцыйнага характару светапогляду і метада партыі дыктатуры рабочага класа. Тут усе палажэнні філасофіі

---

[1]) Гл. работу Л. Берыя „Да пытання аб гісторыі большэвіцкіх арганізацый у Закаўказзі".

[2]) **Маркс і Энгельс.** Пісьмы, стар. 105, 1931.

марксізма-ленінізма разглядаюцца пад кутом погляду прымянення іх да практыкі рэволюцыйнай барацьбы, да гісторыі грамадства, да практычнай барацьбы партыі рабочага класа.

Гэта работа класічная па глыбіні тэарэтычнага аналіза, па сіле абагульнення філасофскай спадчыны Маркса, Энгельса, Леніна.

Гэта работа класічная па сваёй яснасці і чоткасці, па цэльнасці і закончанасці. Тут пытанне за пытаннем разгледжаны ўсе бакі, усе часці марксісцкай філасофіі, раскрыта яе жыццёвая праўда, яе найглыбейшая навуковасць.

Як і ва ўсіх сваіх тэарэтычных работах, так і ў гэтай філасофскай рабоце, таварыш Сталін падыходзіць да марксізма, як да творчай навукі. Было-б няправільна думаць, што самі творцы філасофскай навукі пролетарыята—Маркс і Энгельс,—сфармуляваўшы аднойчы асновы сваёй філасофіі, у паследуючым, у сувязі са зляненнем грамадскага развіцця, новымі данымі ў навуцы,—не ўдасканалілі і не развілі далей абгрунтаваны імі светапогляд. Вядома, што Маркс і Энгельс пільна сачылі за малейшымі змяненнямі грамадскага жыцця, за ўсімі каштоўнымі адкрыццямі ў навуцы, выкарыстоўваючы ўсё гэта для далейшага развіцця матэрыялістычнай філасофіі.

Энгельс прарабіў выключную работу для таго, каб, абагуліўшы навуковыя адкрыцці ў прыродазнаўстве, стварыць грандыёзную працу па дыялектыцы ў прыродзе. Маркс таксама вывучыў многія галіны навукі для таго, каб атрыманыя матэрыялы разгледзець з пункту погляду дыялектычнага матэрыялізма.

Ленін сваёй філасофскай работай «Матэрыялізм і эмпірыокрытыцызм» не толькі разграміў перараджэнцаў і рэвізіяністаў у філасофіі, але і майстэрскі абагуліў навейшыя дасягненні ў навуцы і перш за ўсё ў прыродазнаўстве.

Работа таварыша Сталіна з'яўляецца далейшым развіццём марксісцка-ленінскай філасофіі. У ёй абагульняюцца ўсе навейшыя дасягненні ў навуцы, усе змяненні грамадскага жыцця, звязаныя з перамогай пролетарскай рэволюцыі, з перамогай соцыялізма ў нашай краіне.

Філасофская праца таварыша Сталіна напісана ў эпоху соцыялізма, у ёй улічан вялікі вопыт, якога не меў перад сабою Ленін. У гэтым вялікае значэнне сталінскай работы.

* * *

Выходзячы з указання Леніна аб тым, што матэрыялістычная дыялектыка ёсць душа марксісцкай філасофіі, таварыш Сталін пачынае сваю работу з характарыстыкі асноўных рыс матэрыялістычнай дыялектыкі. Затым ён пераходзіць да аналізу асноўных рыс філасофскага матэрыялізма і, урэшце, да характарыстыкі асноўных палажэнняў гістарычнага матэрыялізма.

Таварыш Сталін адразу-ж паказвае, што дыялектычны метад з'яўляецца кіруючым прынцыпам тэарэтычнай і практычнай дзейнасці партыі большэвікоў. Процістаўляючы дыялектыку метафізіцы, ускрываючы іх процілегласць, ён паказвае, што толькі дыялектыка дае правільнае адлюстраванне гістарычнага развіцця аб'ектыўнага свету.

Дыялектыка—гэта не ёсць нешта прыдуманае і навязанае прыродзе звонку; яна сама з'яўляецца адлюстраваннем тых працэсаў, якія адбываюцца ў прыродзе і грамадстве. Таму парадак размяшчэння і выкладання асноўных рыс дыялектыкі павінен адпавядаць аб'ектыўнаму развіццю самога жыцця.

Падобна таму, як звязаны адна з другою асобныя з'явы жыцця, гэтак сама павінны быць звязаны і законы дыялектыкі, якія выражаюць гэтыя з'явы.

Перш за ўсё таварыш Сталін указвае на тое, што ўсе з'явы ў прыродзе і грамадскім жыцці неабходна разглядаць з пункту погляду іх узаемных сувязей і абумоўленасці, а не як выпадковае скапленне прадметаў, не ізаляванае адно ад другога.

> «...Дыялектычны метад лічыць, што ні адна з'ява ў прыродзе не можа быць зразумета, калі ўзяць яе ў ізаляваным выглядзе, па-за сувяззю з акружаючымі з'явамі, бо любая з'ява ў любой галіне прыроды можа быць ператворана ў бяссэнсіцу, калі яе разглядаць па-за сувяззю з акружаючымі ўмовамі, у адрыве ад іх, і, наадварот, любая з'ява можа быць зразумета і абгрунтавана, калі яна разглядаецца ў яе неразрыўнай сувязі з акружаючымі з'явамі, у яе абумоўленасці ад акружаючых яе з'яў [1]).

Без такога падыходу да з'яў грамадскага жыцця немагчыма ні існаванне, ні развіццё навукі аб гісторыі грамадства. Раз у свеце ўсе з'явы ўзаемаабумоўлены—значыць, да кожнага грамадскага ладу або грамадскага руху ў гісторыі трэба падыходзіць не з пункту погляду прадузятых ідэй, а зыходзячы з тых гістарычных умоў, якія парадзілі і гэты грамадскі лад і гэты грамадскі рух.

Для ілюстрацыі гэтага палажэння таварыш Сталін прыводзіць наступны прыклад:

Ва ўмовах, калі панавалі царызм і буржуазія, скажам, у 1905 годзе, можна было высунуць патрабаванне аб буржуазна-дэмакратычнай рэспублиіцы, што, як вядома, і рабілі большэвікі на пэўным этапе развіцця, бо гэта патрабаванне ў тых умовах было ўпаўне правільным і рэвалюцыйным і азначала крок уперад. Але гэта-ж патрабаванне ў другіх умовах, калі перамагла ўжо пролетарская рэвалюцыя, з'яўляецца не толькі бессэнсоўным, але і контррэвалюцыйным, паколькі буржуазная рэспубліка ў параўнанні з Совецкай рэспублікай азначае крок назад.

Аднак, як вучыць таварыш Сталін, з'явы прыроды належыць разглядаць не толькі ў іх узаемнай сувязі і абумоўленасці, але і ў іх безупынным развіцці, змяненні, ва ўзнікненні новых з'яў і адміранні старых.

У прыродзе заўсёды нешта ўзнікае і развіваецца, нешта разрушаецца і аджывае свой век.

У прымяненні да грамадскага жыцця гэта азначае: што не існуе такіх грамадскіх парадкаў, якія былі-б на вечныя часы «нязменнымі»; што не існуе «вечных прынцыпаў» прыватнай уласнасці і эксплаатацыі чалавека чалавекам. Падобна таму як некалі феадальны лад быў заменен ладам капіталістычным, так і гэты апошні можа і будзе заменен новымі грамадскімі парадкамі, соцыялістычнымі парадкамі. Бліскучым прыкладам гэтага з'яўляецца наша краіна, дзе соцыялізм ужо ў асноўным пабудован.

У палітыцы трэба глядзець уперад, а не назад. Дыялектыка даказвае, а жыццё пацвярджае, што «неадаліма толькі тое, што ўзнікае і развіваецца». Той факт, што якая-небудзь з'ява грамадскага жыцця

[1]) Сталін „Пытанні ленінізма", стар. 536, выд. II.

ў пэўны перыяд часу мае пераважаючую сілу, далёка яшчэ не з'яўляецца рашаючым.

Для дыялектычнага метада важна перш за ўсё тое, што ўзнікае і развіваецца, што мае будучае, што з дня ў дзень расце і мацнее і з часам стане пануючым. А з гэтага следуе, што «...трэба арыентавацца не на тыя слаі грамадства, якія не развіваюцца больш, хоць і прадстаўляюць у сучасны момант пераважаючую сілу, а на тыя слаі, якія развіваюцца, маюць будучыню, хоць і не прадстаўляюць у сучасны момант пераважаючай сілы» [1]).

Яшчэ ў 1906 годзе, у сваіх ранніх філасофскіх работах, таварыш Сталін бліскуча паказаў, што пролетарыят у Расіі, хоць ён быў у 80-х годах XIX века ў нязначнай меншасці ў параўнанні з аднаасобным сялянствам, з'яўляўся, аднак, адзіным рэволюцыйным класам, які безупынна рос і імкнуўся ўперад. «І іменна таму, што пролетарыят развіваўся, як клас, марксісты арыентаваліся на пролетарыят» **(Сталін).**

Навуковая дакладнасць гэтага вываду поўнасцю даказана гісторыяй: пролетарыят вырас у першаступенную палітычную і гістарычную сілу і, заваяваўшы ўладу, пабудаваў пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі соцыялістычнае грамадства. Сталінскае вучэнне аб неадакай партыі новага з'яўляецца выдатным укладам у тэорыю матэрыялілімасці новага з'яўляецца выдатным укладам у тэорыю матэрыялістычнай дыялектыкі, кіраўніцтвам к дзеянню.

Развіццё ў разуменні ідэалістычнага матэрыялізма—гэта такое развіццё, «якое пераходзіць ад нязначных і скрытых колькасных змяненняў да змяненняў адкрытых, да змяненняў карэнных, да змяненняў якасных, дзе якасныя змяненні наступаюць не паступова, а быстра, раптоўна, у выглядзе скачкападобнага пераходу ад аднаго стану да другога стану, наступаюць не выпадкова, а законамерна, наступаюць у рэзультаце накаплення непрыкметных і паступовых колькасных змяненняў» [2]).

Тут таварыш Сталін абагульняе і развівае вядомыя палажэнні Леніна, сфармуляваныя ім у заметках аб дыялектыцы, аб развіцці праз рэволюцыйныя скачкі, праз перарыў паступовасці. Ленін указваў што скачкі бываюць розныя па працягласці, яны могуць ахватваць і імгненне і цэлыя дзесяцігоддзі, як, напрыклад, рэволюцыйная эпоха пераходу ад капіталізма да соцыялізма.

Прымяненне палажэнняў дыялектычнага метада да грамадскага жыцця немінуча прыводзіць да таго вываду, што рэволюцыйная барацьба прыгнечаных класаў—не выпадковая з'ява, а ўпаўне законамерная, што гэта барацьба—закон развіцця класавага, эксплаататарскага грамадства. Вызваленне рабочага класа, рэволюцыйны пераход ад капіталізма да соцыялізма можа быць ажыццёўлен «не шляхам павольных змяненняў, не шляхам рэформ, а толькі шляхам якаснага змянення капіталістычнага ладу, шляхам рэволюцыі» [3]).

Каб не памыліцца ў палітыцы, каб правільна разумець аб'ектыўныя законы развіцця грамадства, трэба быць рэволюцыянерам, а не рэфармістам, які баіцца вострых сутычак і бітваў і імкнецца да грамадзянскага міру з буржуазіяй.

Трэба не замазваць супярэчнасці капіталістычнага ладу, а ўскрываць іх, не тушыць класавую барацьбу, а даводзіць яе да канца.

---

[1]) Сталін „Пытанні ленінізма", стар. 540.
[2]) Там-жа, стар. 537.
[3]) Там-жа, стар. 541.

Трэба праводзіць непрымірымую класавую пролетарскую палітыку, а не рэфармісцкую палітыку прымірэння інтарэсаў пролетарыята і буржуазіі.

Да гэтых вывадаў, якія маюць велізарнае рэволюцыйнае значэнне, прыходзіць таварыш Сталін, калі аналізуе асноўны закон матэрыялістычнай дыялектыкі—закон, па якому прадметам і з'явам як прыроды, так і грамадства ўласцівы ўнутраныя супярэчнасці.

Каб правільна зразумець развіццё, трэба ўскрыць яго крыніцу. Такой крыніцай развіцця з'яўляецца барацьба супярэчнасцей. Якую-б з'яву прыроды або грамадства мы ні разглядалі, усе яны маюць «...свой адмоўны і станоўчы бок, сваё мінулае і будучае, сваё адмываючае і развіваючаеся...» Таварыш Сталін вучыць, што ўнутраным зместам працэса развіцця з'яўляецца барацьба паміж старым і новым, паміж адміраючым і нараджаючымся.

Уся гісторыя з'яўляецца пераканаўчым довадам гэтага закона дыялектыкі. Можна ўказаць хоць-бы на такі прыклад, як барацьба новага і старога ва ўмовах будаўніцтва соцыялізма. Таварыш Сталін на XV з'ездзе ВКП(б) гаварыў: «Наша прасоўванне праходзіць у парадку барацьбы, у парадку развіцця супярэчнасцей, у парадку пераадалення гэтых супярэчнасцей... Барацьба паміж старым і новым, паміж адміраючым і нараджаючымся,—вось аснова нашага развіцця».

Барацьбу новага са старым мы можам наглядаць на прыкладзе калгаснага развіцця. Побач з абсалютнай большасцю калгаснікаў, якія чэсна, па-соцыялістычнаму адносяцца да калгаснага дабра, да працы і гатовы ўсяляк умацоўваць новую, растучую грамадскую гаспадарку, ёсць некаторая частка калгаснікаў, якія не вызваліліся яшчэ ад старых прыватнаўласніцкіх звычак і навыкаў, больш за ўсё клапоцяцца аб умацаванні сваёй асабістай гаспадаркі.

Новае, растучае абавязкова перамагае старое, паміраючае, але яно перамагае ў парадку барацьбы, у парадку пераадалення старога.

* * *

Таварыш Сталін, характарызуючы філасофскі матэрыялізм, пачынае з таго краеугольнага палажэння, што свет па прыродзе сваёй матэрыяльны. Абагульняючы погляды Маркса, Энгельса і Леніна і развіваючы іх далей, таварыш Сталін дае класічную фармуліроўку асноўнага палажэння філасофскага матэрыялізма:

> ...«Марксісцкі філасофскі матэрыялізм зыходзіць з таго, што матэрыя, прырода, быццё прадстаўляе аб'ектыўную рэальнасць, існуючую звонку і незалежна ад сазнання, што матэрыя пярвічна, бо яна з'яўляецца крыніцай адчуванняў, уяўленняў, сазнання, а сазнанне ўтарычна, праізводна, бо яно з'яўляецца адлюстраваннем матэрыі, адлюстраваннем быцця, што мышленне ёсць прадукт матэрыі, якая дасягнула ў сваім развіцці высокай ступені дасканаласці, а іменна—прадукт мозга, а мозг—орган мышлення, што нельга таму аддзяляць мышленне ад матэрыі, не жадаючы ўпасці ў грубую памылку» [1]).

Такое матэрыялістычнае рашэнне асноўнага пытання філасофіі мае вялікае значэнне не толькі ў тэарэтычных адносінах. Навуковае рашэнне асноўнага пытання філасофіі мае велізарнае значэнне і ў практычнай галіне, у жыцці, на практыцы.

---

[1]) **Сталін** „Пытанні ленінізма", стар. 542.

Раз даказана навукова, што матэрыяльны свет пярвічны, а сазнанне ўтарычна, то адсюль следуе, што і ў аснове жыцця грамадства ляжаць матэрыяльныя прычыны.

Крыніцу фарміравання духоўнага жыцця грамадства, крыніцу паходжання ідэй, тэорый, тэарэтычных поглядаў трэба шукаць не ў саміх ідэях і тэорыях, а ва ўмовах матэрыяльнага жыцця грамадства, у эканоміцы гэтага грамадства.

> «Значыць,—робіць вывад таварыш Сталін,—каб не памыліцца ў палітыцы і не папасці ў становішча пустых мечтацеляў, партыя пролетарыята павінна зыходзіць у сваёй дзейнасці не з абстрактных «прынцыпаў чалавечага розуму», а з канкрэтных умоў матэрыяльнага жыцця грамадства, як рашаючай сілы грамадскага развіцця, не з добрых пажаданняў «вялікіх людзей», а з рэальных патрэбнасцей развіцця матэрыяльнага жыцця грамадства» [1]).

Адмаўленне ад такога адзіна навуковага пункту погляду, прызнанне пярвічным сазнання, немінуча прыводзіць да ўсякіх «ідэальных планаў», аўтары якіх немінуча церпяць крушэнне пры першай-жа сур'ёзнай сутычцы з жыццём.

> «Падзенне утапістаў,—піша таварыш Сталін,—у тым ліку народнікаў, анархістаў, эсэраў аб'ясняецца, між іншым, тым што яны не прызнавалі першынствуючай ролі ўмоў матэрыяльнага жыцця грамадства ў развіцці грамадства і, упадаючы ў ідэалізм, будавалі сваю практычную дзейнасць не на аснове патрэбнасцей развіцця матэрыяльнага жыцця грамадства, а незалежна ад іх і наперакор ім,—будавалі на аснове «ідэальных планаў» і «усеабдымных праектаў», адарваных ад рэальнага жыцця грамадства» [2]).

Прызнанне матэрыі пярвічным, а сазнання ўтарычным, праізводным ад матэрыі, не вычэрпвае асноўнага пытання філасофіі. Другой стараной гэтага пытання з'яўляецца тое, як адносіцца чалавечае мышленне да прыроды, ці можна пазнаваць і пазнаць законамернасці аб'ектыўнага свету, ці можа чалавечае мышленне пранікнуць у тайны развіцця прыроды і грамадства, ці даставерна наогул наша пазнанне і ці мае яно значэнне аб'ектыўных ісцін?

Практыка неабвяргальна сведчыць, што свет і яго законамернасці ўпаўне пазнаваемы; нашы веды аб законах развіцця і прыроды і грамадства, праверaныя на практыцы, з'яўляюцца даставернымі, маючымі значэнне аб'ектыўных ісцін. У свеце няма рэчаў непазнаваемых, ёсць толькі рэчы, у даны момант не пазнаныя, але з часам і яны будуць пазнаны і раскрыты сіламі навукі і практыкі.

Старонкі работы таварыша Сталіна, прысвечаныя гэтаму пытанню, заклікаюць да творчай работы, яны адкрываюць найшырэйшыя перспектывы пазнання, усяляюць бадзёрую ўпэўненасць у здольнасць чалавечага мышлення раскрываць самыя захаваныя таямніцы ў развіцці аб'ектыўнага свету.

Апіраючыся на погляды Маркса, Энгельса і Леніна, развіваючы іх далей, таварыш Сталін з непераможнай логікай агаляе навуковую безгрунтоўнасць сцвярджэння ідэалістаў аб непазнаваемасці свету, якое мае сваёй мэтай скаваць мысль і дзеянні чалавека, захаваць веру ў бога.

---

1) **Сталін** „Пытанні ленінізма", стар. 545—546.

2) Там-жа, стар. 546.

Марксісцка-ленінскае вучэнне аб пазнаваемасці свету мае велізарнае рэволюцыйнае значэнне.

«Калі свет пазнаваем і нашы веды аб законах развіцця прыроды з'яўляюцца даставернымі ведамі, якія маюць значэнне аб'ектыўнай ісціны, то з гэтага вынікае, што грамадскае жыццё, развіццё грамадства—таксама пазнаваема, а даныя навукі аб законах развіцця грамадства,—з'яўляюцца даставерпымі данымі, якія маюць значэнне аб'ектыўных ісцін.

Значыць, навука аб гісторыі грамадства, не гледзячы на ўсю складанасць з'яў грамадскага жыцця, можа стаць такой-жа дакладнай навукай, як, скажам, біялогія, здольнай скарыстаць законы развіцця грамадства для практычнага прымянення.

Значыць, у сваёй практычнай дзейнасці партыя пролетарыята павінна кіравацца не якімі-небудзь выпадковымі матывамі, а законамі развіцця грамадства, практычнымі вывадамі з гэтых законаў.

Значыць, соцыялізм з мары аб лепшым будучым чалавецтва ператвараецца ў навуку.

Значыць, сувязь навукі і практычнай дзейнасці, сувязь тэорыі і практыкі, іх адзінства павінна стаць пуцяводнай зоркай партыі пролетарыята» [1]).

Такія вывады зроблены таварышом Сталіным з вучэння марксісцка-ленінскай філасофіі аб пазнаваемасці аб'ектыўнага свету.

* * *

Складанаю часткай марксісцка-ленінскай філасофіі з'яўляецца гістарычны матэрыялізм. Тая частка работы таварыша Сталіна, якая прысвечана пытанням матэрыялістычнага разумення гісторыі, з'яўляецца выдатным узорам творчага прымянення палажэнняў філасофскага матэрыялізма да з'яў грамадскага жыцця.

Падкрэсліваючы ўслед за Леніным, што гістарычны матэрыялізм ёсць пашырэнне палажэнняў дыялектычнага матэрыялізма на вывучэнне грамадскага жыцця, таварыш Сталін абгрунтоўвае тэорыю гістарычнага матэрыялізма вялікім вопытам усёй рэволюцыйнай барацьбы пролетарыята, дае кароткі па размеру, але глыбокі па зместу нарыс усёй гісторыі развіцця чалавецтва.

Таварыш Сталін, зыходзячы з марксісцка-ленінскага вучэння аб першынствуючай ролі матэрыяльных умоў у жыцці грамадства, развівае далей асноўныя палажэнні гістарычнага матэрыялізма па гэтаму пытанню.

Перш за ўсё ён дае вычарпальную характарыстыку таго, што гістарычны матэрыялізм разумее пад «умовамі матэрыяльнага жыцця», паказваючы пры гэтым поўную безгрунтоўнасць антымарксісцкіх тэорый аб першынствуючай ролі геаграфічнага асяроддзя і росту народанасельніцтва ў развіцці грамадства.

Таварыш Сталін бліскуча даказаў, што не геаграфічнае асяроддзе і не рост народанасельніцтва з'яўляюцца галоўнай сілай, якая вызначае характар грамадскага ладу. Такою сілай, з'яўляецца **«спосаб дабывання сродкаў да жыцця,** неабходных для існавання людзей, **спосаб вытворчасці матэрыяльных** . здабыткаў—харчоў, адзення,

[1]) **Сталін** „Пытанні ленінізма", стар. 544—545.

абутку, жылля, паліва, прылад вытворчасці і т. п., неабходных для таго, каб грамадства магло жыць і развівацца» 1).

У вышэйшай ступені важным з'яўляецца даная таварышом Сталіным характарыстыка трох асаблівасцей вытворчасці, і ў сувязі з гэтым характарыстыка пяці **асноўных** тыпаў вытворчых адносін: першабытна-абшчыннага, рабаўладальніцкага, феадальнага, капіталістычнага і соцыялістычнага.

Таварыш Сталін упершыню ў марксісцкай літаратуры ўскрыў асаблівасці соцыялістычных вытворчых адносін, даў выдатную фармуліроўку аб поўнай адпаведнасці прадукцыйных сіл і вытворчых адносін пры соцыялізме.

Неацанімае значэнне для гістарычнага матэрыялізма мае вучэнне аб ролі перадавых ідэй і тэорый, развітае таварышом Сталіным у новых гістарычных умовах, калі соцыялізм перамог ужо ў нашай краіне і намнога ўзрасла роля перадавой тэорыі ў практычнай барацьбе.

Леніну і Сталіну належыць заслуга далейшай распрацоўкі пытання аб ролі перадавых ідэй і тэорый і аб зваротным уздзеянні ідэалогіі на эканамічнае развіццё грамадства. Вядома знамянітае ленінскае палажэнне—«без рэволюцыйнай тэорыі не можа быць і рэволюцыйнага руху». У эпоху, калі Ленін і Сталін закладвалі асновы большэвіцкай партыі, велізарнае значэнне мела барацьба з «тэорыяй» стыхійнасці і самацёку, з «тэорыямі» і догмамі партый ІІ Інтэрнацыянала. У барацьбе з «эканамістамі» Ленін распрацаваў ідэалагічныя асновы партыі новага тыпу. У барацьбе з перараджэнцамі і рэвізіяністамі ў філасофіі Ленін распрацаваў тэарэтычныя асновы партыі соцыялістычнай рэволюцыі.

Ленінскае вучэнне канкрэтызуецца і развіваецца далей у рабоце таварыша Сталіна.

Гістарычны матэрыялізм, выводзячы грамадскія ідэі з патрэбнасцей і ўмоў матэрыяльнага жыцця грамадства, у той-жа час падкрэслівае іх сур'ёзную ролю і значэнне ў жыцці і гісторыі грамадства.

Але, як указвае таварыш Сталін, тэорыі і ідэі бываюць розныя. Гісторыя грамадскага развіцця ведае такія тэорыі, якія, аджыўшы свой век, становяцца тормазам у развіцці грамадства, сцягам адыходзячых з гістарычнай арэны сіл. Гэтым аджываючым ідэям і тэорыям процістаяць перадавыя, прагрэсіўныя тэорыі і погляды, якія ўзнікаюць толькі пасля таго, як развіццё грамадства паставіла на чаргу новыя задачы. Узнікшы, гэтыя тэорыі аблягчаюць вырашэнне новых задач, спрыяюць прасоўванню грамадства ўперад.

> «Новыя грамадскія ідэі і тэорыі таму ўласна і ўзнікаюць,—гаворыць таварыш Сталін,—што яны неабходны для грамадства, што без іх арганізуючай, мабілізуючай і пераўтвараючай работы **немагчыма** вырашэнне наспеўшых задач развіцця матэрыяльнага жыцця грамадства» 2).

Да гэтага палажэння таварыш Сталін прышоў на аснове абагульнення вопыту барацьбы большэвіцкай партыі за рэволюцыйную тэорыю і ўзбраення ёю народных мас, якія пад сцягам гэтай тэорыі змагаліся і перамагалі.

«Сіла і жыццёвасць марксізма-ленінізма заключаецца ў тым,

1) **Сталін** „Пытанні ленінізма", стар. 550.
2) Там-жа, стар. 547.

што ён апіраецца на перадавую тэорыю, правільна адлюстроўваючую патрэбнасці развіцця матэрыяльнага жыцця грамадства, падымае тэорыю на належную ёй вышыню і лічыць сваім абавязкам скарыстаць да дна яе мабілізуючую, арганізуючую і пераўтвараючую сілу» [1]).

Як вяліка сіла перадавых ідэй, можна бачыць з таго, што без ленінскай тэорыі социялістычнай рэволюцыі немагчыма была-б перамога большэвікоў у кастрычніку 1917 года. Без ленінскай тэорыі аб перамозе соцыялізма ў адной краіне мы не маглі-б пабудаваць соцыялістычнае грамадства. Цяпер, узброеныя сталінскай тэорыяй аб перамозе комунізма ў нашай краіне, народы Совецкага Саюза ўпэўнена глядзяць уперад, будуюць комуністычнае грамадства. Яны жывуць і змагаюцца пад сцягам самай перадавой навукі. Для іх ясна перспектыва барацьбы, яны ведаюць шляхі і сродкі для дасягнення намечаных задач.

* * *

Работа таварыша Сталіна «Аб дыялектычным і гістарычным матэрыялізме» напісана ў сувязі з характарыстыкай значэння і месца ў гісторыі большэвіцкай партыі ленінскай кнігі «Матэрыялізм і эмпірыокрытыцызм». Абедзве гэтыя класічныя работы арганічна звязаны адна з другою: абедзве яны знамянуюць пераломны этап у развіцці марксісцка-ленінскай філасофіі. І тая і другая адлюстроўваюць сабою два буйнейшыя перыяды ў развіцці большэвіцкай партыі.

Геніяльная праца Леніна «Матэрыялізм і эмпірыокрытыцызм» напісана ў 1908 годзе. Яна з'явілася тэарэтычнай падрыхтоўкай партыі новага тыпу, самай баявой, самай рэволюцыйнай у свеце. То быў час, калі большэвікі закладалі непахісныя асновы партыі дыктатуры пролетарыята.

Геніяльная праца таварыша Сталіна «Аб дыялектычным і гістарычным матэрыялізме» напісана ў 1938 годзе, г. зн. праз трыццаць год пасля ленінскага твору. За гэты перыяд адбыліся змены сусветна-гістарычнага значэння. Большэвіцкая партыя, якая прайшла вялікі гістарычны шлях, накапіла велізарны жыццёвы вопыт, стаіць на чале многамільённага совецкага народа. Пад яе кіраўніцтвам у нашай краіне пабудован у асноўным соцыялізм, краіна наша ўступіла ў новы гістарычны перыяд, перыяд завяршэння будаўніцтва соцыялізма і паступовага пераходу ад соцыялізма да комунізма.

У гэтай велічнай барацьбе за светлы будынак комунізма філасофская работа таварыша Сталіна адыграе вялікую ролю, яна вучыць і будзе вучыць, як трэба змагацца за правую справу рабочага класа.

---

1) **Сталін** „Пытанні ленінізма“, стар. 548.

Г. Вевецкі

# Сталін—вялікі карыфей навукі

Многавяковая гісторыя чалавецтва ведала нямала вялікіх палітычных дзеячоў, геніяльных мысліцеляў, карыфеяў передавой навукі. Прагрэсіўныя сілы кожнага грамадскага ладу высоўвалі патрэбных ім вялікіх гістарычных дзеячоў, сусветных вучоных, аснавальнікаў перадавых тэорый свайго века. Але ўсе раней існаваўшыя класы, грамадскія групы не здольны былі не толькі карэнным чынам змяніць грамадскі лад у інтарэсах шырокіх народных мас, але нават паставіць такую задачу ў больш ці менш здавальняючай форме. Вялікія дзеячы, геніяльныя вучоныя, выступаўшыя на гістарычнай арэне да паяўлення рабочага класа, былі абмежаваны ў сваіх дзеяннях вузкімі рамкамі дзейнасці тых класаў, тых грамадскіх груп, ідэолагамі якіх былі гэтыя гістарычныя дзеячы.

Толькі рабочы клас—авангард працоўных мас—з'яўляецца адзіным класам у гісторыі чалавецтва, здольным карэнным чынам да найглыбейшых асноў, перарабіць свет у сваіх інтарэсах, а значыць, у інтарэсах усіх працоўных. Толькі рабочы клас здольны практычна перарабіць грамадскае жыццё на комуністычных пачатках, толькі ён стварае сапраўды перадавую навуку, якая дае глыбокае і свабоднае ад аднабаковасці асвятленне акружаючай нас рэчаіснасці, марксісцка-ленінскую навуку. Рабочы клас заклікан рэволюцыйным шляхам перабудаваць грамадства, перарабіць увесь свет. Для выканання гэтай гістарычнай задачы ён павінен перш за ўсё ў асобе свайго авангарда—комуністычнай партыі—найбольш поўна і ўсебакова ведаць аб'ектыўны свет, грамадскую. рэчаіснасць, законы іх развіцця. Іменна таму аснавальнікі гэтай рэволюцыйнай тэорыі—Маркс, Энгельс, Ленін і Сталін займаюць асобае месца ў радзе карыфеяў перадавой навукі, іменна таму так вялік іх уплыў на ход гісторыі.

Стварэнне марксісцка-ленінскай навукі з'яўляецца складаным і працяглым працэсам. Яе аснавальнікі прарабілі велізарную работу, пракладваючы зусім новыя, нязведаныя шляхі. «У навуцы няма шырокай сталбавой дарогі, —пісаў Маркс,—і толькі той можа дасягнуць яе зззяючых вяршынь, хто, не баючыся стомленасці, карабкаецца па яе камяністых сцежках» *). Маркс, Энгельс і Ленін усё жыццё нястомна працавалі над вырашэннем самых складаных і цяжкіх тэарэтычных і практычных пытанняў барацьбы рабочага класа і ўсіх прыгнечаных супроць капітала. Справу Маркса, Энгельса і Леніна прадаўжае ў новых умовах таварыш Сталін, які ў дасканаласці аўладаў іх вучэннем;

---

*) Маркс і Энгельс, т. XVII, стар. 23.

ён не толькі геніяльна прымяняе гэта вучэнне, але і далей развівае яго.

Кіруючы будаўніцтвам першай у свеце соцыялістычнай дзяржавы, таварыш Сталін паспяхова вырашаў і вырашае новыя праблемы марксісцка-ленінскай навукі, накіроўвае ўсе галіны перадавой навукі і культуры па адзіна правільнаму шляху развіцця. Збылося вялікае прадбачанне Энгельса аб тым, што толькі з соцыялізма «будзе датыравацца новая гістарычная эпоха, у якой людзі, а разам з імі ўсе галіны іх дзейнасці, і ў прыватнасці прыродазнаўства, зробяць такія поспехі, што ўсё здзейсненае да гэтага пакажацца толькі слабым ценем» [1]).

Кастрычніцкая соцыялістычная рэволюцыя, перамога соцыялістычнага будаўніцтва ў СССР абудзілі да свядомай творчай дзейнасці самыя шырокія масы народа. Велізарнейшая ў гісторыі чалавецтва культурная рэволюцыя ажыццяўляецца многамільённымі масамі працоўных нашай краіны. Даволі ўказаць на тое, што ў 1938—1939 г. са 170 млн. насельніцтва СССР абучалася звыш 47 млн. чалавек. Непераадольна цяга ўсяго савецкага народа да перадавой навукі і культуры, да вяршыні чалавечых ведаў—марксісцка-ленінскай тэорыі.

Найшырэйшыя народныя масы не толькі авалодваюць навукай і культурай, але і актыўна ўдзельнічаюць у іх далейшым развіцці. Толькі ў краіне Советаў навука шырока адкрывае дзверы для ўсіх працоўных, ставіць сваей прамой і непасрэднай задачай тэарэтычна абагульняць практычную дзейнасць працоўных і тым самым асвятляць ім шляхі далейшага развіцця.

* * *

Таварыш Сталін адным з важнейшых прынцыпаў перадавой навукі лічыць прынцып адзінства тэорыі і практыкі, ажыццяўляемай у інтарэсах народа. Сталінская распрацоўка гэтага пытання—неацанімы ўклад у перадавую навуку.

Унутранае неразрыўнае адзінства рэволюцыйнай тэорыі і рэволюцыйнай практыкі барацьбы рабочага класа і працоўнага сялянства ў эпоху імперыялізма і пролетарскіх рэволюцый, у эпоху перамогі соцыялізма—характэрна для ўсіх работ таварыша Сталіна.

У сваіх творах, у штодзеннай рабоце таварыш Сталін паказвае ўзор таго, як трэба ажыццяўляць адзінства рэволюцыйнай тэорыі і рэволюцыйнай практычнай дзейнасці рабочага класа і большэвіцкай партыі. Кожная сталінская работа, тэарэтычна абагульняючы практычны вопыт на розных этапах сусветнага рэволюцыйнага руху і соцыялістычнага будаўніцтва ў СССР, мае велізарнае рэволюцыйнае значэнне.

Найярчэйшым прыкладам сапраўды навуковага рашэння пытанняў, высоўваемых новай абстаноўкай, новай практыкай, з'яўляецца пытанне аб дзяржаве пры соцыялізме і комунізме. Наша краіна ўступіла ў новую паласу гістарычнага развіцця, у паласу завяршэння будаўніцтва соцыялізма і паступовага пераходу ад соцыялізма да комунізма. У гэтай абстаноўцы з асобай сілай паўстала пытанне аб ролі соцыялістычнай дзяржавы і аб перспектывах яе далейшага развіцця. Тэарэтычна абагульняючы новыя практычныя даныя сусветнага рабочага руху і соцыялістычнага будаўніцтва ў СССР, таварыш Сталін геніяльна

---

[1]) **Маркс і Энгельс**, т. XIV, стар. 488.

